# Крыніца

4(64)
2001
Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

# Крыніца

Штомесячны літаратурна-культуралагічны часопіс

**№ 4** (64)

**2001**

Выдаецца са студзеня 1988 года

**Заснавальнікі:**
калектыў рэдакцыі,
Саюз беларускіх пісьменнікаў

Рэгістрацыйны нумар 630 ад 31 ліпеня 1996 года





Выдаецца на беларускай мове
Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца



**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП,**
**вул. Кісялёва,11**

**e-mail:krynitsa@open.by**

**Званіце:**
**2-366-113, 2-366-142**



Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 05.04.2001. Фармат 60x84 1/16.
Папера афсетная №1. Гарнітура «Peterburg». Афсетны друк.
Ум.друк.арк. 11,16. Тыраж 842 экз. Зак. 816.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства
«Выдавецтва "Беларускі Дом друку"».
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

Васіль СТУС



# Васіль Стус

*Земля даліє, наче тьмяна зірка,*
*І голова моя, налита сонцем,*
*Вже передсмертну радість прочува.*
*Благослови мене, блаженна мить –*
*Раптове самоспалення, і вічне*
*навернення до тіла. Проминань*
*І входження зненацька в сто світів.*

# Пра Яго

**6 студзеня 1938 г.** – у в. Рахніўка на Вінніччыне нарадзіўся Васіль Стус;

**1940–1941** – з палітычных матываў, пасля даносу, бацька ратуе сям'ю пераездам на Данбас, у г.Сталіна (цяпер Данецк);

**1944–1954** – гады вучобы В.Стуса ў сярэдняй школе і першых спробаў пяра, школу заканчвае са срэбным медалём;

**1954–1959** – гады навучання ў Данецкім педінстытуце, пасля заканчэння якога выпускнік-"чырвонадыпломнік" накіроўваецца настаўнікам украінскай мовы і літаратуры ў в.Таўжня Кіраваградскай вобласці;

**лістапад 1959 г.** – у газеце "Літературна Україна" друкуецца першая падборка вершаў паэта;

**1959–1961** – вайсковая служба на Урале;

**снежань 1961 – студзень 1963 г.** – зноў працуе настаўнікам на Данбасе, шмат піша і друкуецца ў газетах і часопісах, падрыхтаваў сшытак машынапісных тэкстаў;

**сакавік 1963 г.** – праца на шахце, пераход на пасаду літаратурнага рэдактара газеты "Социалистический Донбасс";

**7 кастрычніка 1963 г.** – становіцца аспірантам Інстытута літаратуры АН УССР;

**4 верасня 1965 г.** – у сталічным кінатэатры "Україна" выступае з пратэстам супраць палітычных рэпрэсій;

**20 верасня 1965 г.** – адлічэнне з аспірантуры за "сістэматычнае парушэнне нормаў паводзін", інакш – за выступленне ў кінатэатры "Україна";

**1965–1972** – працуе будаўніком, качагарам, нарэшце атрымлівае пасаду старшага інжынера праектна-канструктарскага бюро;

**1966** – рассыпана вёрстка першага зборніка твораў "Круговерть", здадзенага ў выдавецтва "Молодь";

**1970** – у Бруселі выходзіць зборнік "Зимові дерева";

**1970–1971** – працуе над перакладамі з Гётэ і Рыльке, друкуе для вузкага кола сяброў трэці зборнік паэзіі "Веселий цвинтар";

**13 студзеня 1972 г.** – арышт;

**7 верасня 1972 г.** – асуджаны на пяць гадоў лагернага зняволення і тры гады ссылкі, у сценах кіеўскага КДБ стварыў аснову чацвёртай паэтычнай кніжкі "Палімпсести";

**1977–1979** – гады ссылкі на Калыме;

**1978** – прыняты ў ПЭН-клуб;

**жнівень 1979 г.** – вяртанне паэта ў Кіеў, напрыканцы года ўступіў у Хельсінкскую групу;

**1979–1980** – працуе рабочым ліцейні, абутковай фабрыкі, складае невялікі зборнічак паэзіі "Свіча в свічаді";

**травень 1980 г.** – новы арышт, верасень – суд, на якім атрымаў дзесяць гадоў зняволення і пяць гадоў ссылкі;

**1982–1983** – год камеры-адзіночкі за перадачу на волю лагернага сшытка, закончыў апошні зборнік паэзіі "Птах душі" (300 арыгінальных вершаў і 300 перакладаў);

**ноч з 3 на 4 верасня 1985 г.** – смерць паэта ў карцэры пры загадкавых абставінах;

**17–19 лістапада 1989 г.** – прах Васіля Стуса перавезены ў Кіеў і аддадзены зямлі на Байковых могілках;

**1989** – Украінскай асацыяцыяй незалежнай творчай інтэлігенцыі заснавана прэмія імя Васіля Стуса;

**студзень 1990 г.** – прэзідыум праўлення СПУ аднагалосна прыняў Васіля Стуса (пасмяротна) у Саюз пісьменнікаў Украіны;

**лета 1990 г.** – першыя вуліцы незалежных украінскіх гарадоў і вёсак названы ягоным імем, выйшла першая кніга вершаў паэта на Украіне "Дорога болю".

**Падрыхтаваў Алесь КАСКО.**

* * *

“Я не мог стрываць. Я не мог маўчаць. Пасля фільма я хацеў сказаць, што мы, савецкія людзі, не павінны забывацца на тое, што і Сталін, калі рабіў шэраг антысацыялістычных захадаў, прыкрываўся імем Леніна. Хрушчоў гэта рабіў таксама, калі праводзіў шэраг сваіх эксперыментаў, тэорыяў і г.д.

Я павінен быў сказаць, што сталінскія расстрэлы безлічы невінаватых людзей рабіліся насуперак ленінізму, хрушчоўскія такія-сякія захады таксама рабіліся насуперак ленінізму.

Я выступіў, бо адчуў, што створаная ў кінатэатры атмасфера сведчыць пра тыя факты, што ў краіне з’явіліся сілы, якія і надалей займаюцца няпраўдзівай, па сутнасці, антыленінскаю работай.”

*(З тлумачальнай запіскі В. Стуса дырэкцыі Інстытута літаратуры ад 7 верасня 1965 г.)*

* * *

“Тут, у следчым ізалятары, я зрабіў амаль палову таго, што зрабіў за мінулыя 7 гадоў, на сёння я пераклаў больш за 6 друкаваных аркушаў паэзіі Гётэ і амаль 10 друкаваных аркушаў сваёй уласнай. Так, здаецца, я раней не працаваў... 7 гадоў жыцця – а як мала я зрабіў добрага! Я напісаў некалькі дзесяткаў вершаў, больш за дзесятак артыкулаў, пераклаў шэраг твораў Гётэ, Брэхта, Мапасана, Лоркі, нямецкіх паэтаў XX стагоддзя і сярэднявечча, некаторыя вершы беларусаў, расіян, французаў, палякаў, чэхаў, латышоў, некалькі не скончаных апавяданняў, аповесцяў, сцэнарную распрацоўку – вось і ўсё!”

* * *

“Лістоў амаль не маю, усе лісты ідуць да мяне разарваныя, перачытаныя, а пры патрэбе – і сфатаграфаваныя. Ці мала іх не атрымліваю, адным

словам, пасля мардоўскіх наглядчыкаў трапіў пад уладу калымскіх наглядчыкаў, якія не менш суровыя, і патрабаваць выканання элементарных законаў – няма ў каго: напісаў ужо ў Міністэрства сувязі, пракурору архіпелага – але карысці ніякай."

* * *

"Ногі дужа баляць. Медыцынскай дапамогі ніякай (прынцып: скурчыся – падлечым!). Займаюся самалячэннем. Але пасля сну ледзь ступаю на левую нагу. Потым – кульгаю. А гэта ж шахта, трэба піхаць цяжкія ваганеткі, напружваючы хворую нагу. Не смешна мне гэта.

Патроху пішу вершы. Дамагаюся ад Андропава, каб вярнулі забранае. Пакуль – без карысці. І – амаль ніякіх надзеяў."

*(З лістоў В.Стуса паэту Алегу Орачу.)*

* * *

"Мы страцілі ўсялякае права належаць сабе, не кажучы пра тое, каб мець свае кнігі, сшыткі, нататкі. Кажуць, калі Бог хоча каго-небудзь пакараць, ён адбірае розум. Так доўга цягнуцца не можа – такі ціск магчымы перад пагібеллю. Не ведаю, калі прыйдзе пагібель да іх, але я асабіста пачуваюся смяротнікам. Здаецца, усё, што я мог зрабіць за сваё жыццё, я зрабіў. Займацца творчасцю тут немагчыма цалкам: кожны вершаваны запіс забіраецца пры першым жа вобыску... Уласнае бяссілле перад крыўдаю – абразлівае".

*(З лагернага сшытка В.Стуса. 1982 г.)*

***

Крывакрылы: мах кароткі –
свой, а доўгі – як чужынны.
Не чакай ніскуль палёгкі:
за крайсветам Украіна.
Шызавокае ўцякае
сонца ў морак, і злавесна
каляінаю жалезнай
гіблы шлях цябе каўтае.
Дзесь ты – ценькі цень націнны,
дзесь ты – з краю ўсіх краёчкаў.
Не калыска – дамавіна
(абарваліся шнурочкі).
Тут дарога ўседарогі,
усяпрэчнасці-ўсягону,
дык цікуй з турмы-вагона
за сузор'ем Казярога.
Але буду-перабуду,
перачую-перабачу.
Колькі цяжару! Ці збуду?
Крывакрылы, крукам крачу.

***

У гэтым полі, сінім, быццам лён,
дзе толькі ты – і анікога болей,
адкрыў, як страх: блукалі сярод поля
сто ценяў. У сінечы, быццам лён.
І ў гэтым полі, сінім, быццам лён,
цяпер самому быць наканавана,
адчуць самога доля ўгатавана –
у гэтым полі, сінім, быццам лён.
Сто чорных ценяў доўжацца, растуць
і ўжо, як хвойнік тонкі і высокі,
ідуць насустрач. Кінуцца наўцёкі?

Сваю сцяжыну стужкаю згарнуць?
Не. Выстаяць. Не забаяцца. Не –
стаяць. І толькі тут. У гэтым полі,
што быццам лён. І ўласнае няволі
зазнаць на гэтай роднай чужыне.
У гэтым полі, сінім, быццам лён,
ты – супраць ста, ты ловіш ценяў рухі,
і кожны вораг з роспачы і скрухі
хоць гіне, але шле табе праклён.
Ды кожны з іх – усё-ткі твой праклён,
самотаю тваёю абгарэлы,
вяртаюцца табе ўсе джалы-стрэлы
ў заклятым полі. Сінім, быццам лён.

***

*А. Гор-й*

Яна і ты зрадніцца не маглі
за гарадамі, вёрстамі, гадамі.
Гукнула паравознымі гудкамі
тваё былое – з некалькіх магіл.
І зноў адкрыўся свет табе. Світанак
са шчыльных прасачыўся дамавін.
Дзесь там твой дом і сад,
паркан і ганак,
і жонка неназваная, і сын,
што курчыўся ад болю маладога,
ледзь першы крок зрабіў. Слязу сляза
паволі даганяла. Дзякуй Богу,
не абнадзеіў, слова не сказаў,
адно маршчыны леглі пад вачыма
і промні зранілі мацней ад пік,
пакуль іх вобраз не растаў і знік,
бы крэйда, сцёрты ценямі чужымі.

***

І гэта ўсё: дарунак сілы
за себякраем – на, вазьмі,
абы дарогі-лёсы ўсімі
гудзелі сэрцамі й грудзьмі.
Вось я, вось духі мнагасвету,
браты найменшыя (хоць я
няварты брат). Мо і дагэтуль
спакуслівa шамрыць змяя
ля камянёў, на санцапрыску,
дзе ў сінім марыве жарства.
Прыйдзі. Спадзі з нябёс. Адкрыйся,
дай выпіць горкага пітва!
Ты лялечка. Ты з лёлі-лёлі
памкнулася, як вырушаў
я з сотні шкур. І мы – на волі,
абапал аднаго крыжа.
Дваім – лягчэй адолець страхі
і за дзяржаўнымі дзвярмі,
на подступе да тое страты,
дзе край – і прорва: на, вазьмі.

**Пераклаў Алесь КАСКО.**

***

Душа пяшчотная, як возера,
і трохі сінім аддае.
Тут, паміж Туравам і Мозырам,
цяпер праходзяць дні мае.

Напоўненае сонцам воблака
глядзіць, бы ў люстра, ў ціхі стаў,
а побач серабрыстым собалем
трымціць каханае рукаў.

Ласкавай гэтаю часінаю
ты мне галубкаю была
і дзіцем, юнаком, мужчынаю
мяне ў нябёсы узняла.

***

Спынілася начная хмара ды
чакае раніцы. А вечар не мінае –
бы навец, што магілу пакідае,
каб у сем раз паболела бяды.
Не зразумець, ці лета надышло,
ці толькі зачарпнула маладое
вады з патоку... Сэрца, што з табою
рабіцьму я? Ты гэтак даняло
мяне, што ну і ну! Ці гэта ноч
палярная, ці майскі снег абложны,
ці белы боль, ці даўні і трывожны
непрамінальны сон мой? А наўзбоч
прыліпла зорка, ці жар-птушка, ці
прасечана акно – каб Украіну
пабачыў я ў чвэрць вока, покуль згіну
на вечнай мерзлаце? Маўчы і па жыцці
не наракай на лёс. Начная хмара зу-
сім спынілася, навісла палярынай.
Сячэ акно ў шкле неба. І нізрыне
ці ноч, ці ранак – на маю слязу.

**Пераклаў Васіль САХАРЧУК.**

***

Пасалавеў уночы сад
ад спеваў, што грымяць не ў лад,
ад сумнай свечкі ў цемры волкай,
ад зорак колкіх, як іголкі.

У небе месяц вартавы
уздрыгвае, як пульс жывы.
Святлом аціхлым ззяюць вішні
апоўначы. А толькі ж ліў
высокі дождж і несуцішна
маркоту роздумаў будзіў.
Я дзверы прачыніў з веранды
туды, дзе вертаград стары,
не могучы сябе скарыць,
цікуе першы сон траянды.
Мігнула свечка – і пусціла
святло, як голуба, у лёт,
і верш твой вырваўся без цітла,
і дух твой вырваўся з цянёт,
бо неба круглае, як купал,
бо цешыць круглых кронаў купа,
бо маці дзівіцца святая –
я ў ёй змяркаю і світаю.

***

Твой боль – як алкаголь агоній,
як вымерзлы дарэшты жаль.
Перадрукоўвайце праклёны
і перапісвайце скрыжаль.
Жыццё тваё, як збан спусцелы,
і свет, і сам ты ў забыцці.
У цела ўласнае ўвайсці
ёсць шанц мо толькі ў звар'яцелых.
Дык сатаней сваёй тугой,
да скону сатаней, аж покуль
не ўчуеш тупу ўласных крокаў
над галавой сваёй сівой.

***

Шчэ колькі год – і перарвецца вязь.
Забыты свет увойдзе ў сон дзіцячы,

і ўжо не змогуць болей перайначыць
усіх пракрокаў прадказанні нас.
Чырвоны човен ў чарнаводдзі доль
загубіцца. І фенікс даўганогі
перанясе цябе ў свае чартогі
адсюль, дзе самаўладства, рабства, боль.
А ўсё, што ў пекле высніў ты жыцця,
праб'ецца над труной травою свежай.
А сам навекі станеш незалежным
ад болю і пакут свайго быцця.

***

Зноў згадка: вечар, вецер і туга
пранізлівая цела маладога,
што да мяне ўплыло з дзвярэй, халат
на спінку крэсла кінуты, і тонка
пайшло, пайшло, пайшло па смертнай лінзе,
аж па-над столлю стогн грудны завіс.
Акно ў сінечу. Жоўтыя фіранкі
прыспушчаны нядбайна. Чорны стол
нахілены, трымціць ледзь чутна шклянка
танюткім шклом – дзын-дзын. Пара
наблізіцца, ў вагон убіцца пругкі,
што выкаваны зграбна, як падсвечнік.
Чаруй мяне, чаруй мяне, прынада
далёкіх берагоў, куды я плавам
плыву, плыву, плыву – й не даплываю,
бо хваля часу зносіць не туды.
І толькі змярк той, вецер і туга,
і ты, як згустак крыку маладога, –
світаеце тут, пад паўночным сонцам,
і супакоіцца не даяце.

***

Як добра, што я смерці не баюся
і не пытаю, ці цяжкі мой хрост.

Што перад вамі, суддзі, не хілюся
у прадчуванні невядомых вёрст.
Што жыў, любіў і не набраўся бруду,
праклёну, каяння, нянавісці, маны.
Народзе мой, і ў смерці жыць я буду,
вярнуўшыся з далёкай стараны
нязлым аблiччам, доляю гарэснай.
Як сын, схілю калені прад табой
і ў твае вочы пагляджу я чэсна,
і парадніюся з роднаю зямлёй.

**Пераклаў Алег МІНКІН.**

***

Ад ручаёў да верасня – жыццё.
Шалее сонца і вада віруе,
І рунь блакітнаватасцю чаруе
І ўвысь ірвецца выстраліць асцё.
Скрыпяць бары, напятыя вятрамі,
Шляхі пыляць, і стэп, нібы пасцель,
І пакаленне, бы трава, расце
Палямі, пералескамі, ярамі.

***

Даждзь нам, Божа, днесь! Не заўтра, баю –
даждзь нам днесь, мой Божа! Даждзь нам днесь!
Ачагі ўкраінскія палаюць,
дагарае украінскі ўвесь
край. Мая дарога дагарае,
смагай карабаціцца душа.
Як Гасподзь нас вокам памінае,
тады, боль, іграй без кунтуша!

**Пераклаў Валеры СТРАЛКО.**

# Васіль Стус – крылатая зорка ўкраінскай паэзіі

Той зоркі не бачылі, калі небасхіл быў зацягнуты хмарамі і заслеплены сезоннымі ліхтарамі...

Перад ценем пакутніка святло адступае. Цень аддаляецца, знаёмыя рысы расплываюцца, і на іх месцы згушчаюцца вобразы сусветнай пакуты, што яднае нас на горкай зямлі.

Вестка пра смерць у лагеры Васіля Стуса скаланула, бышчам грымоты. 5 верасня 1985 года пра яе паведамілі ўсе радыёстанцыі свету. У Маскву пайшлі ўрадавыя пратэсты. Была найчарнейшая гадзіна перад Чарнобылем.

Украіна маўчала ў клінічным анабіёзе, і толькі невялікае кола сяброў закатаванага паэта сабралася ў ягонай кіеўскай кватэры, каб запаліць свечкі перад распяццем. І сюды вярнулася яго душа, выбеленая пакутамі, як белы птах.

Першыя ацэнкі Стуса-паэта з'явіліся, апроч украінскай, у нямецкай прэсе. Першыя кранальныя некралогі – ва ўкраінскай эмігранцкай і ў польскай нелегальнай прэсе. Гэта былі сапраўды братнія словы спачування, якія суправаджаліся цытаваннем захапляльных лагерных вітанняў Васіля Стуса ў адрас нескаронай Польшчы – польскіх змагароў за волю.

Аднаму Богу вядома, як дорага заплаціў Стус за тыя словы, за "Лагерныя сшыткі", перакінутыя праз жалезную заслону. Але гэта быў чалавек, які гаварыў і пісаў пры любых абставінах ясна, як перад Богам, і плаціў за гэта жыццём.

Украінскі народ за апошняе дзесяцігоддзе даў

шмат пакутнікаў за грахі і слабасці заморанага канфармізмам пакалення. Сярод іх нямала і працаўнікоў пяра. Але Васіль Стус быў найсуровейшы, найнескароннейшы. Ён стварыў кнігу вялікага нацыянальнага болю, разам з тым – суровую легенду ўласнага жыцця. Як у кожным вялікім жыцці – паўтарыўся шлях непрызнання ў фарысейскім свеце, суд сінедрыёна і пакутніцкі шлях на Галгофу.

Васіль Стус – чалавек рэдкага маральнага таленту, голас сумлення ў свеце расхістаных і размытых паняццяў годнасці, праўды, шляхетнасці. Ён збярог свой стыль да апошняга. І гэта складала аснову яго трагедыі. Ён нёс дадзеную яму іскру Божую з годнасцю і рыцарскай адвагаю, не схіляючы галаў і не абмінаючы перашкодаў. На такой дарозе паэты гінуць...

Творчасць Васіля Стуса можна падзяліць на тры перыяды:

Датурэмны.

Турэмны.

Развітальны.

Найшчаслівейшы быў, напэўна, турэмны.

Бо чым быў першы перыяд? Ніводная біяграфія не ў стане адлюстраваць паўжыцця ва ўмовах вялікай зоны брэжнеўскага рэжыму, дзе паэтаў рабілі качагарамі, а качагараў прызначалі кіраваць культурай і літаратурай, дзе ідэалістаў пасылалі ў папраўчыя калоніі – пад пільны нагляд злачынцаў.

У датурэмны перыяд Стуса не публікавалі (калі не лічыць некалькіх выпадковых часопісных публікацый), не ведалі. А калі ў 1970 годзе ў Брусэлі выйшла ягоная кніжка вершаў “Зімовыя дрэвы”, дык яе пры абшукванні забралі, а потым яна ляжала на стале перад суддзямі як *corpus delicti* (лац. – “рэчавы доказ злачынства”). Да яе дадалі яшчэ рукапісную кнігу вершаў “Вясёлы цвінтар” ды бліскучае эсэ пра змарнаваны талент Паўла Тычыны – “Узыходжанне на Галгофу славы”. І, зразумела, дадалі заяву пратэсту супраць рэпрэсіўнай палітыкі партыі.

Прысуд 1972 года быў тыпова палітычны.

У судовым абвінавачванні паэта фігуруюць вершы баявога і сатырычнага характару. Улада адчула замах на свае заваёвы ў радках:

*І не скорить тебе душителям*
*Сибірами і Соловками.*

Улада не любіла дыверсій з дапамогай фотааб'ектыва:

*Звіром вити, горілку пити...*
*І добі підставляти сите*
*Вірнопідданого лице.*

Улада не любіла намёкаў:

*"Досить крові", – продеклямував кат.*

І яна не любіла насмешак:

*Більше, ніж в Маркса,*
*Я вірю в ваші чоботи хромові...*

Зазвычай паэзія першага перыяду прасякнута скаргай на сацыялістычны рай:

*Як тихо на землі, як тихо,*
*Як нестерпно – без небес!*

Але, здаецца, уся творчасць Васіля Стуса датурэмнага перыяду была пакуль толькі выспяваннем – у школе Гётэ, Рыльке, Пастэрнака. Пераклады элегій Рыльке – вось быў яго тыповы занятак. Сімволіка паэзіі, свет паэзіі, свет эстэтыкі і філасофіі былі ягоным светам.

Зразумела, гэта быў свет падазроны, бо спецслужбы ўспрымалі яго як прыкрыццё: яны не верылі, што чалавек сапраўды можа жыць у сферы духу. Яны тады пільна сачылі за тым, каб падазроны паэт не надрукаваў сваіх вершаў і не выступіў перад аўдыторыяй. Яны забяспечвалі вакол асобы культурны вакуум і ўзаконьвалі трывіяльнасць і напаўпраўду ва ўмовах напаўсвабоды.

У такім свеце – грымоты, вайна, арышт – гэта надзея на змены...

12 студзеня 1972 года Васіля Стуса арыштавалі. Арышт – гэта заўсёды ўдар, але здранцвеламу целу ўдар не баліць. У камеры адчуваеш свабоду ад мітусні непаўнацэннага жыцця і паўстаеш тварам да неба:

*О, царство півсерць,*
*півнадій, півпричалів,*
*Півзамірів царство,*
*Півзмаг і півдум, –*

развітваўся паэт з мінулым.

У вязніцы адчуваеш адноснасць учарашніх каштоўнасцей і непадробнасць тых, што заўсёды з табою. У камеры, гэтак, як і ў бязмежным моры, адчуваеш вялікага Бога. І нават вялікія зоркі на лапіку неба, укрыжаванага на кратах.

*Оце твоє народження живе*
*В онові тіла і в онові духу.*

Але ў камеры прыходзіла яскравае ўсведамленне долі – такое яскравае, быццам евангельская ісціна:

*"Зерно не дасть плоду, поки не вмре".*

У маленькіх камерах, што выходзілі ў бок Святой Сафіі, скрозь краты на маленькім акенцы пад столлю былі бачны лапік неба і раніцай – світанне. Гэта быў самы радасны момант нашых шэрых золкаў. Васілю тое світанне кінула прарочы прамень, з якога нарадзілася відовішча:

*Мені зоря сіяла нині вранці*
*устромлена в вікно. І благодать*
*така ясна лягла мені на душу*
*...ота зоря – то тільки скалок болю,*
*що вічністю проклятий, мов огнем.*
*Ота зоря – вістунка твого шляху.*

 



Зразумела, што выпрацаваныя стагоддзямі нясцерпныя рэаліі турэмнага рэжыму нішчаць асобу:

*Ужо моє життя – в інвентарі...*

І душу працінае холад канца. І холад прыводзіць да развагаў:

*А все ж нестерпна бєзневинна кара.*

І прадчуванне: можа – назаўжды?

А кожная раніца зазірала ў турэмныя шыбы ірэальным кашмарам:

*Світанки, мов яйця пташині,*
*кволі спроквола-сині,*
*що випали з гнізд і щебечуть,*
*і крильцями тріпотять.*

У турэмнае акно зазірала такая ж змардаваная і ўкрыжаваная Украіна, дзе беспакаранасць зла і свавольства нагадвала часы Батыя. У сейсмографе глухой камеры адбіваліся выявы апакаліптычнага відовішча:

*Привиддя постають*
*спогадні, згорьовані, урочі,*
*з моїх артерій кров солону точать*
*і, як криваві зозулі, кують.*

А вакол жудаснага царства квітнеючага балота свішча вецер тэрору:

*Довкруг обрізано жалі,*
*обтято голосіння.*

У цішы адзіночнай камеры адбываецца новае нараджэнне паэта вялікага трагізму. Ён заззяў, быццам крануты струменем, і ягоная паэзія раптам пачала ўздымацца да вяршыняў прасвятлення:



 

 





*Моя душа запрагла неба*
*В буремнім леті держить путь на стовп*
*Високого вогню.*

У гэтым вершы, напісаным напачатку зняволення, ужо адчуваецца паэтычнае і жыццёвае крэда Стуса, а ў ім – крыніца ягонай моцы.

У прынцыпе, ён ужо даўно шукаў свой шлях, імкнуўся да роднай стыхіі – угору, нясмела падумваючы пра Алімп. Але калі зразумеў, што ягоны шлях вядзе на Галгофу, рушыў цвёрдым крокам, з сорамам пераступіўшы хвіліну маладушных ваганняў. Стус рана прыняў шлях пакутаў – рана і незваротна ён прыняў мудрасць Іова. Чалавек сурова-праўдзівы, ён не прызнаваў канфармісцкай маралі і быў супраць духоўнай атруты, якой бязвольныя апраўдваюць свой шлях паўзучага эгаізму. З сярэднявечнай цнотай ён прынёс жыццё на алтар Бацькаўшчыны і мастацтва – безаглядна, цалкам.

Нешта было каштоўнае і ў адваротным баку зняволення – у аскетызме і самотнасці і ў адпоры д'ябальскаму наступу на святыні. Смерць сядзела ў камеры, як груган, зазірала ў душу – і пад яе позіркам ярчэй высвечваліся абсалюты, ідэалы і дарагія вобразы. Але штодзённы шабаш дробных нячысцікаў напампоўваў атмасферу страхам і няпэўнасцю.

Пра паэта будуць напісаныя даследаванні як пра расцярушанае сумленне ягонага пакалення, як пра трагічны голас гармоніі і поўны роспачы енк дысгармоніі свету, што страціў маральнае апірышча.

Але ўжо зараз трэба напісаць пра містычнае адкрыццё паэтам Бога – на той вышыні, дзе размінуцца з Богам немагчыма.

Найперш ён засвойваў тон малітвы, і прывыкаў да прысутнасці Бога на сваіх новых шляхах, і адкрываў для сябе істотныя прыступкі ўзыходзячай дарогі:

*Ламка і витка всеспадна вседорога*
*Дорога до Бога ламка і витка.*

Рэлігійнасць у Васіля Стуса не зададзеная – яна немінучая.



 

“Даследаванне” ўласнай асобы як чалавека сам-насам з Богам Стус пачаў самастойна ў вершы:

*Та серця я, мій Господи, не маю*
*на свій талан. Це Ти мене береш,*
*неначе грудку сирової глини,*
*і місиш, мнеш, і пальцями всіма*
*формуєш образ, щоб незадарма*
*іще один кавалок з України*
*сподобивсь тверді. Знав я і черінь,*
*і зиму знав в колимську довгу пору,*
*і душу виробив таку прозору,*
*що вже свою не откидає тінь.*

“Ён быў сапраўды рэлігійным чалавекам”, – узгадвае лагерны прыяцель Стуса, і ў гэтым сведчанні ёсць глыбокі падтэкст: ужо было нямала тых, хто верыў і фармальна, і дагматычна, і квіетычна... Мы ведаем у літаратуры і прыклады багаборства як разнавіднасці драматычнай веры ў Бога, якога чалавек унутрана не гатовы прыняць і прадзіраецца, такім чынам, праз адмаўленне да Яго ж. Ведаем і патэтычную апалагетыку ў хвіліну ўзрушанага пярэчання. І захоплены паліфанізм прасветленага багаборства, як на старонках Дастаеўскага.

Васіль Стус дае свой вобраз жывой веры – жывой еднасці з Богам-тварцом украінскай часткі цвердзі. Баюся, што ў нас яшчэ мала чытачоў з такою праведнаю душой, на струнах якой ігралі б так велічна і так дакладна наладжаныя словы:

*В мені уже народжується Бог*
*і напівпам’ятний, напівзабутий,*
*немов і не в мені, а скраю смерти,*
*куди живому зась, мій внук і прадід –*
*пережидає, заки я помру.*
*Я з ним удвох живу. Удвох існую,*
*коли нікого. І гримить біда,*
*мов канонада, Він – опорятунок*

*для мене. Тож і мовлю: порятуй,*
*мій Господи. О, порятуй на мить,*
*а далі я, оговтаний, врятую*
*себе самого сам...*

У падсвядомасці паэта Бог нараджаўся насамрэч – болей нават, чым насамрэч. Такую высокую і святую самотнасць трэба выпакутаваць. Гэты тонкі момант станаўлення трэба выбалець. У гэтае небыццё трэба зазірнуць звычайна з “трапяткой вежы пакутаў”:

*На цих шалених стовітрах,*
*де ні коня, ані дороги,*
*звіряй свій крок за словом Бога*
*І попри смерть, і попри жах...*

Пра што гэта? Ніводзін псіхалагічны аналіз не дасць нам уяўлення пра псіхалогію высокай творчасці, калі сціхае душэўны боль і прывіды зонаў разыходзяцца, быццам міражы:

*Земля даліє, наче тьмяна зірка,*
*І голова моя, налита сонцем,*
*Вже передсмертну радість прочува.*
*Благослови мене, блаженна мить –*
*Раптове самоспалення, і вічне*
*навернення до тіла. Проминань*
*І входження зненацька в сто світів.*

Тут аналіз павінен спыніцца – у гэтым месцы атмасфера храма, у якім моліцца з суцэльным пасвячэннем паэт, вядомы сваёй самаахвярнасцю. Прыведзеныя ніжэй вершы даюць ключ да ўваходжання ў тыя вертыкалі Васіля Стуса, у тыя храмы, якія ён будаваў на сваіх зонах і ў сваіх камерах.

Вось і ўнутраная біяграфія паэта, які – збалелы і змардаваны – прайшоў скрозь зоны нашага свету і, адчужана азірнуўшыся, запытаў:

*Поезіє, красо мая, окрасо,*
*я перед себе чи до себе жив?*

Знешняя біяграфія Васіля Стуса ўпісваецца ва ўкраінскую этнаграфію: змардаваная Вінніччына, зрусіфікаваная Данеччына, зацкаваны Кіеў, чужы Урал, ліхая Мардовія і пякельная Калыма...

Сваё жыццё, якое наканавана было яму несці, свае няспынныя пакуты Васіль Стус прымае стаічна, нават з нейкім задавальненнем:

*Благословляю твою сваволю,*
*Дорого долі, дорого болю.*

Ён разумее, што тут нічога змяніць немагчыма, бо доля чалавека – гэта вобраз долі Бацькаўшчыны. У павучанне сабе і людзям ён нагадвае вечныя ісціны, якія неабходна прыняць:

*Блажен, хто тратити уміє,*
*Коли заходить час утрат.*

Ад нараджэння ідэаліст і паэт, ён так і не спасцігнуў, ці то мінула ягонае жыццё, ці то ён гэтае жыццё абмінуў. Але свайго жыцця яму хапіла для выканання ўласнага прызначэння – узняцца да вяршыні, на якой адкрываецца трагічны сэнс нашых пошукаў на зямлі, на якой зіхаціць мудрасць прасвятленняў, і адчуць сэрцам:

*Те одвічне, що над нами,*
*Стріли повиймае з рани*
*І губами обцілує,*
*Адже хвиля пожадана*
*Убиваючи рятує.*

Сёння гісторыя ўжо не пазначае пераходных постацей. Але выпакутаваныя Стусам словы ўпісваюцца ў яе канву як адгалосак вялікага нацыянальнага і ўсечалавечага болю:

*Плач, небо, плач і плач*

*Пролий невтримне море*
*Тонкоголосих вод!*

Вось той прыбой, што заносіць Васіля Стуса ў МОРА ВЯЛІКІХ. Няшмат з іх пілі такі перапоўнены кубак і ведалі такую цёмную бездань пад нагамі – на працягу бясконцых гадоў – і чэрпалі з тае бездані ВАГУ СЛОВА. Пастэрнакава “нечуваная прастата – пад старасць” – гэта толькі прадчуванне тых плаванняў у “чорнай, як смала, вадзе”. Тых самаўсведамленняў, у якіх жыў Стус, з якіх вынырваў сполахамі, з якіх ствараў страшную паэзію смерці і гарманізаваў яе:

*Яке жорстоке ти, пізнання*
*Дороги трачених доріг.*

Прыгажосць пакутніцтва – найвышэйшая прыгажосць. Але паэзія Стуса багатая таксама на фарбы і гульню сокаў зямлі. На пяшчоту інтымных пачуццяў і нейкую асаблівую ласку да ўсяго жывога. У празрыстай душы паэта яскравымі восеньскімі сполахамі ззяла прыгажосць свету – фарбамі восеньскіх астраў, ранішнім спевам птаха, зламанай галінкай вечара... пралітай блакітнай вадой шкадаванняў...

Глыбінны спеў яго душы зацягвае нас у свет – свет па той бок бачнага, як старая песня – “Дажджы стагоддзяў” на “адвечным бездарожжы” і, часам, у адчуванне таго, што будзе пасля смерці. На сваіх этапах Васіль Стус зазіраў у зону смерці – і гэтае пазнанне навучыла яго збоку і ўжо адчужана назіраць за ўласным жыццём.

“Палімпсесты” – гэта назва кнігі турэмнай паэзіі Васіля Стуса. Чым больш яе чытаеш, тым больш адчуваеш у ёй голас песні. Паэт сцёр з вечнага пергаменту кароткія надпісы нашага мітуслівага часу – ён дакапаўся да першафеноменаў, што крынічна і таямніча адгукаюцца нам са старонак яго кнігі – даўно знаёмыя і незнаёмыя.

РАЗВІТАЛЬНЫ – трэці перыяд творчасці – гэта пакуль сфера толькі для развагаў. Не маем пакуль нічога з тых смяротных пяці гадоў, калі яму было забаронена пісаць вершы ў лістах. Ведаем, што шмат і лёгка пісалася ў бяссонныя камерныя ночы, уяўляем, як зранку адчынялася кармушка і сонны прапаршчык нудотна кідаў словы:

“Ану, осужденный Стус, давайте свою писанину”. Васіль глядзеў адсутным позіркам, нібыта нічога не чуў, тады клацалі замкі, і два прапаршчыкі з чарговым афіцэрам абшуквалі пустую камеру, абмацвалі ўсё да ніткі і забіралі ўсе спісаныя кавалачкі паперы. *Horror verbum* (лац. – “страх слова”)!

Хутчэй за ўсё, літаратары ў мундзірах і ў цывільным ставіліся да тых вершаў халодна: нічога цікавага там не было для іх службы. Яны не разумелі, што маюць справу з творчасцю паэта ў апошнія гады яго жыцця!

Сотні перакладаў Васіля Стуса – з Гётэ, Рыльке, Лоркі – загінулі бясследна. Усе яго апошнія творчыя ўспышкі – можа, наймагутнейшыя – зніклі ў “чорнай дзірцы”. Маем толькі сведчанне, якое праскочыла ў лісце да сябра ў снежні 1983 года: “Канчаю сваю падборку “ПТАХ ДУШЫ” – стаічную прозу, амаль без пафасу, нерыфмаваную, празаічных інтанацыяў, сумнаспакойную... Стаічную – такі яе музычны ключ”.

Маем у лістах сведчанне, як змяняліся ў атмасферы суцэльнай беднасці, голаду і холаду каштоўнасці і аўтарытэты (непахіснымі заставаліся Гётэ і Рыльке). І не было ўжо абвостраных згадак пра страты мінулага, бо ўспаміны баляць, як пачарнелыя раны.

Але ведаем, што з такімі набыткамі чалавек робіцца лёгкім і бліжэйшым да неба – у ясную і чыстую гадзіну творчасці.

Рукапісы Васіля Стуса павінны быць у тых міністэрствах і камітэтах, якія мелі сумны прывілей выконваць прысуд над песняром духу і канваіраваць паэта па этапах жорсткага рэжыму.

Даруй ім, Божа, бо не ведаюць, што твораць. Яны не ведаюць і дагэтуль, трымаючыся мёртваю хваткай за свае нераскрытыя таямніцы.

Такім чынам, фармальна рэабілітаваны Васіль Стус застаецца паэтам зняволеным. Яго велізарная папулярнасць зараз на Украіне кантрастуе з каменным маўчаннем сіл канвою: яны не даруюць яму свайго злачынства.

Узгадаем пасмяротную долю Лоркі. Мы можам параўнаць не толькі смерць гэтых двух паэтаў, але і іх творчасць. Іх яднае галоўнае: праўдзівасць.

Герой тае кніжкі – адна-адзіная постаць – боль. Хто тое сказаў пра сваю любімую кніжку: Лорка ці Стус? Лорка. Але гэта не менш падыходзіць да Стуса.

Трэба адзначыць: Лорка – паэт трагічнай долі. Але нават у найстрашнейшым сне ён не мог бы ўявіць свайго далёкага ўкраінскага брата, які распачаў сваю творчасць ва ўмовах мёртвых – без публікацый – і дасягнуў свайго зеніту ў той час, калі вольная паэзія трактавалася як крымінальнае злачынства і кожны аркушык далучаўся да крымінальнай справы.

Такім чынам, Лорка быў паэт параўнальна шчаслівай долі... Але і Васіль Стус быў удзячны сваёй долі:

*Як добре те, що смерти не боюся*
*і не питаю, чи тяжкий мій хрест,*
*що перад вами, судді, не клонюся*
*в передчутті недовідомих верст,*
*що жив, любив і не набрався скверни,*
*ненависти, прокльону, каяття.*
*Народе мій, до тебе я ще верну,*
*як в смерті обернуся до життя...*

Цяпер ён вяртаецца і пачынае ўваходзіць у песню свайго краю як трагічны голас долі. Мы чамусьці лічым ягоную лірыку стогнам эпохі, як наш уласны патаемны голас. Але той голас, як з таго свету, – па той бок ужытых слоў, мітуслівых спраў ды дробных інтарэсаў, на якія не разменьваецца душа.

“Вярніся да мне, мая памяць”, – далятае да нас яго медытатыўны голас. У ім мы пазнаём збалела-пакутлівую душу паэта.

Зразумела, такая паэзія – уцёкі ад жыцця. Але – уцёкі ад бачнага па сутнасці, ад папяровых караблікаў на паверхні глыбокай плыні – рэчышчамі антычнай трагедыі.

У свеце Стусавай паэзіі – суцэльная адчужанасць ад штодзённасці і ў той жа час туга па жыцці, па дзеянні ў сённяшнім дні: “Дай нам, Божа, сёння...”

Першы радок ягонага верша дае ключ да сэнсу і мелодыкі:

*Душа ласкава, наче озеро.*
*Церква святої Ірини криком кричить з імли.*
*Тільки тобою білий святиться світ.*
*Збудився врано синій-синій птах.*
*Біда так тяжко пише мною.*

*Чотири вітри полощуть душу.*
*Хтось чорний-чорний бродить навкруги.*
*Уже Софія віструменіла.*
*Як хочеться вмерти.*

Гэтыя вершы немагчыма гартаць – у іх трэба ўваходзіць і паволі абжывацца, як абжываў паэт на этапах свае камеры, і тады адкрываецца унікальная старонка паэзіі XX стагоддзя – стагоддзя адчужанасці.

Васіль Стус выступае як высокі рэпрэзентант нашай культуры. Яго імя сімвалічнае для канца XX ст. Супраць плыні, у самых жорсткіх абставінах ён пранёс у рэчышчы ўкраінскай традыцыі ідэалы гуманізму і патрыятызму – і па-рыцарску збярог адданасць тым ідэалам да канца. Зрэшты, на ідэалістах трымаецца сэнс культуры – яе парасткі бескарыслівасці і адпаведнасць духоўнай спадчыне, уласнай душы.

Еднасць жыцця і слова – вось традыцыйны профіль Стуса: ва ўкраінскай літаратуры існуе традыцыя аплачваць слова жыццём. Па-свойму ў паэта-філосафа Скаварады, які жыў так, як пісаў. Па-свойму ў паэта духоўнага непрымання свету – Шаўчэнкі. Па-свойму ў вечнага вязня – паэта Грабоўскага. Тое самае ў Лесі Украінкі. Усе тварылі без афіцыйнага прызнання, без прэсы. Паэт у нас зазвычай або рэпрэсіраваны, як Плужнік, або змарнаваны, як Тычына.

Доўгі шэраг рэпрэсіраваных завяршае на сёння маналітная постаць Васіля Стуса:

*Прощаю вас, лихі кати мої,*
*Прощаю вас...*

Але за ягоным дараваннем стаіць памяць. Суровая, як міф, як надпіс на граніце:

*Мы припізнені вади,*
*Наш злочин – спів.*

**Яўген СВЯРСЦЮК, 1991 г.**

***Пераклалі Алесь АСТРАЎЦОЎ***
***і Тамара САЧАНКА.***

# ВЯРТАННЕ ВАСІЛЯ СТУСА

Яму выпала паўтарыць век і часткова – долю свайго духоўнага бацькі Тараса Шаўчэнкі. На 47 гадоў жыцця Васіля Стуса выпала два зняволенні, высланні, фізічныя і маральныя пакуты, на якія, можна сцвярджаць без вагання, паэт ішоў свядома. Бо, адстойваючы права на ўласную думку, свабоду сумленнага слова, ведаў, не мог не ведаць, што жыве ў нязгодзе з правіламі тагачаснай падвойнай маралі – хочаш думаць, думай сабе на здароўе, аднак рабі "як належыць", "як трэба", "як кажуць зверху". Такіх людзей, без ахоўнай рэакцыі, тады, у 60 – 70-я гады, было небагата, але яны былі і папаўнялі сабою і без таго бясконца доўгі ахвярны рад рэпрэсаваных, якія пацярпелі не толькі ад жорсткасці ўлады, але і ад таго, што людства за сваю шматвекавую гісторыю не прыдумала, не вынайшла лепшага варыянту арганізацыі супольнага парадку, чым дзяржава з яе гвалтоўным апаратам.

Іншадумства Васіля Стуса не было звычайным стыхійным пратэстам супраць застойнага рэжыму, супраць фальшы і гвалту. Яно вынікала з ягоных маральных прынцыпаў, з разумення і ацэнкі сітуацыі, з гістарычнага ўсведамлення неабходнасці змагання за праўду, з гістарычнага ўсведамлення неабходнасці змагання за праўду і нацыянальную годнасць. Выходзіць, што аналогія, паралель з вялікім імем Шаўчэнкі праглядваецца не толькі праз фатальную лічбу "47", а і пацвярджаецца зместам і сутнасцю жыцця Васіля Стуса, ягонай творчасцю, публіцыстычным словам. У лісце да паэта Алега Орача ён

пісаў з выслання: "Пытаешся – як маюся? Усё тыя самыя наскокі, навалы – ніяк не адбіцца. Таму мушу стаяць – як пры апошняй сцяне. Галоўнае – умець трымаць галаву. Нават тады, калі не трымаецца на шыі... Адно слова – я быццам прызначаны на разарванне дзікім звярам у рымскім цырку. Абылганы, зняважаны, але горда трымаю галаву – аж ім кроў з зубоў. Што мог – я зрабіў. Што змагу, яшчэ зраблю. Аднак без Украіны мне моташна. І тут, на Калыме, і там, калі запіхваюць ці выпіхваюць. Прашу толькі верыць, што я ні трохі не змяніўся са студэнцкіх гадоў... У мяне ёсць мой народ, які мае сябры іншых нацыянальнасцяў называюць шматпакутным. Ягоныя пакуты – гэта адзіны мой скарб. Я мушу стаяць, на чым і стаяў" ("Літературна Україна", 30 лістапада 1989 г.).

Грамадская рэабілітацыя В.Стуса ўжо адбылася. Публікацыі ягоных вершаў у газеце "Літературна Україна" (№6, 1989 г.), у часопісах "Україна" (№6, 1989 г.), "Жовтень" (№7, 1989 г.), "Київ" (№10, 1989 г.) засведчылі, што мы страцілі паэта высокай інтэлектуальнай і эмацыянальнай напружанасці.

Як і ў лістах-роздумах, так і ў вершах В.Стуса выклікам трагічнаму лёсу гучыць разуменне высокай місіі праўдзівага слова, сваёй праваты, неаддзельнасці ад болю і надзей роднага народа:

*Нехай Дніпра уроча течія*
*бодай у сні у маячні струмує.*
*І я гукну. І край мене почує.*
*Верни до мене, пам'яте моя.*

Гэты матыў годнасці, душэўнай няскоранасці яскрава гучыць і ў вершы "Як добра, што я смерці не баюся", адным з тых, якія пераклаў на беларускую мову Алег Мінкін. Зрэшты, вершы паэта гавораць самі за сябе. Сапраўдны знаўца эмацыянальнага слова сам здатны ўбачыць і красу пейзажнай лірыкі В.Стуса, і глыбіню ягоных роздумаў, і сполахі думак ды вобразаў на фоне класічнай формы верша. Якое магутнае святло струменіць хоць бы ад гэтай карціны, якая адразу ўрэзваецца ў душу і ў памяць:

*На колимськім морозі калина*
*Зацвітає рудими слізьми.*
*Неосяжна осонцена днина,*
*і собором дзвінким Україна*
*написалась на мурах тюрми.*

У цярновым вянку славы вярнуўся Васіль Стус з Урала на Украіну 19 лістапада 1989 г. У памінальным святле свечак, жалобнымі хвалямі людскога мора, на крылах вышываных украінскіх ручнікоў прах паэта і яго душа праплылі па-над саборамі Кіева і апусціліся на вечны спачын у родную зямлю. І падумалася: ці асмеліліся б суддзі вынесці жорсткі вырак паэту, каб ведалі, што адбудзецца ягонае вяртанне і што яно будзе вось такім – шматлюдна-ўрачыстым, поўным пякучага жалю і празарэння?

І вось жа, Васіль Стус вярнуўся, быццам з выраю, да роднага краю. Вярнуўся ў літаратуру і ў нашу памяць. Спадзяёмся, верым, што – назаўжды!

**Васіль ГЭЙ**

# “Так цяжка мною піша боль...”

Спасцігаць, а затым і перазапісваць (перакладаць) паасобныя вершы Васіля Стуса з публікацый ва ўкраінскай перыёдыцы мне заманулася на самай мяжы 80 – 90-х гадоў, калі ацэнкі ягонай паэзіі і ягонай постаці былі вельмі насцярожаныя і неадназначныя. Прадмоўцы і крытыкі засяроджваліся найперш на паэтавай “дысідэнцкай” біяграфіі ды на так званым сацыяльным змесце твораў, знаходзячы падставы наракаць: заглыбленне ў “праклятыя” рэаліі

жыцця зашкодзіла яму як Мастаку. Не менш спрэчнае, аднак жа, максімалісцкае сцверджанне пра абсалютную ўнутраную свабоду творцы. Яна, нібыта, дазваляла яму ў поўнай ступені "рэалізаваць сваё *ego*, без якіх-небудзь скідак на ўмовы" (цытата належыць сыну паэта). Гэтыя антыноміі, дзве супярэчнасці, дапаўняючы адна адну, акурат высвечваюць складаную, а з таго – такую самабытную і буйную постаць В.Стуса:

*Але буду-перабуду,*
*перачую-перабачу.*
*Колькі цяжару! Ці збуду?*
*Крывакрылы, крукам крачу.*

Такі ён паўстае амаль у кожным вершы: моцны ў сваіх сумненнях, жывы ў сваіх слабасцях. Датклівай, ад пачатку, і зболенай, у выніку, душой ён увабраў у сябе і як мог рэалізаваў праз творчасць трагічныя калізіі і асабістага лёсу, і сваёй эпохі. Непадзельна. Ён ствараў паэтычныя радкі, як рабіў кардыяграму ўласнага сэрца – дакладную, з фіксаваннем самых няўлоўных, спарадычных зрухаў. Якое эмацыйнае напружанне, якія перапады настрояў часта перажывае паэт! Ад пачуцця нябеснага паклікання да поўнай роспачы, да ўтрапёнага ўспрымання фатальнасці жыцця: "Бяда так цяжка піша мною, так цяжка мною піша боль..." Настраёвасць мяняецца не толькі ад верша да верша, але нярэдка і ў строфах, радках аднаго твора, нараджае новыя асацыяцыі і вобразы, якія гарманізуюцца агульнай ідэяй, выражанай магістральнаю метафараю ці выбуховаю, пераважна афарыстычнаю, канцоўкаю. Можна згубіцца ў гэтых амплітудах-перападах, калі трактаваць іх паасобку... і вельмі зрэдку як палёгка, адхланне для паэта – вершы-ўспаміны пра маленства, сяброў, каханую.

Стыхія асацыятыўных вобразаў і адначасовы іх сінтэз – галоўная, на мой погляд, адметнасць паэзіі В.Стуса. Ягоныя душэўныя ўзлёты і спады (зломы) змушана ці нязмушана падпарадкоўваюцца глыбіннай думцы паэта і эстэтычным законам, у якіх ён быў прафесійна дасведчаны і якія адчуваў інтуітыўна,

паводле таленту. Законам – аднак жа, не канонам; іх, як сапраўдны паэт-наватар, В.Стус не прытрымліваўся. Прастора ягонага верша – гэта прастора *"самособоюнаповновання"*. Надзвычайны творчы тэмперамент пабуджае яго накладваць вобразы адзін на адзін, адмаўляцца ад завершанасці фразы, ламаць звыклы сінтаксіс – наогул, нарэшце сягаць за межы фіксаванай лексікі і ўзбагачаць яе ўласнымі паўнакроўнымі словамі. Наватворы, як згусткі энергіі, нараджаюцца ў паэта зазвычай са спалучэння або зрошчвання агульнавядомых слоў, нярэдка ўзаемавыключальных, антанамічных: *"всенезустріч"*, *"відтонкоголосить"*, *"смертеіснування"*, *"життясмерть"* і інш. Таму так няпроста перазапісваць паэзію-кардыяграму Васіля Стуса іншаю моваю, прынамсі, цяжка абыходзіцца без наватвораў-адпаведнікаў.

Цікавы і паказальны факт: адзін з самых яркіх сучасных украінскіх паэтаў нямала перакладаў з беларускае мовы. Хто з нашых творцаў імпанаваў яму? Як гучаць іхнія вершы пастусаўску? Для мяне гэтыя пытанні застаюцца пакуль што адкрытымі: пераклады (калі яны захаваліся і апублікаваныя) яшчэ не дайшлі. Аднак немалаважна, што беларускім вершам паэт адвёў далёка не апошняе месца ў вялікім шэрагу пераствораная ім. У лісце да Алега Орача, свайго сябра і сабрата, ён паведамляў, што ва ўмовах следчага ізалятара (!) пераклаў "дзеякія вершы беларусаў, расіян, французаў, палякаў, чэхаў, латышоў". І тым болей вабныя асоба і творчасць Васіля Стуса для нас.

**Алесь КАСКО**

# МУР

Чытаю Стуса. Вечарам. Адзін...
Ад форткі цягне зімным рускім духам...
Гняце душу шчымлівы напамін –
Нібыта ў рэйку стукаюць абухам...

Нібыта мне свой нумар называць,
Трушком выструньваць за сабачай пайкай,
Развучвацца смяяцца,
забываць,
Што трэба плакаць пад гумовай палкай...

І ведаць: справядлівасць ёсць турма,
А праўда – гэта камень пад рукамі,
Што чалавека насамрэч няма,
А ёсць Сізіф, што коціць гэты камень...

На камень – камень, і расце яна –
Для кожнага асобная сцяна...

"Між світом і душею віріс мур..."
Калі ж ён рухне ад пакут і змуса,
То мулярам дазволяць перакур
І – тры зацяжкі дармавых за Стуса...

Каб з друзу зноў сабралі камяні,
І новы мур выкладвалі на потым...
Сучаснік мой, на камень свой зірні –
З пражылкамі крыві, ён пахне потам...

*1996 г.*

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

 



# Яно



## Ліві Кунэн

*У жніўні 1994 г. і 1995 г. у нашай сям'і жыў беларускі хлопец, пабываць на радзіме якога нам надарылася магчымасць у красавіку 1995 г. Разам з мужам я правяла два дні ў гасцях у бацькоў "нашага" Вадзіма Зайца. Жывуць і працуюць яны ў саўгасе "Вялікі Бор". Іх пасёлак размешчаны на тэрыторыі забруджанай зоны на поўнач ад Чарнобыля, кіламетраў за дваццаць ад мясцін, жыхары якіх былі эвакуіраваны. Гэтая паездка так глыбока ўзрушыла мяне, што я не магла не выкласці свае ўражанні на паперу, і зрабіла я гэта не толькі для самой сябе...*



 

Ліві КУНЭН

# СВЯТА Ў БЕЛАРУСІ

Пяць гадзін таму назад празвінеў наш будзільнік. Праз паўгадзіны мы былі ўжо каля царквы ў Брасхаце.[1] Мы яшчэ не зусім адышлі ад сну, трохі нервуемся, трывожымся, аднак галоўнае наша пачуццё – цікаўнасць: а што будзе далей?

Я абавязкова павінна паехаць у гэтае падарожжа, і я паеду. Ніхто і ніхто не перашкодзіць мне. Запытайцеся ў Рыка. Калі і быў чалавек, які выкарыстаў усе магчымыя і немагчымыя аргументы, каб я адмовілася ад задуманага, то гэта менавіта ён. Калі ёсць чалавек, які ведае, што раз я прымаю нейкае рашэнне, то абавязкова павінна яго здзейсніць, то гэта таксама ён, Рык.

І таму мы тут. Удваіх. І нават у гэтым я свайго дамаглася: мой муж мяне суправаджае.

Развітваемся, паціскаем рукі тым, хто застаецца. Пачуцці блытаюцца. Госпад нябесны, што ж гэта я задумала?

Больш як дзве тысячы кіламетраў туды, больш як дзве тысячы кіламетраў назад, ды ў аўтобусе, каб дабрацца да нейкай глухмені, забытай Богам і людзьмі, дзе і паглядзець няма на што, адабраць два дні ў чужой сям'і, пра якую, шчыра кажучы, мы і не ведаем нічога...

Няпраўда! Летась у жніўні іхні хлопец адпачываў у нас. Вадзім Заяц. Яму трынаццаць гадоў. З беднай беларускай сям'і. Калі дакладней, то з Вялікага Бора, які ў забруджанай зоне з 1986 года, за некалькі дзесяткаў кіламетраў ад украінскага Чарнобыля...

Грузім багаж. Заходзім у аўтобус. У дзевяць гадзін наша калона з трох аўтобусаў гатовая ад'ехаць.

Вось мы і ў дарозе. У першым аўтобусе пасажыры на Мінск, у другім і трэцім – на Мазыр і Гомель.

*10 гадзін 40 хвілін.* За намі застаўся Кёльн.

У салодкай дрымоце аднаўляю ў памяці ход падзей. Летась на пачатку верасня я напісала ліст у арганізацыю "Фламандцы дапамагаюць дзецям Чарнобыля". Напісала, таму што Вадзім, паехаўшы ад нас, пакінуў больш пытанняў, чым іх было перад яго прыездам. Чаму па-руску мы гаворым больш, чым ён? Чаму ён ніколі не адказваў, а калі і адказваў, то без усялякага жадання, на нашы пытанні пра яго дом, школу, увогуле пра жыццё ў Беларусі? Чаму трынаццацігадовы хлопец едзе за дзве тысячы кіламетраў, каб толькі спаць ды глядзець тэлевізар, бясконца пераключаючы тэлеканалы? (Мы яму нават мянушку прыдумалі: Вадзім-Пераключальшчык.) Чаму ён так неахвотна гуляў з нашымі дзецьмі? Чаму ён так абыякава ставіўся да нашых паездак у звярынец, у парк адпачынку Эфтэлінг, на мора? Чаму ён адразу знікаў, калі да нас заходзілі сябры ці сваякі? Чаму яго амаль не радавалі падарункі? Магчыма, гэта не ад ляноты, а хутчэй ён хворы ці слабы, каб доўга гуляць? Магчыма, ён не быў эгаістычны і няўдзячны, а проста лічыў, што ўсё, што мы рабілі для яго тут, было ў парадку рэчаў? Магчыма, па натуры Вадзім – чалавек замкнуты і некантактны?

Як бы там ні было, а развіталіся мы з Вадзімам з неадназначнымі пачуццямі. Вядома ж, ягоны прыезд быў для нас прыемнасцю. Час ад часу ў яго строгім позірку з'яўлялася спакойная ўсмешка. Час ад часу мы пераконваліся, што Вадзім валодае тонкім пачуццём гумару. Так што ў наступным годзе мы зноў чакаем Вадзіма, калі, вядома, ён сам захоча да нас прыехаць.

*17 гадзін 50 хвілін.* Аўтобус робіць чарговы прыпынак. Пасля абеду ўвесь час церусіў дробны непрыемны дождж, стаяў туман, але цяпер сонечныя промні прабіліся праз воблакі. Як толькі мы ўехалі ў "берлінскі калідор", машын стала больш. Усюды людзі працуюць, будуюць новыя дарогі, масты, заводы...

Некаторыя нашы спадарожнікі вывучылі рускі алфавіт, а адзін нават вязе з сабой электронны галандска-рускі слоўнік! І, вядома ж, кожны можа сказаць "Здравствуйте" і "Не понимаю".

*20 гадзін 20 хвілін.* Рык уключыў відэакамеру. Чамусьці захацелася, каб Польшча на гэты момант была ўжо ззаду. Аўтобусы спыніліся на апошняй заправачнай станцыі перад граніцай. Знайшлося ўсяго толькі два туалеты на ўсіх жанчын з трох аўтобусаў. Можна сабе ўявіць, якая чарга... Ледзяны вецер працінае да касцей. Вадзіцелі ўжо заправіліся і ўвесь час сігналяць. Мне не шанцуе: я апошняя ў чарзе ў туалет. Калона нямецкіх аўтамабіляў "Дапамога Чарнобылю", якую мы нядаўна абагналі, таксама робіць прыпынак на гэтай станцыі.

*22 гадзіны.* Рык заснуў. Пад'язджаем да нямецкай мытні ў Франкфурце-на-Одэры. Праз 10 хвілін мы ўжо на польскім баку. Малады мытнік заходзіць у аўтобус і ўважліва правярае пашпарты.

*У 22 гадзіны 50 хвілін* можам ехаць, але перад намі – бясконцая чарада аўтамабіляў.

У Польшчы на некаторых участках дарогі заўважаем палосы, спецыяльна прызначаныя для коннага транспарту. І гэта вам не пустая раскоша! Уздоўж дарогі прыцягваюць увагу ярка асветленыя магазінчыкі, дзе прадаюцца штучныя садовыя карлікі самых розных памераў. Відовішча адначасова і святочнае, і змрочнае.

*6 гадзін раніцы.* Едзем па Варшаве. Знешні выгляд прыгарадаў польскай сталіцы расчароўвае. І толькі рэкламныя шчыты здзіўляюць свежасцю і навізной.

*6 гадзін 45 хвілін.* Апошняя заправачная станцыя ў Польшчы. З трох туалетаў два не працуюць! Зноў чарга... Даволі чысценькае кафэ, але яно, здаецца, зачынена. Рык выкарыстоўвае ўсю сваю абаяльнасць і ўгаворвае міленькую афіцыянтку прадаць яму два кубачкі смачнага капучына і шакаладку "Мілка". Плаціць можна толькі польскімі злотымі. Маркі і долары не прымаюцца. А ў нас нямецкія маркі і крэдытная карта *"Visa"*. Яна нас і ратуе. Афіцыянтка бярэ карту і ідзе на заправачную станцыю. Праз пяць хвілін да яе падыходзіць запраўшчык, каб дапамагчы разабрацца з картай. Пасля чытання інструкцыі і шматлікіх спроб тэхніка, нарэшце, спрацоўвае. З усіх пасажыраў мы з Рыкам адзіныя, хто дазволіў сабе такі адмысловы сняданак. Тым часам пайшоў снег. Б-р-р, а Рык забыў свой світэр.

У *9 гадзін* уязджаем у Тэрэспаль – прыгранічны польскі горад. Кожны павінен запоўніць спецыяльны фармуляр: прозвішча, імя, грамадзянства, з якой краіны і куды едзеш, прычына візіту,

колькасць багажных месцаў. Ім трэба ведаць усё... У тым ліку і ўсю валюту, якую ты маеш пры сабе і якую абавязкова неабходна ўпісаць у фармуляр лічбамі і пропісам. Самае цікавае ў гэтых фармальнасцях, што з нас амаль ніхто не можа прачытаць і зразумець пытанняў, бо яны надрукаваны толькі па-руску. А адказваем мы па-галандску. Я не магу сабе ўявіць, што ў іх ёсць чалавек, здольны перакласці нашы адказы...

Пасля ўсяго – чакаем, чакаем, чакаем.

Зноў у салоне добразычлівы польскі мытнік, які правярае пашпарты і ставіць штампы. Мы мяркуем, што ўсё ў парадку, але ў *10 гадзін* яны пайшлі шукаць перакладчыка. Што такое? Аказваецца, нашым вадзіцелям праштампавалі выязныя візы замест уязных.

Зноў у салоне мытнік. На гэты раз беларускі. Ён збірае ўсе нашы пашпарты.

*11 гадзін 5 хвілін.* Мы так і не крануліся з месца. Хтосьці з нашага аўтобуса не паспеў здаць свой пашпарт. Колькасць пасажыраў і пашпартоў не супадае... Каб высветліць гэта, спатрэбілася *45 хвілін.* Мала таго: наш вадзіцель згубіў нейкую паперку са звесткамі пра тэхнічныя дадзеныя аўтобуса. Праз паўгадзіны паперку знайшлі ў пашпарце іншага вадзіцеля... А яшчэ гавораць, што беларусы толькі робяць выгляд, што яны занадта патрабавальныя...

Ну што, усё?! – Дудкі! У нашы пашпарты пагранічнікі няправільна паставілі штамп: замест 8-4-95 штампанулі 8-3-95. Пра астатняе няцяжка здагадацца: усе "тройкі" трэба замяніць на "чацвёркі".

*11 гадзін 50 хвілін.* Нарэшце, паехалі. Не! Зноў нейкая перашкода! Яшчэ чатыры прыпынкі, калі я правільна палічыла, і толькі тады мы – у Рэспубліцы Беларусь.

***

Маленькі прыгранічны польскі гарадок Тэрэспаль застаўся за намі. Цяпер мы сапраўды на тэрыторыі Беларусі, у ваколіцах Брэста. У абодва бакі стаяць бясконцыя чэргі аўтамабіляў. Палякі і беларусы цярпліва чакаюць у сваіх перагружаных калымагах. На большасці машын – ёмістыя напакаваныя багажнікі. Назіраю, як нейкая кабета корпаецца ў сметніцы. Маладыя рокеры раз'язджаюць на сваіх матацыклах.

Перасякаем апошні бар'ер. Зноў пайшоў снег. Зноў спыняемся ля самай граніцы. Людзі, якія едуць у Мінск, перасаджваюцца на беларускі аўтобус. На ім яны і паедуць адсюль у сталіцу. Падчас прыпынку нашы аўтобусы нечакана запаўняюцца жанчынамі, якія гандлююць хлебам, напіткамі і цыгарэтамі. Ніхто з нас да іх тавараў ніякай цікавасці не выяўляе, і жанчыны знікаюць з салона гэтак жа нечакана, як і з'явіліся. Едзем далей. Насустрач нам – вялізная чарга аўтамабіляў у бок Польшчы. На цэнтральнай паласе дарогі тры каровы скубуць сабе траўку...

*12 гадзін 30 хвілін.* Праехалі ладны кавалак дарогі па Беларусі. Брэст не выклікае захаплення: шырокія бульвары, вялікія перакрыжаванні і мала, амаль зусім не відаць машын. Затое столькі перагружаных тралейбусаў! У салонах паздымалі сядзенні, каб было больш месца для пасажыраў. Людзей нашпігавана так, што, здаецца, тралейбус трашчыць. Поруч з дарогай – жылыя дамы, новабудоўлі. Едзем па чатырохпалоснай трасе, усеянай калдобінамі ды выбоінамі. Уздоўж дарогі цягнецца бясконцая раўніна, зрэдку сустракаюцца невялікія бярозавыя гаі. Далёка-далёка, ля самага гарызонту,– абрысы хваёвага ляснога масіву. Прыглушаюць манатоннасць і невялікія драўляныя дачы. Час ад часу сустракаюцца хутаркі з буслянкамі і гордымі бусламі. Паміж вёсачкамі – вялікая адлегласць. Гэта так не падобна на сельскія венгерскія краявіды!

*13 гадзін.* У Кобрыне мы збіліся з дарогі: замест таго, каб ехаць на ўсход, у напрамку Пінска, мы з хуткасцю кіламетраў сто ў гадзіну паімчалі на поўдзень, да ўкраінскай мяжы. Адмахалі такім чынам 53 кіламетры. Рык заўважыў гэтую памылку ўжо на першым кіламетры. Ён уважліва сачыў за маршрутам па падрабязнай карце Беларусі. Нават па пейзажы можна было здагадацца, што мы едзем не туды: замест манатоннай раўніны мы ўехалі ў густы хваёвы лес. Шафёр быў уведзены ў курс справы. Ён адразу ж пачаў міргаць фарамі і націскаць на сігнал, каб спыніць аўтобус, што быў перад намі. Напалову сонны памочнік вадзіцеля пераканаўся ў памылцы толькі пасля таго, як Рык паказаў яму арыентацыю па сонцы. На шчасце, усе зразумелі, што наша свяціла ў гэты час сутак знаходзілася амаль на самым поўдні і не павінна было быць перад намі, раз мы едзем на ўсход.

*13 гадзін 10 хвілін.* Мы ўжо на правільным шляху. Звяртаю ўвагу па невялікую прыгожую, але небагатую вёсачку, дзе прама

на вуліцы пахаджвалі гусі. А з другога боку дарогі мы ўбачылі пахавальную працэсію. Труна з нябожчыкам, упрыгожаная кветкамі, стаяла ў кузаве невялікага грузавіка. Сваякі і сябры ішлі за машынай...

А мы едзем і едзем далей. Рык не адрываецца ад сваёй карты. Сістэма шляхоў зносін даволі добрая. Мы ўвесь час саступаем дарогу матацыклам з каляскамі, падводам, веласіпедыстам і пешаходам.

*14 гадзін.* Нечакана на Мазырскай шашы нас спыняе міліцэйскі кантроль. Сярод голага поля стаіць шлагбаум і знаходзіцца пост міліцыі. Праз некалькі хвілін нам дазволена ехаць далей. Магчыма, тут праходзіць граніца паміж двума раёнамі.

Інтэнсіўнасць руху вельмі слабая: па маіх падліках, за чвэрць гадзіны на гэтай шашы, што злучае ўсходнюю і заходнюю часткі Беларусі, нам сустрэліся 8 легкавых аўтамабіляў, два аўтобусы, тры грузавікі і адзін трактар.

*14 гадзін 30 хвілін.* З хуткасцю 100 кіламетраў у гадзіну мы літаральна ляцім над асфальтам. Толькі што ўбачылі першы калгас: некалькі мізэрных баракаў, пабудаваных у адзін рад, а за імі – некалькі дзесяткаў убогіх хат. Далёка-далёка, як акінуць вокам, цягнецца плоская раўнінная мясцовасць, якая чымсьці нагадвае нашы ланды. З краявіду зніклі і вёскі з буслянкамі. Перад намі – толькі палі, лугі ды лясы...

***

Нарэшце! У *6 гадзін вечара* па вузкай дарозе мы ўязджаем у Мазыр. Горад значна большы, чым мне ўяўлялася. Ён стаіць на горцы па-над Прыпяццю. Аўтобус літаральна караскаецца па стромкіх вуліцах. І вось перад намі – вялізны гатэль. Ён высока ўздымаецца над горадам. Каб дабрацца да ўваходу, трэба прайсці не адзін дзесятак прыступак. А тут – і яны! Апатычныя, цярплівыя, пакорлівыя і, безумоўна, стомленыя доўгім чаканнем... Яны прыехалі сюды апоўдні. Некаторыя трымаюць у руках ружы, загорнутыя ў срабрыстую паперу.

Дзеці знаёмяць фламандцаў з беларусамі. Пацалункі, абдымкі, усмешкі...

Мы не адразу заўважылі Вадзіма. А сам ён, вядома ж, не зрабіў нічога, каб звярнуць на сябе нашу ўвагу. Шчыра кажучы,

я думала, што тут будзе ўся сям'я Вадзіма, прынамсі яго мама. Але сустракаў нас Вадзім толькі з бацькам, Алегам.

Цягнем па сходах цяжкія чамаданы. Спускаемся да аўтастаянкі, што перад уваходам у гатэль. Тут шмат машын маркі "Лада" ўсіх колераў вясёлкі. Наша "Лада" зялёная. Сябра (?) Алега ставіць нашы чамаданы ў багажнік. Разам з Вадзімам мы займаем месца на заднім сядзенні. Цяпер я разумею, чаму Вадзімава маці не прыехала нас сустракаць: для яе месца ў машыне не было б.

На Вадзіме – штаны, світэр, чаравікі і гадзіннік, якія мы падарылі яму ў жніўні. Бацька Алег робіць уражанне чалавека спакойнага, ветлівага і элегантнага. На ім – шыкоўны доўгі белы плашч. Ён хітравата ўсміхаецца, гаворыць вельмі спакойна. А вось шафёр – чалавек зусім іншага тыпу: доўгая чорная шавялюра, прыгожая дагледжаная барада, заліхвацкія вусы, шапка на галаве, кароткі плашч. Унутранае ўбранне "Лады" – плён вялікай фантазіі шафёра: дзесяткі яркіх наклеек, адна нават з выявай Хрыста, упакоўка ад шакаладу "Марс" і мора іншых рэчаў. На рычаг пераключэння перадач навінчаны празрысты пластыкавы наканечнік з прыгожымі фігуркамі ўнутры.

Вадзіцель ліха вядзе машыну па роўнай, як страла, дарозе. Дарогі тут прамыя, але, на жаль, маюць нямала небяспечных выбоін. Стрэлка спідометра пераваліла за сотню. Адчуваецца, што наш шафёр ведае дарогу як свае пяць пальцаў: ён удала аб'язджае ўсе перашкоды, нібыта гоншчык "Формулы-1". Мы падлічылі, што на дыстанцыі ў 60 кіламетраў нам сустрэлася толькі адна легкавушка. Перад намі і за намі едуць "Лады" з фламандцамі на Хойнікі і Вялікі Бор. Зрэдку машыны абганяюць адна адну.

Тым часам перад носам у вадзіцеля адвальваецца і падае жоўты супрацьсонечны шчыток. Даўно мінуліся лепшыя часы і для бувераў нашай машыны. Едзем, увесь час упіраючыся галовамі ў столь. Нашых беларусаў гэта, здаецца, зусім не бянтэжыць.

Вось Алег пальцам паказвае на шырокі шчыт, на якім напісана назва іх саўгаса. Аднак едзем мы так хутка, што я не паспяваю нічога прачытаць.

Уехалі ў Вялікі Бор, і першае, што мяне здзівіла, – гэта вялізныя клубы дыму, якія ўзнімаліся з высокага коміна і марудна рассейваліся над пасёлкам. Мне патлумачылі, што гэта не завод, а

цеплацэнтраль, яна абагравае ўвесь Вялікі Бор. У наступным годзе дыму не будзе: пяройдуць на газ. А пакуль выкарыстоўваюць вугаль.

Па памерах Вялікі Бор значна большы, чым нам уяўлялася. Пра брукаваныя вуліцы не можа быць і гаворкі, і мы зноў выпісваем зігзагі паміж ям і выбоін. Часам даводзіцца заязджаць на тратуар, бо дарога асела і ператварылася ў сапраўдны роў... Праехалі квартал драўляных дамоў. Будуюцца шматкватэрныя дамы. Вадзім паказвае сваю школу. А цяпер мы – у квартале, дзе адны толькі цагляныя дамы з такімі ж самымі шыфернымі дахамі, як і драўляныя. На вокнах і дзвярах – сляды светла-блакітнай вапны. Кожны дамок акружаны частаколам.

Нарэшце спыняемся перад домам №12 па вуліцы Новай.

Выходзім і развітваемся з шафёрам. Я пытаюся, ці ўбачу яго зноў. Ён чырванее, як памідор, і кажа, што мы яшчэ пабачымся. Шафёр дае Алегу белы хлеб – той спачатку адмаўляецца, а потым усё ж забірае хлеб. Накіроўваемся ў дом.

Заходзім у невялікі калідор. Тут шмат абутку, і мы не асмельваемся ісці далей. Алег запрашае нас. Першы, каго мы бачым, – гэта двайнік Вадзіма, яго брат Віталь. На ім – таксама наш світэр. З кухні выходзіць Ліда і ўскліквае, што яна столькі ўжо нас чакала. Ліда абдымае і цалуе мяне. Я цалуюся з Лідзінымі дочкамі – Наташай і Аняй. Яны яўна злоўжылі памадай, якую я летась перадала праз Вадзіма. Такое адчуванне, што частка памады цяпер і ў мяне на шчоках.

Праз кухню пераходзім у больш прасторны пакой, які адначасова з'яўляецца і гардэробнай. Цэнтральнае месца тут займае прыгожы трэльяж, дзе ляжаць губная памада, лак для пазногцяў, туш для веек, контурны аловак для вачэй, касметычныя сурвэткі, яшчэ нават не распакаваныя.

Аня бярэ нашы паліто, а Алег запрашае ў гасціную. Мы з чамаданамі топчамся на месцы. Нарэшце вызваляемся ад свайго грузу і сядаем у мяккія крэслы. Справа на ўсю сцяну прыколаты кнопкамі плакат з беларускім пейзажам. Унізе пад плакатам стаіць раскладзеная канапа. Падушкі накрытыя яркімі і прыгожымі вышыванымі гладдзю накідкамі. Прама перад намі – акно, пад ім – крэсла, якое можна раскласці і выкарыстоўваць як ложак для дзвюх персон. Злева – прыгожая кніжная шафа з мноствам кніг.

Спрабую перакласці некаторыя назвы. Рык пытаецца, хто гэта чытае столькі кніг, а ў адказ – толькі сціплая ўсмешка. Ззаду цэнтральная частка сцяны не паклеена шпалерамі, а пабелена вапнай. Там горача: да сцяны не даткнуцца рукою. Сцяна гэтая, разам з цэнтральным ацяпленнем, падтрымлівае высокую, аж залішнюю тэмпературу. Астатнюю частку гасцінай-спальні займае стол з прыборамі. Вакол стала – процьма ўсялякіх табурэтаў і крэслаў. І ўсе розныя. Ва ўсякім разе, двух падобных мы не знайшлі. Дастаю фотаапарат, кішэнны слоўнік і з нецярпеннем чакаю, што будзе далей. Мы сядзім тут, у забытай Богам глушы, за тысячы кіламетраў ад дома. Што будзе, калі гэтая паездка не апраўдае нашых надзей? Я ж так доўга пілавала-ўгаворвала Рыка, каб ён паехаў са мной... Ці падыдзе нам тутэйшая ежа? Я не прывыкла глытаць бульбіны, а смажанае мяса – не самая любімая мая страва. Ці зразумеюць мяне тут? Ці зразумею я абрыўкі іх размоў?

Я даўно вырашыла хоць крыху вывучыць рускую мову. Вадзім разумеў мяне добра, аднак я амаль нічога не атрымала для сваёй рускай мовы ад гэтага “нямога” хлопца. Карыстаючыся слоўнікамі і кніжкамі па граматыцы, я змагла-такі перакласці і напісаць некалькі лістоў. На Каляды і перад самым нашым ад’ездам нядрэнна пагаварыла па тэлефоне з Лідай і цёткай Нінай. Але цяпер трэба адначасова і гаварыць, і перакладаць! Божа, як добра, што ў мяне ёсць Рык. Ён заўсёды выйдзе з любога становішча. І мова тут ні пры чым. Нават у Партугаліі яго разумелі, калі ён гаварыў на сумесі французскай, англійскай, нямецкай і нават чагосьці такога, што здалёку нагадвала іспанскую мову.

Ліда адрывае мяне ад невясёлых думак. Яна пытае, ці не жадаем мы асвяжыцца з дарогі. Мы, вядома, згаджаемся і ідзём следам за Лідай у ванную. Памятаю, Вадзім расказваў, што ў іх ёсць душ. На многае я і не разлічвала, але тое, што мы ўбачылі, адбіла ўсялякае жаданне прымаць ванну ці душ. У куце быў прыстасаваны ўмывальнік, а пад вяроўкамі для бялізны стаяла ванна. Хто ведае, магчыма, для іх гэта і ёсць поўная раскоша, а для людзей з нашымі паняццямі – хутчэй, галеча. І ў ракавіне, і ў ванне ад жалезістай вады засталіся ржавыя плямы. Вадасцёкавыя трубы ідуць у адтуліну ў падлозе і зацэментаваны толькі напалову. На сцяне вісіць іржавы змяшальнік душа. Кран можна накіроўваць і на ракавіну, і на ванну. Вада з крана льецца цёплая і страшэнна

смярдзіць. Пад ракавінай я заўважыла металічны чан, пральную дошку і драўляныя шчыпцы. Усе гэтыя прадметы сведчаць аб тым, што Ліда яшчэ мые бялізну ўручную. А Вадзім жа нам расказваў, што яны купілі пральную машыну.

Сяк-так прыводзім сябе ў парадак, не шкадуем дэзадаранту і вяртаемся ў гасцінную.

Наташа і Аня завіхаюцца ля стала. Кожнаму госцю прызначаны невялікая талерка, відэлец і лыжка. Звяртаю ўвагу Рыка на тое, што на стале няма ніводнага нажа. Дапамагаю Наташы, а можа Ані (яны такія падобныя!), расстаўляць посуд на стале. Да кожнай талеркі дадаюцца чарка для аперытыву, бакал для шампанскага і звычайная шклянка. Крыху пазней адна з сясцёр прыносіць маленькія кубачкі.

Тым часам у пакой заходзіць малады чалавек. Гэта Саша, Анін жаніх. Моцна саромеючыся, ён падае нам руку і сядае на крэсла ля акна, поруч са сваёй абранніцай. Сядаем за стол і мы з Рыкам, а Ліда і Наташа ўсё носяць і носяць апетытныя стравы. Я нідзе не прыкмячаю цэлых гарачых бульбін са смажаным мясам, і на душы становіцца лягчэй.

Заходзіць Алег, сядае і крыху нязграбна адкаркоўвае бутэльку італьянскага шампанскага. Цікава, дзе яны яго знайшлі?

Цяпер уся сям’я за сталом, гучыць тост у гонар нашага прыезду. Мы чокаемся з кожным і не забываем паўтараць: “На здоровье!”

Не паспелі мы прыгубіць нашы бакалы, як Ліда ўжо нясе талеркі для супу. Здзейснілася адна з маіх мар: Ліда прыгатавала боршч з чырвоных буракоў. Яна прыслала мне яго рэцэпт. Тое, што я тады зварыла па рэцэпце, не ідзе ні ў якое параўнанне. Ля кожнай талеркі – па тры кавалачкі хлеба: два чорнага і адзін белага (таго самага, што перадаў Алегу шафёр). Чорны хлеб кіславаты, аднак ён смачнейшы за белы. Пакуль мы дэгустуем наш першы абед па-руску, пакой напаўняецца новымі сваякамі. Цётка Ніна (сястра бацькі Алега і ўладальніца тэлефона), дзядзька Алег (яе муж), Дзяніс, Віталь і Андрэй (іх сыны) сардэчна вітаюць нас. Чаркі для аперытыву напоўнены гарэлкай, гучыць тост за нашу сустрэчу. Усе пасмейваюцца, калі бачаць, што мы адпілі толькі па адным глытку з чаркі, і рашуча даюць нам зразумець, што трэба выпіць усё да дна. Нічога не зробіш. П’ём...

Між тым талеркі для супу зніклі са стала, і мы налюбавацца не можам новымі featherрознакаляровымі стравамі, пералічыць якія проста немагчыма: салата з чырвоных буракоў, залітых смятанай, грыбная салата, марынаваныя гурочкі, смажаная рыба, палавінкі адвараных яек у смачным соусе, галубцы, кавалачкі салямі...

Не ведаем, з чаго і пачаць. Ліда паказвае прыклад: бярэш тое, што табе падабаецца, кладзеш на талерачку і ясі – відэльцам ці рукамі. Не паспелі мы хоць што-небудзь пакласці ў талеркі, як Алег ужо зноў напоўніў чаркі гарэлкай. І зноў – тост...

Мне хочацца паспытаць усе стравы. І ўсё сапраўды вельмі смачнае.

А цяпер у пакой увайшоў жаніх Наташы. Яго завуць Валодзем, і яму адразу ж знаходзіцца месца за сталом. Падымаем чарку за новага госця. Ліда паведамляе нам, што Валодзя з Наташай пажэняцца ў канцы месяца. Гэтая радасная навіна таксама адзначаецца чарговай чаркай. На гэты раз мне прапануюць абрыкосавы лікёр. “Гэта мякчэй і прыемней для жанчыны”, – тлумачаць мне...

Алег бярэ ў рукі шкляны графін, заткнуты самаробным коркам. Вялікага жадання піць з гэтага графіна ў мяне няма. Але ж яны ўмеюць пераконваць: цудоўная хлебная гарэлка, якая, вядома ж, мацнейшая, чым магазінная, і ты, у рэшце рэшт, ведаеш, што п’еш. Гэта чысценькая на ўсе сто працэнтаў гарэлка, і дрэннай яна быць ніколі не можа... Адзін глыток – і ў роце ўсё гарыць агнём. Тушыш гэты пажар нейкім самаробным цёплым сокам.

Здымаем пробы з усіх страў, а яны – адна смачнейшая за другую. Мы ямо нават вэнджаную рыбу, добра ведаючы, што злавілі яе ў суседнім возеры. А гэта азначае, што рыба можа быць радыеактыўная. Не шкадуем слоў удзячнасці Лідзе, а яна адмоўчваецца, чырванее ды ківае галавой.

Дзядзька Алег – вялікі аматар пагаварыць, але яго ўвесь час перапыняе бацька Вадзіма. Гутарка зноў і зноў вяртаецца да адной і той жа тэмы: страшэнная інфляцыя. Пяць гадоў таму назад за грошы, што яны сёння плацяць за адну бутэльку гарэлкі, можна было купіць дзве легкавушкі, калі, вядома, тыя былі ў продажы. Не, усё ж такі ў брэжнеўскія часы ім жылося лягчэй. Нават хлеб тады быў амаль бясплатны. Цяпер за буханку чорнага хлеба трэба выкласці больш як дзве тысячы рублёў, а буханка

белага будзе каштаваць усе тры тысячы. Які сорам, што Гарбачоў не здолеў ўратаваць сваю краіну ад тупіка!

Але ў іх ёсць надзея. Прэзідэнт Лукашэнка сказаў: "Яшчэ пяць гадоў, і ўсё пойдзе лепш!" Дзядзька Алег смяецца, паказваючы свае белыя і ўстаўныя залатыя зубы. "Вы толькі пачакайце, – кажа ён нам, – праз пяць гадоў усё тут пойдзе на лад". Сапраўды, у гэтага чалавека поўны і непахісны давер, і ўсе яго надзеі звязаны з будучыняй... Мы асцярожна намякаем, што пяць гадоў – гэта, можа, і малаваты тэрмін, каб давесці ўсё да ладу. Аднак заўвага наша з шумам і рашучымі жэстамі адразу адкідваецца.

Зноў гарэлка льецца ў чаркі, і кожны п'е за прарочыя словы Лукашэнкі...

Пачуццё голаду прайшло, смагі – таксама, і дзіва дзіўнае: я не адчуваю сябе стомленай. Нават ад гарэлкі мне не стала блага.

Вадзім у гэты час ляжыць на канапе, задраўшы ногі ўгору, і глядзіць тэлевізар. Знаёмая карціна. Дзе мы яе бачылі?! Калі Вадзім жыў у нас, мы кожны дзень як маглі пераконвалі яго, каб ён не захапляўся так тэлевізарам. Рык жартуе і кажа, што ён пазнае Вадзіма-Пераключальшчыка. Усе ведаюць гэтую мянушку і дабрадушна смяюцца.

Мы прапануем раздаць нашы падарункі, якія прывезлі з Бельгіі. Дарослыя стрымана, але цёпла ставяцца да гэтай прапановы, а вось дзеці, усе як адзін, – ужо вакол нашых чамаданаў у калідоры. Уносім чамаданы ў спальню, а за намі следам ідзе ўся каманда на чале з Віталем – старэйшым сынам. Мы прывезлі падарункі толькі для шасці членаў сям'і Зайцаў. Цяпер давядзецца ўсё пераразмеркаваць, каб кожны з гасцей атрымаў ад нас гасцінец. Рык дае цукеркі "ММ" Дзянісу – малодшаму сыну дзядзькі Алега і цёткі Ніны. Той, падскокваючы ад шчасця, знікае ў гасцінай, каб пахваліцца сваім набыткам перад іншымі.

Бацька Алег не хоча прымаць блок бельгійскіх цыгарэт, бо аддае перавагу беларускаму тытуню, а вось яго швагер з задавальненнем забірае блок.

Наташа і Аня – на сёмым небе ад новага касметычнага набору. Ліда атрымлівае набор мыла і ўголас чытае: "Фа-Фа-Фа". Цётка Ніна любуецца каробкай бельгійскага шакаладу, дзе ляжаць шакаладкі ў форме розных рыбак. Дзядзька Алег, убачыўшы пакеты з сырам, распачынае оду галандскаму сыру.

Вадзім атрымлівае джынсавую кашулю. Прысеў над чамаданамі і Віталь з новай кашуляй. Я падаю яму запалкі і прашу занесці іх бацьку. А яму не хочацца ісці. Ён прымае жвачку, скоса пазірае на “марсы” і “снікерсы” і, нарэшце, пытаецца: “А дзе ж “Кока-Кола”? І сапраўды, я не магу ўспомніць, куды яе паклала. Белы шакалад, чорны шакалад, вафлі “Леа”, “Фрутэла” – нішто яго не спакушае. Ён хоча “Кока-Колу”! А ў нас яе няма. Віталь вось-вось заплача, і па ўсім відаць, што ён больш чым расчараваны. Нарэшце позірк яго вяртаецца да запалак, і Віталь трохі весялее. Мы зноў просім занесці іх бацьку. Хлопчык згаджаецца, але адыходзіць ад нас без усялякага жадання...

Дома я загарнула ўсе падарункі ў прыгожую паперу. Ліда свеціцца ад шчасця: столькі нечаканых падарункаў! Цяпер і яна зможа мыцца мылам “Фа” і адчуе яго чароўную свежасць, як гэта робяць прыгожыя дамачкі з тэлеэкрана. Яна моўчкі сядзіць. Аб чымсьці задумалася. Я падсаджваюся поруч і пытаюся, чаму яна не разгортвае пакеты. А ў вачах у яе – слёзы... Навошта гэта рабіць цяпер? Можна будзе ўзяцца за гэтыя пакеты заўтра. А можа, паслязаўтра. Адчуваю, што я назаляю Лідзе. Магчыма, ёй лепш пабыць адной? Магчыма, ёй не хочацца, каб дзядзька Алег з цёткай Нінай бачылі тое, што яна атрымала? А можа, сапраўды мы прывезлі ёй зашмат падарункаў? Пасля доўгага маўчання яна шэпча, што не варта было везці столькі добрых рэчаў, бо ў іх тут, праўду кажучы, няма нічога такога, каб аддзячыць нам. Акуратна, беражліва яна адкрывае пакет за пакетам і расстаўляе рэчы каля сябе...

І зноў – застолле. Цешым сябе яшчэ некаторымі стравамі, запіваем гарэлкай, сокам, цёплай кавай. Дзеці таксама за сталом, разам са сваімі “марсамі” і “снікерсамі”.

Адчуваю, што ўжо час ісці спаць. Дзве гадзіны ночы. Стаміўся і Рык. Робіць сваё і выпітая гарэлка. Рык у мяне не вялікі аматар спіртнога, хоць у сябе дома, вечарам, часам можа дазволіць кроплю-другую. Але ж у нас і чаркі меншыя, а галоўнае – так часта не наліваюць. Да таго ж, мы падняліся з пасцелі ў чатыры гадзіны раніцы, праехалі дзве тысячы кіламетраў у аўтобусе. Гэта вам не жартачкі.

Мы прапануем ісці адпачываць. Нам хочацца заўтра ўстаць рана-рана, каб не марнаваць ні хвіліны ў Беларусі. Выпіваем яшчэ

па глытку і развітваемся з дзядзькам Алегам, цёткай Нінай і іх дзецьмі. Мы хочам дапамагчы прыбіраць са стала, але нас амаль сілком выштурхоўваюць у спальню. Дабранач, Ліда і Алег!

Наш ложак чароўны. І падушкі, і пярына – з сапраўднага пуху! Як прыемна! Такой раскошы ў нас дома няма. Тут так ціха і спакойна. Не чуваць ні машын, ні цягнікоў, ні самалётаў, нішто не парушыць сон. Кладзёмся ў ложак, некалькі слоў – і мы ў абдымках глыбокага сну...

***

Сёння нядзеля. Палова на восьмую. Рык яшчэ спіць. Даўно я так добра не спала! Я не “жаваранак”, вельмі рана не ўстаю, але сёння адчуваю сябе лёгка. Ні галаўнога болю, ні жадання нырнуць пад коўдру і прабурчаць: “О, зноў уставай! У такую рань!..” Наадварот, адчуваю сябе выдатна і ледзьве стрымліваюся, каб не саскочыць з ложка. Са мной такое не часта...

У пакоі ўжо светла. Трошкі пахне плесенню. З калідора даносяцца глухія гукі. Раннія птушкі нашы гаспадары! Рык толькі нешта мармыча ў адказ на мае далікатныя спробы пабудзіць яго. Пакідаю мужа ў спакоі, а сама апранаюся і асцярожна выходжу са спальні.

З калідора бачу, як Вадзім і Віталь па-брацку спяць на канапе ў сталовай. Ціхенька вяртаюся ў нашу спальню. На двары яшчэ нікога не відаць. Адны сабакі. Яны блукаюць разам, старанна прынюхваючыся да зямлі. Гледзячы на гэтых худых істот, не скажаш, што гаспадары іх добра кормяць...

Я ўдыхаю з форткі кісларод, радуюся свежасці і спакою на вуліцы, цешуся, што мне так добра... пасля ўчарашняй выпіўкі.

Прысеўшы на край нашага мяккага ложка, пішу гэтыя радкі. Першыя ўчарашнія ўражанні выдатна захаваліся ў памяці і лёгка кладуцца на паперу. І гэта прыемна. У рэшце рэшт, падарожжа ў аўтобусе прайшло добра, і не было яно такім стамляльным, як нам думалася спачатку. А спатканне з гэтай беларускай сям’ёй поўнасцю апраўдала нашы спадзяванні! Гасціннасць, дружба, дабрадушнасць гэтых людзей не ведаюць межаў, і гэта саграве сэрца. Цяпер мне ўжо не здаецца, што нас занесла ў мясціны, забытыя Богам і людзьмі. Наадварот! Я адчуваю сябе тут як дома. Ніколі не прыйшла б мне ў галаву думка, што тут, у гэтай

краіне, якая ўваходзіць у склад СНД і пра якую ў нас амаль нічога не ведаюць, мне будзе так вольна і добра. Ніякіх праблем і з мовай. Неверагодна! Я вельмі задаволена! І мужам – таксама! Рык – куды большы рэаліст, чым я, і ён не вельмі хацеў ехаць. Рык, безумоўна, не лічыў і не лічыць сябе суровым заходнім дабрадзеем, які, бачыце, прэцца сюды, каб на свае вочы ўбачыць людскую галечу. І апошні яго аргумент супраць паездкі, змагацца з якім мне было асабліва цяжка, заключаўся ў наступным: дзеля таго, каб нас прыстойна прыняць (па рускаму звычаю), сям'я Вадзіма будзе вымушана залезці ў даўгі...

А палове дзевятай Рык расплюшчвае вочы. Ён у выдатнай форме: цудоўна адпачыў, галава не баліць. Праўда, перспектыва чарговай сустрэчы з туалетам і ваннай уносіць карэктывы ў яго бясхмарны ранішні настрой. Захапіўшы з сабой бутэлечку "Спа", Рык неахвотна пляцецца ў ванную...

Іду на кухню. Там Ліда пячэ тоненькія налеснікі ў вялікай невысокай патэльні, напоўненай тлушчам. Аня намазвае налеснік смятанай з варэннем і старанна закручвае яго ў трубачку. Іншыя налеснікі ўжо аздоблены варэннем і складзены ў квадрацікі. Ад гэтага відовішча я глытаю сліну...

Аднак мяне чакае вялікае расчараванне: для пачатку нам падаюць талеркі з цёплым супам і... чаркі гарэлкі. Мы супраціўляемся, але ўсё дарэмна. Бяру чарку і, як закаранелы п'янюга, выпіваю, не міргнуўшы вокам. Потым каштуем курыны суп. Толькі ў нашых талерках – кавалачкі курынага мяса. Перад астатнімі – талеркі з вадзяністай масай, дзе плаваюць кубікі бульбы. Стараюся справіцца з курацінай, але зрабіць гэта прыгожа не ўдаецца: жуеш-жуеш, а праглынуць не можаш. Нарэшце!.. Адкусваю кавалачак хлеба. Суп нясмачны, хоць там і варылася курыца. Ён пахне – а хіба магло быць інакш? – вадою з крана. Па твары Рыка заўважаю, што яго страўнік не прыме гэтую ежу. Ён жуе адзін хлеб і зрэдку прамочвае рот глытком гарэлкі. У пакоі бракуе кіслароду: нас тут васьмёра, плошча маленькая. Учора гасцявала столькі людзей. Пілі, шмат курылі, і ўсю ноч тут спалі чатыры чалавекі.

Вось Рык нешта мармыча пра цыгарэты і выходзіць на двор. Як маленькі сабачка, я бягу следам. Дыхаем, надыхацца не можам чыстым, здаровым паветрам. І гэта дапамагае. Пануе

ўсяленская ашаламляльная цішыня. На шчоках у Рыка памалу з'яўляецца румянец... На фоне шэрага, невясёлага, нібы месяцавага пейзажу, у забытым беларускім саўгасе, мы ўдвух радуемся цішыні і чыстаму паветру. Ёсць у гэтым нешта нерэальнае: касмічная цішыня... свежае паветра... І ты забываешся, што зямля, на якой стаіш, моцна забруджана радыеактыўнымі элементамі. І раптам, упершыню ў жыцці, я пачынаю разумець і нават адчуваць, што радыеактыўнасць не мае ні смаку, ні паху, ні колеру і што нікому не дадзена зведаць усю яе падступнасць і ўсё яе вераломства...

Мне холадна, і я вяртаюся ў дом.

Тым часам замест талерак для супу на стале з'явіліся святочныя стравы. Рука сама цягнецца да налеснікаў. Спачатку бяру трубачку са смятанай, а затым – квадрацік з варэннем. Налеснікі трохі астылі, але яны сакаўныя і смачныя. Апетыт мой задаволены, і мне ўжо нецікава глядзець на гэтыя талеркі са стравамі. Свежыя толькі налеснікі, усё астатняе – учарашнія стравы, якія ўмелай рукой гаспадыні па-новаму раскладзены па талерках. Для таго, хто не ведае, усё будзе здавацца абсалютна свежым.

Алег, Вадзімаў бацька, падсаджваецца да мяне. Шчыра кажучы, мне здалося, што сёння ён не ў форме. Не выспаўся? Перабраў учора? У думках я вяртаюся да першых уражанняў пра гэтага чалавека. У мазырскім гатэлі ён убачыўся мне як чалавек добры, прыемны, крыху сарамлівы, дасціпны, схільны, як і яго малодшы сын, да жарту і гумару. Цяпер жа перада мной быў зусім іншы Алег: абяскрылены, прыгнечаны, загнаны і пасіўны. Ён бярэ паперу, ручку і жаласным тонам расказвае, што вымушаны шмат працаваць за мізэрную зарплату, а дакладней – зарплату, за якую нічога нельга купіць, бо ўсё такое дарагое...

Вельмі марудна, няўпэўнена, крыва ён выводзіць на паперы: 120 000. Гэта яго зарплата за месяц. Курса рубля я не ведаю і прашу перавесці гэтую суму ў долары. Відаць, для яго гэта – не такая простая задача. Ён цяжка ўздыхае і піша: 120 000 = 10 долараў. Калісьці Вадзім блытана тлумачыў нам, што паміж рускім і беларускім рублямі ёсць розніца. Кошт рускага рубля ў дзесяць разоў большы за кошт беларускага. А можа наадварот? Вечна ў іх усё ўпіраецца ў высвятленне суадносін гэтых рублёў. Ці яны тут самі канчаткова заблыталіся і не могуць ніяк разабрацца, ці, можа, тут усё так проста, што яны гавораць пра гэта аўтаматычна?!

Няма ў мяне сіл, каб разабрацца ў такой справе, і я стараюся не надаваць гэтаму асаблівага значэння. Але каб зняць свае сумненні, я пытаюся ў Алега, ці не складае яго зарплата 10 долараў. Так яно і ёсць! Па цяперашнім курсе (красавік 1995 г.) гэта азначае, што Алегаў заробак – каля 300 бельгійскіх франкаў. Мы разгублена глядзім адно на аднаго. Рык просіць мяне ўдакладніць цану буханкі хлеба. Алегу, як і Вадзіму, відаць, надакучылі нашы пытанні. Ён зноў цяжка ўздыхае і старанна піша: 2 150 рублёў. Я паўтараю сваё пытанне, а ў адказ ён рашуча махае галавой і паўтарае: буханка чорнага хлеба каштуе 2 150 рублёў, а белага – 3 000 рублёў (піша Алег, ужо не чакаючы майго чарговага пытання). Нескладаны хуткі падлік сведчыць, што яны могуць купіць пяцьдзесят буханак чорнага хлеба на ўсю зарплату за месяц. І думаць не хочацца, колькі хлеба можа купіць сабе бельгіец на сваю зарплату...

Нашу гутарку перапыняе чарговы госць. На выгляд яму гадоў трыццаць. Ён пытае ў Алега, ці не маглі б мы, бельгійцы, зайсці да яго ў госці. Аказваецца, да яго таксама прыехалі бельгійцы, аднак кантакты з імі не ладзяцца. Ён заўважае, што я ўсё разумею, і цяпер звяртаецца да мяне.

"Я – Пеця, сусед. Мы з жонкай былі б вельмі рады, калі б вы завіталі да нас. Жанчына, якая ў нас у гасцях, за кожным словам лезе ў слоўнік. А ты добра гаворыш па-руску і здорава нам дапаможаш". Я адказваю, што не такая ў мяне добрая руская мова, але ж, вядома, мы ахвотна зойдзем да іх. Я запытальна паглядаю на Алега. Да нас далучаецца Ніна і паведамляе, што мы запрошаны на абед да дзядзькі Алега і цёткі Ніны і таму ад Пеці абавязкова павінны вярнуцца ў 13 гадзін. Пеця – на сёмым небе і адразу ж вядзе нас да сябе дамоў. Разам з намі ідзе і Алег.

Пеця жыве праз два дамы, разам з жонкай Таняй і дзесяцігадовай дачкой... Дзіўна, але ж Вадзім заўсёды падкрэсліваў, што з яго вёскі ніхто з дзяцей не прыязджаў у Бельгію на адпачынак. Ён што, сапраўды нічога не ведаў пра іншых дзяцей або лічыў за лепшае паказаць: ён адзіны з Вялікага Бора, каго ўключылі ў беларускую групу?

На двары гуляюць дзеці. Пазнаю дзяўчынку з нашага аўтобуса. Гэта Саарці. У гасцінай нас горача вітаюць Пецева жонка Таня і бабуля. І тут накрыты раскошны святочны стол. Жэні, мама Саарці, і дзядуля Нар таксама радыя нас бачыць.

Пакуль мы абменьваемся ўражаннямі, на стале з'яўляюцца дзве талеркі і дзве чаркі гарэлкі. Слова бярэ Пецця. Гучыць тост у наш гонар. А мы ў адказ: "На здоровье, Петя! На здоровье, Таня! На здоровье, все!" Чокаемся і п'ём да дна, нібыта займаемся гэтай справай штодня. З асалодай гутарым на роднай мове пра начны адпачынак і спакой, райскія ложкі, цёплую прыязнасць і гасціннасць.

Пеця з Таняй былі вельмі задаволены, што Жэні прывезла ім гародніны і насення. Нар тлумачыць нам, што тут мала што можа вырасці. Тытунь, праўда, расце добра. Учора яго пачаставалі самакруткай з тутэйшага тытуню. Нар зрабіў пару зацяжак – і ў яго пацямнела ў вачах, ён не ўтрымаўся на нагах і паваліўся прама на канапу. Ачуняў бедалага толькі праз гадзіну. Ці гэта зрабілася ад тытуню, ці ад гарэлкі, ці ад таго і другога, разам са зморанасцю ад доўгай дарогі, – Нар не ведае. Сёння, праўда, выглядае ён зусім няблага.

Гэтая паездка для Нара – падарунак ягоных дзяцей. Яму шэсцьдзесят гадоў, а ён ніколі не выязджаў за межы Бельгіі. І ён пажадаў прыехаць у Беларусь разам з дачкой і ўнучкай. Ён спадзяваўся ўбачыць тут прыкладна такія ж умовы жыцця, якія былі ў Бельгіі ў час вайны, калі Нар быў хлапчуком. Аднак... "У нас у вайну так цяжка не было", – кажа Нар.

Таня перапыняе нашу гутарку і просіць што-небудзь з'есці. Не магу ўтрымацца, каб не паспытаць печыва ў форме арэхаў і ражкоў. Пеця з гордасцю гаворыць, што ўсе гэтыя прысмакі прыгатавала Таня, яго жонка. А тая радуецца: "Ведаеце, купіць "снікерсаў" не можам, дык гатуем самі". Вельмі смачна! Бабуля, якая сядзіць ля акна, вырашыла, што маўчыць яна занадта доўга, і пачынае гаварыць. Двойчы прашу яе не сакатаць так хутка, ды дзе там! Праз мінуту-другую ўсё пачынаецца спачатку. Яна лапоча, што нарадавацца не можа, што мы, бельгійцы, прыехалі да іх. Бабуля шкадуе, што яе мужа тут няма, ён застаўся дома. Яму баліць сэрца, ёсць праблемы з артэрыяльным ціскам, з нагамі. Ва ўсякім разе, гэта тое, што я зразумела. Крыху пазней высветлілася, што абедзве нагі яму ампутавалі, і цяпер старому ніколі не выйсці з дому... Прыгадвае бабуля Другую сусветную вайну, немцаў, якія стаялі тут у вёсцы. Многія жанчыны і дзеці былі расстраляны, а мужчын арыштоўвалі і вывозілі ў Нямеччыну. Вёску ж спалілі.

Бабуля так хутка гаворыць, што я ўвесь час сціскаюся ў кулак, каб усё зразумець. Цікавімся: якія перамены адбыліся ў вёсцы пасля катастрофы ў Чарнобылі? Бабуля напагатове: "Раней людзі лепшыя былі, весялейшыя. А цяпер рэдка хто ўсміхаецца. Усе змірыліся, і кожны жыве сваім жыццём. Амаль ува ўсіх дзяцей павялічана шчытападобная залоза, і іх трэба вазіць да доктара. Доўга не жывуць і дарослыя, многія хварэюць. Найчасцей баліць пячонка..."

Бабуля замаўкае.

І ў пакоі раптам становіцца ціха-ціха...

Уваходзіць Саарці. Я пытаю, ці спадабаліся ёй тутэйшыя мясціны. "Фантастыка! – чую ў адказ. – Мне б хацелася застацца тут назаўсёды! Гуляй сабе ды гуляй на двары!"

Адсутнасць камфорту, смярдзючая вада, убогі знешні выгляд вёскі – усё гэта не хвалюе малую Саарці...

Праз дзень яна будзе гаварыць зусім інакш: "Ніхто ў нашым класе не паверыць у тое, што я ўбачыла тут. Людзі такія бедныя! І нават у сваёй беднасці яны гатовы ўсім з намі падзяліцца! Ты паглядзі!" – Саарці паказвае набор "Канструктар".

***

З'яўляецца Вадзім: час выпраўляцца ў госці да цёткі Ніны. Шумна развітваемся, а я тым часам неўпрыкмет прыхопліваю з сабой некалькі хатніх "снікерсаў".

Заходзім да Ліды, каб узяць фотаапарат. Усе збіраюцца ў госці. Ліда ўхутваецца так, быццам едзе ў Сібір. Старанна абкручвае шыю шалем, апранае доўгае зімовае паліто. На галаве – цёплая хустка, на нагах – высокія боцікі.

На вуліцы нас даганяе падвода. Такое трэба сфатаграфаваць! Абавязкова! У двух кіроўцаў пытаюся дазволу. У адказ чую: "Да!" Малодшы кіроўца прытрымлівае каня, а старэйшы хаваецца за возам. Упрошваем яго сфатаграфавацца на памяць.

І зноў на шырокіх прамых вуліцах пануюць вясновыя цішыня і спакой. Вакол – ніводнай душы. Толькі сабакі носяцца на волі.

Ліда паказвае на варты жалю будынак, на фасадзе якога чытаю "Бальніца". Трохі далей заўважаем напаўразбураную пляцоўку для дзіцячых гульняў. Большасць абсталявання там даўно

пакрылася ржой. “Збоку ад пляцоўкі – дзіцячы садок, а побач – школа”, – тлумачыць Ліда. Пераходзім вуліцу. Аня паказвае “дыскатэку”, якая цяпер ужо засталася ззаду.

Трапляем у квартал са шматкватэрнымі дамамі. Звычайна гэта двухпавярховыя будынкі: у кожным – па чатыры кватэры. У такой вось кватэры і жывуць дзядзька Алег з Нінай. Заходзім у адзін з будынкаў. У калідоры будаўнічыя работы яшчэ не завершаны. І падлога, і сцены, і лесвіца – бетонныя. Падымаемся на другі паверх. Рухаемся навобмацак, бо ніводная лямпачка не гарыць. Праз маленькую прыхожую ўваходзім у гасцінную. Тут нас ужо чакае бабуля – Нініна маці. На ёй – прыгожая каляровая хустка.

У пакоі стаіць кніжная шафа, такая ж, як і ў Вадзіма. За шклом бачу крышталёвыя вазы, фужэры, салатніцы... Гэта – сведчанне заможнасці іх уладальнікаў.

Алег – настаўнік матэматыкі. Ён зарабляе ў тры разы больш за Вадзімавага бацьку, які працуе трактарыстам у саўгасе. Жонка дзядзькі Алега, Ніна, працуе ў мясцовым доме бытавых паслуг і зарабляе таксама больш за Ліду – касірку мясцовага дзяржаўнага магазіна. Стол стаіць у кутку пакоя, перад банкеткай у форме лацінскай літары L. На банкетцы – падушкі. Горды, як паўлін, дзядзька Алег вітае нас і запрашае за стол.

Пакуль цётка Ніна завіхаецца на кухні, Ліда пытаецца: колькі паверхаў у нашым доме? Значыць, Вадзім нічога ёй не расказаў пра наша жытло. А мы ж далі яму фатаграфіі кухні, сталовай, усіх іншых пакояў, у тым ліку і таго, дзе ён правёў цэлы месяц. Мы нават знялі на фотастужку наш сад і фасадную частку ўсяго дома, бо меркавалі, што бацькам Вадзіма будзе цікава паглядзець, дзе жыў іх сын... Няўжо ён так і не паказаў гэтыя фатаграфіі?! А можа, Ліда задала гэтае пытанне, каб толькі не маўчаць, падтрымаць гаворку... Прашу аловак і паперу, каб накідаць план нашага дома. Цэлая бяда – растлумачыць ёй дзевяць узроўняў напаўадкрытай канструкцыі нашага жытла.

Калі з’яўляецца Ніна, усе ўжо занялі свае месцы за сталом, і ўсё ідзе, як паводле сцэнарыя: багаты раскошны стол, талерачкі, прыборы (на гэты раз з нажамі), чаркі для гарэлкі, шклянкі для фруктовага соку. А ў цэнтры – калейдаскоп страў. Ніна напаўняе чаркі, і прапануецца тост за дружбу паміж Беларуссю і Бельгіяй.

Неўзабаве заходзяць новыя госці. Наш “шафёр” Вася, яго

жонка Оля і іх сын, аказваецца, таксама запрошаны сюды. Без галаўнога ўбору Вася выглядае яшчэ лепш: чорная як смоль барада, такія ж вусы, чырвоныя шчокі, магутны склад цела, хітраватыя вочы – ну чым не казак-маладзец! Оля, яго жонка, сарамліва і адначасова ўважліва пазірае на нас, трымаючы на руках маленькага сына.

Оля пытаецца, колькі ў нас дзяцей. Ліда апярэджвае мяне і кажа: "Трое". Я не магу стрымацца і папраўляю: "Не, чацвёра. У нас было чацвёра дзяцей, але самы малодшы хлопчык памёр сем гадоў таму назад. Тады яму было пяць годзікаў". Дастаю і паказваю фатаграфіі нашага нябожчыка-сына. Ад імя ўсіх прысутных Вася просіць прабачэння, кажа, што ніхто не ведаў пра нашу бяду, перажыць якую нам было цяжка...

Яшчэ раз пераконваемся, што Вадзім нічога не сказаў і пра гэта... А ён жа ўсё ведаў!

Ліда прызнаецца, што і ў іх памерла першае дзіця. "Пасля гэтай смерці ў нас хутка з'явілася другое дзіцятка, а потым Бог даў яшчэ трох". Усе ўсміхаюцца. Лёд растаў. Языкі паступова развязваюцца, а гарэлка льецца і льецца...

Ніна знікае на кухні і хутка вяртаецца з міскамі, з якіх узнімаецца пара. Алег з гонарам абвяшчае, што Ніна прыгатавала пельмені. Яны падобны на нашы равіёлі: невялікія кубікі белага цеста, напоўненыя мясным фаршам і шчодра палітыя маслам. Гэта тыпова сібірская страва, якую трэба есці гарачую. Рык не ацаніў пельменяў, але стараецца, каб гэтага ніхто не заўважыў. А мне пельмені прыйшліся да смаку. Але шмат іх не з'ясі, бо цяжка для страўніка. Я лепей пакаштую грыбной салаты. Рык закусвае смачнымі кавалачкамі смажанага мяса.

Ніна заўважае, што сібірскія пельмені перасталі нас цікавіць. Яна адносіць міскі на кухню і вяртаецца з двума кубачкамі кавы для ганаровых гасцей.Рык з апетытам выпівае каву. Па вачах бачу, што яму вельмі хацелася кавы. Сёння ён ужо шмат разоў адмаўляўся ад гарэлкі, а гэта азначае, што не ўсё з ім у парадку. Ён пабляднеў. Вочы асалавелі...

І тут дзядзька Алег устае і адводзіць мяне ад стала. Дастае з кардоннай каробкі маленькі фарфоравы кубачак са сподачкам, тэатральным жэстам падымае кубачак угору і сваім моцным голасам абвяшчае, што ён дорыць нам гэты сервіз: "Кожны раз, калі вы ў

Бельгіі будзеце піць каву з гэтага кубачка, вы, напэўна, успомніце і пра нас.”

Мы ясна даём зразумець, што зусім неабавязкова рабіць такія падарункі, што мы і без сервіза будзем яго памятаць, аднак Алег не дае нам дагаварыць і ўпрыдачу кладзе на каробку яшчэ і абрус: “Для нашых сяброў з Бельгіі!”

Рыку стала яшчэ горш. Цяпер я не сумняваюся, што ён захварэў. Тут і стомленасць, тут і гарэлка. Пытаюся: як ён сябе адчувае? Рык глядзіць на мяне вытарашчанымі вачыма і, ледзьве варочаючы языком, мармыча нешта накшталт “туалет”. Ён устае і, жадаючы трапіць у туалет, пераходзіць калідор. Акурат каля ваннай яго пачынае ванітаваць.

Устаю і я, хачу дапамагчы мужу, аднак чыесьці дзве моцныя рукі стрымліваюць мяне і ўсаджваюць на банкетку. Нікога не здзіўляе, што Рыку блага. Вельмі спакойна мне гавораць, што ўсё гэта нармальна і хутка пройдзе. “Гэта мужчынская справа”, – кажа Алег і ідзе да майго хворага Рыка.

Застаюся адна, жанчыны спачувальна супакойваюць... Ніна прызнаецца, што яе Алег цэлую ноч праваляўся хворы, а раніцай ледзьве падняўся. Штосьці падобнае расказвае пра свайго мужа і Ліда. Цяпер я прыкмячаю, што сярод гасцей няма Алега Зайца: “Пайшоў праспацца”, – тлумачыць Ліда.

Праходзіць нямала часу, а я ўсё не асмельваюся паглядзець, як там Рык. Парывалася да яго не раз, але ўсе ў адзін голас угаворваюць мяне пачакаць: Рык павінен адпачыць. Чакаю...

Ля кухонных дзвярэй – яшчэ адны, зачыненыя. Да іх і прыкавана мая ўвага: напэўна, там мой Рык. Асцярожненька заходжу. Гэта досыць прасторны пакой. Дзяніс і Вадзім уладкаваліся на дыване перад тэлевізарам. Захоплены відэагульнямі. На другім баку пакоя – канапа. Там у паліто і ў ботах адсыпаецца Вадзімаў бацька... Ціхенька знікаю. Значыць, недзе павінен быць яшчэ адзін пакой. І сапраўды, побач з гасцінай – дзверы. На дыбачках заходжу. Рык мой тут. Спіць як пшаніцу прадаўшы. Трасу, трасу яго, а пабудзіць не магу. Яму цяпер нашмат лягчэй. Але стаяць на нагах ён пакуль не можа. Заходзіць Ніна і забірае мяне з сабой. Пройдзе больш чым паўгадзіны, калі Рык з’явіцца ў гасцінай, а бацьку Вадзіма ў гэты вечар больш я не бачыла.

***

Разам з Лідай і Вадзімам ідзём па пустых цёмных вуліцах Вялікага Бора. Аднекуль даносіцца руская рок-музыка. Мусіць, з дыскатэкі. Над намі – цудоўнае неба. Прытуляюся да Рыка. Не таму, што мне холадна: не хочацца, каб астыла штосьці ў душы.

Прыходзім дамоў, распранаемся, сядаем усе разам за стол. У мяне такое ўражанне, што Ліда задаволена, што мы не заначавалі ў гасцях і вярнуліся. Ужо амаль поўнач. Усе стаміліся. Стаміліся ад свята. А тут у пакоі так спакойна і прыемна!

Перад сном – яшчэ некалькі прыемных імгненняў. Разглядваем старую Вадзімаву гітару. Налюбавацца не можам сурвэткамі, якія звязалі кручком Наташа, Аня і... Вадзім(!). Не адарваць вачэй ад падарункаў, якія звязала Ліда Ані на вяселле. Мне падрабязна тлумачаць, навошта служыць тая ці іншая рэч. З маёй рускай мовай цяжка ва ўсім разабрацца, але стараюся. Вяртаюцца з дыскатэкі Наташа і Аня. Час ісці спаць. Заўтра адпраўляемся дамоў, а, здаецца, толькі што сюды прыехалі. У адзінаццаць вечара нам трэба быць у Мазыры. І на заўтра ж запланавана праграма: паглядзім на самы вялікі трактар у саўгасе, сходзім у школу, з'ездзім у Хойнікі, наведаем птушкаферму.

Імгненна засынаем пад пуховай коўдрай.

Прачынаемся а палове дзевятай ад страшэннага грукату. Хуценька апранаемся і выходзім на двор.

Божа ўсемагутны! Яны прыгналі Алегаў трактар прама пад ганак. Гэта сапраўдны мастадонт, як казаў Вадзім. Паціскаем руку трактарысту і фатаграфуемся. З д'ябальскім шумам машына ад'язджае. Мы глядзім услед, пакуль трактар зусім не знікае з вачэй. Крыху пазней я пашкадую, што не адважылася праехацца на гэтай махіне.

Уладкоўваемся за сталом. Ліда частуе нас супам. Алег налівае ў чаркі гарэлку. Рык пасля ўчарашняга рашуча адмаўляецца піць. Алег гэта не зусім разумее і пытаецца, што мы п'ём на святы ў сябе дома: бо якое ж гэта свята без алкаголю? Тут пачынаюць піць з самай раніцы... Рык не вельмі хоча падтрымліваць гэтую тэму і кажа, што бельгійцы не любяць гарэлку, а аддаюць перавагу піву. Праз тры хвіліны заходзіць Віталь з бутэлькамі піва і мінеральнай вады...

Пакуль мы снедаем, маленькі пакой зноў напаўняецца людзьмі.

Лідзе нездаровіцца. Вочы слязяцца, з носу цячэ. Ёй здаецца, што ў яе грып. А я мяркую, што янаператамілася.

Перабіраем у памяці падзеі ўчарашняга дня, а мне ўжо хочацца на вуліцу, у школу, у Хойнікі, у Партызанскую.

У адзінаццаць гадзін я не вытрымліваю: "А ў школе нам калі трэба быць?" – "А якая розніца? Калі вы ўжо гатовы, то і пойдзем", – гучыць лаканічны адказ.

Божухна! Яны ж гаспадары, ім і лейцы ў рукі. А яны сабе чакаюць, каб мы бралі ініцыятыву на сябе! Непаразуменне? Мне нават падумалася, што ніякай школы мы не ўбачылі б, калі б не маё пытанне.

***

У школьным калідоры шмат вешалак для вопраткі. Абстаноўка тут нічым не адрозніваецца ад нашых школ. Сэрца маё замірае. Такое адчуванне, што зараз буду даваць свой першы ўрок. Аня ў нас за гіда. Пачынаем са спартыўнай залы. Падыходзім да выкладчыка фізкультуры і просім дазволіць паглядзець залу і сфатаграфавацца. Як і ў нашых спартыўных залах, тут пахне потам. Розніца толькі ў тым, што дзеці не пераапрануты ў спартыўную вопратку. З захапленнем гуляюць у валейбол у сваіх доўгіх зімовых штанах і тоўстых світэрах.

У "нямецкім класе" нікога няма. Час ад часу ў прычыненыя дзверы заглядваюць галоўкі цікаўных дзяцей. На сценах вісяць розныя дыдактычныя матэрыялы. Па праўдзе сказаць, яны састарэлі.

Разам з дзецьмі заходзім у іншы клас. Не так цяжка здагадацца, які прадмет тут выкладаюць, калі бачыш на сцяне ў натуральную велічыню жывапісныя выявы трох выдатных вучоных: Віеты, Дэкарта і Эўкліда. Крыху ніжэй прыводзяцца самыя вядомыя формулы гэтых знакамітых асоб. Я з задавальненнем любуюся гэтым сапраўдным мастацкім творам.

Наступны прыпынак робім у класе гісторыі. Тут таксама арыгінальна размешчаны дапаможныя матэрыялы. Ля класнай дошкі – плакаты з апісаннем розных гістарычных перыядаў. Але самае цікавае намалявана на задняй сцяне: гэта драўляная хата з прыгожымі кветкамі перад акном. Ля дзвярэй – белая драўляная лаўка. Вам толькі здаецца, што дзверы намаляваны. Гэта сапраўдныя

дзверы! Вадзім адчыняе – і мы трапляем у музей! Тут гліняныя кубкі, збанкі, рамесніцкія прылады. Стаіць нават ткацкі станок. Глядзім на ўсё гэта – і ажывае сама Гісторыя. У Бельгіі мы ходзім з дзецьмі ў музей, а тут музей непасрэдна ў класе...

Цяпер мы каля школьнай кухні, дзе гатуюць абед для вучняў. Зайсці на кухню нам забараняюць дзве суровыя, насупленыя дамы. "Нельга!" – "Шкада!"

Уваходзім у прасторны хол, на сцяне якога вісіць вялікі шчыт з вынікамі паспяховасці школьнікаў. У ліку выдатнікаў – і наш Вадзім. Бачым яго фатаграфію.

У гэтым холе таксама шмат дыдактычных матэрыялаў. Рык робіць маленькае адкрыццё: пад карцінай, дзе намаляваны зайчык, напісана: "Заяц". А гэта ж прозвішча нашага Вадзіма! Цяпер мы ведаем, што азначае Вадзімава прозвішча.

Нас вядуць у падрыхтоўчы клас. Выдатнае абсталяванне, цудоўны жывапіс на сценах. Дзетак тут цяпер няма, але няцяжка ўявіць сабе, як добра пачуваюць яны сябе ў такім класе! Тут ёсць нават складныя ложкі. Такі клас ні ў чым не саступіць бельгійскім класам!

У класе хіміі нас дружна вітаюць вучні. Прыгожа апранутая, у меру падмаляваная маладзенькая настаўніца. Над дошкай – знакамітая табліца Мендзялеева. Абсталяванне ў гэтым класе вельмі сучаснае. Пры кожнай парце ўстаноўлена ракавіна, каб дзеці маглі самі рабіць доследы.

У старшакласнікаў мы пабывалі на ўроку рускай мовы. Гэта Вадзімаў клас. Ён зайшоў у клас, трымаючы рукі ў кішэнях, дэманстратыўна жуючы жвачку, з хітрынкай пазіраючы на сваіх аднакласнікаў: сёння ён вольны ад урокаў...

Нарэшце, мы ў класе дзядзькі Алега! Ён акурат дае ўрок матэматыкі ў кабінеце фізікі. Алег, як сапраўдны выкладчык, стаіць за сваім сталом. Час ад часу ён тлумачыць, як спрасціць ураўненне.

З дыдактычных матэрыялаў звяртае на сябе ўвагу хіба што адзін вальтметр. Рык просіць Алега паказаць яму лабараторнае абсталяванне. Чаго там толькі няма! Рык моцна ўражаны. Можа, гэта і не самыя сучасныя матэрыялы, але ўсё ж... Скажу так: нашы многія школы задавальняюцца куды меншым наборам лабараторнага абсталявання, чым гэтая школа ў далёкай Беларусі.

На маё пытанне, чаму ў класе няма жывапісу, Алег бярэ ў рукі гравюру, дзе на ўсіх парах імчыць паравоз, і з усмешкай кажа: "Прыязджайце ў наступным годзе, і вы ўбачыце гэта на карціне!" Мы верым.

Нас запрашаюць яшчэ ў настаўніцкую на кубачак кавы ці чаю. Разам з выкладчыкамі і дырэктарам абмяркоўваем нашу экскурсію. Школа новая. Беларускі ўрад не пашкадаваў бюджэтных сродкаў на адукацыю. Адсюль і грошы на дыдактычны матэрыял. Заробкі выкладчыкаў рэзка ўзраслі. Значыць, Лукашэнка ўсё ж такі добры прэзідэнт. Урад, які робіць інвестыцыі ў адукацыю, укладвае капітал у сваю будучыню. У Фландрыі мы цяпер назіраем якраз адваротнае. Кожны чарговы ўрад толькі тым і заняты, каб эканоміць на адукацыі...

На развітанне нам уручаюць падарунак – дзіцячы руска-беларускі слоўнік. Цікавае выданне, добрая вокладка, прыгожыя ілюстрацыі. Праўда, трошкі пазней дзядзька Алег скажа нам, што гэты слоўнік састарэў: у ім маса беларускіх слоў, якіх нават яго бацькі ўжо не ўжываюць.

У чым розніца паміж рускай і беларускай мовамі? –Пытанне, на якое даць ясны адказ я не магу. Хтосьці ў Бельгіі мне даказваў, што паміж рускай і беларускай мовамі такая ж розніца, як паміж нямецкай і галандскай. З іншых крыніц я даведалася, што беларуская мова – гэта ўсяго толькі дыялект рускай мовы. І ўсё ж я схільная лічыць, што беларуская мова – самастойная, са сваім алфавітам, дзе, дарэчы, менш літар, чым у рускай мове. Беларускае "і" такое ж, як і наша. Я дакладна ведаю, што беларускі правапіс засноўваецца пераважна на фанетычным прынцыпе.

Як бы там ні было, дзядзька Алег пераконвае, што мне не трэба глыбока ведаць беларускую мову, якая, па яго словах, яшчэ больш складаная, чым руская. Больш таго, дзядзька Алег, як і беларускі прэзідэнт, жадае ўвесці ў Беларусі рускую мову. У час нашай экскурсіі па школе я прасіла прабачэння ва ўсіх выкладчыкаў за тое, што гавару па-руску, а не па-беларуску. Знайшлася толькі адна выкладчыца, якая на развітанне з гонарам папраўіла мяне: "Па-беларуску кажуць не "До свидания!", а "Да пабачэння!" Няўжо ў Беларусі няма беларусаў, якія з такім жа гонарам ставяцца да сваёй роднай мовы?.. І дзе апынецца той народ, што адмаўляецца ад роднай мовы на карысць чужой?

***

Накіроўваемся ў адзіны прадуктовы магазін у Вялікім Боры. Заходзім у вялізную пуставатую залу і адчуваем знаёмы ўжо тухлаваты пах. Вочы павінны прывыкнуць да паўзмроку. Смурод, невыразны шэры колер сцен і падлогі, старыя пажаваныя шторы, прылаўкі і вітрыны, якія даўно аджылі свой век, – усё гэта выклікае якія хочаце пачуцці, акрамя жадання што-небудзь купіць. Бляшанкі кансерваў, складзеныя ў слупкі, стэрылізаваныя прадукты ў шкляных слоіках, варэнне, бутэлькі з віном ці лікёрам, прадукты ў празрыстых пластыкавых мяшках, тлустая каўбаса, кавалак масла, загорнуты ў брудную паперу... Глядзім на ўсё гэта – і ніякага апетыту. А між тым гэта адзіны магазін на ўсіх жыхароў Вялікага Бора (на амаль чатыры тысячы душ). Адзін кілаграм масла каштуе трыццаць тысяч рублёў. Я гэта добра запомніла. А трыццаць тысяч – гэта дваццаць пяць працэнтаў, чвэрць зарплаты нашага Алега!

Мне становіцца не па сабе. Хачу ведаць цэны на ўсё. Не прапускаю ніводнай этыкеткі, ніводнага цэнніка... Усё, літаральна ўсё тут жудасна дарагое. Асабліва калі ведаеш іх сярэднюю зарплату. Я не веру сваім вачам і ўсюды цягну за сабою Рыка: “Ты паглядзі, паглядзі на цану!” Астатнія фламандцы, якія зайшлі ў магазін, рэагуюць такім жа чынам.

Нас сустракаюць дзве дамы. Яны тут усім і “кіруюць”. На іх цёплыя зімовыя паліто, доўгія белыя фартухі. У адной дамы на галаве – тоўстая шарсцяная хустка, завязаная вузлом на шыі... Непрыступнасць і панурасць адразу ж знікаюць з іх твараў, калі мы пачынаем знаёміцца. Яны ахвотна пазіруюць перад фотаапаратам, весела смяюцца, паказваючы залатыя ўстаўныя зубы. ..

Цяпер абедзве прадаўшчыцы – за касай. Зрэшты, каса іх – гэта ўсяго толькі дапатопныя лічыльнікі – “счёты”, як яны кажуць. Маці Вадзіма таксама працуе ў дзяржаўным магазіне. Калі летась мы запыталіся ў яго, якому падарунку была б рада яго мама, Вадзім, ні секунды не думаючы, сказаў: “Калькулятар”. Прычына: лічыльнікі зусім не прыстасаваны да гэтых бясконцых нулёў. Пры іх інфляцыі ў магазінах набягаюць сумы на сотні тысяч, калі не на мільёны. Лічыльнікі нязручныя, і тады падлічваюць у памяці. Мы купілі Лідзе калькулятар на дванаццаць лічбаў, які працуе ад звычайнага сонечнага святла.

Развітваемся – і хутчэй на чыстае паветра.

Магазін стаіць недалёка ад пасялковай плошчы, вакол якой – будынкі адміністрацыйнай і сацыяльна-культурнай сферы: сталовая, дыскатэка (а гэта тут не толькі танцпляцоўка, але і кіназала), бібліятэка, пошта і "дом бытавых паслуг".

Крочым далей па вуліцы Новай. Аня адыходзіць убок і робіць знак ісці следам. За кустамі бачым адкрытую пляцоўку і помнік ахвярам Другой сусветнай вайны. Ля невялікага дрэўца – штучныя кветкі: велікаборцы не забылі сваіх пакутнікаў. У вушах зноў гучаць словы Пецевай і Танінай бабулі: сорак чалавек жывымі былі спалены ў Вялікім Боры... Калі я правільна зразумела, гэты сціплы помнік у форме трохкутніка быў узведзены, як даніна памяці, нявінным ахвярам.

Крыху воддаль узвышаецца другі манумент – у гонар салдатаднавяскоўцаў, якія загінулі на вайне. Абодва помнікі маюць невялікую агароджу, як і ўсе тутэйшыя магілы.

А яшчэ далей віднеюцца руіны былой пачатковай школы. Шэсць гадоў таму назад там вяліся заняткі, звінелі дзіцячыя галасы, а зараз на паўразбураным падмурку – адны толькі гнілыя падваліны...

Але экскурсія наша не закончана. Ідзём у другі дзяржаўны магазін, у якім прадаецца ўсё, акрамя прадуктаў. Зрэшты, "усё" – занадта гучнае слова... І тут нас чакае гэты фатальны смурод, і тут дзве прадаўшчыцы ў доўгіх белых фартухах са сваімі лічыльнікамі і са знаёмай ужо "гасціннасцю". Глядзім на тавары, глядзім на цэны, і мне яшчэ больш шкада беларусаў. Вы не паверыце: цэны шалёныя! І было б за што! Мяркуйце самі: кафейны сервіз – шэсцьсот тысяч рублёў, кашуля – дзевяноста тысяч, пара нікчэмных чаравікаў – семдзесят тысяч, нейкі зламаны парасон, стары дзіцячы веласіпед, дзве аблезлыя курткі...

Згодная: гэтыя людзі маюць дах над галавой, на стале знойдзецца што паесці, яны больш-менш прыстойна апрануты, абутыя, маюць ацяпленне, электрычнасць, іх дзеці атрымліваюць прыстойную адукацыю. На свеце ёсць людзі, якім жывецца яшчэ горш. Але ж Беларусь – гэта вам не недаразвітая краіна. Яна ж была ў складзе ўсемагутнага Савецкага Саюза, нашага вялікага ранейшага ворага. А сёння эканоміка краіны дыхае на ладан, інфляцыя расце штодня, заробкі мізэрныя.

Паступова пачынаеш разумець, чаму тутэйшыя людзі не робяць трагедыі з чарнобыльскай катастрофы. Гэтай беднасцю, галечай прыгавораны яны быць адзін на адзін з радыеактыўнай заразай! І кожны дзень для іх – гэта бітва за выжыванне. І толькі дзякуючы сваёй стойкасці, вытрымцы і высокай стваральнай сіле яны пакуль не прайгралі гэтую бітву...

Я ў захапленні ад іх!

Я ў захапленні ад Ліды!

***

Ужо амаль дзве гадзіны. Вяртаюцца са школы дзеці.

Зусім хворая Ліда, як заўсёды, за плітой.

Калі сёння мы выпраўляліся ў школу і выходзілі праз кухню, я ўбачыла ў тазіку з вадой кавалачкі сырога мяса. Мне стала не па сабе ад думкі, што гэта будзе нам страва на абед...

Цяпер акурат гэтай стравай Ліда і займаецца. Яна парэзала мяса на тонкія скрылькі, адбіла іх спецыяльным малатком. Гэта інтрыгуе мяне, і я застаюся паназіраць: пасля малатка скрылькі трапляюць у нейкае цеста, а затым на патэльню, дзе патрэсквае сантыметровы слой тлушчу...

І атрымліваецца, сапраўды, вельмі смачная рэч!

З апетытам ядзім гэтыя гарачыя скрылькі разам з астаткамі ўчарашніх і пазаўчарашніх страў і чакаем Васю. На сваім “таксі” ён павязе нас у Хойнікі.

Рык нагадвае мне, што Васю трэба штосьці падараваць. Ён жа ахвяраваў нам сваю суботу, калі прыехаў забіраць нас з Мазыра, а сёння з ім мы паедзем у Хойнікі, а вечарам – у Мазыр, да нашых аўтобусаў. У суботу, калі прыехалі з Мазыра, мы спрабавалі яму заплаціць, аднак Вася рашуча адмовіўся. І Алег нас сур’ёзна папярэдзіў, каб мы нічога шафёру не давалі. З палівам яны ўсё ўладкавалі самі, а час – часу ў Васі многа! Зусім нядаўна ён працаваў на грузавіку, а зараз ездзіць сабе на “Ладзе”. Мы так мяркуем, што Вася пакрыўдзіцца, калі мы яму прапануем грошы... У рэшце рэшт, прымаем рашэнне падараваць яму карту аўтадарог Беларусі. Вася бярэ яе ў рукі, уважліва разглядае з Алегам і Андрэем. З’яўляецца дзядзька Алег, і мы можам ехаць.

Вася ўжо за рулём. Побач сядае дзядзька Алег, а мы ўчатырох – Рык, Вадзімаў бацька, Наташа і я – уладкоўваемся на заднім сядзенні.

# Яно



“Лада” вязе нас у невялічкую суседнюю вёсачку Партызанскую. Па гэтым маршруце наша Ліда ездзіць кожны дзень на аўтобусе. У Партызанскай яна працуе ў дзяржаўным магазіне, куды мы і заходзім. Ён нічым не адрозніваецца ад таго, што мы бачылі ў Вялікім Боры. Зрэшты, розніца ўсё ж ёсць: замест дзвюх дам перад касай з лічыльнікамі толькі адна. Побач з лічыльнікамі – наш калькулятар... Падобна на тое, што ім карыстаюцца. Доўга мы тут не затрымліваемся.

Побач з магазінам – будынак сярэдняй школы. На школьным двары бачым вучняў з рыдлёўкамі і граблямі. Збіраюцца ісці ў поле? Не, яны наводзілі парадак на вясковай вуліцы. Гэта што, частка навучальнай праграмы? Рык пытаецца, ці можна было б зазірнуць у школу. Не, трэба было загадзя папярэдзіць дырэктара. Шкада, дзядзька Алег кажа, што гэтая школа абсталявана самай сучаснай апаратурай, там ёсць нават камп’ютэры.

Цяпер едзем у Хойнікі.

На вуліцах у Хойніках амаль няма машын. Зрэдку сустракаюцца прахожыя, абавязкова ў кепцы і з кошыкам у руках...

Прыпыняемся на вялікай плошчы перад помнікам. Прыгадваецца прывакзальная плошча ў Леапольдсбургу і вялізны танк на касаватым цокалі...

І турысты мы тут адзіныя. Адчуваем на сабе цікаўныя позіркі прахожых.

Едзем да цэнтральнай гарадской плошчы. Тут на высокім мармуровым п’едэстале ва ўсёй красе ўзвышаецца Ленін. Праязджаем крыху далей і спыняемся каля толькі што пабудаванай праваслаўнай царквы, якая акружана вялікай сцяной. Падымаемся наверх. Царква пабудавана з даволі сціплых матэрыялаў па строгай класічнай схеме. Па панядзелках бацюшка не працуе, і мы не можам зайсці ў храм...

Недалёка ад сцяны дзве пажылыя жанчыны мыюць бялізну ў вялікім ацынкаваным чане. Ад вады намоклі рукавы іх зімовых паліто. Вопратка старэйшай кабеты выпэцкана фарбай. Вяртаемся да машыны, а ўсё думаю, што добра было б сфатаграфаваць гэтых жанчын: у іх такі аўтэнтычны рускі выгляд. Вяртаюся і пачынаю гаварыць з цёткамі. Хутка высвятляецца, што жанчыны не могуць пражыць на адну пенсію і таму вымушаны падпрацоўваць пры царкве. Ім няёмка фатаграфавацца ў такой вопратцы, але

яны ўсё ж згаджаюцца, калі даведваюцца, што іх фота трапіць на Захад.

Цяпер мы трапляем у сучасную частку горада. Тут шмат новабудоўляў. “Рык, глядзі, тут разбураюць дамы!” На мяне з утрапеннем пазіраюць мае спадарожнікі: ніхто тут нічога не разбурае, а наадварот, будуюць! Але, паверце мне, розніцы я не бачу. Будаўнікі так халтураць, што не зразумець, ці гэта будоўля, ці развал...

Праязджаем каля мясцовай бальніцы і спыняемся, каб зайсці ў магазін. А яны тут яшчэ бяднейшыя, чым у Вялікім Боры і Партызанскай. Людзей у магазінах зусім няшмат. У дзядзькі Алега і тут знаёмыя, час ад часу ён вітаецца з пакупнікамі, па-сяброўску аб чымсьці гамоніць. Шчыра кажучы, мне і Рыку цяжка і балюча глядзець на гэтую галечу, і мы як мага хутчэй выходзім з магазіна. Я заўважыла, што наш Вася ніколі далёка не адыходзіць ад машыны і ўвесь час прыглядвае за ёю.

Пасля дзяржаўных магазінаў заходзім у невялікія змрочныя падвальчыкі, дзе пад шклом выстаўлены самыя вядомыя тавары з Захаду: тут у добрым суседстве ляжаць прэзэрватывы, ледзяшы на палачках, лак для пазногцяў, запальнічкі, шарыкавыя ручкі... Заходнія тавары, заходнія рэчы, заходнія валюты. Алег не можа даць веры, што за плітку шакаладу “Марс” ты тут заплаціш столькі ж нямецкіх марак, колькі і ў Германіі... У адным магазінчыку мы ўбачылі не зусім новыя тэлевізар і халадзільнік. Для нашых беларускіх сяброў цэны на іх – проста астранамічныя. Божа, што ім трэба рабіць, каб умудрыцца сабраць які мільён рублёў?..

І тут мне прыходзіць у галаву думка, што ў нас ёсць цудоўная магчымасць патраціць у гэтых падвальчыках крыху нямецкіх марак. Я бегаю, шукаю і... знаходжу штосьці такое, чаго мы нідзе тут не бачылі: ананас! Цана? Дваццаць дзве тысячы за штуку. Перамаўляюся з Рыкам, і мы вырашаем купіць тры ананасы. Прадавец дастае вялікую кардонную скрынку з пакрытымі плесняю ананасамі і прапануе выбіраць. Я з абурэннем амаль крычу прадаўцу, што такія ананасы мне і дарэмна не патрэбны. Прадавец неахвотна дастае яшчэ дзве скрынкі з пераспелымі фруктамі. Пальцам паказваю на тры цудоўныя ананасы, што красуюцца на вітрыне, і плачу маркамі...

Едзем, трасёмся па калдобістай дарозе ў Вялікі Бор.

Вось мы і дома. Вася дапамагае вылезці з машыны і кажа, што прыедзе па нас вечарам у дзевяць гадзін. За дзве гадзіны мы

 





лёгка даедзем да Мазыра, гэта ўсяго толькі шэсцьдзесят кіламетраў. Мы перадаём адзін ананас Васю.

Ліда зноў на кухні. Віталь ляжыць на канапе. Ён захварэў. Дрэнна сябе адчувае і Аня.

"Ліда, а вы прымаеце тыя вітаміны, што я вам пасылала?" – пытаю я.

"Так, так", – гучыць у адказ. Але я не веру ёй. Мы тут не першы дзень, а я ні разу гэтых вітамінаў не бачыла.

"Ліда, прымайце вітаміны, – павучальна гавару я, нібы патрабавальная маці – сваім непаслухмяным дзецям. – Ешце гэты ананас, ён вельмі смачны і тут шмат-шмат вітамінаў", – настойліва прашу я.

Аня з цікавасцю глядзіць на экзатычны плод.

Клічу на дапамогу Рыка. Пад усеагульную ўвагу ён ачышчае плады ад тоўстай скуры, разразае мякаць на невялікія скрылікі і кладзе іх на талерку. Віталь не можа падняцца з пасцелі. Аня з Наташай бяруць па скрыліку апетытнага ананаса, які так і растае на языку.

"Гэта мой першы і апошні ананас", – уздыхае Наташа...

Да развітання застаюцца лічаныя гадзіны. Іх мне хочацца правесці на свежым паветры, у ціхай спакойнай прагулцы па вёсцы. Найбольш мяне цікавяць самыя старыя будынкі. Тут яшчэ шмат маленькіх драўляных хат, сапраўдных баракаў, якія і прыцягваюць мяне да сябе. Аднак выбрацца на прагулку ўдвух з Рыкам не ўдаецца: да нас далучаюцца Вадзім, Аня і Наташа.

Асцярожненька намякаю Ані, што мы з прыемнасцю паглядзелі б на старыя драўляныя дамы. О, Аня ведае гэтыя дамы і жадае паказаць нам самыя прыгожыя. Яна вядзе нас да дому, дзе жыве дырэктарка школы. І сапраўды, які цудоўны домік! Які дагледжаны і чысты падворак! Як свежа і прыгожа выглядаюць фарбы на сценах і вокнах, асабліва на фоне суседніх будынкаў!

У гэтай частцы Вялікага Бора няма водаправода. Людзі карыстаюцца вадой з калодзежаў. Вадзім дастае вядро ледзяной вады з такога самага калодзежа, які некалі быў у нашай бабулі з дзядулем. На нейкі момант мне здалося, што я зноў трапіла ў свой родны Бакрыйк...

Ідзём далей у бок цеплацэнтралі, і перад намі паўстае яшчэ адзін адмысловы дамок. Ну, проста як у казцы! Яркі белы колер, светла-блакітны, жоўты, зялёны моцна кантрастуюць паміж сабой



 

і цудоўна ўпрыгожваюць матывы з драўляных кветак. Фасадная частка будынка, аздобленая раскошнымі дэкаратыўнымі элементамі, запаланяе ўсю вашу ўвагу, і вы амаль не заўважаеце брыдкай шыфернай страхі. Застаецца толькі ўявіць, як пышна і шыкоўна ўлетку выглядае сярод такой прыгажосці голая цяпер бярозка.

Вось так замест трушчоб мы пабачылі ў Вялікім Боры сапраўдныя шэдэўры дойлідства, на што, прызнацца, мы спадзяваліся мала.

Вяртаемся дамоў па пясчанай дарозе. Нізка над вёскай плывуць пагражальна цёмныя хмары...

Перад кожнымі веснічкамі на агарод узвышаюцца кучы смецця.

***

Частуемся рысам і блінцамі з мясам, п’ем гарэлку, парэчкавы сок і які ўжо раз падымаем чаркі: “На здоровье!”

На апошнюю нашу вячэру ў гэтым доме сабралася ўся сям’я. Нам ужо прынеслі “невялікую пасылку” ў Кнокке-Хейст. Яна страшэнна цяжкая, быццам нашпігаваная каменнямі, і заняла роўна палову чамадана.У знак удзячнасці нам падаравалі бутэльку гарэлкі. Хтосьці перадаў нам пісьмо, каб адправілі яго ў Бельгіі.

Васева жонка, заўсёды прыветлівая, абаяльная Оля на развітанне прынесла нам свой падарунак: вялікі прыгожы ручнік і бутэльку гарэлкі. Гэта што? – Спроба аддзячыць за ананас, які нам нічога не каштаваў, і за карту аўтадарог Беларусі... Якія добрыя людзі! Мы ж хацелі толькі выказаць удзячнасць за іх дапамогу і сяброўства! І за гэта не трэба нам нічога ў адказ.

А час няўмольна бяжыць, і пара ўжо пакаваць чамаданы. Толькі мы знайшлі месца для пасылкі ў Кнокке-Хейст і Оліных падарункаў, як у пакой заходзяць Ліда, Аня і Наташа. І ў кожнай у руках – пакеты, скруткі, клункі, вузельчыкі. Сімпатычныя сурвэткі, ручнікі, хустачкі, зробленыя іх умелымі рукамі, бутэлькі гарэлкі, лікёру, мінеральнай вады, дамская сумачка для мяне, гадзіннік і дзве кашулі для Рыка, кілаграмы печыва і цукерак для дзяцей, здаравенны каравай, насценны сьвяцільнік, абрус, кафейны сервіз, ваза для кветак, шкатулка і нават бутэлечкі парфумы і туалетнай вады. Алег прыносіць яшчэ кнігу пра Гомельскую вобласць. А яшчэ ж падарункі цёткі Ніны і дзядзькі Алега! Не раз і не два перакладаем мы рэчы, каб усё гэта змясцілася ў двух чамаданах...

Я гатова заплакаць, успамінаючы справядлівыя словы Рыка пра тое, што гэтыя людзі аддадуць апошняе, залезуць у даўгі, каб прыстойна нас прыняць!.. Адна толькі кашуля каштуе шэсцьдзесят з паловай тысяч! Гэта ж палова месячнага заробку Алега! Можа, сто разоў мы паўтараем, што не трэба нам ніякіх падарункаў, што найлепшы падарунак для нас – гэта іх сяброўская гасціннасць... Усё дарэмна! Яны лічаць абсалютна нармальным, што мы павінны вярнуцца ад іх з двума напакаванымі чамаданамі.

Рык, які раней прасіў мяне не даваць ім грошай, цяпер хуценька шэпча мне на вуха, што нашы нямецкія маркі трэба аддаць зараз жа, бо ў дарозе зрабіць гэта будзе цяжка...

Чакаю, пакуль усе пойдуць у гасціную, а сама неўзаметку падаю Лідзе знак прайсці са мной у іншы пакой. Трымаючы палец на губах, суну Лідзе ў рукі скамечаныя грошы. Тонам, які не церпіць ніякіх пярэчанняў, шапчу ёй, што гэтыя грошы яна абавязкова павінна ўзяць. Калі не сабе, то дзецям. Ліда адмоўна хітае галавой і шэпча ў адказ, што ніколі сабе гэтага не дазволіць: “Ты ж сама ад сваіх дзяцей адрываеш!”

Тым часам у дзвярах з’яўляецца цікаўная галава цёткі Ніны. Бяру Ліду за рукі і кажу, што яна скарыстае гэтыя маркі на лекі, бо амаль уся сям’я хварэе на грып. Ліда ўжо не супраціўляецца і моцна прыціскае мяне да сябе...

Ледзьве выцягваем чамаданы ў калідор.Дзевяць гадзін вечара. Вася ўжо тут. Сэрца маё сціскаецца. Не толькі ад сяброўства і гасціннасці гэтых людзей, але і ад іх высакароднасці і шчодрасці. Яны нічога не пашкадавалі, каб прыняць нас сапраўды па-царску. А столькі падарункаў!

Аня дапамагае нам апрануць паліто. Ліда нас затрымлівае і падае мне вялікую падсмажаную курыцу: “Гэта вам на дарогу”. Мы пратэстуем: “У нас жа ёсць бутэрброды, сыр!” Але адмовіцца не ўдаецца.

З кожным развітваемся на рускі манер: моцныя абдымкі, пацалункі. Абяцаем у хуткім часе прыслаць фатаграфіі, жадаем шчасця Наташы ў яе хуткім замужжы, дзякуем цётцы Ніне і Лідзе за іх гасціннасць і падарункі. Гладжу па галоўцы малога Дзяніса. Гэты мілы свавольнік падкупіў маё сэрца...

Час ехаць. Як заўсёды, Вася з Алегам сядаюць спераду, а Рык, Вадзім і я – ззаду. Дзядзька Алег хоча таксама з намі ехаць.

Ён гатоў паказаць нам Мазыр. Аднак наш шафёр непахісны і няўмольны: пяцёра дарослых пасажыраў плюс цяжкія чамаданы – гэта ўсё. Дзядзька Алег неахвотна зачыняе дзверы і разам з іншымі махае нам услед рукой.

Перакідваемся нешматслоўнымі рэплікамі і праз гадзіну з чвэрцю даязджаем да Мазыра. Стаянка каля гасцініцы "Прыпяць" ужо запоўнена "Ладамі", якія прывезлі сюды ўсіх фламандцаў. Выходзім з машыны, каб трохі размяцца, пакурыць, пашукаць знаёмых. Дзікі холад. Ледзяны вецер пранізвае навылёт.

*23 гадзіны.* Ніякіх аўтобусаў...

Холадна. Разам з Рыкам падымаемся ў гасцініцу, шукаем туалет. У вялізным холе, які нагадвае залу чакання ў аэрапорце, пануюць шум і неразбярыха. Усе фламандцы ў суправаджэнні беларускіх сем'яў. Увесь час трэба глядзець пад ногі, каб не наткнуцца на чамаданы.

"А дзе тут туалеты?" – звяртаюся я да асобы, якая ехала ў нашым аўтобусе.

У гэтым вялікім атэлі на семсот нумароў у холе знайшоўся толькі адзін туалет. Тое, што я там убачыла, апісваць не бяруся...

Выходзім з гасцініцы, прыслухоўваючыся да ажыўленай гутаркі. Аказваецца, наша падарожжа мае жудасную трагічную канцоўку: адна жанчына з нашага аўтобуса памерла ў беларускай сям'і. Спынілася сэрца. Ніхто не хоча і не можа ў гэта паверыць. Кожны жадае, каб хтосьці абверг страшную навіну. Расказваем пра гэта нашым беларусам. Тыя –у поўным утрапенні...

Холадна. Хочацца зноў пайсці ў гасцініцу. Спрабуем угаварыць Васю выгрузіць чамаданы і аднесці іх у хол. Нічога не атрымліваецца. Горш за тое, ён яшчэ і злуецца. Калі чамаданы будуць у холе, значыць, трэба будзе за імі наглядаць. І машыну таксама ж трэба пільнаваць. Вася лічыць, што ўсё павінна быць у адным месцы. Такая ў яго логіка. Рык з Алегам зноў выходзяць пакурыць, а я з Вадзімам і Васем застаюся ў машыне. Нечакана пярэднія дзверцы адчыняюцца і на сядзенне бесцырымонна прысаджваецца нейкі малады чалавек. Спачатку я не ўбачыла ў гэтым ніякіх праблем. Мне здалося, што малады чалавек ведае Васю і падсеў да яго перакінуцца словам. Між тым не паспявае ён і тры словы сказаць, як Вася ўжо месца сабе не знаходзіць і робіць знак юнаку пакінуць машыну. Той, аднак, і не збіраецца

гэтага рабіць, сядзіць сабе спакойна і штосьці балбоча. Я не разумею ніводнага слова. І тады Вася выхоплівае з-пад сядзення бейсбольную біту. Малады чалавек імгненна знікае з машыны, а Вася яшчэ колькі хвілін пагрозліва лаецца...

Поўнач. Нарэшце, пад'язджае адзін бельгійскі аўтобус!

Цяпер мы можам даставаць чамаданы з багажніка. Спяшаемся, думаем, што вось-вось і паедзем. Якая наіўнасць! Прыходзіць паведамленне, што два нашы аўтобусы затрымліваюцца ў снежнай завеі дзесьці на тэрыторыі Польшчы... Настрой у нас – ніякі. Валачэм чамаданы ў хол гасцініцы. І тут атмасфера напружаная. Усе страшэнна стаміліся. А яшчэ гэтая раптоўная смерць нашай спадарожніцы... Ніхто нічога не ведае, калі мы зможам ад'ехаць, колькі нам тут чакаць.

***

Амаль гадзіну ўгаворвалі мы Васю, Алега і Вадзіма ехаць дамоў. Але беларусы не саступаюць: нягледзячы на позні час і холад, усе яны жадаюць развітацца з намі. І толькі пасля цвёрдага абяцання патэлефанаваць ім раніцай, калі мы адсюль не ад'едзем, пагаджаюцца і развітваюцца з намі ў зялёнай "Ладзе". Пеця просіць мяне перадаць праз цётку Ніну, як даедуць ягоныя госці...

Апошнія словы развітання, поціскі рук, абдымкі, пацалункі.

З неахвотай сядаюць у машыну Вася з Алегам. Па ўсім бачна: яны сумняваюцца, што зрабілі ўсё правільна. Гэта, аднак, зусім не тычыцца Вадзіма. Стаміўся, бедны. Але тут і яго прарвала: "Калі ласка, перадай ад мяне прывітанне Стэфану, Дзірку, Гансу, дзядулю! Да сустрэчы ў жніўні! Я так хачу ў Бельгію! Няхай бы канікулы пачыналіся сёння!.." Такой колькасці слоў за два дні мы ад Вадзіма не чулі...

Вось на твары ў яго загараецца ўсмешка!

"Мы чакаем цябе, Вадзім! Да пабачэння! Усяго добрага!"

Адна за другой "Лады" знікаюць у начной цемры. Яны вяртаюцца дамоў. Да сваіх сем'яў. У сваю вёску. У свой саўгас. У сваю школу. На сваю працу... І зноў пачынаецца будзённае жыццё. І зноў пачынаецца бітва за выжыванне. Свята закончылася, але не заканчваецца наша сяброўства. За кароткія дні гэтага свята наша дружба толькі памацнела. І свеціць промень надзеі...

Аўтобусы забавіліся, і фламандцы вырашылі пасяліцца ў

гасцініцы, каб хоць трохі адпачыць. А палове трэцяй адміністрацыйны млын пачынае рыпець. У тры гадзіны атрымліваем пакой. Ліфт з грукатам дастаўляе нас на пяты паверх, дзе дзяжурная падае нам ключ. Пакой, мэбля, сантэхніка – усё даўно састарэла і знасілася, аднак усюды пануе бездакорная чысціня. Не распранаючыся, кладзёмся на ложак і памалу засынаем. А палове пятай прачынаемся ад моцнага стуку ў дзверы: прыехалі нашы аўтобусы!

Цягнем гэтыя цяжкія чамаданы ў хол і амаль спім на хаду. У холе ўсё кіпіць, нервуецца. Аўтобусы змогуць ад'ехаць толькі тады, калі будзе аформлена пасведчанне аб смерці нашай суайчынніцы. Доктар, які павінен падпісаць гэты дакумент, будзе ў клініцы толькі каля васьмі гадзін...

Цэлую гадзіну раімся, спрачаемся, шукаем выйсце. І яно, здаецца, знойдзена: першы аўтобус паедзе ў клініку па гэтае пасведчанне аб смерці, а другі і трэці аўтобусы (мы ў трэцім) едуць да Брэста, дзе ўсе мы пазней і сустрэнемся.

Адпраўляемся а палове шостай і ў адзінаццаць прыязджаем у Брэст. Беларускі аўтобус, які прывёз нашых сяброў з Мінска, чакае нас тут з трох гадзін ночы. Гэты аўтобус без ацяплення, аднак, быў адзіным, які выехаў своечасова, у адзінаццаць гадзін, з Мінска. Шкада глядзець на пасажыраў гэтага аўтобуса. Бедалагі страшэнна змерзлі... Да таго ж, яны абсалютна нічога не ведалі ні пра смерць нашай спадарожніцы, ні пра прычыны нашай затрымкі. Так што не толькі ртутны слупок апусціўся ніжэй нуля ў гэтым аўтобусе, на той жа адзнацы апынуўся і маральны стан няшчасных пасажыраў...

У трынаццаць гадзін дзесяць хвілін прыбывае, нарэшце, наш трэці аўтобус з Мазыра. Роўна ў дзевятнаццаць трыццаць мы перасякаем мяжу. Дзіўнае пачуццё: да Бельгіі яшчэ пятнаццаць соцень кіламетраў, а нам здаецца, што мы ўжо дома!

Стомленасць не закалыхвае нашых спадарожнікаў. Кожны з нас атрымаў ад гэтай паездкі ў Беларусь сапраўдную асалоду. І кожнаму ёсць што сказаць.

Ніколі нам не забыць гасціннасць, сяброўства і давер, якія мы адчулі ў беларускіх сем'ях! З высока ўзнятай галавой гэтыя людзі, нашы беларускія сябры, прынялі выклік лёсу. Не, не забыць нам два кароткія, але такія шчодрыя на ўражанні і падзеі дні, што правялі мы ў Беларусі...

## ЭПІЛОГ

Між тым Вадзім вярнуўся дамоў.

З фрыцюрніцай у чамадане, бо бульба-фры з маянэзам – гэта яго любімая страва.

З гумовымі камерамі для веласіпеда, якіх там нідзе не знайсці.

Са скрынкай ананасаў для Ані і Наташы, што так падабаюцца ім.

З гальштукамі для бацькі, які на вяселле сястры з'явіўся без гальштука.

З цёплым мяккім шалем для маці, бо ёй заўсёды холадна.

З невялікай скрынкай "Кока-Колы" для свайго брата, які ніколі не каштаваў гэтага напітку.

Між тым Вадзім вярнуўся дамоў.

З поўным чамаданам, з поўным фотаальбомам, бясконцымі ўражаннямі і ўспамінамі...

У жніўні будучага года Вадзім зноў будзе ў нас.

Вадзім прыедзе і зноў прызвычаіцца да перапоўненых прылаўкаў супермаркетаў, да нажа і відэльца, да хуткага інтэнсіўнага руху на дарогах...

І зноў яму давядзецца зразумець, што нам не падабаецца, калі ён цэлымі днямі, нічога не робячы, моўчкі сядзіць у крэсле. Маўчым і мы, але як бы нам хацелася спадзявацца, што прыйдзе дзень, калі Вадзім навучыцца-такі браць ініцыятыву ў свае рукі. А гэта і ёсць мэта нашай арганізацыі.

Наша дабрачынная арганізацыя "Фламандцы дапамагаюць дзецям Чарнобыля" – гэта не служба міласэрнасці, якая займаецца аказаннем выключна матэрыяльнай дапамогі дзецям. Мэта арганізацыі не толькі ў тым, каб аздаравіць як мага больш дзяцей. Ёсць і больш складаная задача: навучыць гэтых заўтрашніх дарослых браць на сябе ініцыятыву, браць руль кіравання ў свае рукі, каб вывесці сваю краіну з тупіка.

А гэта вам – не пяцігадовы план!..

**З французскай мовы пераклаў**
**Леанід КАЗЫРА.**

***Аўтар і перакладчык ахвяруюць ганарар Велікаборскай школе Хойніцкага раёна.***



# Юры Карэйва

*...Чакае Рай,калі ж у Бозе*
*спачылых – ад жыцця,пакут,*
*бы ў бой апошні па трывозе,*
*пабудзяць на Апошні Суд.*

 



Юры КАРЗЙВА

# АДГЭТУЛЬ...

## КРАЯВІД

Там, дзе могілкі ўроскід
леглі ўзгоркам на плечы,
цень крыжовы
ўскрай вёскі
пад капліцаю ўкленчыў.
Да сцяны яе ніца,
бедны, ён прыпадае,
нібы ў чым павініцца,
але ў чым —
не згадае...
Адзінотнай,
адзінай
шле нямыя маленні...

Вось і ўсё,
што – Радзіма:
цень крыжа...
На каленях...

* * *

Адгэтуль
зямля прамаўляе
да Неба,
яна груганнём на скляпох
несупынна гарлае
спажывы...
Спажывы
агменяць знічы
праз попел прагорклы,
дарэшты задымлены вырай...



 

Ні дзень — ані ноч,
ні час — ні нівеч:
знявечанасць вечнасці...

*1997*

## СКОН

Ці то чорт які,
ці злыдзень
скраў апошняе святло:
згасла сонца,
больш не ўзыдзе,
сонца спалена на тло.

Дзень згарэў,
счарнеў на вугаль,
перакулены ўверх дном
крышталёвы небны куфаль,
ледзьве кроплі зор відно.

Слізкі месяца адбітак
на калюжным шкле блішчыць.
Свет вар'яцкі спіць,
нібы так
вечна ў ім павінна быць!

У задушлівым здранцвенні
стомай скованых акон
толькі ночы цень
ледзь цьмее...
Скон...
Спаконны мёртвы сон.

*1998, чэрвень*

Юры КАРЭЙВА

# ПАГАНАЕ МЕСЦА

...І бачу,
як роспачна сонца,
Ізноў узышоўшы наранні,
далей ад паганага
гэтага месца
адвечары коціцца з неба
на захад,
І поўня
адчайна бразгоча
Ў крышталь зледзянелай,
счарнелай ад жаху
сусветнае цвердзі...

...І чую,
як кожны тут камень
расце —
смокча кроў
з незжывелага гэтага
свету...

*1999*

# АПОШНЯЕ ПРЫЙСЦЕ

*І ўгледзеў я мёртвых, малых*
*і вялікіх, якія стаялі перад*
*Богам...*

**(Адкр. 20: 12.)**

Памерла ўсё.
Чарней ад ночы
прадонні свету заляглі.

І сніцца цяжкі сон прарочы
смяротна стомленай Зямлі...

Спачатку — Ён!
Сыходзіць з трона
У белай вопрадні даўгоў:
на ім блішчыць накшталт кароны
крыштальны німб над галавой.
За ім — Дванаццаць і Чатыры
па люстры вод, як па ільдзе,
стаўпы адрынутае веры
свой шлях кіруюць да людзей.
Не да святых — але да грэшных,
пакуль што не паўсталых з тла,
бо тыя як мага паспешней
сышлі да Вечнага Жытла.
Святыя тыя зараз з Раю
глядзяць на могільнік зямны,
з Зямлёю разам сузіраюць
яе няспраўджаныя сны...

*1998*

# У нас



## Язэп Палубятка

*Чалавеку ўласціва марыць. Аб прыгожай жанчыне, утульнай шматпакаёвай кватэры (лепш, вядома, катэдж), любімай не зварушы пальцам працы, салявым мяшку грошай, скарбе з галеры іспанскіх канкістадораў, рамантычным падарожжы з цнатліўкай, ночы ў ложку з Брыжыт Бардо... О! Ці мала што можа жадацца простаму смяротнаму савецкаму чалавеку! Кожны з нас марыць адпаведна сваёй выхаванасці, адукацыі, укладу жыцця, месцу жыхарства, дазволу цешчы, недагляду жонкі!..*

Язэп ПАЛУБЯТКА

# ПРЫГОДЫ МАРМУЛКА

## РАЗВІТАННЕ З АЛЬМА МАТЭР

Дзень урачысты і сумны. Здадзены апошні (дзяржаўны) іспыт, уручаны дыплом, чакаецца апошняя студэнцкая папойка. Ужо не ты, а хтосьці іншы будзе выразаць сцізорыкам ды размалёўваць шарыкавай ручкаю лёсавызначальныя надпісы, як “Маё Эго” ці “Тут тупеў Мармулак”. Болей гэтага нічога не здарыцца, і не паўторыцца час, калі ты чапляў гумкаю да нагі “бомбы” і, не ведаючы адказу ні на адно пытанне, са спакойным сумленнем ішоў на іспыты ды атрымліваў сваё “выдатна”.

Пётр Іванавіч Матыль, у студэнцкім асяроддзі Пецька Матылёнак, а для сяброў проста Мармулак, хадзіў па пустой аўдыторыі ды хлюпаў носам. Яму было сумна. Маркотны роздум ахапіў яго. Хацелася проста сесці на якую-небудзь лаўку ды, як тая нявеста, калі спазняецца жаніх да вызначанага тэрміну ехаць у ЗАГС, заплакаць. Надта блізкімі і роднымі сталі сцены філфака. Што рабіць далей настаўніку роднай мовы і літаратуры з вольным дыпломам, ён не ведаў. Чырвоны колер дыплома не даваў ніякай гарантыі працаўладкавання. Ехаць на бацькаўшчыну, у вёску, Пецька Матылёнак не меў ніякага жадання. Ад гэтай сумнай праўды плакаць хацелася яшчэ больш. Ён цвёрда ведаў, што на вёсцы будзе сеяць не толькі разумнае, добрае, вечнае, але і саджаць бульбу, красці калгасныя буракі, гадаваць свіней, курэй, даіць карову. Адным словам, весці звычайную гаспадарку. А гэтага яму ніяк не хацелася.

# У нас



– Мармулак, – у аўдыторыю ўвайшоў Генадзь Патоніч, аднакашнік і сябра.

Пятра Матыля празвалі Мармулкам магчыма з-за таго, што быў ён нізкарослы. Гэта была яго бяда. Мноства дзяўчат, што акупавалі філалагічны факультэт, не звярталі на Мармулка ніякай увагі. Яны не праміналі зазначыць сваю прыхільнасць да ягонага сябра, правесці з тым вечар, а іншыя не адмаўляліся пабавіць і ноч. Пецця ж быў маўклівы назіральнік усіх гэтых рандэву і гульбішчаў. Не раз і не два даводзілася яму начаваць у чытальнай зале. Звычайна, калі ў Генадзя ўвечары кашэчым бляскам загараліся вочы і ён распачынаў прыбіраць пакой, яго сябра падбіраў неабходныя кнігі і чакаў таго часу, калі Патоніч пачне часаць за вухам і вінавата казаць: “Пецця! Ты ж мужчына!” Пецем ён называў сябра толькі ў такіх выпадках. Ва ўсіх астатніх Матыль быў звычайным Мармулкам. З тае прычыны, што чытальная зала інтэрната працавала круглыя суткі, і стаў Пётр Матыль выдатнікам. Толькі не цешыў яго чырвоны дыплом.

– Дзе ты знік? – Генадзь быў незадаволены. Яго чарговая дама сэрца, што вучылася на два курсы пазней, пажадала быць на іх выпускной вечарыне. Патонічу тое было неспадручна, бо аднакашніцы маглі яго не так зразумець, асабліва факультэцкая знакамітасць Ірына, бацька якой кіраваў нейкім трэстам, а ён, Генадзь, меў намер атрымаць мінскую прапіску, “выйшаўшы замуж за яго дачку”. Быць на вечарыне Ірына не магла. Паводле аўтарытэтнага заключэння медыкаў, праз месяц яна павінна была стаць маці. У наступную суботу мелася афіцыйна аддаць руку і сэрца свайму спакушальніку. Сёння ж адчувала сябе блага, але Генадзя, свайго будучага мужа, адпусціла. Грандыёзны Патонічаў план бессардэчна ды нахабна рушыла выпадковая інтэрнатаўская сяброўка. Яна цвёрда паабяцала наведацца на іх развітальную вечарыну без запрашэння. Генадзь вымушаны быў зрабіць рашучы крок: не пайсці на гулі. З гэткае нагоды яму хацелася напіцца. Чыніць такое геройства аднаму таксама не хацелася, і таму ён вырашыў далучыць да сябе безадмоўнага сябра Пецьку Матылёнка. Болей далучаць не было каго. Не было з тае простае прычыны, што яны ў іх навучальнай групе былі адзіныя мужчыны.

Матыль таксама не меў асаблівага жадання ісці на тое

мерапрыемства. Яму там нічога не свяціла. Дзве дзяўчыны былі ніжэйшыя за яго ростам, тры роўныя яму, астатнія выраслі на лес гледзячы. Патонічаву прапанову "надрацца ў драбадан" прыняў адразу. Сярод іншых падстаў быў і аргумент сябра: "Патрэбныя мы ім што дзірка ў мосце. Шклянку-другую заглыкнуць ды пойдуць у скокі. Здымуць сабе кавалераў, разбягуцца, а нам – плаці". Тое была святая праўда, бо Пятру не раз даводзілася, па настойлівых прапановах дзяўчат, запрашаць іх у кавярню, а потым самому сплачваць усе выдаткі.

Генадзь у вялікай скрусе знайшоў кавалак крэйды ды на ўсю дошку напісаў: "Дэкан – сыч!" З тым яны і пакінулі сцены роднага універа ды падаліся ў краму.

З інтэрната іх ужо выселілі, але быў у Пятра адзін запасны ключ ад пакоя, якім і скарысталіся. Пакой нагадваў нешта сярэдняе паміж пячораю і жыллём мужных спартанцаў. Голыя сцены, металёвыя ложкі з панцырнымі сеткамі, якія заўжды пакідалі свой след на скуры студэнта, ды стол з гарою посуду на ім. Зверху ляжала запіска: "Нашчадкам! На вечную памяць! Карыстайцеся на здароўе".

Меншаму ростам чалавеку заўсёды выпадае больш працы і менш уцехі. Ёсць нейкая доля праўды ў мудрых словах, што апошняму парасяці цыцка пад хвастом. Прымаўка не для цытавання па радыё ці ў газетах, але рацыю мае, і немалую. Мармулак даўно прывык да таго, што асноўная праца па падтрыманні парадку ў пакоі ды прыгатаванні студэнцкай поснай вячэры выпадала заўжды яму. Рабіў тое хлопец без лішняй прынукі і моўчкі. Вось і зараз ён прыбраў са стала посуд, акуратна склаў на вольны ложак, толькі пакінуў для патрэбы два сподкі, два відэльцы ды дзве шклянкі. Генадзь расцягнуўся на рыпучых спружынах і голасна выказваў сваю незадаволенасць абставінамі, што перашкодзілі яму весела правесці вечарыну.

– Бач ты, маладая, а прыткая. Ні дня не можа жыць без... пацалунка. І дзе толькі гэтаму іх вучаць? А галоўнае – хто?

Матыль закончыў сервіроўку стала ды голасам нясмелай пакаёўкі запрасіў сябра на бяседу.

– Давай, валі! Абмыем нашыя шматпакутныя гады, – Матыль

хацеў мілагучна ды складна выказаць свае думкі, а атрымалася проста і нерыфмавана.

Гарэлкі было ўдосталь. Спачатку выпілі за родную мову, потым за дубалома дэкана, за дурніцу куратара. Незлічоная колькасць тостаў рабіла паволі сваю справу. Пасля трэцяй пляшкі размова наблізілася да тае мяжы, калі людзі пачынаюць задаваць адно аднаму спрадвечнае і жыццёва важнае пытанне: "Ты мяне паважаеш?" Дзіва, але Генадзь здаўся першы. Магчыма, прычынай таму была празмерная колькасць сардэчных спраў яшчэ ў школьныя гады, але на сакраментальнае Мармулкава пытанне "Ты мяне паважаеш?" адказаў: "Паважаю, але піць не буду. Не лезе". Яны леглі кожны на сваім ложку. Няспешна пацякла гутарка. Генадзь, як чалавек спрактыкаваны ў адной справе, вярнуўся да нязводнага пытання:

– А вось сапраўды, ніводнага разу не давялося заняцца каханнем на голай панцырнай сетцы. Вельмі цікава, што ў рэшце рэшт можа атрымацца?..

Мармулак падтрымаў гутарку.

– А сапраўды, што можа ў рэшце рэшт атрымацца? Вось атрымалі мы дыпломы, а далей нікому галава не баліць, чым мы будзем займацца, – шчыраваў хлопец. – Вось ты, Гена, куды пойдзеш?

– Як куды? – здзіўлена перапытаў Патоніч. – Да Іркі. Куды ж мне яшчэ ісці? У мяне хата гарантаваная.

– Ды я не пра тое, Генка. Куды працаваць пойдзеш?

– Ой, мамачка мая родная! Я яму пра плот, а ён пра азярод. Баліць мне галава аб працы. Ёсць на гэта цесць. Калі не хоча, каб я сядзеў нахлебнікам у яго на спіне, дык няхай шукае.

– Табе прасцей, – гаротна ўздыхнуў Пецька.

– Цесць – галава. Зрабіў пэўныя захады. У адной камерцыйнай фірме дамовіўся.

– А ты ў школу не збіраешся ісці?

– Больш ідыёцкага пытання не мог задаць, – агрызнуўся Патоніч. – За спакусу школьніцы бацькі могуць падвесці пад артыкул. Гэтага мне яшчэ не хапала. А сеяць, як нас вучылі, разумнае, добрае, вечнае за пяцьдзесят баксаў у месяц я не збіраюся.

У дзверы пастукалі. Пяшчотны дзявочы голас запатрабаваў:

– Гена, я ведаю, што ты тут. Хопіць хавацца – выйдзі.

Патоніч важна зазначыў:

– Глядзі, Мармулак, вось яно жыццё. Яна разумее, што гэта такое, таму і знайшла мяне тут. А ты нічога не разумееш і ніякі універсітэт цябе не навучыць.

Генадзь падняўся і выйшаў, але хутка вярнуўся.

– Мармулак, патрэбны пакой. Схадзі падрыхтуйся да заліку.

– Якога?

– Па тэорыі "Уплыў прамянёў Месяца на пасмяротнае жыццё прусакоў".

– А-а-а...

– Бэ-э. Давай-давай. Няма часу. Чытальная зала не зачыненая.

Пятро, як заўсёды, падпарадкаваўся.

## МРОІ П'ЯНАГА МАРМУЛКА

Чалавеку ўласціва марыць. Аб прыгожай жанчыне, утульнай шматпакаёвай кватэры (лепш, вядома, катэдж), любімай не зварушы пальцам працы, салявым мяшку грошай, скарбе з галеры іспанскіх канкістадораў, рамантычным падарожжы з цнатліўкай, ночы ў ложку з Брыжыт Бардо... О! Ці мала што можа жадацца простаму смяротнаму савецкаму чалавеку! Кожны з нас марыць адпаведна сваёй выхаванасці, адукацыі, укладу жыцця, месцу жыхарства, дазволу цешчы, недагляду жонкі!.. Шафёр марыць пра новы карданны вал ды зменш нормы расход паліва; прыбіральшчыца штоноч бачыць у сне новую анучу, міністр разлічвае не менш як на пасаду прэм'ер-міністра, прафесар да апошняга ўздыху ўпэўнены ў прызнанні яго вар'яцкай тэорыі... Кожны салдат марыць быць генералам, а кожная дзяўчына – выйсці замуж.

Дык вось, паколькі Пётр Іванавіч Матыль не атрымаў, будзем праўдзіва-шчырыя, шафёрскіх правоў, пасведчання слесара, не стаў міністрам, а толькі набыў у пяцігадовай чарзе дыплом аб вышэйшай адукацыі, вырашыў ён марыць адвольна.

Марыць дык марыць!

Мармулак, як і ўсе мы, з самага першага дня свайго заганнага зачацця быў выхаванцам савецкай сістэмы, але, нягледзячы на тое, разумеў: каб здзейснілася мара – самая простая ці самая авантурная, – трэба мець грошы. Чым больш, тым лепш. Такі няпісаны закон існавання *Homo Sapiens*; незалежна ад колеру скуры, а таксама яе адцення. Як казаў мой сябра Толя Кунцэвіч, зараз за так і певень не кукарэкае. Пэўна, з тае прычыны ў нашай мясцовасці куры перасталі несціся.

...Па пустым калідоры другога паверха інтэрната з пакоя нумар дзвесце шэсць гулка разносілася рыпенне панцырнай сеткі і раз-пораз чуліся ўздыхі, што нечым былі падобныя на індзейскі баявы кліч. Яны (уздыхі) без ніякай перашкоды пранікалі праз шкляныя дзверы чытальнае залы ды больш настойліва абуджалі п'яную фантазію чалавека.

Дзе можна зарабіць многа грошай, Пётр Іванавіч не ведаў. Трэсты, кампаніі, акцызы, дзяржаўныя фіскальныя манаполіі, мытныя зборы, пасіў, дэфляцыя ды нават усімі чутая "пракрутка" грошай, просты хабар ці звычайны рэкет па праграме палітэканоміі сацыялізму ім не выкладалі. Прафесары і дацэнты, кандыдаты і дактары апошнімі словамі лаялі Маркса, Энгельса, Леніна, але што такое грошы, разумелі толькі ля акенца касы, калі распісваліся ў ведамасці, у вінна-гарэлачным аддзеле гастранома, калі са студэнтамі скідваліся "на траіх" ды падчас сурова-непрымірымых спрэчак з жонкамі наконт мізэрнага заробку дзеячаў адукацыі і навукі. Таму хлопец, паклаўшы п'яную галаву на стол, не знайшоў іншага выйсця, як папоўніць сваю пустую кішэню марамі пра выпадкова знойдзены скарб – чамадан беларускіх рублёў. "Фу-у ты-ы!.. Прытрызніцца ж такое! Во дурань! – гучна вылаяў сам сябе хлопец. – Лепш чамадан "зялёненькіх": новенькіх, хрумсткіх. Халява дык халява".

Як кожны сумленны савецкі чалавек, Пецька Матылёнак да гэтай буржуазнай валюты ставіўся насцярожана і, нават нягледзячы на пэўныя змены ў грамадстве, у руках яе не трымаў. Ды ўсё ж меў ён на слыху, што тутэйшыя чыноўнікі-забаранялы ды пранырлівыя тарбэшнікі з вялікім задавальненнем карыстаюцца ёю. А наша самае праўдзівае на свеце радыё несупынна цвердзіць,

што некаторыя народныя дэпутаты прапануюць прывязаць нашага клышаногага "зайчыка" да "зялёненькага": няхай пасецца...

Спрадвечна-балючае чалавечае пытанне грошай (дакладней кажучы, іх хранічнай адсутнасці) учарашні студэнт, а цяпер дыпламаваны настаўнік роднай мовы і літаратуры вырашыў хутка, без асаблівых цяжкасцяў і намаганняў. Тут з пакоя нумар дзвесце шэсць ад прыходу доўгачаканага шчасця данёсся гучны ўздых і прымусіў Матыля ўзняць галаву са стала ды распачаць вырашэнне новае праблемы, што каторы ўжо год не давала яму ні сну, ні спакою. Гэта старая і адначасова вечная тэма кахання. Цяпер, калі ў чалавека воз грошай, каханне ні ў якім разе не павінна абмінуць яго, нягледзячы на тое, што ён малы ростам ды, мякка кажучы, не прыгажун з твару. Калі ёсць грошы, ніякіх праблем быць не можа. Маладыя дзеўкі таксама на грошы ласыя. Ласыя і ўладальнікаў грошай кахаюць. Кахаюць не толькі маленькіх ростам, але й пузатых ды лысых. Кахаюць усіх, абы толькі былі грошы. Чым болей грошай, тым мацнейшае каханне.

На пытанне, якая павінна быць пані сэрца, Пецька меў адзін адказ: вядома, прыгожая. Навошта за такія грошы купляць кракадзіла? Пётр Іванавіч Матыль, як чалавек казачна багаты, набудзе сабе шыкоўны асабняк дзесьці ля Ждановічаў. Аднойчы арганізуе ў ім шыкоўны баль, запросіць знакамітых людзей горада-героя, ды не толькі яго. Сталы будуць гнуцца ад разнастайных закусак, заморскіх вінаў ды нашай айчыннай гарэлкі. Міша будзе цешыць публіку цудоўнаю музыкаю. Ліка – непаўторнымі спевамі. "Песняры" будуць залівацца салаўямі. Шмат будзе маладых ды прыгожых дзяўчат. Тую, што зараз так млосна ўздыхае ў пакоі нумар дзвесце шэсць, ён не запросіць да сябе на вечарыну. Не запросіць на вечарыну і свайго адзінага сябра, бо той настолькі спрактыкаваны ў сардэчных справах, што за вечар можа перацалаваць усіх прысутных там дзяўчат і кабет. Тут, як і ў рынкавых адносінах, канкурэнт – суб'ект непажаданы.

Казкавая ідылія з сярэднявечнага балю: хтосьці бражнічае, нехта аб'ядаецца на дарэмшчыну, каму належыць – спявае ды танчыць, а тым часам Пётр Іванавіч Матыль выбірае сабе нявесту. Высокія ды цыбатаногія, што прымушаюць мужчын пры сустрэчы лыпаць вачыма, яго чамусьці не вабілі яшчэ са школы. Неяк на

выпускным балі ён запрасіў на танец сваю аднакласніцу, дзяўчыну прыгожую, стройную ды высокую, якая, папраўдзе казаць, яму падабалася. Памылку свайго выбару ён зразумеў адразу. З першага музычнага такту нахлынулі нястрыманыя юначыя пачуцці і хлопец вырашыў прытуліцца да дзяўчыны і яго нос лёг акурат між Венерыных узвышшаў. Пакатыя спускі бугроў сціснулі яму шчокі. Як ні кажы, яно, вядома, прыемна, але няёмка было, што з іх пары шчыра пацяшаліся аднакласнікі. Тут Матылёнак уявіў сябе ў інтымнай абстаноўцы з жанчынаю, якая вышэйшая ростам, і з жалем канстатаваў, што тыя самыя ўзвышшы пры добрым натхненні могуць увогуле задушыць яго. Смерць на жанчыне ганарова-пачэсная, але просты абывацель можа не зразумець.

Тоўстых дзяўчат і жанчын Мармулак таксама абыходзіў за колькі метраў, бо аднаго разу на першым курсе яму давялося сустрэцца з шыракафарматнаю жанчынаю у вузкіх дзверах крамы. Задумаўся аб стане філалагічнай навукі ў нашай дзяржаве і з гэтае прычыны не заўважыў кабету, не паспеў своечасова ўхіліцца, не праявіў культуру і не саступіў жанчыне дарогу. "Хуткая дапамога" прыехала праз пяць хвілін, скарыстала ўвесь да кроплі ёд. Сінякі сышлі толькі праз месяц. Пасля таго здарэння Пётр Матыль са страхам і спачуваннем адначасова глядзеў на пары, дзе шчыпер-муж і гром-кабета, ды з жахам уяўляў іх пяшчотныя адносіны.

Калі выбіраць, дык выбіраць. Дзяўчына павінна мець вышэйшую адукацыю, але пажадана не філалагічную. З дзяўчатамі з філалагічнага факультэта роднага універа ён вырашыў у будучым не мець нічога супольнага. Ну хіба толькі калі надта будзе даспадобы. Сэрцу не закажаш.

Толькі напрыканцы таго шумнага мройнага балю Пётр Іванавіч сустрэў сваю адзіную. Не брыдкую (такіх сюды не запрашалі), але і не з катэгорыі "міс". Проста прывабная веку дзяўчына. Танклявая. Ростам яму ўзровень. Сярод святочнай мітусні яна сядзела ў кутку і сумавала. Спрактыкаванае вока ўмомант вызначыла – яна. І Матыль адразу ўпаў на калені.

У гэты час з пакоя нумар дзвесце шэсць інтэрната філалагічнага факультэта чарговы раз данёсся адрывісты выдых і было чуваць, як панцырная сетка гучна стукнулася аб падлогу. І ўраз усё сціхла.

Матыль канчаткова прачнуўся.

Канчалася кароткая чэрвеньская ноч, і надыходзіў ранак светлае будучыні.

## БЕЗНАДЗЕЙНЫЯ ПОШУКІ ЛЕПШАЕ ДОЛІ

Ранак светлае будучыні выдаўся змрочны. Балелі галовы. Ва ўсім целе адчувалася млявасць.Беларуская хвароба – смага – душыла хлопцаў. Генадзь правёў па калідоры сваю паненку. Ісці куды-небудзь яна, відаць, не мела ніякага жадання. Горача шаптала свайму каханку: "Ну можа яшчэ. Гена! Усяго разочак..." Да ўсіх просьбаў дзяўчыны Патоніч заставаўся абыякавы: "Толькі не зараз... Нават не прасі... Калі-небудзь іншым разам". На зваротным шляху Патоніч завітаў у чытальную залу. Выгляд у яго быў бляклы, здавалася, што гэты чалавек, замардаваны цяжкаю хваробаю, вось-вось скончыць сваё зямное існаванне. Кволым дрыготкім голасам ён прапанаваў:

– Пеця, давай палечымся.

Ужо ў пакоі Генадзь дастаў з тумбачкі паўпляшкі гарэлкі і завінаваціўся:

– Во, колькі пакінула. Каб не схаваў, усё высмактала б.

Тут у дзвярах пакоя з'явілася кудлатая галава з радаснаю ўсмешкаю на твары і ласкава-пяшчотны голас запытаў:

– Гена! Ты не перадумаў?

Патоніч цяжка ўздыхнуў і бязвольна апусціўся на голы казённы ложак. Гледзячы на Генадзя, уладальніца шыкоўнай фрызуры ўпэўнілася ў марнасці сваіх памкненняў ды вынесла свой жорсткі прысуд:

– Ну і хадзі галодны.

Дзяўчына штосілы ляпнула дзвярыма і пакінула інтэрнат у пошуках новага шчасця. Генадзь, нягледзячы на такое сумнае развітанне, застаўся задаволены.

– Дзякуй Богу, – з палёгкаю ўздыхнуў ён. – Я не робат. Іншы раз і адпачыць трэба.

Што б ні казалі медыкі пра шкоднасць ужывання алкаголю,

а тым болей апахмелу, яны нахабна ілгуць. Ілгуць усім людзям, а яшчэ больш самім сабе. Той "эліксір чалавечай маладосці", што не знайшла ды не выпіла, па вызначэнні Генадзя Патоніча, дваццацігадовая секс-бомба, падзейнічаў на агульны стан былых студэнтаў як нельга лепш. На душы стала бадзёра і радасна. Зноў пацягнула на подзвігі. Зноў захацелася арганізаваць узыходжанне на Эверэст ці паход у "Папараць-кветку". Магчыма, гэта ўсё і адбылося б зараз, але тут Патоніч успомніў, што сёння праз паўгадзіны яго будучы цесць прызначыў яму з кіраўніком фірмы "Будбумінтэрнэйшнл" дзелавую сустрэчу. Генадзь хуценька дажаваў кавалак учарсцвелага хлеба, пацiснуў на развітанне руку і пайшоў.

Тут і Мармулак успомніў, што залатыя гультайскія дзянёчкі сканалі ў адначас з атрыманнем чырвонага дыплома і яму належыць без усялякай дзяржаўнай апекі самастойна здабываць кавалак хлеба. Вядома, пяць гадоў запар яго вучылі сеяць разумнае, добрае, вечнае, але як абабіць сабе капейчыну ці проста ўладкавацца на працу, ніхто не навучыў.

План працаўладкавання выспеў нечакана: наведаць дырэктара школы, у якой праходзіў педпрактыку. Такі добразычлівы, сціплы чалавек. Пэўна, шчыры беларус. Заўжды з імі, студэнтамі філалагічнага факультэта, размаўляў на чыстай беларускай мове. Не прамінаў выпадку, каб не запрасіць іх, студэнтаў, пасля атрымання дыплома працаваць у гэтай школе.

...Антон Антонавіч Мікалайчык поўнымі журбы і смутку вачыма пранікнёна глядзеў на Мармулка, што ўжо добрыя дзесяць хвілінаў намагаўся нешта вытлумачыць на зусім незразумелай яму мове. У рэшце рэшт чалавеку абрыдзелі нечалавечыя высілкі карантыша, і ён з гонарам дырэктара беларускай гімназіі запытаў на чыста расейскай мове:

– Што ты хотишь?

– Працаваць у вас настаўнікам.

Адказ быў настолькі нечаканы, што Антон Антонавіч знямеў ад такога нахабства, колькі хвілінаў хапаў, быццам астматык, ротам паветра, і толькі пракаўтнуўшы сліну, змог прамовіць:

– Як...

– Вы ж нас заўжды клікалі да сябе на працу...

– Цябе? – вочы ў дырэктара сталі круглыя, быццам яблыкі, і ён яшчэ раз ці то запытаўся, ці то сцвердзіў: – Цябе?.. А хіба на філалагічным факультэце болей дзяўчат няма?

Відаць, дзяўчат там не бракавала, бо Антон Антонавіч болей не захацеў весці размову з Мармулкам, а, далікатна паклаўшы руку на стан нейкай маладой асобе, павярнуўся і пайшоў прэч.

Пакрыўджанаму чалавеку заўжды хочацца шукаць праўды, змагацца за справядлівасць, весці непрымірымую барацьбу з усімі чалавечымі заганамі. І гэты выпадак не быў выключэннем. Пятру Матылю здалося, што калі ён паскардзіцца ў адпаведны раённы аддзел народнай адукацыі, дык пытанне з яго прызначэннем на пасаду вырашыцца адразу. І не трэба будзе ніякіх іншых высілкаў.

Загадчык раённага аддзела народнай адукацыі ўважліва выслухаў наведніка і добразычліва папрасіў яго звярнуцца ў аддзел кадраў. Мармулак, упэўнены, што пытанне з яго працаўладкаваннем вырашана канчаткова, радасна памкнуў туды. Начальнік аддзела кадраў, трыццаціпяцігадовая жанчына, не апошняе страхалюддзе, у поўным росквіце фізічных здольнасцей, запытальным позіркам глянула на госця. Позірк кабеты ўспыхнуў зоркай Венерай і патух дробным вуглікам: што з яго возьмеш? Аналізы для санэпідэмстанцыі, і тыя, пэўна, няякасныя. Жанчына яшчэ зразумела, што загадчык таксама не выяўляе асаблівай зацікаўленасці ў працаўладкаванні наведніка, а праяўляць уласную ініцыятыву не мела для яе ніякага сэнсу. Выпадковы, нічым не адметны чалавек. У той момант, калі былы студэнт падрабязна тлумачыў, дзе ён хацеў бы працаваць і што на гэта атрымаў згоду ад загадчыка, жанчына глядзела паверх ягонай галавы на сцяну, дзе дзве мухі практыкаваліся ў сэксе.Прамова была закончана якраз у той момант, калі павук напаў на перапюбаў.

– Заява, – строга запатрабавала жанчына, як толькі ўпэўнілася, што парачка заўжды застанецца ў павуцінні. Яе ахапіла журба.

– Зараз напішу, – схамянуўся малады спецыяліст і паспешліва дастаў асадку.

– Малады чалавек, – жанчына гаварыла цвёрда, самаўпэўнена, голасам, якім суддзя выносіць прысуд. – Вы павінны з'явіцца сюды з заяваю, падпісанаю загадчыкам аддзела. Я дробны

чыноўнік і не прызначаю на пасады, а толькі, як звычайная бюракратка, афармляю паперкі.

Матыль ірвануў у кабінет загадчыка аддзела народнай адукацыі. Сакратарка з мілай усмешкай на вуснах паведаміла:

– Іван Сымонавіч праводзіць нараду. Калі пытанне неадкладнае, прыходзьце заўтра.

Заўтра Івана Сымонавіча не было на працоўным месцы: паехаў інспектаваць школы. Паслязаўтра быў выкліканы ў міністэрства. Толькі на пяты дзень удалося Матылёнку пабачыць загадчыка аддзела. Сустрэча была неспадзяваная. Іван Сымонавіч разгубіўся. Рэзка памкнуўся быў зайсці ў бліжэйшы кабінет, але, як наўмысна, дзверы кабінета былі зачынены на ключ. Ён патузаў ручку дзвярэй, цяжка ўздыхнуў і ў роспачы апусціў рукі. Іван Сымонавіч добра ведаў назоллівых людзей, бо толькі настырны чалавек можа хадзіць у адно і тое самае месца столькі дзён запар. Хуткім крокам з радаснаю ўсмешкаю на твары набліжаўся да яго Мармулак.

– Падпішыце заяву, калі ласка, – заміж прывітання выпаліў карантыш і працягнуў паперку.

Загадчык аддзела ўзяў заяву і накіраваўся ў аддзел кадраў.

– Лідзія Пятроўна! У нас ёсць што-небудзь для маладога спецыяліста?

Лідзія Пятроўна, не ўстаючы з крэсла, двума пальцамі левай рукі адчыніла дзверцы насценнай шафы і з ладнага стоса выцягнула журнал. Другою рукою яна ўвесь час падтрымлівала самлелую галаву. Надалей усю працу жанчына чыніла ўсё той жа рукою. Разгарнула журнал. Доўга гартала старонку за старонкаю, творачы мускуламі твару няведамыя мігі, а потым узняла свае цнатлівыя вочкі і з дзявочай нявіннасцю запыталася:

– А дзе вы жывеце?

– Нідзе, – шчыра адказаў Матыль.

– Як нідзе? – здзіўлена перапытаў загадчык аддзела народнай адукацыі. – Дзе вы прапісаны?

– Раней быў прапісаны ў інтэрнаце, – патлумачыў Пецька, – а зараз нідзе.

– Сур'ёзна? – радасна ўздыхнуў Іван Сымонавіч.

Лідзія Пятроўна моўчкі загарнула журнал.

– Кажу праўду, – каб быць як мага больш чыстасардэчным, паклаў руку на грудзі Мармулак.

– Тады выбачайце. Калі будзеце мець мінскую прапіску, тады прыходзьце да нас, і мы вас працаўладкуем.

Загадчык РАНА няспешна павярнуўся і спакойна пашыбаваў у свой кабінет. Лідзія Пятроўна хуценька вярнула журнал на месца і перавяла позірк на сцяну, дзе на павуцінні матляліся высушаныя мухі.

...Кабінеты міністэрства народнай адукацыі былі больш прасторныя, і іх было вельмі шмат. За адзін дзень абысці ўсе было проста немагчыма, нават калі чалавек быў тут і не адзін раз. Чалавеку, які выпадкова трапіў сюды з вуліцы, можна было заблудзіцца. Сумяціцу ўносілі яшчэ самі супрацоўнікі міністэрства. Яны не ведалі, куды неабходна звярнуцца маладому спецыялісту, каб атрымаць працу. Усе як адзін уголас цвердзілі, што з працаўладкаваннем ў яго не можа існаваць ніякіх праблем, але... Але як гэта здзейсніць практычна, ніхто канкрэтна не мог сказаць, і таму пасылалі хлопца з кабінета ў кабінет. Давялося Пятру Матылю пабываць нават у пакоі сантэхнікаў. Гэта было напрыканцы трэцяга дня яго вандроўкі па міністэрскіх кабінетах. У пакоі стаяў густы дымагарэлачны пах. Чатыры прадстаўнікі слаўнага працоўнага класа "забівалі казла". Пётр Іванавіч звярнуўся да бліжэйшага мужчыны з сінім носам і чырвонымі вачыма.

– Скажыце, калі ласка...

– Скажу.

– Можна...

– Нельга. Замежных унітазаў няма.

– Ды не, Дуст. Не тое шэпчаш, – умяшаўся ў гутарку сусед, што сядзеў злева. – Ён да Бугра папасць хоча, наконт працы.

– Сёння – не! – аўтарытэтна зазначыў сіні нос. – Ён з Манькай з методкабінета заняткі практычныя праводзіць у сябе на лецішчы. Няхай заўтра прыходзіць раніцай.

Сантэхнік, што сядзеў леваруч, падрабязна патлумачыў Мармулку сэнс сказанага сваім начальнікам:

– Раненька бярэш паўхір адзін-нуль і канаеш сюды. Усё будзе як у лепшых хатах Парыжа і Лондана. Кумекаеш?

На наступны дзень Пётр Іванавіч прыйшоў у вышэйзгаданую ўстанову роўна ў прызначаны тэрмін. Яго ўжо чакалі. Хлопцу здалося, што перад ім іншыя людзі, бо насы іх мелі звычайны колер. Ён палічыў, што памыліўся, і павярнуў быў назад, але давялося вярнуцца, бо ўсе сантэхнікі ў адзін голас зараўлі:

– Давай хутчэй!

Адразу пасля першай шклянкі іх насы і твары набылі ўчарашні колер. Сантэхнік з чырвонымі вачыма ад другога падыходу адмовіўся, сваю шклянку паставіў у водаправоднае калена і звярнуўся да Матыля:

– Хадзем. Да самога Бугра. Што вы ўсе яго баіцеся? Мужык як мужык. Можа, крыху горшы, чым я.

У прыёмнай тоўпіліся нейкія людзі. Сантэхнік нахабна-шчыра кінуў сакратару-машыністцы “Прывітанне!” і строга запытаў: “У сябе?”

– Так, – без лішніх слоў адказала маладзіца.

Бугор, перадпенсійнага веку лысы мужчына, сядзеў у крэсле і адваротным канцом ручкі з залатым пяром прачышчаў вуха. Сіні Нос Чырвоныя Вочы пацiснуў яму руку і зрабіў справаздачу:

– Сантэхнічнае абсталяванне на аб’екце ўстаноўлена.

– Ведаю-ведаю, – размінаючы старыя косці, пацягнуўся Бугор. Потым дадаў: – Не жанчына, а звер. Адна толькі скруха – вельмі дорага міністэрству абходзіцца гэты занятак... Адным словам – шчыра дзякую.

– Тады я пайшоў. Калі што, дык... А гэты таварыш да вас на прыём без запісу, – прадставіў сантэхнік Мармулка.

– Сядайце, – прапанавала сонным голасам дзяржаўная асоба.

Па ўсім было бачна, што практычныя заняткі на лецішчы закончыліся толькі раніцай.

– Слухаю вас уважліва, – пракрактаў стары гуляка.

Пётр Іванавіч Матыль падрабязна пераказаў Бугру свае турботы па працаўладкаванні, распавёў пра свае выдатныя веды ў галіне філалогіі ды пацвердзіў праўдзівасць сваіх слоў чырвоным дыпломам. Наведнік спадабаўся дзяржаўнаму чалавеку сваёй шчырасцю. Даўно такіх людзей не было ў гэтым кабінеце.

Чыстасардэчнасць Мармулка і яго жаданне верай і праўдай служыць людзям, сеяць разумнае, добрае, вечнае выклікалі ў Бугра гэткую ж рэакцыю. Яму захацелася дапамагчы выпускніку рэалізаваць свае магчымасці, здзейсніць свае мары.

Бугор выклікаў загадчыцу нейкага аддзела ды запатрабаваў:

– Пётр Матыль, выпускнік філалагічнага факультэта дзяржаўнага універсітэта, мае цвёрдае жаданне працаваць самааддана, з поўнай аддачай сілаў і атрыманых ведаў. Ён не баіцца цяжкасцей. Просіць накіраваць яго на самы адказны ўчасток – тэрыторыі, падвержаныя радыяцыі, так званая Чарнобыльская зона. Тэрмінова аформіце дакументы яму на працу ў Нараўлянскі раён.

Праз паўгадзіны Мармулак пакінуў сцены міністэрства з сэрцам, поўным журбы і смутку. Паперы, якія ён імкнуўся атрымаць на працягу некалькіх апошніх дзён, мулялі рукі, і ён паспешна пазбавіўся ад іх: выкінуў у бліжэйшую сметніцу.

## НІ ВОЛІ, НІ ДОЛІ І ХАТА НА ВАКЗАЛЕ

Раніца заўжды падштурхоўвае тубыльцаў на непрымірымыя дзеянні ці хоць бы на рашучыя памкненні. У чалавека пачынаюць свярбець жаданне помсты, прага славы, сцвярджэння адзінае праўды, вера ў вечную справядлівасць, непаўторную прыгажосць і адметнасць. Якіх толькі высілкаў дзеля гэтага ні патрабуе душа! Сапраўды, патрабуе яна шмат, і сярод іншага галоўнага – задавальнення жаданняў.

Сёння раніцай чыстая, як аркуш паперы, душа Пятра Іванавіча Матыля прагнула служэння Дабру і Справядлівасці, але пасля сустрэчы з Бугром настаў час роздуму. Ён ужо не цешыў сябе надзею, што тыя шчырыя памкненні будуць зразумелыя ды неадкладна запатрабаваныя. Цяпер было відавочна: халявы не будзе. Не будзе, хоць ты сканай на месцы.

Вечар выдаўся сумны. Камендант інтэрната, з якім Пецьку давялося ў той дзень выпадкова сутыкнуцца, запытаў:

– Калі ў вырай адлятаеш, Матылёнак?

– Дазвольце мне яшчэ пару дзён пажыць у вас, – узмаліўся пастаялец.

– А хто ты мне такі? – запытаў камендант. – Кум, сват, брат?

– Я тут пяць гадоў жыў, – Пецю хацелася заплакаць наўзрыд, каб толькі паспачувалі, бо яму зараз не было куды ісці начаваць, не было дзе ў слыннай сталіцы прытуліцца на начлег.

Камендант гучна зачыніў за сабою дзверы кабінета. Вахцёрка, якая засталася адзін на адзін з Матылём, тут жа паспешна пакруціла пальцам правай рукі ля скроні, а левай зрабіла жэст, зразумелы ўсім людзям былой савецкай краіны. І тут жа патлумачыла:

– Налівай. І ўся праблема.

Пяцігадовы пастаялец выбег на вуліцу, прытуліўся за кіёскам, пералічыў свой наяўны капітал – якраз на пляшку – ды паспяшаў у гастраном.

Камендант у кабінеце быў не адзін. Плату прыняў без супраціву і літасціва дазволіў пражыць у інтэрнаце роўна суткі, і ні хвіліны болей.

Лежачы на пустым жалезным ложку, пад бурчанне пустога страўніка Пецька Матылёнак планаваў свой заўтрашні дзень. Паколькі памкненні служыць Добраму і Вечнаму ашляхлі, трэба было думаць пра хлеб надзённы. Не лішне было б на яго і масла намазаць. Усё тое ж праклятае пытанне працаўладкавання жалезнымі абцугамі цiснула гарляк. А ўвогуле, што за пытанне? Няма аб чым думаць, калі наўкола буйным кветам цвіце камерцыя.

У маладосці ўсе мы ў пэўнай ступені максімалісты. Але сярод саміх максімалістаў можна вызначыць дзве катэгорыі людзей: максімалісты-дурні і проста нахабнікі. Першыя бяздоказна вераць у сваю шчаслівую зорку, другія – грабуць пад сябе ўсё, што могуць.

Пётр Іванавіч меў востры розум, хутка мог дадумацца да рознага глупства. А горай за ўсё было тое, што ён беспадстаўна лічыў ды быў упэўнены: мары яго хутка павінны збывацца.

Як спяваў у адной знакамітай песні гэткі ж знакаміты лавелас, дзякуй Богу, што ёсць сябры... Гэтай парадай і вырашыў пакарыстацца Матыль. Усе пяць гадоў навучання ў яго быў толькі

адзін сябра – Генадзь Патоніч. Зараз ён ужо здабываў грошы ў фірме сяброў свайго цесця і займаў пасаду галоўнага кансультанта. Як сцвярджаў ён сам, пасада даволі ўплывовая. Прэзідэнт фірмы не можа вырашыць ні аднаго пытання, не запытаўшы ў яго парады. Хто, як не сябра, дапаможа?

Шыльда – твар кожнай установы. Яна сваімі незвычайнымі выкрунтасамі ў афармленні нагадвала капрызную модную жанчыну. І чым болей у жанчыны пыхі, тым болей на яе твары парфумы. І чым большы прыбытак хоча мець кампанія, тым больш яна траціць на рэкламу. Сюды неабходна аднесці і шыльду. Галоўная шыльда фірмы “Будбумінтэрнэшнл” займала паўквартала. Вышыня кожнай літары дасягала двух метраў. На напісанне яе пайшло тры двухсотлітровыя бочкі фарбы.

Людзі – хцівыя па сваёй натуры стварэнні. Яны не прамінаюць ніколі таго, што кепска ляжыць, не ўпускаюць халявы, не адмаўляюцца ад дарэмшчыны. Як можна не заўважыць такога мілага сэрцу надпісу: “Грошы нашы – прыбыткі вашы”? І сляпы яго ўбачыць.

Пётр Іванавіч, па старой вясковай звычцы, прачнуўся з першымі промнямі сонца. Пабразгаў пустым, ужо запыленым ад доўгага неўжывання посудам у надзеі знайсці хоць нейкую скарынку. Пуста. Але гэтая жыццёвая драбяза ніколькі не зменшыла яго спадзяванняў на вялікі камерцыйны поспех.

Матыль без усялякага хвалявання замкнуў пакой, а ключ пакінуў на вахце. Тут жа ён пакінуў свой невялікі чамаданчык. Цягаць яго за сабою было проста неспадручна.

Роўна ў восем гадзінаў сонечнай раніцы Матыль ужо дзесяты раз мераў крокам даўжыню шыльды “Будбумінтэрнэшнл”. Згодна з раскладам працоўнага дня, хвіліна ў хвіліну на парозе з'явіліся тры цыбатыя асобы. У дзвюх з іх спаднічкі нагадвалі набедраныя пасы туземак з выспаў Палінезіі, трэцяя спадніцай падмятала вуліцу. Яна мела прыгожы твар, прывабны стройны стан, але ў яе, як заўважыў Пятро, калі дзяўчына папраўляла спадніцу, былі валасатыя ногі. Тое яго ніколькі не кранула. Хлопец меў намер пабачыцца напачатку з сябрам і ўжо потым завітаць да шэфа і паспяхова вырашыць усе свае пытанні.

Дзяўчаты шумна абмяркоўвалі свае начныя прыгоды і на

кліента не звярнулі ніякай увагі. Толькі пасля пятага "Можна ў вас запытаць?" адна з супрацоўніцаў, з зялёнымі вачыма і рыжымі валасамі, паведаміла: "Аблігацыі і каштоўныя паперы кампаніі прадаюцца ва ўсіх кіёсках "Саюздруку", а таксама ў спецыялізаваных абменных пунктах". Не ведалі яны таксама, хто такі Генадзь Патоніч, доўга гадалі, што за такая асоба. Пасля падказкі "Нядаўна працуе" валасатаногая аўтарытэтна сказала: "А, гэты нахабны тып... Чакай, павінен быць".

Чакаць давялося з добрую гадзіну. Сябар быў вельмі ўзбуджаны і свой душэўны стан патлумачыў коратка, але даволі абгрунтавана:

– Ірка застукала. З суседкаю. Мусіць, будзе падаваць на развод.

Да просьбы былога аднакашніка паставіўся даволі стрымана і не выказаў ніякага памкнення дапамагчы.

– Усё вырашае шэф. Я тут маленькі чалавечак. Адно толькі хачу зазначыць, што нам патрэбны ініцыятыўныя людзі. Адным словам, звяртайся да шэфа.

Неўзабаве з'явіўся і шэф. Картэж з пяці замежных аўто бясшумна спыніўся ля ўваходу ў офіс. Вольны сын стромкіх гор, акружаны дзесяткам ахоўнікаў, крыху хістаючыся ўвайшоў у будынак. Сакратаркі, як па загадзе, усталі. Першая ў знак прывітання пагладзіла чорныя як смоль яго валасы, а ён у адказ ушчыпнуў яе за цыцку. Другая – цыбатаногая – чмокнула шэфа ў носік, а ён правёў рукою па яе стане. Валасатаногая сваю прыязнасць начальніку даказала пацалункам у шчаку. І тут мужчына ўжо не стрымаўся: нягледзячы на тое, што ён начальнік, даў волю пачуццям – правёў рукою ад сядальнага месца да калена.

Садык Мамедаў распачаў вывучаць бягучыя справы фірмы з пляшкі лідскага піва. Халоднае, цягучае, яно надало новых сілаў для змагання з канкурэнтамі.

Няпрошанага наведніка кіраўнік "Будбумінтэрнэшнл" пагадзіўся прыняць толькі пасля трэцяй пляшкі, і тое таму, што палічыў яго незаконнанароджаным сынам растоўскага аўтарытэта. Думаў, што той прыйшоў браць падатак. Што ён памыліўся, Садык Мамедаў уцяміў, калі спытаўся ў Мармулка: "Дзе твая хаза?"

– Няма ў мяне хаты. Сёння з інтэрната вытурылі.

– Інтурыста? – перапытаў збянтэжаны горац.

– Няма ў мяне такіх грошай, каб жыць у "Інтурысце". Я прыйшоў да вас працаўладкоўвацца.

– А што ты ўмееш?

– Дзяцей вучыць. Я настаўнік.

– Дзеці – гэта добра, – пагадзіўся бяспутны тата, бо нават не мог прыпомніць, колькі бяспутных мамаў ён ашчаслівіў.

– А ўвогуле я ўсё магу, куды пашлюць, – намагаючыся здабыць прыязнасць, залепятаў карантыш.

– Тыванду можаш?

Узнікла хвіліна маўчання. Шэф не ведаў, як правільна вымаўляецца тое слова, а наведнік не разумеў яго. Тады Садык вырашыў удакладніць.

– Я май лом, а ты рука б'еш лом. Зразумела?

– Ой, не! Рука будзе балець.

– Значыць, не можаш.

– Не магу.

– А мне патрэбны такія, каб рука не балела.

Шэф згубіў цікавасць да наведніка і распачаў вывучаць справы далей: адкаркаваў чацвёртую пляшку піва.

Апынуўшыся за парогам, Пятро не скарыўся. Ён рынуўся ў вір камерцыі, дакладней кажучы, шукаў там цёплага месца. У канторы трэста "Бананы з Антарктыкі" тутэйшы цяжкаатлет, вагою не менш як пятнаццаць пудоў, цешыўся жуйкаю. Працу пагадзіўся даць адразу – выставіў скрынку чорнага колеру бананаў і прапанаваў:

– Вось тавар. Пакідай дакументы ў залог, а сам дуй на Камароўку. Вечарам прыносіш дваццаць баксаў мне, а навар пакідаеш у сябе. Лады?

Ад першага дотыку прадукт лопнуў і бурая слізь расплылася па скрынцы.

– Гэй ты, дзеяч! – зароў гаспадар. – Што псуеш мне дарагі тавар?

Гэта быў адзіны шчаслівы момант у той чорны для Мармулка дзень, і то дзякуючы таму, што дзверы канторы былі настолькі вузкія, што дырэктар трэста з першай спробы не змог іх пераадолець. Пётр Іванавіч праімчаў без перадыху два кварталы.

Кіраўнік трэцяй фірмы запытаў у хлопца, ці ведае ён санскрыт.

– Англійскую са слоўнікам.

Такі адказ не задаволіў гаспадара. На жаль, гэта было адзінае месца, дзе запыталі пра яго інтэлектуальныя здольнасці.

Надалей усе прапановы былі нейкія дзіўныя. Адзін камерсант прапанаваў цешыць яго ў лазні. Наступны запытаў, ці добра Матыль умее страляць з аўтамата. Яшчэ адзін – кіроўцам якіх машын можа быць. Ні да яго чырвонага дыплома, ні да яго спецыяльнасці ніхто не выявіў цікавасці.

Надвячоркам, калі ненавісныя Мармулку тлустыя камерсанты сядалі ў свае замежныя аўто ды ў кампаніі імпазантных маладых дзяўчат імчалі ў бары ды рэстараны, каб адпачыць, ён, стомлены безнадзейнымі пошукамі працы, вярнуўся ў інтэрнат па рэчы. Затрымацца тут яшчэ на адну ноч не было ніякай магчымасці: камендант адчыніў дзверы кабінета і пільна сачыў за ім. Грошай не было не толькі на пляшку, але й на вячэру. У кішэнях гуляў вецер, у жываце бурчэла.

Перасільваючы голад і крыўду, Пятро ўзяў чамадан, падзякаваў вахцёрцы ды падаўся на вакзал. Там бачылася яму адзінае прыстанішча.

## СВЕТ НЕ БЕЗ ДОБРЫХ ЛЮДЗЕЙ

Стома зрабіла сваю справу. Нягледзячы на вакзальную мітусню, Матыль адразу заснуў. Яму нічога не снілася. Але мець такі адпачынак працяглы час не давялося. Праз нейкую гадзіну часу ён адчуў, што нехта валтузіць яго за плячо. Расплюшчыў вочы і знямеў: перад ім стаялі два міліцыянты. Адзін трос яго, а другі гладзіў у гэты момант гумавы кій.

– Куды едзеце, грамадзянін?

– Дамоў, – сон як рукою зняло.

– Ваш білет?

– Няма.

– А вашыя рэчы дзе?

– Тут, – Матыль апусціў вочы долу, дзе павінен быў быць чамадан з пажыткамі.

Рэчы некуды зніклі. Паспешныя пошукі не прынеслі жаданага выніку.

– Усё зразумела, – іранічна заўважыў вартавы парадку, якому дазволілі насіць гумавы кій.

Той, хто меў права карыстацца кайданкамі, патрабавальна прапанаваў:

– Пройдземце ў аддзяленне.

Пасажыры, якія набылі білеты і мелі намер некуды з'ехаць, задаволена назіралі, як два двухметровыя міліцыянты ачысцілі залу чакання ад нізкарослага дэградаванага элемента.

У аддзяленні міліцыі было людна. Міліцыянты хуценька перадалі чарговага гаротніка дзяжурнаму і паспяшалі на вакзал па наступнага небараку. У Пятра адабралі пашпарт і новенькі чырвоны дыплом.

Гэтая справа ў міліцыі была пастаўлена на паток. Такіх, як Матыль, тут было шмат, і таму дзяжурны паспяваў толькі складваць у сейф дакументы затрыманых. Мармулка адразу змясцілі ў агульную камеру. Людзей там было многа. Яны стаялі шчыльна адзін да аднаго. Толькі ў куце было вольна. Туды і пашыбаваў новы затрыманы. Там, на адзіных у камеры нарах, склаўшы на вялізным жываце рукі, у адвольнай позе ляжаў здаравенны мужчына з прыплюшчанымі вачыма.

– Дазвольце, калі ласка, я ля вас сяду, – ціхім голасам прамовіў Пётр. – Ногі баляць. Набегаўся за цэлы дзень.

Астатнія насельнікі камеры знямелі ад такога нахабства карантыша і напружана сталі чакаць таго моманту, калі гэты "герой" пасля кароткага свабоднага палёту ўпадзе на іх, бо папярэднія спробы іншых затрыманых заваладаць хоць пядзяю вольнага месца канчаліся толькі гэткім чынам.

Слон, адзін з магутных вакзальных аўтарытэтаў апошняга часу, расплюшчыў правае вока, каб лепш пабачыць чарговага "кента" перад тым, як вярнуць яго на сваё месца. Зірнуўшы на Мармулка, ён адмовіўся ад свайго намеру. Занадта ўжо спакойна паводзіў сябе карантыш, дый выгляд ён меў даволі інтэлігентны, хоць гарнітур быў скамечаны. "Пэўна, мянты за ім увесь дзень

гойсалі, пакуль не павязалі. Нешта тут не чыстае", – адзначыў для сябе Слон. – На фінцюліну б не нарвацца".

Слон паволі падкурчыў ногі і стрымана даў згоду.

– Сядай

Матыль насцярожана агледзеў усіх прысутных і па іх напружаным маўчанні зразумеў, што яго, як і ў трэсце "Будбумінтэрнэшнл", прымаюць зусім за іншага чалавека. Каб хоць неяк усвядоміць, што за такая дробная, але ганарыстая перад ім асоба, гаспадар нараў запытаў:

– Хто будзеш?

– Пётр Іванавіч Матыль, – адказаў нахабнік усё тым жа спакойным голасам і гэтак жа дадаў: – Мармулак.

– Хведар Піліпавіч Мікуловіч, – нахіліў галаву здаравяк і працягнуў руку, – Слон.

Ад сардэчнага поціску ў Пятра Іванавіча знямела рука.

– Замялі?

– Нікчэмныя людзі, – абурана адказаў маленькі чалавек. – Укралі чамадан. Паквапіліся на старыя заношаныя рэчы. Хіба так можна?

У камеры штохвілінна прыбывала людзей. Яны давілі, душылі адзін аднаго, але нябачнай мяжы не пераступалі і спешана слухалі размову.

– Шпана. Шпана, – яшчэ болей абурана адказаў Слон. – Украсці толкам што-небудзь путнае не могуць. Колькі іх, саплякоў, ні вучы, а толку ніякага. Не могуць адрозніць свайго чалавека ад патэнцыйнага кліента. Цягнуць ва ўсіх без разбору.

Адразу было відаць, што Слон чалавек чулы, спагадлівы, і яму можна давяраць самае-самае.

– Нейкі ідыёцкі дзень, – паскардзіўся Мармулак свайму новаму знаёмцу. – Нават макавага зярняці ў роце не было. Галодны, быццам той воўк.

– Гэй, вы, быдла бязрогае, – ласкава ды пяшчотна звярнуўся да часовых сукамернікаў Хведар Піліпавіч. – Не бачыце, што чалавек галодны. Патрэбна шамалка. У каго што ёсць, ганіце сюды. Ды хутчэй.

Нейкі п'яны інтэлігент з разбітымі акулярамі і аблупленым носам прапанаваў два загорнутыя ў папяровую сурвэтку танюсенькія рэстаранныя бутэрброды з чорнаю ікрою:

– Для добрага чалавека нічога не шкода.

Закусь інтэлігента ў адно імгненне знікла ў страўніку галоднага Матыля.

Слон сэрцам адчуў, што гэтага вельмі мала. Каб улагодзіць караля мафіі, ён паўтарыў свой запыт.

– Яшчэ ў каго ёсць жрачка? Хутчэй выкладвайце, казлы смярдзючыя.

На гэты раз просьба сціплага чалавека падзейнічала на п'яную ў большасці сваёй публіку. З натоўпу пачуўся спалоханы голас:

– А сала таварыш будзе намінаць?

Пётр Іванавіч каўтнуў сліну і ў знак згоды кіўнуў галавою:

– Добра. Давай сала.

Бракавала толькі цыбулі. Шмат хто хцівым вокам глядзеў на галоднага чалавека, але не адважваўся папрасіць у яго падзяліцца спажываю. Нават сам Слон не зрабіў гэтага. Хутка не стала і сала.

Голад ашлях, прытупіў свае памкненні, супакоіўся. Зноў пачаў браць свае правы сон. Мармулак пацягнуўся, пазяхнуў ды скруціўся клубочкам на нарах. Мікуловіч, каб незнарок не патурбаваць чалавека, падцягнуў яшчэ бліжэй да сябе ногі. Сон, як і на вакзале, умомант змарыў натомленага Пятра, і ён раптоўна згубіў свядомасць ды быццам праваліўся ў нейкую прорву, толькі калі-нікалі ад задавальнення прычмокваў губамі. Слон строга паглядзеў на прысутных ды прыклаў палец да губ. Камера знямела, і ўсе прысутныя перасталі нават перашэптвацца. Яны сцераглі сон Пятра Іванавіча Матыля.

Толькі пад самую раніцу работы ў міліцыянтаў паменшала і яны пачалі праводзіць разбор адлоўленых за ноч кліентаў. Гэта не тое, што аператыўная праца, дзе можна набегацца ўдосталь, намахацца гумавым кіем, даць камусьці ў каршэнь ці самому атрымаць здачы. Зусім не цікавы занятак. Пратаколы, акты, сведкі... Сапраўднае дурноцце. Паспрабуй разбярыся, хто з іх вінаваты, хто пацярпелы.

У тую ноч дзяжурным па аддзяленні заступіў маладзенькі лейтэнант. Яго ўразіў новенькі універсітэцкі чырвоны дыплом. Як учарашні студэнт гэтай навучальнай установы, лейтэнант са спагадаю паставіўся да свайго кліента ды загадаў першага даставіць

яго ў дзяжурку. Сукамернікі, натомленыя гадзінамі маўчання, радасна-сцішана загулі. Тое, што нахабнага карантыша выклікалі першага, для іх шмат значыла, яшчэ болей гэта значыла для Слана. Не памыліўся, відаць, ён у сваіх здагадках пра гэтага чалавека. Колькі разоў даводзілася яму, Хведару Мікуловічу, бываць тут, і кожнага разу першага выклікалі яго. Адразу відаць: хоць і малы, але птушка вялікага палёту. "Не дзіва, што ўвесь дзень бегалі за ім лягавыя".

Сонны Пётр Іванавіч мала што цяміў. Сон склейваў вейкі ды хіліў галаву долу. Лейтэнант, што сядзеў насупраць, з пэўнай зайздрасцю глядзеў на яго чырвоны дыплом, потым звярнуўся да затрыманага.

– Як вы дакаціліся да такога жыцця, грамадзянін Матыль?

Соннаму Мармулку падалося, што ён у студэнцкім інтэрнаце, і нейкі чужак, які "падваліў да іх чувіх", зараз імкнецца пажартаваць з яго няздольнасці прывабіць да сябе дзяўчат. Вялым голасам ён прамармытаў:

– Каціўся, каціўся ды дакаціўся.

– Колькі ўчора ўставіў? – было наступнае студэнцка-міліцэйскае запытанне.

Тут затрыманы нечакана для сябе прачнуўся і ўсвядоміў сваё незайздроснае становішча.

– Не піў я ўчора, – вырваўся з яго душы адчайны крык.

– Трындзіш, – запярэчыў міліцыянт. – Кажы праўду, пакуль не накіраваў на экспертызу.

– Давай, – ужо спакойна пагадзіўся былы студэнт.

Лейтэнант не звярнуў на гэта ніякай увагі і задаў наступнае пытанне:

– За што цябе прыпуталі? Як цябе злапалі?

– Спаў. У крэсле. На вакзале.

– Ты што? Сур'ёзна? Зусім цвярозы спаў на вакзале... І, вядома, у цябе скралі рэчы.

– Чамадан цяганулі...

– Што ты там рабіў?

– Як што?! – Не было іншага выйсця, як хлусіць, хлусіць нахабна ды не чырванець. – Не хапіла білетаў на цягнік. Прысеў, задрамаў. Скралі рэчы, а потым забралі ў каталажку. Вось і ўсё.

У душы былога студэнта, цяперашняга міліцыянера, узнікла спагада.

– Уляпаўся ты дык уляпаўся на сваю галаву. У чамадане штонебудзь было каштоўнае?

– Паношаныя сарочкі.

– Заяву на пошукі складаць будзеш?

– Не!

– Ну, то і добра. Нам менш работы, а табе лягчэй дамоў будзе ехаць... Пастаў тут подпіс – і ты вольны.

– Як – вольны?

– Вось так. Вольны – і ўсё. Ды болей да нас не трапляй.

## САПРАЎДНЫ СЯБРА

Дзень толькі-толькі меў пачацца. Сонца яшчэ не выглянула з-за далягляду, і гмахі высотных будынкаў выдаваліся спрэс шэрымі. Лета павярнула на другую палову, і святая Ганна студзіла ўжо штораніцы. Пасля застаялага, спёртага, але цёплага паветра камеры на вуліцы па целе прабеглі лёгкія дрыжыкі. Вяртацца ў будынак вакзала, каб зноў трапіць у лапы міліцыянтам, не хацелася. Адзінае месца, дзе можна было прытуліцца чалавеку без кватэры, рэчаў і грошай, – лаўка ў скверы, што побач з Прывакзальнаю плошчаю. Матыль заняў самую апошнюю, самую далёкую, каб не муляць вока міліцэйскаму патрулю, што снаваў па алеі ўздоўж вуліцы Бабруйскай. Сеў, сціснуўся ды стаў чакаць першых промняў сонца.

Па вуліцы загрукаталі першыя трамваі, на чыгунцы лязгалі счэпамі вагонаў цягнікі. Мармулак ні аб чым не думаў, нічога не планаваў на будучае, а толькі абыякава назіраў за тым, што адбывалася наўкола. Вось нейкі стары ханыга, кудлаты, з нечасанаю галавою, абышоў сквер, пакорпаўся ў кожнай сметніцы, зазірнуў пад кожную лаўку, сабраў у рваную торбу пляшкі, што пакінулі за святую ночку пасля сябе закаханыя ды госці сталіцы, і знік за шчыльнымі радамі "камкоў". Міліцэйскі патруль яшчэ раз безвынікова прайшоўся па алеі і звярнуў на Маскоўскую вуліцу –

можа, там пашанцуе. І зноў Пётр застаўся адзін на адзін з ранішняю ахалодаю.

Мармулак дрыжаў як асінавы ліст. Лязг зубоў перасільваў грукат электрычкі. Нечакана побач нехта сеў. З вялікаю патугаю Матыль павярнуў галаву да суседа. Нікчэмны стары шарамыга сядзеў з ім побач і сваімі бляклымі вачыма глядзеў на яго.

– Задубеў? – прашамкаў бяззубым ротам пачварнага выгляду дзед.

У адказ галава хлопца затрэслася яшчэ болей.

– На, глыкні піва, – рука ў жабрака трэслася рыхтык як Мармулкава галава. – Мо дапаможа.

Адразу было бачна, што стары разбіраўся ў піве, бо набыў лідскае, але піва было таксама халоднае і ад яго дрыжыкі апанавалі ўсё цела. Халодная шурпатая рука легла на лоб.

– Тэмпература ў цябе, – упэўнена зазначыў стары і сказаў, – Табе трэба адляжацца дзень-другі. Ідзі дамоў.

– А куды я пайду? – хлюпнуў носам Матыль. – Мне няма куды ісці.

– Справа зразумелая... тады хадзем да мяне.

Двухпакаёвая кватэра сучаснага жабрака мела даволі прыстойны выгляд. На сценах і падлозе – персідскія дываны як сімвал дабрабыту. Крышталёвыя вырабы ламалі паліцы шаф, а паліцы, поўныя кніг, ды піяніна казалі штосьці і пра духоўныя запатрабаванні таго, хто тут жыў.

“Жабрацтва, відаць, прыносіць някепскі прыбытак”, – адзначыў для сябе Пятро, але сам гаспадар ніяк не патлумачыў тае сітуацыі, а толькі заўважыў:

– Ты ў мяне першы госць.

Першы госць няведама ад якога часу сапраўды пачуваў сябе дрэнна. Надта балела галава, ва ўсім целе адчуваўся жар, раз-пораз стала пакідаць свядомасць. Хацелася як мага хутчэй легчы ў ложак.

Гаспадар думаў на гэты конт інакш. Напачатку ён прагледзеў дакументы хворага. Прагледзеў больш уважліва, чым у міліцыі. Пасля гэтага прапанаваў абмыцца ў ванне. Пятро яшчэ помніў, як зайшоў туды і ўключыў ваду. Прачнуўся ён толькі праз тры дні ў чыстым ложку. На століку стаялі лекі, у пакоі была цішыня. Да

прыбіральні і назад давялося ісці, трымаючыся за сценку. Хвароба сапраўды адняла шмат сілы.

Гаспадар з'явіўся пад вечар. Кішэні яго былі набітыя папяроваю драбязою, у асноўным пяцідзесяцікапеечнымі купюрамі. Стары вылажыў свой дзённы здабытак на стол, а сам пайшоў у ванну. Праз паўгадзіны часу вярнуўся, пераапрануты ў спартыўны імпартны касцюм. Схадзіў на кухню, прынёс адтуль пляшку каньяку, поўны сподак нарэзанай кружкамі сухое каўбасы і пару лустачак кменнага хлеба.

– Праз гадзіну згатую вячэру. А зараз давай па кілішку. Дзень быў не самы кепскі. Табе, як доктар, таксама рэкамендую. Кровазварот будзе лепшы.

На вячэру ў жабрака былі сухое віно, салата з кальмараў, смажаная качка ды разнастайная гароднiна. Свой "бедны" стол доктар патлумачыў проста:

– Не трэба на ноч набіваць цяжкаю ежаю страўнік. Тым самым ты ашчаджаеш сваё сэрца.

Упершыню паміж імі адбылася шчырая гутарка.

– Завуць мяне Станіслаў Антонавіч. Былы ўрач-тэрапеўт. Кандыдат медыцынскіх навук. Зараз працую жабраком на Маскоўскай. Працай задаволены. Заробку хапае. Як дакаціўся да такога жыцця? Заеўся з начальствам. Папрасілі. Доўга хадзіў, дабіваўся праўды. Потым надаела. І, як цяпер зразумеў, стаў на правільны шлях.

Споведзь была шчыраю, бо госць маўчаў і, добрасумленна знішчаючы кавалак за кавалкам качку, даваў магчымасць гаспадару выгаварыцца.

– Цябе таксама разумею, – смакуючы віно, развaжаў далей Станіслаў Антонавіч. – Закончыў ВНУ. Вялікае жаданне служыць Айчыне, грандыёзныя планы. А на самай справе ўсё выйшла наадварот. Няма прапіскі, няма працы... Згублена ўсялякая надзея на лепшае.

Гутарка, пэўна, доўжылася б і надалей, але гаспадару трэба было зноў ісці на працу. Ён, як сапраўдны інтэлігент, папрасіў прабачэння ды зазначыў:

– Я цябе не ганю. Адлежвайся. Ад'ядайся. Набірайся сілы, а чым потым зaймешся – будзе бачна. Лічы, я твой сябра.

І так прыемна было ад такіх слоў, што захацелася спяваць. Такое можа сказаць толькі добры чалавек!

## ПРАКТЫЧНЫЯ ЗАНЯТКІ ПА ЖАБРАЦТВУ

Праз два тыдні Мармулак канчаткова ачуняў, набраўся сілы ды моцы. Яму нават захацелася абняць ды пацалаваць жанчыну. Такога ён даўно за сабою не прыкмячаў.

Аднаго разу надвячоркам, пасля ўдалага працоўнага дня, Станіслаў Антонавіч вярнуўся дамоў надзвычай задаволены. Яго жабрацкі прыварак быў як ніколі вялікі. Яму казачна пашанцавала. Нейкай замежнай дэлегацыі тэрмінова спатрэбіўся стратэгічны тавар краін СНД – гарэлка. Іх аўтобус бясшумна спыніўся якраз насупраць крамы, ля ўваходу ў якую было працоўнае месца былога тэрапеўта, кандыдата медыцынскіх навук. Тут, як і ў кожнай іншай справе, павінен быць зачын. Паперадзе калоны замежных турыстаў па нашу айчынную гарэлку крочыў мажны трыбухаты мужчына, падперазаны шырокаю дзягаю, на якой зухавалася тоўстае партманэ. Не бачачы за сваім жыватом дарогі, замежны госць нечакана спатыкнуўся на нашым роўным тратуары ды ледзь быў носам не ўзараў яго. За месца трэба плаціць, звычайна ў такіх выпадках кажуць тутэйшыя людзі, і чужынец тое, відаць, ведаў, бо хуценька адшпіліў свой кашэль, выцягнуў дзесяцідаляравую банкноту і падаў жабраку, які, відаць, быў адказны за парадак на гэтай тэрыторыі. Астатнія турысты, што крочылі стромкаю шарэнгаю, быццам салдаты савецкага войска на кастрычніцкім парадзе, адразу прыцішана загаманілі ды падтрымалі пачын свайго тлустага сябра.

Чаго толькі не было ў той дзень у капелюху Станіслава Антонавіча! Даляры, маркі, фунты, франкі, польскія злотыя. Усё тое лішняе, што муляла кішэню замежнаму турысту. Ад такой колькасці ды разнастайнасці грошай, што даводзілася пабачыць упершыню, у Мармулка перахапіла дых.

Жабрацтва прывучыла кандыдата медыцынскіх навук да скупярдзяйства. І тое Пятро адчуваў штодня сваім страўнікам:

чым болей набіраў ён сілы, тым бяднейшы быў стол гасціннага гаспадара. Сёння Станіслаў Антонавіч кайфаваў. За беларускія шушыкі, што расшчодрыліся добразычлівыя суайчыннікі, ён накупляў дзве торбы харчоў, якія не месціліся на стале. Не пашкадаваў нават распачатую калісьці пляшку каньяку.

Усялякі поспех неабходна абмываць, інакш яе вялікасць Фартуна павернецца тылам. Яе, як якога-небудзь паганскага бажка, трэба задобрыць ахвяраю. Тады ўсё будзе добра. Фартуна – жаночага роду асоба і, як усялякая кабета, ад Бахусавага напою не адмовіцца.

Усе людзі нападпітку гаваркія, а тым болей людзі навукі, выкладчыкі, хоць і ў мінулым, бо сваю капейку яны здабываюць языком.

Сёння ў гутарцы п'янаму жабраку не было роўных. Напачатку яна нагадвала споведзь чалавека пра сваё гаротнае жыццё-быццё ў навуцы. Потым споведзь ператварылася ў казанне пра жабрацкія прыгоды, а ў рэшце рэшт распачалася звычайная лекцыя аб перадавых метадах жабрацтва і атрыманні ад гэтага звышпрыбыткаў.

– У гэтай справе, каб дасягнуць поспехаў, неабходна заўжды выконваць два залатыя правілы: стварыць свой імідж і знайсці прыбытковае месца.

З першай пляшкаю каньяку было пакончана, і тут жа на стале з'явілася новая. Як ні кажы, а п'яная душа – шчодрая душа.

– Калі ты жадаеш...

П'яны Мармулак не даў магчымасці гаспадару закончыць сваю думку.

– Вядома, жадаю, – выпаліў ён на адным уздыху. – Трэба ж неяк капейку здабываць ды на ногі станавіцца.

– Тады заўтра я вазьму цябе з сабою. Паглядзіш, што да чаго, прыкінеш, а потым будзем гутарыць далей.

Жабрацтва – не толькі цяжкая, але і адказная праца. Хочаш не хочаш, а ісці мусіш, нягледзячы на дождж, снег, мароз, непагадзь, дрэнны душэўны стан, хваробу. Не пойдзеш – і тваё месца будзе занята канкурэнтамі. Тым болей людное.

Нягледзячы на тое, што ён быў п'яны як цэп, нават не мог

цвёрда трымацца на нагах, Станіслаў Антонавіч у дзевяць гадзін вечара апрануў свой бутафорскі – лата на лаце – касцюм, раскудлаціў ва ўсе бакі на галаве валасы ды пайшоў. На гэты раз не пашанцавала. Заробак быў мізэрны. Людзі, якія вырашылі перад сном прагулящца са сваімі сабакамі, лішніх грошай пры сабе не мелі. Ды натрапіўся канкурэнт-прыблуда, нахабны і дужы. За нейкія пяцьдзесят капеек уваліў далонню па левай шчацэ.

Пятро ў гэты час не спаў. Разагрэты каньяком і жаданнем зарабіць шмат грошай, ён марыў аб шчаслівай жабрацкай долі.

"І такім чынам можна будзе добрыя грошы зарабіць". Яго ніколькі не палохалі часовыя цяжкасці новага сябра. Кандыдат медыцынскіх навук, не выбіраючы слоў і выразаў, яшчэ добрыя дзве гадзіны гучна мацюкаўся ў суседнім пакоі.

Раніцай Станіслаў Антонавіч быў ужо не такі гаваркі, як учора вечарам, але ў адносінах Матыля заставаўся такім жа прыязным ды шчырым, як у словах, гэтак і ў думках. Прыпухлая шчака сёння як найлепш дапаўняла імідж жабрака.

Усё было здзейснена як задумана: малады чалавек навідавоку ў людзей аказаў паслугу старому, хвораму ды нямогламу мужчыне: дапамог перайсці вуліцу ды падвёў да крамы. Ніхто з прахожых не здагадваўся, што папярэдне малады чалавек атрымаў ад жабрака на дзве пляшкі піва і павінен тут будзе сноўдацца па вуліцы туды-назад ды пільна назіраць за ім увесь дзень.

Першы паказальны ўрок па жабрацтву прайшоў удала.

Усё тое паўтарылася і на наступны дзень.

Пасля тыднёвага тэарэтычнага навучання Станіслаў Антонавіч, як былы выкладчык, зразумеў, што час пераходзіць да практычных заняткаў.

– Трэба думаць пра справу, – неяк падчас вячэры прапанаваў ён.

– Што мне рабіць? – Пятро меў пэўную зацікаўленасць ды без пярэчання пагадзіўся і з гэтаю прапановаю.

– Тут справа сур'ёзная. Каб табе спачувалі і падавалі, неабходна мець патрэбнае аблічча. Такое, каб, глянуўшы на цябе, у людзей на вачах з'яўляліся слёзы, а рука сама цягнулася да тоўстага партманэ і даставала больш важкую паперку. Простым "падайце" нашых людзей не расчуліш. Вось, скажам, каб у цябе быў апалены твар...

Мармулак жахнуўся і паспешна крануў пальцамі лоб, нос, вушы.

– ... не было рук ці ног...

Будучы жабрак з недаверам паглядзеў на свайго "старэйшага брата".

– ... усё тады было б значна прасцей. Павесіў на цябе пару лахманоў – і ўперад. А так...

– Можа, ногі пакінем? – з недаверам у голасе выказаўся Мармулак.

Станіслаў Антонавіч на нейкую хвіліну задумаўся.

– Ногі, вядома, адразаць не будзем, але... Адным словам, у мяне будзе такая прапанова.

Тут жа было вырашана ператварыць Пятра Іванавіча Матыля ў бязвінную ахвяру міжэтнічнага канфлікту. Дзеля гэтага неабходна было падвязаць ці прывязаць адну нагу ды выставіць шнар на руцэ, які пакінула ў дзяцінстве каса пры няўдалай спробе навучыцца касіць.

Раніцай наступнага дня Станіслаў Антонавіч дастаў з кладоўкі нейкае прыстасаванне – дошку з прывязанымі да яе рамянямі ды, сагнуўшы ў калене левую Мармулкаву нагу, увязаў яе, а сам пайшоў "на працу". Пятро Іванавіч згодна з парадамі старэйшага жабрака, быццам той ёга, сеў на дыване пасярод пакоя. Нага адразу зацерпла ды стала балець. Яму захацелася ўстаць, вызваліць ад путаў нагу ды выкінуць гэта ідыёцкае прыстасаванне.

Нечалавечыя пакуты ён цярпеў толькі паўгадзіны часу. Калі перад вачыма паплылі чорныя кругі, Мармулак паспешліва развязаў матузкі.

Жабрацкі хлеб стаў ужо не такі прывабны, як раней.

Настаўнік адразу, як толькі пераступіў парог кватэры, даведаўся пра справы вучня, пахваліў яго і адразу зазначыў, што неабходна паўтарыць. На гэты раз вучань сядзеў з працягнутаю рукою на дзесяць хвілінаў даўжэй і страціў прытомнасць. Толькі з пятага разу змог Матыль праседзець гадзіну часу.

І так пацягнуліся беспрасветныя дні навучання. Штодня Станіслаў Антонавіч прыдумваў усё новыя і новыя заданні. Мармулак то несупынна шаптаў: "Падайце інваліду", то намагаўся

 





пусціць слязіну, то прымушаў дрыжэць руку. Кожны дзень ён павінен быў здзяйсняць нешта новае.

Толькі праз месяц закончыўся жабрацкі курс. Падчас іспытаў Матыль прасядзеў нерухома дзесяць гадзінаў, адначасова выконваючы па просьбе настаўніка тое ці іншае практыкаванне.

Станіслаў Антонавіч застаўся задаволены сваім вучнем.

## ПРАЦА ЯК ПРАЦА

На наступны дзень быў праведзены першы практычны іспыт. Іспыт сапраўдны, з выездам на аб'ект.

Аб'ектам быў абраны адзін гастраном на выездзе з горада. Тут звычайна рабілі пакупкі правінцыйныя аўтамабілісты ды іх пасажыры, што наведвалі сталіцу, каб набыць нейкія дэфіцыты, якія тутэйшыя камерсанты набылі на варшаўскім стадыёне. Асартымент у краме быў небагаты: некалькі гатункаў каўбас, хлеб ды багаты выбар гарэлкі. А што яшчэ больш патрэбна нашаму чалавеку, каб пачаставаць сваіх сваякоў ды абмыць удалыя пакупкі ў сталіцы? Хоць аб'ект не з лепшых, бо наведвальнікаў яго вельмі цяжка расчуліць (гэта не інтэлігенцыя з праспекта Скарыны), але для навукі вельмі прыдатны. Людзі тут прыезджыя, выпадковыя. Ніхто табе не заглядае ў твар, не вывучае тваю "калецкую" постаць. Калі мае намер падаць ды прыпыніцца на хвілінку – болей ты ніколі іх не пабачыш.

Мармулак меў належны жабрацкі выгляд. Акрамя калецкай нагі, ён кульгаў і на другую нагу. Кульгаць па-сапраўднаму яму дапамагалі цвікі, забітыя ў падэшву чаравіка сорак пятага памеру. Шнар на руцэ, папраўлены чырвонаю фарбаю, выглядаў як сапраўдны. Папярэдне ён два дні не галіўся, і рыжае шчацінне густа ўсеяла ніжнюю сківаіцу ды надало твару звярыны выгляд. Скамечаны гарнітур як нельга лепей дапаўняў ягоны імідж. Такому можна і падаць.

З вялікі патугамі дакульгаў да ўваходу ў краму. Сеў. Паклаў на зямлю скамечаную шапку. У яе апусціў "вавёрачку" – пяцьдзесят капеек Нацыянальнага банка незалежнай ды самастойнай дзяржавы



 

Рэспублікі Беларусь, папярэдне “на шчасце” папляваўшы на яе. Яшчэ пяцьдзесят капеек узяў у руку, выставіўшы на паказ пісяг. Паставіў перад сабою картонку з надпісам: “Падайце ахвяры Прыднястроўскай вайны”, надаў твару жаласлівы выгляд і стаў чакаць, калі ў шапку штосьці ўпадзе. Першай на яго звярнула ўвагу прыбіральшчыца крамы. Запыт яе быў катэгарычны: “Адкуль гэты абарванец тут узяўся?” Матыль вымушаны быў распавесці гісторыю пра тое, як дзетдомаўскі сірата трапіў у савецкае войска ў дывізію слаўнага камандарма Лебедзя, што месцілася ў Прыднястроўі. Калі распаўся Савецкі Саюз, ён і надалей працягваў служыць там, бо вяртацца не было куды. Калі паранілі, звольнілі, а пакалькі грамадзянін Беларусі, то стаў нікому не патрэбны. А мясцовыя чыноўнікі ўвогуле ім грэбуюць. Дзе цябе скалечылі, там і пенсію атрымлівай, кажуць.

Легенда падзейнічала на жанчыну. Яна хутка вярнулася, паклала ў шапку два рублі ды падала канапку. Тут жа прыпынілася некалькі вясковых маладзіц, што выйшлі з іржавага “мерсэдэса”, і падтрымалі прыбіральшчыцу. Настрой узняўся, душа павесялела. Як кажуць людзі, жыць можна! Але хутка абставіны змяніліся. Неўзабаве да Мармулка падышла жанчына ў адзенні, якое нічым не адрознівалася ад ягонага, – ірванае і скамечанае. Твар колеру ўзыходзячага сонца. Нос – пераспелая ажына. У дзвюх торбах – нейкія парэшткі ежы са сметніцы. З торбаў і ад самой жанчыны ішоў нясцерпна едкі пах. Гэтая кабета была катэгарычна-непрымірымая да яго, бо бачыла ў ім свайго канкурэнта, а значыць першага ворага.

– Пайшоў прэч, абарванец, – з гэтымі словамі яна замахнулася торбаю на Пятра.

Няведама, як пайшлі б справы далей, але ў гэты момант побач апынуўся Станіслаў Антонавіч, які адштурхнуў жанчыну. На лямант выбеглі прыбіральшчыца і загадчыца крамы. Словамі і кулакамі яны пагналі жабрачку прэч.

У той першы дзень працы Матыль здабыў грошай на дзве пляшкі гарэлкі.

Яшчэ тры дні запар знаходзіўся побач з Мармулкам яго надзейны сябра, а калі ўпэўніўся, што вучань прыжыўся там, пайшоў займацца сваёю справаю.



 





Жабрацтва – праца, як усе іншыя: патрабуе пэўных высілкаў. Неабходна выходзіць і ў дождж, і ў снег, у мароз і спёку.Адно, чым цешыў сябе Пятро, ён быў нечым падобны на камерсанта: свае грошы здабываў сам. У такіх жа ўмовах даводзілася працаваць калгаснікам, будаўнікам, але заробак свой у большасці атрымлівалі праз два, а то і тры месяцы. Каб хоць неяк змагацца з інфляцыяй, стаў абменьваць "зайчыкі" на даляры. Шмат каштоўных парадаў атрымаў ад Станіслава Антонавіча. Настаўнік не гнаў яго з кватэры, але ўжо пад весну, калі бабулькі распачалі прадаваць маленькія букецікі пралесак, а птушкі, абуджаныя спрадвечным інстынктам, распачалі віць гнёзды, стаў раз за разам распавядаць сексуальныя анекдоты.

Увідавочкі было зразумела, што неабходна шукаць новае месца жыхарства.

Усё вырашылася само сабою. Аднаго разу Мармулак выбраўся ў горад (так тыя, хто жыве на ўскрайку, называюць цэнтр Мінска), купіў у кіёску "Свабоду" ды прысеў за столікам ля кафэ "Вясна" папіць піва. Насупраць яго сеў мужчына сярэдняга веку і, як у старога добрага знаёмага, запытаў:

– Ты ўжо не працуеш?

– Працую, – незадаволена прабурчэў у адказ Пятро.

– Усё на тым жа месцы? – было такое ўражанне, што незнаёмец сапраўды ведае, чым ён займаецца.

– Там, вядома.

– Далекавата, скажу табе папраўдзе, – сербаючы піва, працягваў гутарку непрыязны з першага пагляду тып. – Месца не бойкае. Навару малавата... Мне пра цябе Стась распавядаў. Калісьці ў адным інстытуце разам вучыліся. Ён жаніцца надумаў. А я хачу крыж на сваім занятку паставіць. Стаміўся, хачу адпачыць. Ёсць нейкі капіталец. Махну на поўдзень, у Ялту. Там састарэлая цётка жыве, абяцала адпісаць на мяне хату з умоваю, што буду даглядаць яе. Калі жадаеш, можаш заняць маё месца. Даволі зручнае і прыбытковае.

– Дзе?

– А вось тут, непадалёк. У падземным пераходзе ля ГУМа. Як уверх падымацца да універсама.



 

– А мяне адтуль ніхто не пагоніць? – гэта была не лішняя перасцярога.

– Дап’ем піва, і я табе ўсё пакажу на месцы ды яшчэ пазнаёмлю з людзьмі, якія там працуюць. Не хвалюйся, усё будзе нармалёва. Калі жабрак жабраку не дапаможа, дык нам тут няма болей на каго спадзявацца.

Незнаёмец, які так і не назваў сваё імя, паказаў тое месца, дзе ён здабываў сабе хлеб з маслам, пазнаёміў з суседзямі ды папярэдзіў на ўсялякі выпадак, каб не крыўдзілі ягонага брата. Потым яны выпілі яшчэ па піву ды на тым развіталіся, каб болей ніколі не сустрэцца.

Хоць у жабрацкім бізнэсе і шанцавала Пятру Матылю, але вялікага прыбытку тое не прыносіла. Хацелася яшчэ болей. І ён не губляў надзеі, што такое рана ці позна здарыцца.

## ДЗЕЛАВАЯ ПРАПАНОВА

Падземны пераход ля ГУМа – сапраўды бойкае месца. Туды-сюды праносіліся цыбатыя дзяўчаты, і іх каленкі мільгалі якраз на ўзроўні Матылёвага носа. Іншы раз надыходзіў момант, калі нельга было стрымаць свае памкненні. Прабягалі навучэнцы гуманітарнага ліцэя ды студэнты з філфака, гістфака і філасофскага фака. Важна шпацыравалі мажныя пані. Шаркалі нагамі старыя кабеты ды малыя дзеткі. Людзі справы нават не глядзелі ў яго бок, і толькі кожны дзесяты выцягваў з кішэні тоўстае партманэ ды даставаў адтуль адну-дзве “вавёркі”. Аднаго разу ля яго мільгануў Генадзь Патоніч, у скураной куртцы, з чорным кейсам у руках. Адразу відаць: стаў крутым камерсантам. Мармулка ён не пазнаў ці проста не захацеў пазнаваць.

Ужо некалькі дзён ля яго круціўся нейкі малы. Хлопцу было не болей як дзесяць гадоў, а нахабства, відаць, на ўсе сто. У той дзень ён паклаў у шапку “зайца” ды пастаяў хвіліну, заціснуўшы ў кулаку “бабра”.

– Дзядзечка, а дзядзечка. У вас, пэўна, нага зацерпла, варта перамяніць...

– Кыш, надаядала, – прагнаў яго прэч Мармулак і замахнуўся гамараю.

Хлопец хуценька знік, але з'явіўся апоўдні і тут жа забраў свайго "зайца" назад.

Ад крыўды з крыкам "Рабуюць інвалідаў" Мармулак ускочыў, але тут жа ўспомніў, што ён аднаногі калека, і ўпаў назад ды заплакаў.

Нейкі падарожны ўспрыняў тое за страшэнныя пакуты небаракі ад збытку нявыхаванага падлетка ды расшчодрыўся на "ваўка".

Вечарам гэты малы сустрэў Матыля ля ўваходу ў інтэрнат.

У той дзень зоркі да жабракоў былі неласкавыя, і мінакі выдаткавалі толькі адну мінімальную плату ў памерах, нядаўна прынятых Вярхоўным Саветам. Мармулак не меў настрою. Дзеля паразумення хлопец выцягнуў з цэлафанавага пакета пляшку гарэлкі і запытаў:

– Можа, у госці запросіш?

– Калі так, то праходзь.

Цяперашняе прыстанішча Пятра Іванавіча месцілася ў падвале інтэрната, якраз ля самых трубаў усіх відаў каналізацыі. Цёплае, утульнае месца, і плошчы дастаткова для пражывання. Камендант, як старому сябру, дазволіў жыць тут за пляшку "Рускай" у тыдзень. Замінала адна толькі непрыемнасць: гулка лілася вада ў начной цішыні, калі нехта з пастаяльцаў па пільнай патрэбе хадзіў у гэты час.

Хлопец з выглядам боса сіцылійскай мафіі агледзеў памяшканне і прысвіснуў.

– Ты ўсё ж не дзяржаўны служачы. З тваім заробкам можна прыдбаць што-небудзь лепшае, – потым павярнуўся тварам да Мармулка і працягнуў руку.

– Паколькі тваё імя і мянушку я ведаю, то будзем знаёмы. Геракл, – худы, быццам тая былінка ў бязводнай пустыні Сахара, падлетак без усялякай усмешкі назваў сваю школьную дражнілку.

– Засушаны, – іранічна дадаў здаровы інвалід.

– Так жартаваць з будучым кампаньёнам нельга, – ціха ды самаўпэўнена зазначыў хлопец і тут жа папярэдзіў: – Наступным разам такі жарт абыдзецца табе ў сто баксаў.

## У нас



Пасля першай чаркі Геракл стаў яшчэ болей сур'ёзны.

– Прапаную супрацоўніцтва. Ствараем з табою невялікі канцэрн.

– Картэль інвалідаў-падлеткаў. І я так мяркую, што пасаду галоўнага калекі хочаш заняць сам.

– Быў час, калі такіх вясёлых, як ты, аб'ядноўвалі ў лесанарыхтоўчыя брыгады ды ў Сібір пасылалі, будаваць светлую будучыню.

– Я таксама чалавек справы, – нечакана для сябе цвёрда прамовіў Мармулак. – І ў першую чаргу хацеў бы ведаць сутнасць гэтай прапановы.

– Нарэшце пачуў сур'ёзную гутарку, – Геракл паволі наліў у рыжыя ад вады з-пад крана "малянкоўскія" гарэлкі. – А сутнасць справы ў тым. Пакольki вас, жабракоў-калекаў, сапраўдных і манюкаў, распладзілася што камароў увесну, і адзін у аднаго вы адбіраеце кавалак хлеба, чыніце розныя звады, высвятляеце гамарамі адносіны, берацеся за чубы, неабходна проста стварыць аб'яднанне жабракоў, каб навесці ў вашым асяроддзі хоць нейкі парадак. Слушна я кажу ці не? – запытаў малы ды выпіў.

– У нечым маеш рацыю, – пагадзіўся Мармулак. – Вось толькі як здзейсніць гэта на самай справе?

– Кожная справа павінна быць навукова абгрунтавана. Пагадзіся, што так. А калі так, то мы павінны выкарыстаць у гэтым выпадку навуковую тэрміналогію. Больш правільна было б выказацца наступным чынам: неабходны механізм рэалізацыі гэтай ідэі. Я лічу, што мы ў першую чаргу павінны скласці спісы ўсіх, хто жабруе. Гэта непасрэдна наш працоўны кантынгент. А далей...

Лекцыя Геракла пра жабракоў і іх адносіны паміж сабою была змястоўная, удала падрыхтаваная. Прамоўца, нягледзячы на сваю маладосць, меў добрыя прамоўніцкія здольнасці. У яго выказваннях адчуваўся пэўны жабрацкі досвед. Мармулак, стаіўшы дыханне, не прапускаў ніводнага слова. А галоўнае – верыў.

– ...Вядома, што не ўсе жабракі нам падыходзяць. Некаторых увогуле варта пазбавіць ліцэнзіі на занятак гэтым відам прадпрымальніцтва. Знойдуцца такія, хто не захоча супрацоўнічаць з намі, не захоча падпарадкавацца нам. З гэтымі "муджахедамі" ці "індзейцамі" нам давядзецца весці непрымірымае змаганне. Тут

неабходна будзе задзейнічаць нават міліцыю. Удзельнікі нашай арганізацыі павінны будуць пералічваць нейкую частку свайго прыбытку ў агульную касу. Зразумей, інакш мы не зможам існаваць. Мы, у сваю чаргу, бярэм на сябе абавязак абараняць іх ад розных прайдзісветаў і дапамагаць у выпадку хваробы, пры ўмове, што гэты інвалід у будучым нам спатрэбіцца. Каб наша арганізацыя распачала сваё існаванне, мы павінны будзем правесці вялікую працу. Галоўнае – удала падзяліць горад на раёны, дзе нашыя людзі будуць здабываць капейку. У кожнага ўдзельніка нашага аб'яднання, згодна з яго спецыялізацыяй, будзе свой раён, папросту кажучы, свая дзялянка...

– У Ільфа і Пятрова вычытаў?

– Слушную ідэю не грэх і пазычыць. Тым болей, што аўтарскі ганарар плаціць не давядзецца. Усё гэта робіцца дзеля таго, каб не было сярод вашых братоў звадаў і мардабою... У будучым нам неабходна будзе набыць тэхніку. Напрыклад, мікрааўтобус, каб дастаўляць так званых інвалідаў на месца працы.

Пятру Іванавічу Матылю прапанова вельмі спадабалася. Усё разлічана, дакладна выверана, грунтоўна абдумана, узважана. Толькі адно пытанне хвалявала тут Мармулка: чаму менавіта да яго з такою прапановаю звярнуўся Геракл? Чым ён прыглянуўся хлопцу, калі вакол столькі калекаў?

Адказ быў на дзіва просты і смешны. Адначасова ў ім адчуваліся цвярозасць розуму хлопца і яго практычнасць.

– Ну, не стану я рабіць такія прапановы двухметроваму амбалу, які ў любы момант можа надаваць мне ў каршэнь ды забраць грошы. З табою я магу паваяваць, пацягацца... А ўвогуле, можаш лічыць, што ты мне падабаешся. Ха-ха! Мармулак.

Апошнюю выпілі за росквіт новай фірмы.

У той вечар яны рассталіся шчырымі сябрамі і з цвёрдаю дамоваю заўтра сустрэцца зноў, каб распачаць вялікую працу.

## ФІРМА ВЕНІКАЎ НЕ ВЯЖА

Фірма "Будбумінтэрнэшнл" па прапанове свайго новага супрацоўніка Генадзя Патоніча распачала выпуск каштоўных

папераў. Такіх папераў зараз, вядома, выпускаецца занадта шмат. Купляюць іх звычайна самі акцыянеры, іх сваякі, знаёмыя ды проста дурні. Кожны з іх, як кажуць людзі, мае свой шкурны інтарэс. Генадзь Патоніч добра ведаў псіхалогію простага абывацеля і таму прапанаваў выпусціць акцыі пад тысячу працэнтаў гадавых. Такая прапанова ўвогуле мяняла звычайныя навуковыя погляды на банкаўскую справу і бязмежна радавала простага чалавека. Яшчэ не пераваляліся ў нашай дзяржаве аматары халявы! Яны ласыя не толькі на пустыя паперкі, але і на пустыя абяцанні. Савет дырэктароў адразу пагадзіўся з такою прапановаю. Вялікая сіла рэкламы на тэлебачанні зрабіла сваю справу. Людзі, як толькі пабачылі, што Федзя з сіне-фіялетавым носам ды аблігацыямі ў руках сядае ў шыкоўны "мерс", валам паваліліі ў прыёмныя пункты кампаніі. Нават старэнькія бабулі з вялікаю ахвотаю стаялі ў шматгадзінных калейках: напачатку, каб атрымаць пенсію, а потым, каб абмяняць іх на каштоўныя паперы "Будбумінтэрнэшнл". Шчаслівыя ўладальнікі незразумелага колеру паперак нават у сне лічылі свае прыбыткі. Мроіліся ім слава Ракфелера ды пяшчотнае гавайскае сонца.

Справы фірмы неспадзявана пайшлі ўгору. Паступленне грошай было настолькі вялікім, што кіраўніцтва яе тэрмінова вымушана было прыкупіць БМП дзеля таго, каб перавозіць грошы з прыёмных пунктаў у банк.

Патоніч імкліва пачаў рабіць кар'еру. Яго адразу ўвялі ў Савет дырэктароў ды прызначылі намеснікам генеральнага дырэктара. Каб павысіць, так сказаць, сваё рэнамэ, ён выказаў яшчэ адну слушную прапанову: штодзённа за выручаныя грошы скупляць інвалюту ды змяшчаць яе на валютны рахунак у дзяржбанку. Дырэктары, з якіх толькі адзін скончыў ветэрынарны тэхнікум, а астатнія здолелі набыць усяго сярэднюю і няпоўную сярэднюю адукацыю, таксама адразу пагадзіліся і з гэтаю прапановаю, але саступіць сваё дырэктарскае крэсла добраахвотна ніхто не захацеў. Зайздросныя языкі пачалі нашэптваць, што гэты малады чалавек занадта разумны і таму вельмі хутка кепска скончыць.

У той вечар грашовыя паступленні былі асабліва вялікія, і генеральны дырэктар фірмы Садык Мамедаў вырашыў асабіста

правесці абмен шушыкаў на зялёненькія. Папярэдне ён памыў рукі грузінскім каньяком ды выпіў пляшку армянскага, павячэраў гуссю з яблыкамі, якую яму асабіста даставілі з рэстарана "Планета". БМП з уключаным рухавіком чакала Мамедава ля запаснога выхаду, аднак раней ён звязаўся са сваім земляком Садыкам Ахмедавым, што кіраваў філіялам тутэйшага камерцыйнага банка, і дамовіўся пра дэталі правядзення будучай аперацыі. Шлях паміж фірмаю і філіялам банка быў кароткі, але вайсковая тэхніка, згодна з тэхнічнымі характарыстыкамі, магла ехаць з хуткасцю не болей як сорак кіламетраў у гадзіну. Таму картэж з аднаго БМП і трох БМВ пераадолеў гэтую адлегласць за паўгадзіны. І гэта нягледзячы на тое, што міліцыянты перапынілі ўсялякі рух па праспекце Скарыны, а картэж Старшыні Вярхоўнага Савета пусцілі ў аб'езд. Пры гэтым міліцыянты на кожным скрыжаванні стаялі на "зважай" ды прыкладвалі руку да фуражкі.

Пакуль экспедытары і касіры лічылі грошы, Садык Мамедаў і Садык Ахмедаў абмывалі справу. Былі тосты, пажаданні, мроіліся грандыёзныя планы ды казаліся жалезныя абяцанні.

Праз дзве гадзіны, калі "зялёныя" былі шчыльна ўкладзены ў кейс ды прагучалі развітальныя словы, Садык Мамедаў адпусціў БМП і БМВ, а сам сеў за кіроўцу машыны. Тут яму захацелася з'есці звычайнае марожанае. Мінуўшы скрыжаванне з вуліцаю Леніна на чырвонае святло, Садык спыніў легкавік ля ўваходу ў падземны пераход.

...Пляшкі гарэлкі на дваіх для звычайнага мужчыны мала. Тое адчуваў і Мармулак. Гадзіна была не надта позняя. Звычайная, шарая. Не ўсе яшчэ людзі пайшлі спаць і шмат хто без занятку швэндаўся па вуліцы, таму без асаблівага клопату можна было здабыць пару рублёў на пляшку, каб не траціць дзённы заробак.

Пецька Матылёнак падвязаў нагу, узяў гамары і падаўся на сваё працоўнае месца. Праз нейкую гадзіну ён здабыў неабходную суму грошай і вырашыў быў падацца ў бліжэйшую краму, каб прыдбаць пляшку гарэлкі. На выхадзе з падземнага пераходу ён пабачыў шыкоўную машыну з адчыненымі дзвярыма. На пярэднім сядзенні ляжаў чорны тоўсты кейс. Няведамая сіла пацягнула Мармулка наперад. Ён схапіў паклажу і азірнуўся. Па праспекце

праносіліся разнастайныя аўтамабілі, на прыступках у пераходзе галубілася маладая пара. Нейкі стары гуляка трымаў у руках букет кветак. І болей нікога. Пеця штосілы паскакаў на адной назе ў накірунку рэстарана "Патсдам". Праз некалькі метраў ён зразумеў, што на адной назе далёка не ўцячэш, і таму пашпарыў на дзвюх.

Спыніўся ён толькі ў сваім прыстанішчы. Адсопся ды раскрыў кейс. Здзіўленню яго не было мяжы. Да самага верху ляжалі ўпакаваныя даляры.Новенькія, хрумсткія. Ён выскачыў на вуліцу, не разумеючы, што з гэтым багаццем рабіць. Куды яго падзець. Хвілін так з пяць ён бегаў вакол інтэрната ў надзеі знайсці хоць нейкае сховішча. Тут яму трапілася прыбіральшчыца баба Жэня.

– Што, украў? – прама запытала яна ў хлопца.

– Ага, – шчыра адказаў ён.

– І не ведаеш, дзе схаваць? – паспачувала кабета.

– Дзе тут схаваеш? – праслязіўся Мармулак.

– Дай на пляшку. Схаваю так, што ніякая міліцыя не знойдзе.

Пятро дастаў з кішэні скамечаныя рублі і дрыжачымі рукамі падаў іх жанчыне.

– Ды не калаціся ты. Я былая партызанка-падпольшчыца. Гэтую справу ведаю. Калі не верыш, дык паглядзі: вось маё пасведчанне. Усё будзе, як кажуць, хакей.

Служба бяспекі Садыка Мамедава адшукала Матыля вельмі хутка. Дзесьці праз гадзіну часу, калі паклажа была перададзена былой баявой падпольшчыцы, у яго апартаменты ўварваўся добры дзесятак удвая вышэйшых за яго хлопцаў. Яны прывялі з сабою старэнькага пенсіянера. Апошні ўвайшоў генеральны дырэктар кампаніі. Каўказскі загар сышоў з ягонага твару, і быў ён зусім белы. Тры хлопцы за хвіліну ўкрыжавалі палоннага на трубах ды памкнуліся былі прыступіць да катавання з прымяненнем апошняга слова навукі і тэхнікі, бо ён цвердзіў, што нічога не ведае ні пра якія грошы. Тут наперад выйшаў гаспадар.

– Хвылыначку, – яму захацелася крышачку пагуляць з гэтым карантышом у справядлівасць ды законнасць. – Давай свэтку.

Быццам спалоханы жаваранак у полі, выпырхнуў на сярэдзіну пакоя стары чалавек.

# У нас

– Кажы, дзядуля, куды ішоў, што бачыў, каго бачыў.

– Людзі мілыя, нічога не ведаю, нічога не бачыў. Што бачыў – усё запамятаваў.

– Зараз ты ў мяне ўсё ўспомніш, пень стары.

Хлопец у скураной куртцы з жалезнымі клёпкамі адцягнуў палец на левай руцэ ды ўдарыў ім па лысай галаве пенсіянера. Той ціха войкнуў і прысеў.

– Цяпер помню. Усё помню. Патэлефанавала мне адна кабета. Прапанавала пайсці пагуляць. Я сказаў жонцы, што мне неабходна ўзяць адну кнігу ў суседа, ды праз двор сігануў на праспект.

– Няма часу слухаць твае байкі, стары кабель. Давай коратка, пра сутнасць.

– Ды я і кажу: у падземным пераходзе абганяе мяне аднаногі чалавек і нясе вялізны чамадан. Прыспешвае.

– Кажаш, бязногі. Якой нагі ў яго не было?

– Так-так. Зараз... Ён выскачыў з падземнага пераходу. Я стаяў праваруч. Так. Скакаў на левай назе.

– Што ж усё-такі было ў яго руках?

– Чамадан такі... чорны. Цёмна было... Магчыма, і чорны. Відаць, цяжкі. Ля ГУМа ён узяў яго ў правую руку...

– І ўпаў. Ён павінен быў упасці, бо ў яго не было правай нагі.

– Не. Пачакайце-пачакайце. Ён ужо скакаў на правай назе. Так, клянуся той жанчынай, што тэлефанавала мне, на правай назе.

– Так, на левай ці на правай?

– Выходзіць, спачатку на левай, потым на правай.

– Ха! – умяшаўся ў размову адзін з ахоўнікаў. – Скажы яшчэ, што бег на дзвюх.

– Вы правільна кажаце. Ад "Патсдама" пабег на дзвюх.

– Людзі, – зразумеў, што ягоны зман адкрыўся, залямантаваў укрыжаваны, – што вы ад мяне хочаце? У мяне з дзяцінства здаровыя ногі.

– Былі, – скураная ў клёпках куртка зрабіла крок наперад. – Шэф! Якую яму нагу адламаць? Кажы...

Шэф пачухаў патыліцу. Нага грошы не заменіць, але ўсё ж...

– Усё роўна, якую.

– Тады давай дзве.

– Давай, – абыякава адказаў спахмурнелы Садык Мамедаў.

Нечаканасць кіруе светам. Яна губіць людзей, яна і ратуе іх. Пануе ўсюды і заўжды: ад кахання да смерці. І хоць кажуць, што ўдача ці бяда валяцца быццам снег на галаву – усё не так. Наша родная міліцыя валодае сітуацыяй у любым выпадку.

– Нікому не рухацца. Рукі за галаву. Тварам да сцяны, – зычны сяржанцкі голас умомант спыніў прыватнае следства.

Аператыўна-следчая група Садыка Мамедава настолькі разгубілася, што без лішніх пярэчанняў выканала загад. Сам шэф вышэй за іншых падняў рукі. Сяржант лоўка праскочыў сярод людзей ды перарэзаў вяроўкі на руках Мармулка. Яго вызвалілі толькі таму, што сілы былі няроўныя і нашым мужным міліцыянерам патрэбна была дапамога. Радавы з пісталетам у руцэ стаяў на ўваходзе ў памяшканне.

– Вяжы іх, – загадаў сяржант Пятру і падаў кавалкі вяроўкі, якою хвіліну назад былі звязаны ягоныя рукі.

Міліцыянер адразу рабіў вобыск затрыманых, Мармулак услед штосілы вязаў ім рукі, нават, каб лепш уціснуць, упіраўся нагою прама ў жывот ці плечы. Людзі войкалі, енчылі, прасілі літасці, але ён іх не слухаў, а тым, хто пагражаў, ціснуў яшчэ мацней.

Сяржант працаваў старанна, і вынікі яго працы былі відавочныя. Пасярод пакоя хутка вырасла горка з пісталетаў, нажоў, кастэтаў, гранат. Дапаўняў гэты багаты арсенал аўтамат "Узі".

Міліцэйская радыёстанцыя не працавала. Таму давялося весці затрыманых у бліжэйшае аддзяленне пехам. Яны напачатку ўзбунтаваліся, запатрабавалі выклікаць ім таксі, але пасля сціплай просьбы радавога адразу пагадзіліся, што лепш прайсціся. Паперадзе ішоў Садык Мамедаў, за ім – яго дзесяць ахоўнікаў. Пенсіянер і Мармулак неслі зброю. Міліцыянеры ў той момант падбіралі сабе ўзбраенне.

– Коля! Глядзі, якая цацка.

– Клас! Вазьмі сабе. А я вазьму дзве гранаты.

– І я хачу гранату.

– Не плач. Тут іх многа. На ўсё аддзяленне наша хопіць.

– Дурань ты, ці што, дзяліцца такім дабром? Слухай, Коля, у мяне прапанова. Давай здамо нажы, кастэты ды адзін пісталет, а астатняе занясем на "Дынама". Усё роўна нам за гэтыя цацкі, акрамя лычкаў, болей нічога не дадуць. А так хоць нейкая капейка з'явіцца ў хаце.

– Яшчэ якая! Канечне, згодзен.

– Ану, стары, – хутка звярнуўся да пенсіянера адзін з міліцыянераў. – Хутка кажы, дзе жывеш?

Чалавек назваў свой адрас.

– Цягні дабро гэтае дамоў. Потым прыйдзем ды забяром.

– Я не адолею ўсяго, – узмаліўся дзед.

– Жыць захочаш – адолееш, – спакойна адказаў яму сяржант і надалей стаў гаварыць з таварышам па працы: – А ты казаў яшчэ: не хадзі туды да ветру, сорамна гадзіць у прыстойным месцы. Вось табе прыстойнае месца. Маліна. А гэтую банду мы ўзялі голымі рукамі. Вось паглядзі. Няма ў маім пісталеце патронаў. Памятаеш, начальнік нам сказаў так: "Зброю і боепрыпасы здабывайце самі. Што здабудзеце, тое ваша". Мы, як казаў Фелікс Эдмундавіч, дзейнічалі голымі рукамі.

– А мне заўжды здавалася, што ён казаў пра чыстыя рукі.

Ад пачутых слоў Садык Мамедаў упаў. Міліцыянеры нагамі хуценька прывялі яго да прытомнасці.

– Таварышы міліцыянеры, адпусціце беднага, ні ў чым не павіннага Мамеда – азалачу.

– Коля! Бач, бедны, а плаціць будзе золатам. Ідзі-ідзі, злодзей. Купіць хочаш... Расплядзілася вас тут на нашай зямлі... Запомні, мы танна не прадаёмся... Мы чэсныя людзі, але ўсё ж цікава: колькі ты адваліш?

– "Мерсэдэс" даю. Зараз.

– Мала. Падзяка ад начальства нам даражэйшая за ўсялякі "мерс", – горда адказаў міліцыянер.

– Збыткуеш, падла, – зароў адзін з Садыкавых ахоўнікаў.

– Бачыш, Коля, каго мы хацелі на волю адпусціць. Хамы. Звычайныя нявыхаваныя людзі, напэўна, як і ты, да ветру ў пад'ездзе ходзяць. Яшчэ набраліся нахабства прапаноўваць нам нейкага задрыпанага "мерса".

– Маўчаць! – грозна звёў чорныя бровы Садык і астудзіў жар свайго падначаленага. – Даруй яму, начальнік: малады, дурны, гарачы. Сам не ведае, што кажа.

– А што нам тваё "даруй"? – уступіў у размову другі міліцыянер, – За "даруй" нават закурыць не купіш.

– Другі "мерсэдэс" даю...

– Пайшоў ты са сваімі "мерсамі" ведаеш куды?

– Даю дыпламат. Поўны дыпламат "баксаў".

– Чуеш, Коля! Кент калоцца пачаў. З гэтага і гутарку пачынаў бы.

– Даўно б так...

Міліцыянеры ўзрадаваліся. Узрадаваліся і падканвойныя. Адзін толькі Мармулак паводзіў сябе спакойна, і ў той момант, калі мелася адбыцца нейкае дзеянне, звярнуўся да міліцыянтаў:

– А ён вам хлусіць. Грошай у яго няма.

– Як? – у адзін голас закрычалі тыя.

– Грошы ёсць, але, я так здагадваюся, не ў яго.

– Вось як?! – зноў пачулася зладжанае двухгалоссе.

– Таму і прыйшлі гэтыя бандыты да мяне, каб даведацца, дзе той слынны дыпламат.

– Ах, так! Мардаваць чэснага чалавека?! Дык я вас зараз...

– Наперад, падлы!

Падканвойныя паскорылі крок.

– А нам што ты скажаш? – зноў выказаліся ў адзін голас міліцыянеры, звяртаючыся да Мармулка.

– Ноу проблем, – на англійскі манер адказаў карантыш, але гэты іншаземны выраз міліцыянты зразумелі без перакладчыка.

*(Заканчэнне будзе.)*

# У нас





## Алесь Спіцын

*Таемная*
*Вернасць раўніны*
*Захоўвае памяць*
*І прадзедаў косці,*
*А вера*
*Узнесла іх Душы...*

* * *

Збіраючы аскепкі
Чужых думак,
Я шляхам непарыўнай логікі
Прыходжу да суцэльнага
Абсурду,
Што гэткі ж непарушны і цвёрды.
У гэтым закон прыроды —
Каб колцы сабраць у ланцуг,
Трэба, каб кожнае мела разрыў
Для злучэння з іншым.
Амінь.

* * *

Спявай!
Вецер, спявай!
На флейце нябёсаў,
На тайнай Псалтыры
Далёкіх лясоў
Прышлыя
Выцісні
Гукі...
Вецер!
Ты ведаеш
Прагу маю,
Хоць забываеш
Імгненна ўсё,
Што тайна ты знаеш;
Вецер,
Ты ведаеш прагу маю
І маю нікчэмнасць
І сведчыць няздатны
Перад
Сусветам —
Тады спявай,

Вецер, спявай,
Памятай вечна,
Што помніць няздатны,
І вечна спявай...
Вецер, спявай!
На флейце нябёсаў,
На тайнай Псалтыры
Далёкіх лясоў,
На ліры дажджу
І на дудах лагчын
Прышлыя
Выцісні
Гукі!

## PAGANISM

На тканіне
Прасторы
Нашыты
Пагоркі
На вышынях пагоркаў
Палаюць кастры
На кастрах
У пакутах
Звіваецца сонца
І змінаецца
Далеч
Як жылы ў агні.

***

О, кметы!
Хай мячы будуць вострыя,
І душы не ведаюць страху —
Мы самі напішам новыя песні!
О, кметы!

# У нас



Хто навучыў вас
Размаўляць
Словамі ворагаў
І забыць свае?
Нашая сталь будзе нашым правам,
О, кметы!
Няхай гараць
Паходні ўночы
І клінкі – днём,
Пакладзіце
Знакі Госпада
На вашых
Шчытах
І нясіце Слова Ягонае
На канцы клінкоў!
О, кметы!
Мы самі напішам новыя песні
І складзём хваленні Усявышняму,
Мы самі зварым піва
Для адпачынку
І закладзём віно
Дзеля святаў,
Адкінуўшы
Напоі
Няверных.
О, кметы!
Уздрыгвае Сусвет,
І бясконцага эфіру не абмінае
Дрыжэнне —
О, кметы!
Хай рушыцца векавое зло,
І на яго руінах
Нашая праўда
Адродзіцца!

* * *

Мне кажуць: ты — грэх,
Прыгожая і свежая вопратка
Бруднага пералюбу,
Блуд —
Твая сутнасць.

Мне кажуць:
Ты — крывадушнасць,
Ты —
Прыхаваная грэшнай душой
Нізкая,
Дробная
Жарсць...

Мне кажуць:
Ты — д'ябальская
Спакуса,
Што вядзе да
Пагібелі.

Але яны памыляюцца:
Ты —
Падарунак Госпада,
Што існуе
Толькі разам з верай
І знікае разам
З ёй,
Ты — шчасце ў выкананні
Запавету,
Пералюб —
Твой назолл̆івы вораг,
Ты ж прыносіш
Апраўданне і чысціню.

Алесь СПІЦЫН

***

Вецер
Ляціць мне ў рукі
Цемраю ночы,
Вадою
Ільецца між пальцаў,
Знікаючы ў далі
Нябачнай
І зносячы кроплі святла,
Пакідае мне ноч
У руках,
Ля грудзей,
Як дзіця...
Вецер
Імкнецца між пальцаў
Чорнай вадою,
Чорным агнём,
Зледзянелым у гэтай
Сцямнелай зіме,
Мне, звыкламу з тым,
Што начэй не бывае
Даўно,
Ён дорыць дзіця,
Якому не дадзена
Выжыць
У мяне на руках,

І памерці не здатны...

# Яны

Oscar WILDE



## Оскар Уайлд

*І калі жыццё для мяне – праблема (а, пэўна, так яно і ёсць), то і я не меншая праблема для жыцця.*

Оскар УАЙЛД

# Пра жэўжыкаў і горкія лекі

*Даросламу грамадству ніколі не даспадобы схільнасць паэтаў заставацца да апошняй хвіліны дзецьмі – з іхняю неўтаймоўнаю сваволяй, безупыннай гульнёй, з камічнымі ўцёкамі і хованкамі ад горкіх лекаў ды празмернаю любоўю да салодкага і прыгожага. Ды яшчэ з іхняю клятаю непасрэднасцю, чыімі вуснамі ісціна ляпеча. А калі каторы жэўжык сілаю ўласнага пераканаўчага прыкладу пачынае дзяцініць навакольных – пераважна паважных людзей, – абяртаючы іх у задзіўлёную малечу з вялікімі бліскучымі вачыма і разяўленымі ратамі, – то ўжо гэтаму замала не падасца. Тут абавязкова знойдзецца няздара і зануда, каб тыцнуць у баламута пальцам і аплявузгаць яго перад матухнай Уладаю ды бацькам Законам. Недадзяціненая малеча схамянецца, разззлуецца, што дала сябе дурыць вясёлкавымі бурбалкамі, і, звузіўшы вочы, наваліцца на пускавое кола няўмольнае машыны, – а тады ўжо позна шкадаваць раструшчаных кветак-мятлушак ды сумаваць па балбатні і выбрыках надзіва люта пакаранага пестуна. Заўжды гатовыя караць, бацька Закон з матухнай Уладаю рэдка бываюць гатовыя зразумець і дараваць, і калі то яшчэ будзе з любоўю прамоўлена імі сабе і сваім дзецям: будзьма як дзеці... Паэты ж*

*ніяк не верацъ відавочнасці і вухаслухиасці, вераць казцы і застаюцца дзецьмі без дазволу. А дакладней сказаць: з Вышэйшага Дазволу і Запрашэння.*

*Падобным чынам усё і адбылося з паэтам, драматургам, раманістам, эсэістам, казачнікам Оскарам Уайлдам (1854, Дублін – 1900, Парыж), паводле сумяшчэння Каралём парадоксу, досціпу, стылю, мовы, мастацтва і жыцця, які ў жыццё "ўклаў свой геній" і "толькі талент" уклаў у свае творы. Сарака гадоў ад нараджэння ён быў-такі ўрэшце змушаны ўвайсці ў "зацененую частку" рэчаіснага саду, якое датуль пазбягаў, і выпіць кубак гаркоты, ад якое раней ухіляўся. Новым усведамленнем існага, што адкрылася яму праз досвед пакуты, пісьменнік дзеліцца ў турэмнай споведзі "De Profundis"*, апублікаванай пасмяротна ўрыўкамі ў 1905-м, і толькі ў 1960 годзе цалкам.*

*На беларускую мову перакладзеныя казкі Оскара Уайлда з кніжак "Шчасны прынц" і "Гранатавы дамок", што выпусціла ў 1978 г. выдавецтва "Мастацкая літаратура" пад назваю "Салавей і Ружа".*

***Галіна ДУБЯНЕЦКАЯ***

---

* De profundis – з прадоння (лац.), пачатак Псалма 129: "З прадоння гукаю Цябе, Госпадзе..."

# DE PROFUNDIS

Оскар УАЙЛД

Месца маё – паміж Жылем дэ Рэцам і маркізам дэ Садам. Так яно хіба найлепш. Я не маю на думцы наракаць. Сярод шматлікіх іншых урокаў у турме засвойваеш, што ўсё ёсць так, як ёсць, і будзе так, як будзе. І я не сумняюся, што сярэднявечны лепрый і аўтар “Жустыны” складуць мне лепшую кампанію, чым Сэнфард і Мэртан. (...)*

Усё адбылося пазалетась на пачатку лістапада. Паміж мною і тым далёкім днём плыве вялікая рака жыцця. Здавалася б, праз гэткую бездань ледзьве сягае зрок. Але для мяне нібыта ўсё адбылося не скажу ўчора: сёння. Пакута – адное бясконцае імгненне. У ёй не вылучыць пораў года. Можна толькі вызначыць яе лады, занатаваць іх чаргаванне. Тут сам час – і той не йдзе наперад. Ён замыкаецца ў кола. Ён быццам павяртаецца вакол адзінага цэнтру – болю. Тут кожны адрэзак жыцця спарадкаваны паводле аднога нязменнага ўзору: мы ямо, і п’ем, і спім, і молімся (ці, прынамсі, кленчым, як у малітве) згодна са строгімі законамі, з нейкай жалезнай формулай. Гэтая нерухомасць паралюшу, што робіць кожны жудлівы дзень да апошняй драбніцы падобным на іншы, гэтае здранцвенне нібыта перадаецца тым знешнім праявам, самая сутнасць якіх – у адвечнай зменлівасці. Сяўба ці жніво; касец, які схіляецца над пакосам, ці вінаградар, які здымае цяжкія гронкі; засланы беллю апалых пялёсткаў ці ўсыпаны спелымі пладамі сад – пра іх нам не дадзена ведаць нічога.

Для нас існуе адна-адзіная пара – пара смутку. Ад нас нібыта адабралі самое сонца ды месяц. Можа, там, на волі, дзень ззяе золатам і блакітам, але святло,

* Друкуецца са скарачэннямі.

што крадком праточыцца сюды скрозь каламутнае шкло падслепаватага ваконца, будзе шэрым ды бляклым. Заўсёдныя прыцемкі ў камеры, заўсёдныя прыцемкі ў сэрцы. Там, дзе палягае розум, як і там, дзе палягае час, рух даўно спыніўся. Тое, пра што Вы даўно забыліся ці лёгка можаце забыцца, са мною адбываецца сёння і будзе адбывацца заўтра. Падумайце пра гэта – і можа, Вам крыху прыадкрыецца, чаму я пішу, чаму я гэтак пішу.**(...)**

Праз тыдзень мяне перавялі сюды. Мінае тры месяцы – і памірае мая маці. Ніхто не ведаў, як я яе любіў, як глыбока шанаваў. Яе смерць сталася для мяне жудасным ударам. Але той, хто быў калісьці ўладаром мовы, не знаходзіць словаў, каб перадаць сваю пакуту, свой жаль. І ніколі, нават у часе найвышэйшага мастацкага ўзлёту, – ніколі не здолеў бы я адшукаць тыя словы, што пранеслі б гэты велічны цяжар, словы, што ўзняліся б музыкай, каб годна рушыць у пурпурова-ўрачыстым шэсці маёй невыказнай жалобы. Ад маці і бацькі я ўзяў у спадчыну імя, якому яны здабылі гонар і пашану не толькі ў літаратуры, мастацтве, археалогіі ды навуцы, але і ў гісторыі маёй радзімы, у яе абуджэнні. Я назаўжды яго зганьбіў. Я зрабіў яго брыдкай пагалоскай для брыдкіх языкоў. Я змяшаў яго з брудам. Я кінуў яго мярзотнікам, каб тыя зрабілі яго мярзоццем. Я аддаў яго блазнам, каб тыя зрабілі з яго блазенскі каптур. Таго, што я перажыў тады і ўсё яшчэ перажываю, не вытрывае папера. Жонка ў сваёй невычэрпнай дабрыні да мяне хворая адолела шлях ад Генуі да Ангельшчыны і сама прынесла мне вестку пра непапраўную, незваротную страту, каб толькі я не пачуў яе з чужых, абыякавых вуснаў. Спачуванні прыходзілі ад усіх, хто захаваў да мяне якую-колечы прыязнасць. Нават асабіста не знаёмыя са мною людзі, даведаўшыся, што на мяне абрынуўся яшчэ адзін удар лёсу, прасілі перадаць мне свае спачуванні.(...)

Мінула тры месяцы. На дзвярах камеры вісіць каляндар з распарадкам дзеянняў і працы на кожны дзень, з маім імем і прысудам. Калі верыць календару, цяпер травень.**(...)**

Строі багацця, асалоды, поспеху могуць ткацца з тоўстых валокнаў, шыцца з жорсткага палатна, але няма ў свеце нічога

танчэйшага і далікатнейшага за смутак. Што б ні ўзрушыла чалавечы розум, у адказ заўжды тужлівым, трапяткім трымценнем адгукаецца смутак. Тоненькі дрыготкі лісток золата, чуйны да ўздзеяння нябачных воку сілаў, у параўнанні з ім будзе грубым і прымітыўным. Смутак – гэта рана, што крывавіць ад кожнага дотыку, апроч любові, хоць і ад яе дотыку яна таксама крывавіць, толькі не балесна.

Дзе смутак, там дол святы. Калі-небудзь людзі зразумеюць сэнс гэтых словаў. І пакуль не зразумеюць, нічога не будуць ведаць пра жыццё. Робі і такім, як ён, гэта адкрылася. Калі мяне пад аховай двух паліцыянтаў перавозілі з турмы ў суд па справах аб банкруцтве, Робі чакаў у доўгім панылым калідоры, і як мяне ў кайданах, са схіленай долу галавой праводзілі паўз яго, ён з сумам узняў перада мной капялюш на вачах усяго натоўпу, які знямеў, уражаны гэткім простым і гэткім прыгожым жэстам. Месца ў раі заслугоўвалі і за меншае. У гэткім самым памкненні любові святыя кленчылі, каб абмыць ногі жабракам, і схіляліся пацалаваць лепрыяў. Я ніколі ніводным словам не нагадаў яму пра той учынак. Я дагэтуль нават не ведаю, ці ён зразумеў, што я яго заўважыў. За такое нельга выказаць звычайную падзяку звычайнымі словамі. Я захоўваю гэта ў скарбніцы свайго сэрца. Захоўваю як патаемны доўг, якога – ад усяе душы спадзяюся – ніколі не здолею сплаціць. Там, у водары ладану і смірны майго сэрца, абмыты слязьмі, гэты скарб ніколі не сцвялее. Калі мудрасць не мела моцы, калі філасофія была гук пусты, а выслоўі ды словы тых, хто хацеў мяне суцешыць, былі як пыл ды попел, я згадваў гэты някідкі, ціхмяны, цудоўны ўчынак любові – і чэрпаў з яго, як з адвечнай крыніцы спачування. Ён расцвіў ружай у пустэльні, распусціў самотную горыч выгнанніка ў суладдзі з параненым, разбітым, вялізным сэрцам Сусвету. Калі людзі зразумеюць не толькі ўсю прыгажосць учынку Робі, але і тое, чаму ён быў і заўсёды будзе для мяне гэткім значным, яны зразумеюць, як, у якім ключы да мяне ставіцца.**(...)**

Першая кніга вершаў, якую на самым золку жыцця дорыць свету маладзён, мусіць быць як квецень, як вясновая краска, як глог пасярод паплавоў ці першацвет у полі. Ёй нельга несці бярэмя вусцішнай, агіднай трагедыі, вусцішнага, агіднага скандалу. Было

 





б цяжкой, грубай памылкай дазволіць скарыстацца з майго імя, каб абвясціць пра з'яўленне падобнай кнігі. Гэта стварыла б вакол яе неадпаведны настрой, а настрой так істотны ў сучасным мастацтве. У сучаснасці ўсё складана і ўзаемазвязана. Гэта дзве яе вызначальныя рысы. Каб перадаць першую, трэба стварыць настрой з вытанчанымі нюансамі, непрамоўленай шматзначнасцю, дзівоснымі даляглядамі. Каб перадаць другую, патрэбны фон. Таму скульптура перастала быць мастацтвам сімвалізавання, музыка ёсць мастацтвам сімвалізавання, а літаратура была, ёсць і заўжды будзе найвышэйшым мастацтвам сімвалізавання.**(...)**

Кожныя тры месяцы Робі піша мне невялікую справаздачу пра навіны літаратуры. Няма нічога больш чароўнага за гэтыя лісты з іх досціпам, яскравым крытычным розумам, лёгкасцю. Гэта сапраўдныя лісты: чытаеш іх – і нібыта размаўляеш з ім самім, у іх ёсць гэтая французская *causerie intime*, нязмушанасць сумоўя. Ён звяртаецца то да майго разважлівага розуму, то да пачуцця гумару, то да адчування прыгожага, то да выкшталцонасці, у тысячу самых вытанчаных спосабаў нагадвае, што калісьці для шмат каго я быў суддзёю мастацкага стылю, для некаторых – найвышэйшым суддзёю. Далікатна выказваючы сваю павагу, ён выяўляе не толькі дар літаратурны, але і дар любові. Ягоныя лісты – паштовыя галубы паміж мною і тым прыўкрасным няісным светам мастацтва, дзе калісьці я быў кароль і застаўся б сапраўдным каралём, калі б не даў завабіць сябе ў заганны свет грубае, неспатольнае жарсці, безразборлівае пажадлівасці, бязмежнага жадання, безабрыснае прагі. І ўсё ж такі Робі мог бы здагадацца, што, прынамсі, са звычайнай чалавечай цікаўнасці мне было б значна важней атрымаць вестку ад Вас, чым даведацца, што Альфрэд Остын спрабуе выдаць кніжку паэзіі, Джордж Стрыт вядзе рубрыку тэатральнае крытыкі ў *Daily Chronicle*, а той, хто не можа гладка прачытаць панегірык, абвясціў пані Мэйнэл новай сівілай стылю.(...)

Іншыя гаротнікі, укінутыя ў вязніцу і адлучаныя ад хараства свету, хаця б у нечым недасяжныя для самай смерцяноснай зброі на гэтым свеце. Яны могуць схавацца ў цямрэчы сваёй камеры і ў самім сваім прыніжэнні знайсці кшталт прытулку. Свет дамогся,



 

чаго хацеў, і далей ідзе сваім шляхам, не турбуе іх у пакуце. Са мною ўсё іначай. Няшчасці адно за адным грукаюць у браму вязніцы, шукаючы мяне, – для іх дзверы шырока адчыненыя. Сябрам амаль зусім не дазваляюць мяне бачыць. Для ворагаў жа шлях заўсёды вольны: мяне двойчы паказвалі публіцы ў судзе па справах аб банкрутстве, двойчы, пераводзячы з адной турмы ў іншую, выстаўлялі маё невымоўнае прыніжэнне на глум натоўпу. Вястун Смерці прынёс мне сумную вестку – і сышоў. І вось на самоце, адрэзаны ад усяго, што магло б даць мне суцяшэнне ці палёгку, я мушу несці невыноснае бярэмя пакуты і згрызотаў сумлення, якое наклала на мяне памяць маці. Не паспеў час не тое каб загаіць – крыху зацягнуць рану, як я пачаў атрымліваць жорсткія, бязлітасныя лісты ад сваіх адвакатаў. З мяне кпяць – і адначасова пагражаюць галечай. Гэта я яшчэ змагу вытрываць. Я здолею прывучыць сябе і да горшага. Але паводле закону ад мяне адбіраюць абодвух дзяцей, і ў гэтым – крыніца заўсёднай невымернай туті, невымернага болю, журбы бясконцай і бязмежнай. Жудасна падумаць, што закон вырашае – бярэцца вырашаць! – што мяне нельга пушчаць да ўласных дзяцей. У параўнанні з гэтым ганьбаванне вязніцай – ніштo. Зайздрошчу тым, хто разам са мною збівае боты ў турэмным двары. Упэўнены: іхныя дзеці іх чакаюць, жадаюць іх вяртання, сустрэнуць іх з любоўю.

Бедныя – мудрэйшыя, дабрэйшыя, больш чулыя і дабрадзейныя за нас. Для іх вязніца – гэта трагедыя чалавечага жыцця, бядота, няшчаснае здарэнне, вартае спачування іншых. Пра таго, хто ў турме, яны гавораць проста “ў бядзе”. Гэты выраз ужываюць заўсёды, у ім – найвышэйшая мудрасць любові. У людзей нашага кола ўсё іначай. Для нас вязніца ператварае чалавека ў выгнанца. Я і да мяне падобныя, лічыце, не маюць права на паветра пад сонцам. Нашая прысутнасць пляжыць радасць астатнім. Па выйсці на волю мы паўсюль станемся няпрошанымі гасцямі. У нас адбіраюць нават дзяцей. Дарагія повязі з людствам абарваныя. Мы асуджаныя на самотніцтва пры жывых сынах. Нам адмаўляюць у тым адзіным, што можа ацаліць, ўратаваць нас, праліцца бальзамам на здратаванае сэрца, прынесці мір знявечанай душы.(...)

Трэба прызнацца сабе: я зруйнаваў сябе, і ніводзін з нас – вялікі ці малы – не можа быць зруйнаваны інакш як сваімі ўласнымі

рукамі. Я гатовы ў гэтым прызнацца. Я спрабую гэта прамовіць, хоць, магчыма, цяпер пра гэта не думаюць. Гэтае бязлітаснае абвінавачанне я без літасці выношу сабе самому. Як бы жахліва ні абышоўся са мною свет, сам я абышоўся з сабою куды як горш.

Я быў сімвалічнай фігурай у культуры й мастацтве сваёй эпохі. Я зразумеў гэта на самым золку сталага жыцця, а потым і сваю эпоху прымусіў гэта зразумець. Рэдка хто дасягае падобнага становішча (і яго прызнання) пры жыцці. Звычайна гэта адкрываецца – калі адкрываецца наогул – гісторыку або крытыку праз шмат гадоў пасля таго, як сыходзяць і чалавек, і яго эпоха. Са мною было па-іншаму. Я адчуў гэта сам і астатніх прымусіў гэта адчуць. Сімвалічнай фігурай быў Байран, але адносна жарсцяў сваёй эпохі і стомленасці гэтымі жарсцямі. Я ж – адносна чагосьці больш высакароднага, больш трывалага, больш жыццёвага, усеахопнага.

Багі надарылі мяне ці не ўсім на свеце. Я меў геній, слыннае імя, высокае становішча ў грамадстве, бляск, дзёрзкасць розуму; мастацтва я зрабіў філасофіяй, а філасофію – мастацтвам. Я змяняў погляды людзей і колеры рэчаў: што б я ні казаў ці ні рабіў – усё задзіўляла. Драму, найбольш аб'ектыўную з вядомых мастацтву формаў, я пераўтварыў у гэткі ж асабісты спосаб самавыяўлення, як лірычны верш ці санет, і прытым пашырыў яе магчымасці, узбагаціў новымі прыёмамі стварэння вобразаў. Драма, раман, верш, верш у прозе, вытанчаны альбо эксцэнтрычны дыялог – да чаго б я ні дакранаўся, усяму надаваў невядомае раней хараство: я даводзіў, што самая ісціна з поўным правам існуе як у сапраўдным, гэтак і ў несапраўдным, што “сапраўднае” і “несапраўднае” – усяго толькі спараджэнні розуму. Я ставіўся да мастацтва як да найвышэйшай рэальнасці, а да жыцця – як да віду белетрыстыкі. Я абудзіў у сваіх сучасніках уяўленне – яны стварылі вакол мяне міф, легенду. Кожную светапоглядную сістэму я выкрышталізаваў у адно выслоўе, усё быццё – у эпіграму. І разам з гэтым у мяне было і іншае. Але я дазволіў звабіць сябе чарам пустой, пажадлівай марнасці. Я знаходзіў асалоду ў тым, каб быць *flâneur*[1], дэндзі, свецкім ільвом. Я атачыў сябе ніжэйшымі душамі ды драбнейшымі розумамі. Я стаўся марнатраўцам уласнага генія, я атрымліваў нейкую дзіўную радасць, раскідаючы сваю

 





адвечную маладосць. Стаміўшыся на вышынях, я наўмысна сышоў у бездань, дзеля пошуку новых адчуванняў. Вычварнасць у жарсці сталася для мяне тым самым, чым парадокс – у мыслярстве. Урэшце пажада абярнулася хваробай ці вар'яцтвам ці тым і другім. Я стаў абыякавы да жыцця іншых. Я зрываў жаданыя кветкі асалоды, дзе толькі хацеў, і йшоў далей. Я забыўся, што кожны маленькі, звычайны ўчынак фармуе альбо дэфармуе асобу, і надыходзіць дзень, калі з дахаў дамоў абвяшчаецца тое, што чынілася ў патаемных пакоях. Я перастаў быць гаспадаром самому сабе. Сам таго не заўважаючы, я перастаў быць кіроўцам сваёй душы. Я дазволіў асалодзе панаваць над сабою. Скончыў я жахлівай ганьбай. Цяпер мне застаецца адное – поўная пакора.

Я правёў за кратамі амаль два гады. З душы маёй выйшлі шалёная роспач, жалоба, якой я аддаваўся так, што шкада было глядзець, жудасны й нямоглы гнеў, горыч і пагарда, туга, што гучна галасіла, боль, што не меў голасу, немая журба. Я прайшоў праз усе магчымыя адценні пакуты.

*Пакута няўпынная, змрочная, чорная,*
*Паводле прыроды сваёй – адвечная.*

Лепш, чым самому Уордзварту, мне вядома, што ён укладаў у гэтыя словы. Але калі я часам нават цешыўся з думкі, што пакутам маім наканаваная бясконцасць, то іх бессэнсоўнасці я вытрываць не мог. Зараз я чую, як нешта глыбока-глыбока ў маёй душы гаворыць, што нішто ў свеце не бессэнсоўнае, і менш за ўсё – пакута. Імя гэтаму "нешта", схаванаму глыбока-глыбока ў маёй душы, як скарб у гушчары, – Пакора.

Гэта апошняе і лепшае, што ўва мне засталося, краемнае адкрыццё, мною зробленае, пачатак новага росту. Яна з'явілася мне з мяне самога, значыць, яна з'явілася ў свой час. Яна не магла прыйсці ані раней, ані пазней. Распавядзі мне хто-небудзь пра яе – я бы яе адрынуў. Прынясі мне яе хто-небудзь – я б яе адштурхнуў. Цяпер, калі я яе знайшоў, я жадаю яе зберагчы. Мушу. Гэта адзінае, у чым ёсць часцінкі жыцця, новага жыцця, маёй *Vita Nuova*. Гэта найдзівоснейшая з рэчаў: яе нельга падараваць, нельга прыняць ад іншага. Яе можна здабыць, толькі страціўшы ўсё, што маеш. Толькі так.



 

Цяпер, калі я адкрыў у сабе пакору, яскрава бачу, што павінен, дакладней, што мушу рабіць. Не трэба казаць, што ў гэтых словах няма й намёку на чыюсьці волю ці загад звонку. Іх я не прызнаю. Я яшчэ большы індывідуаліст, чым калі раней. Для мяне адзіную каштоўнасць мае тое, што з'яўляецца з глыбіняў цябе самога. Душа мая шукае новых шляхоў, каб спраўдзіцца. Гэта ўсё, што мяне хвалюе. І ў першую чаргу мне трэба пазбавіцца ад усялякае горычы ды крыўды на свет.

У мяне няма ніводнага граша, няма ніякага даху над галавой. Але ў свеце бывае і горшае. Я цалкам шчыра кажу, што, чым выйсці з вязніцы, захаваўшы крыўду на свет у сэрцы, я з радасцю згадзіўся б прасіць на хлеб ля кожнага парога. Нічога не дадуць багатыя – штосьці ды пададуць бедныя. Хто мае шмат, той часта скнарлівы – хто мае мала, заўжды падзеліцца. Я быў бы зусім не супраць спаць улетку на прахалоднай траве, а надыдзе зіма – хавацца ў цёплым стозе ці пад павеццю ў хляве, толькі б у сэрцы маім жыла любоў. Знешняе ў жыцці для мяне цяпер не мае ніякай вартасці. Бачыце, да якіх скрайнасцяў індывідуалізму я дайшоў ці, дакладней, даходжу, бо шлях доўгі, і "дзе ступаю – церні".

Вядома, мне не наканавана доляй прасіць міласціну пры дарозе, а калі я буду ляжаць уначы на прахалоднай траве, дык толькі дзеля таго, каб пісаць санеты да поўні. Калі я выйду з турмы, па той бок вялікай забранай у жалеза брамы мяне будзе чакаць Робі, а ён — увасабленне не толькі сваёй уласнай шчырай прыязнасці, але і пачуццяў многіх іншых. Мяркую, мне будзе на што жыць, прынамсі, гады паўтара, так што, калі я не змагу пісаць прыгожыя кнігі, дык змагу хаця б іх чытаць. А якая можа быць большая радасць? Спадзяюся, пасля гэтага да мяне вернецца здольнасць да творчасці.

Але будзь усё іначай: не застаніся ў мяне ніводнага сябра, не прытулі мяне ў шкадаванні ніводны дом, прымусь мяне галеча прымаць жабрацкія грошы ды ірванае рыззё, — пакуль я буду вольны ад злосці, пагарды і крыўды, я здолею глядзець у твар жыццю больш спакойна і ўпэўнена, чым апрануты ў пурпур, але з атрутай нянавісці ў сэрцы.

І сапраўды: мне будзе цяжка. Але таму, хто па-сапраўднаму хоча любові, яна заўсёды адкрыецца.

Зразумела, на гэтым задача мая не завершыцца. Гэта было

б параўнальна лёгка. Мне трэба адолець значна большае. Узняцца на шмат круцейшыя горы, прайсці праз шмат цямнейшыя долы. І ўсе яны мусяць з'явіцца з мяне самога. Мне не дапамогуць вера, мараль або розум.

Мне не дапаможа мараль. Я прыроджаны парушальнік канонаў. Я з тых, хто створаны дзеля выключэнняў, а не дзеля правілаў. І я бачу, што калі чалавек усё робіць "так, як трэба", з ім самім нешта робіцца "не так, як трэба". Добра, што я гэта спасціг.

Мне не дапаможа вера. Тую веру, што іншыя аддаюць нябачнаму, я аддаю таму, да чаго можна дакрануцца, што можна пабачыць. Мае багі жывуць не ў рукатворных храмах, і вера мая набывае завершанасць і дасканаласць у межах, акрэсленых досведам рэчаіснасці. Мабыць, залішнюю завершанасць, бо, як і ўсе ці амаль усе, хто змясціў свой рай на зямлі, я знайшоў у ім не толькі красу нябёсаў, але і пачварнасць пекла. Калі я задумваюся пра веру, мне хочацца заснаваць ордэн тых, хто *не можа* верыць, — так бы мовіць, Братэрства (Бязверных) Безбацькоўцаў[2], і на алтары, дзе ніколі не запальваліся свечкі, святар, у сэрцы якога няма месца спакою, прыносіў бы неасвячоны хлеб і пустую чару. Усё, што хоча быць сапраўдным, мусіць стацца веравызнаннем. І паняверцы не менш, чым веры, патрэбны свой абрад. Яна пасеяла сваіх пакутнікаў – пажне сваіх святых, яна будзе штодня ўзносіць хвалу Богу за тое, што Ён схаваў ад чалавека аблічча Сваё. Але будзь тое вера ці паняверка, у ёй не павінна быць нічога знешняга. Я мушу сам стварыць яе сімволіку. Духоўнае толькі тое, што само надае сабе форму. Калі я не адкрыю ягонай таямніцы ў сабе самім, то не адкрыю ніколі, калі я яе не здабыў, яна ніколі мне не з'явіцца.

Мне не дапаможа розум. Ён даводзіць, што законы, паводле якіх я асуджаны, – няслушныя, несправядлівыя законы, што сістэма, якая прынесла мне столькі пакуты, – няслушная, несправядлівая сістэма. Але я павінен прыняць і тое, і другое як дзеля мяне слушнае і справядлівае. Як у мастацтве, дзе нам істотна толькі тое, чым ёсць дзеля нас асобная рэч у асобны момант. Тое ж самае датычыць і этычнай эвалюцыі асобы. Я павінен ператварыць усё, што са мною адбылося, у тое, што для мяне "добра". Вузкія нары, агідная ежа, грубыя вяроўкі, шчыканыя

на пакулле, так што пальцы нямеюць ад болю, чорная праца, якою пачынаецца і сканчаецца кожны дзень, жорсткія парадкі, якіх нібыта вымагае будзёншчына, пачварная вопратка, у якой смутак глядзіцца нейкай недарэчнасцю, і ціша, самота, і сорам – усё гэта, да апошняй кроплі, я мушу пераплавіць у духоўны досвед. Няма такога прыніжэння цела, якога я не мусіў бы выкшталтаваць ва ўзыходжанне духу.

Я хачу дасягнуць таго, каб здолець зусім спакойна і проста сказаць: у маім жыцці былі дзве вялікія вяхі – калі бацька выправіў мяне ў Оксфард і калі грамадства выправіла мяне ў турму. Я не скажу, што вязніца – гэта лепшае, што магло са мною здарыцца, бо ў гэтай фразе быў бы горкі смак злосці на самога сябе. Лепей было б сказаць ці пачуць, як скажуць іншыя, што я быў настолькі сапраўдным дзіцем сваёй эпохі, што ў вычварнасці сваёй і дзеля гэтай вычварнасці ператвараў усё добрае ў сваім жыцці ў ліхое, а ліхое – у добрае.

Аднак не мае значэння, што кажу я сам ці хто там яшчэ. Перада мною іншая задача: увабраць у сваю сутнасць усё, што нада мною ўчынілі, зрабіць гэты досвед часткаю сябе, прыняць яго без скаргаў, без страху, без супраціву. Вось што істотна, вось што я павінен зрабіць, калі не хачу знявечыць, азмрочыць і змарнаваць кароткую рэшту сваіх дзён. Найвялікшы грэх – пустое адпрэчванне. Усё, што ўсведамляецца, – слушнае.

Калі я трапіў за краты, напачатку некаторыя раілі мне забыцца, хто я такі. Згубная парада. Толькі зразумеўшы, хто я такі, я здолеў знайсці нейкае суцяшэнне. Цяпер іншыя раяць па выйсці на волю паспрабаваць забыцца, што я ўвогуле быў у вязніцы. Я ведаю: гэта такая ж самая згуба. Гэта азначала б, што мяне заўсёдна будзе пераследаваць невыноснае адчуванне ганьбы, што ўсё прызначанае мне гэтаксама, як і іншым, – сонца і месяц у сваёй красе, урачыстае шэсце пораў году, музыка світанку і ціша велічнай ночы, дождж, што трымціць скрозь лістоту, раса, што крадком пакрывае срэбрам траву, – для мяне будзе атручана, страціць сваю гаючую моц, здольнасць прыносіць радасць. Шкадаваць пра тое, што з табою адбылося, – значыць спыняць уласнае развіццё. Выракацца таго, што з табою адбылося, – значыць укладаць хлусню ў вусны ўласнага жыцця. Гэта як выракацца душы.

Цела ўбірае ў сябе ўсё самае рознае – нізкае і нячыстае

гэтаксама, як і ачышчанае святаром ці зрокам, і абарочвае ўсё ў спрыт і моц, у гожую гульню цяглiцаў і прыўкрасныя абрысы паставы, у лініі ды колеры валасоў, вачэй, вуснаў. Гэтаксама і душа ўзрошчвае, ператварае ў высакародныя думкі ці ўзнёслыя пачуцці нізкае, жорсткае, ганебнае ў сваёй сутнасці. О не, больш за тое: душа знаходзіць сваё самае велічнае сцверджанне, раскрываецца ў сваёй найвялікшай дасканаласці праз тое, што мелася яе апаганіць і знішчыць.

Я павінен шчыра прымірыцца з тым, што быў звычайным вязнем звычайнае турмы, і, як ні дзіўна, мне трэба будзе навучыцца не саромецца гэтага. Я мушу прыняць гэта як кару, а калі чалавек саромеецца сваёй кары, значыць, яна была дарэмнай. Вядома, шмат з таго, за што мяне асудзілі, я не ўчыняў, але шмат таго, за што мяне асудзілі, я ўчыніў, і яшчэ болей за тое, у чым мяне нават ніколі не абвінавачвалі. А паколькі воля багоў неспасцігальная і караюць яны як за ліхое ды пачварнае, гэтак і за добрае ды чалавечнае, я мушу пагадзіцца з тым, што чалавек бывае пакараны і за добрыя, і за ліхія ўчынкі. Не сумняюся, што так і трэба. Гэта дапамагае – ці павінна дапамагаць – зразумець і тое, і другое, і надта не ўзганарыцца ні тым, ні другім. І калі я не буду саромецца сваёй кары (а спадзяюся, так і будзе), я здолею вольна хадзіць, вольна думаць, вольна жыць.

Па вызваленні шмат хто носіць сваю вязніцу з сабою, хавае яе ў сэрцы, як патаемную ганьбу, і ў рэшце рэшт, быццам атручаныя, гэтыя гаротнікі запаўзаюць у нейкую шчыліну і там канаюць. Як вусцішна, што яны вымушаныя да гэтага, і як несправядліва, як жудасна несправядліва, што вымушае іх да гэтага грамадства! Яно прысвойвае сабе права прызначаць асобе жорсткае пакаранне, але на ім, на грамадстве – і найвялікшы грэх пустога адпрэчвання: яно няздольнае ўсвядоміць, штó зрабіла. Калі сканчаецца тэрмін пакарання, чалавек застаецца сам-насам з сабою – грамадства кідае яго акурат у той момант, калі мусіць пачаць выконваць свой найвялікшы абавязак адносна чалавека. Яно сапраўды саромеецца сваіх дзеянняў, яно ўнікае тых, каго пакарала, як людзі ўнікаюць крэдытора, якому не могуць заплаціць пазыкі, ці тых, каму прынеслі непапраўнае, незваротнае гора. Са свайго боку, я маю права патрабаваць, каб, калі я зразумеў, што са мною адбылося,

грамадства зразумела, на штó яно мяне выракла, і каб абодва бакі выбавіліся ад крыўды і нянавісці.

Само сабою, я ведаю, што ў адным рэчышчы для мяне ўсё будзе іначай, чым для іншых. Сапраўды, павінна быць іначай, паводле самой прыроды рэчаў. Няшчасныя злодзеі ды бадзягі, асуджаныя разам са мною, шмат у чым шчаслівейшыя за мяне. Кароткія завулак у шэрым горадзе ці сцяжына ў зялёным лузе, што бачылі іх правіну; каб спаткаць тых, хто нічога пра іх не ведае, ім трэба адысціся не далей, чым праляціць птушка ад світальнага золку да самога світанку. Для мяне свет сцяўся, я як на далоні: куды ні абярнуся – усюды бачу сваё імя, смалой напісанае на плоце, бо я з'явіўся не з невядомасці ў хвілінную вядомасць злачынцы, а з адвечнай славы — у адвечную няславу. І часам мне здаецца, што я давёў (калі гэта сапраўды трэба было даводзіць), што ад славы да няславы – усяго адзін крок, а можа, і менш за тое.

Аднак і ў тым, што, куды б я ні йшоў, мяне будуць пазнаваць, будуць ведаць усё пра маё жыццё, прынамсі, пра яго аблуды, я ўгледжваю нешта добрае. Гэта мяне прымусіць як мага хутчэй ізноў сцвердзіць сябе як чалавека мастацтва. Калі я здолею напісаць хаця б адзін прыгожы твор, то знішчу атрутнае джала зласліўцаў, кпіны баязліўцаў, з коранем вырву язык у пагарды.

І калі жыццё для мяне – праблема (а, пэўна, так яно і ёсць), то і я не меншая праблема для жыцця. Людзі павінны вырашыць, як да мяне ставіцца, і тым самым вынесці прысуд і сабе, і мне. Зразумела, я вяду гаворку не пра асобных людзей. Адзіныя, з кім мне хацелася б цяпер быць, – гэта людзі мастацтва і тыя, хто пакутаваў: хто ведае, што такое хараство і што такое смутак. Больш мяне ніхто не цікавіць. І я нічога не патрабую ад жыцця. Ва ўсім, што я кажу, для мяне істотнае проста маё асабістае асэнсаванне жыцця наогул, і я адчуваю, што перадусім мне трэба прыйсці да таго, каб не саромецца свайго пакарання. Дзеля ўласнага ўдасканалення, бо я далёка не дасканалы.

Яшчэ мне трэба навучыцца быць шчаслівым. Калісьці я гэта ўмеў (ці меркаваў, што ўмею) ад прыроды. Калісьці ў сэрцы маім была адвечная вясна. Радасць была маёй заўсёднай рысаю. Я да краёў напоўніў сваё жыццё асалодай, як да краёў напаўняюць віном келіх. Цяпер я гляджу на жыццё зусім па-іншаму, мне часта

неверагодна цяжка ўявіць сабе шчасце. Памятаю, на першым курсе ў Оксфардзе я прачытаў у "Рэнесансе" Пэйтара – кнізе, якая гэткім дзіўным чынам паўплывала на маё жыццё, – як Дантэ змясціў глыбока ў Апраметнай тых, хто наўмысна жыве ў смутку, і я пайшоў у бібліятэку каледжа і знайшоў у "Боскай камедыі" радкі, дзе гаворыцца, як у глыбіні вусцішнай твані ляжаць тыя, хто "смуткаваў на салодкім паветры", праз стогны паўтараючы зноў і зноў:

*Tristi fummo*
*Nell aer dolce che dal sol s'allegra*[3].

Я ведаў, што Царква асуджае *accidia*[4], але мне гэта ўяўлялася чымсьці неверагодным, грахом, што прыдумаў святар, які нічога не ведае пра існае жыццё. І я не мог зразумець, як Дантэ, які кажа, што "журба наноў лучыць з Богам", мог гэтак жорстка абыйсціся з закаханымі ў смутак, калі яны сапраўды былі. Я не мог тады і памысліць, што надыдзе дзень, калі гэта стане адной з найвялікшых спакусаў у маім жыцці.

У Вондзварцкай турме я прагнуў смерці. Яна была адзіным маім жаданнем. Пасля двух месяцаў у лазарэце мяне перавялі сюды, і між тым, як маё фізічнае адчуванне паступова паляпшалася, нутро маё напаўнялася гневам. Я меў цвёрды намер скончыць самагубствам у той самы дзень, як выйду з-за кратаў. Праз некаторы час гэты благі настрой мінуў, і я вырашыў жыць, але насіць жалобу, як каралі носяць пурпур: ніколі больш не ўсміхнуцца, ператвараць кожны дом, куды я ўвайду, у прытулак тугі, прымусіць сяброў марудна ісці са мною ў смутку, вучыць іх, што ў маркоце – сапраўдная таямніца жыцця, знявечыць іх чужой журбою, знясіліць сваім болем. Цяпер я пачуваюся зусім іначай. Па-мойму, было б вялікай няўдзячнасцю і жорсткасцю з майго боку напускаць на сябе маркоту, каб сябры, прыйшоўшы да мяне, вымушаныя былі ў знак спачування маркоціцца яшчэ больш; альбо, жадаючы зрабіць ім прыемнасць, у маўчанні частаваць іх горкімі напоямі ды пахавальнымі стравамі. Я мушу навучыцца быць вясёлым і шчасным.

Апошнія два разы, калі мне было дазволена сустрэцца з сябрамі, я імкнуўся быць як мага весялейшым, усяляк выказваць радасць, каб хоць крыху аддзячыць ім за тое, што яны ўзялі на

сябе працу адолець доўгі шлях з горада, каб пабачыцца са мною. Так, я ведаю, гэта вельмі малая падзяка, але ўпэўнены, што гэтая драбніца і ўсцешыць іх больш за ўсё. У мінулую суботу я гадзіну бачыўся з Робі і стараўся як найпаўней паказаць, у якім захапленні я сапраўды быў ад нашай сустрэчы. І на карысць таго, што я не памыляюся ў поглядах ды ідэях, якія тут для сябе фармулюю, сведчыць сапраўднае жаданне жыць: я адчуў яго ўпершыню за ўвесь час майго зняволення.

Мне столькі ўсяго трэба зрабіць, што было б вялікім няшчасцем памерці раней, чым мне будзе дадзена споўніць хаця б крыху. Я бачу новыя плыні ў жыцці і мастацтве, і кожная з іх – новы шлях да дасканаласці. Я прагну жыць, каб даследаваць новы для сябе свет – ніяк не менш. Хочаце ведаць, што гэта за новы свет? Думаю, Вы можаце здагадацца. Гэта свет, у якім я жыву, – смутак і ўсё, чаго ён мяне навучае.

Раней я жыў толькі дзеля асалоды. Я ўнікаў усялякай пакуты, усялякай скрухі. Я іх не любіў. Я вырашыў быў не зважаць на іх, наколькі магчыма, ставіцца да іх, так бы мовіць, як да праяваў недасканаласці свету. Яны не ўкладаліся ў маё ўяўленне пра жыццё. Ім не было месца ў маёй філасофіі. Маці – а яна ведала жыццё ва ўсіх яго праявах – часта паўтарала мне гётэўскія радкі, напісаныя рукой Карлайла (і, здаецца, ім жа перакладзеныя) у кнізе, што той падараваў ёй шмат гадоў таму:

*Who never ate his bread in sorrow,*
*Who never spent the midnight hours*
*Weeping and waiting for the morrow, –*
*He knows you not, ye heavenly powers*[5].

Гэтыя радкі часта паўтарала на выгнанні высакародная каралева Прусіі, з якой гэтак брыдка, гэтак жорстка абышоўся Напалеон. Гэтыя радкі часта паўтарала ў цяжкія гадзіны жыцця і мая маці. А я ніяк не мог прыняць ці прызнаць схаваную ў іх вялікую ісціну. Я іх не разумеў. Вельмі добра памятаю, як я адказваў, што не жадаю есці свой хлеб у скрусе ці праводзіць хоць якую ноч плачучы й чакаючы яшчэ гарчэйшага ранку.

Я тады не ўяўляў, што менавіта гэта і рыхтаваў мне Лёс, што на працягу цэлага году жыцця ў гэтым будзе ці не адзіны мой занятак. Але гэткая мне адмераная доля, і за апошнія некалькі

месяцаў я змог праз невыносную пакуту і змаганне спасцігнуць сёе-тое з навукі, захаванае ў глыбінях болю. Святары ды людзі, схільныя кідацца пустымі фразамі, часам гавораць пра пакуту як пра таемства. Але гэта сапраўды аб'яўленне, — калі адкрываецца ніколі дасюль не бачанае, калі ўся гісторыя паўстае ў зусім іншым святле. Тое, што я раней цьмяна, інстынктыўна адчуваў пра мастацтва, цяпер з усёю дакладнасцю, з усёю яскравасцю ўсведамляецца на інтэлектуальным і эмацыйным узроўнях.

Цяпер я разумею, што смутак – найвышэйшае адчуванне, да якога толькі здатны чалавек. Гэта адначасова і вялікае мастацтва, і выпрабаванне вялікага мастацтва. Мастак заўжды шукае праяваў быцця, у якіх душа і цела непадзельныя, дзе вонкавае выяўляе ўнутранае, дзе форма раскрывае сутнасць. І гэткіх праяваў быцця даволі багата: у нейкі момант іх узорам для нас можа быць маладосць і натхнёныя ёю віды мастацтва; у іншы нам падумаецца, што ў сваёй вытанчанай і чуйнай імпрэсіі, у прадчуванні ў вонкавым – духу, які тчэ свае строі з зямлі і паветра, і з туманоў, і з гарадоў, у сваёй хваравітай адчувальнасці да настрояў, тонаў і колераў сучасны краявідны жывапіс увасабляе ў фарбах тое, што ў пластыцы гэтак дасканала выявілі грэкі. Музыка, дзе змест зліты, непарыўна знітаваны з выяўленнем, будзе складаным прыкладам, а кветка ці дзіця – простым узорам таго, што я маю на ўвазе. Але смутак – яго найвышэйшая праява і ў жыцці, і ў мастацтве.

За весялосцю і смехам можа хавацца грубая, жорсткая, чэрствая натура. Але пад абліччам смутку — заўсёды смутак. У адрозненне ад асалоды, боль не начэпіць маску. Праўда ў мастацтве – гэта не адпаведнасць паміж асноўнай ідэяй і выпадковым бытнаваннем, гэта не падабенства абрысу да ценю ці формы — да яе адбітку ў крышталёвым люстэрку, гэта не рэха, што вяртаецца з пустое пячоры, і не срэбны ставок, які паказвае месяцу месяц, а Нарцысу – Нарцыса. Праўда ў мастацтве – гэта адзінства рэчы з яе сутнасцю, калі знешняе перадае ўнутранае, калі ўцелясняецца душа, калі цела спаўняецца духам. Таму ніякая праўда не параўнальная з праўдай смутку. Усё іншае можа быць падманам зроку ці жаданняў, які аслепіць або абрыдне, але са смутку створаныя сусветы: і дзіця, і зорка нараджаюцца ў пакутах.

Больш за тое: у смутку жыве напружаная, надзвычайная рэчаіснасць. Я казаў пра сябе, што быў сімвалічнай фігурай адносна

культуры і мастацтва сваёй эпохі. Тут, у гэтым гаротным месцы, кожны гаротнік разам са мною ёсць сімвалічнай фігурай адносна самой таямніцы жыцця. Бо таямніца жыцця – пакута. Яна схаваная ў глыбіні ўсіх рэчаў. На пачатку жыцця салодкае нам гэтак салодкае, а горкае настолькі горкае, што мы непазбежна скіроўваем усе свае памкненні да асалоды, мы прагнем не проста "месяц-другі жывіцца ад сотаў мядовых", а праз усе гады толькі з іх і ласавацца, не разумеючы, што гэтак мы морым голадам душу.

Памятаю, я размаўляў аднойчы пра гэта з адной з найцудоўнейшых сярод усіх вядомых мне асобаў, з жанчынай, чые спагады і высакароднай дабрыні да мяне як перад, гэтак і пасля майго горкага зняволення немагчыма ні ўявіць, ні выказаць. Яна, сапраўды, больш за ўсіх на свеце дапамагала мне, сама таго не ведаючы, несці бярэмя маіх няшчасцяў адным толькі сваім існаваннем, тым, што яна ёсць такая, якая ёсць. У нечым – ідэал, а ў нечым – крыніца добрага ўплыву, яна паказвае, якім ты мог бы стаць, і пры гэтым дапамагае ім рабіцца. Душа, якая напаўняе звычайнае паветра водарам, робіць духоўнае простым і натуральным, як сонечнае святло, як мора. Для яе хараство і смутак ідуць поруч і кажуць пра тое самае. Яскрава памятаю, як таго разу, які я згадваю, я сказаў ёй, што ў адным вузенькім лонданскім завулку туліцца столькі пакуты, што яе хопіць, каб давесці, што Бог знелюбіў чалавека, і што любы смутак, апроч хіба смутку дзіцяці, калі яно плача ў маленькім садочку над правінай, якую ўчыніла ці не, ушчэнт нявечыць аблічча ўсяго стварэння. Я цалкам памыляўся. Яна мне так і сказала, але я не мог даць ёй веры. Я знаходзіўся па-за светам, у якім можна дасягнуць падобнае веры. Цяпер жа мне здаецца, што толькі чыёйсьці любоўю можна патлумачыць тыя невераемныя пакуты, якімі поўны свет. Не магу ўявіць ніякага іншага тлумачэння. Я перакананы: яго няма, і калі свет сапраўды, як я казаў, створаны са смутку, дык створаны ён рукамі любові, бо ні ў які іншы спосаб душа чалавека, дзеля якога і існуе свет, не дасягне дасканаласці. Асалода – прыўкраснаму целу, боль – прыўкраснай душы.

Калі я кажу, што перакананы ў гэтым, ува мне прамаўляе залішняя ганарлівасць. Далёка-далёка відаць горад Божы, падобны да найпрыгажэйшага перла. Ён такі чароўны, што, здаецца, дайсці

да яго магло б дзіцятка ў летні дзень. І дзіцятка магло б. Але са мною і такімі, як я, усё іначай. Можна нешта спасцігнуць у імгненне, але потым страціць гэта на працягу доўгіх свінцовых гадзінаў. Гэтак цяжка ўтрымацца на "вышынях, якіх здольная дасягнуць душа". Мы разважаем у вечнасці, але марудна рушым скрозь час; і мне няма патрэбы паўтараць, як марудна ідзе для нас, зняволеных, час, як паціху праточваюцца назад, у камеру і ў душу, стома і роспач, ды гэтак надзіва неадступна, што даводзіцца сапраўды прыбіраць у доме да іх прыйсця, як дзеля няпрошанага госця, ці суворага гаспадара, ці служкі, быць служкаю якому — твая доля ці воля.

І хоць цяпер маім сябрам, напэўна, будзе цяжка ў гэта паверыць, але ўсё ж праўда тое, што ім, хто жыве на волі, у бяздзейнасці ды камфорце, прасцей засвоіць урокі пакоры, чым мне, які кожны дзень пачынае з таго, каб, укленчыўшы, памыць падлогу камеры. Турэмнае жыццё з яго нягодамі ды забаронамі робіць з чалавека бунтара. Самае страшнае не ў тым, што тут разбіваецца сэрца, – сэрцы створаныя дзеля таго, каб разбівацца, – а ў тым, што сэрца камянее. Часам здаецца, што перажыць, ператрываць дзень можна толькі з нахабствам на твары ды пагардай на вуснах. А той, хто бунтарыць, не можа спадобіцца ласкі Божай, кажучы словамі, якія гэтак любіць Царква, – і слушна робіць, заўважым, бо ў жыцці, як і ў мастацтве, бунтарскі дух зачыняе пратокі душы, не пушчае подыху нябёсаў. І ўсё ж, калі мне наканавана засвоіць гэтыя ўрокі, я мушу засвоіць іх тут, і мушу спаўняцца радасці, калі ногі мае стаяць на правільным шляху, калі твар мой звернуты да "брамы, што завецца хараством", хоць, магчыма, я буду часта падаць у бруд і неаднойчы заблукаю ў туманах.

Вядома, што гэтае Новае Жыццё, як дзеля любові да Дантэ я яго часам заву, насамрэч зусім не новае, а проста працяг ранейшага жыцця ў яго развіцці й дасканаленні. Памятаю, як у Оксфардзе, гуляючы з сябрам вакол коледжа Святое Магдалены, па вузенькіх сцежках, абапал якіх гняздзіліся птушкі, аднае раніцы за год да заканчэння я сказаў, што хачу пакаштаваць пладоў з усіх дрэваў у садзе жыцця, што з гэтым памкненнем у душы я ўваходжу ў жыццё. І сапраўды, я гэтак і рабіў, гэтак і жыў. Я памыліўся адно ў тым, што абмежаваўся толькі дрэвамі на

сонечным баку сада і пазбягаў іншага, зацененага, змрочнага боку. Параза, ганьба, галеча, туга, роспач, нават слёзы, знявечаныя словы, што ў болю зрываюцца з вуснаў, шкадаванне, што змушае крочыць па цернях, згрызоты сумлення, што выносіць вырок, самапрыніжэнне, што карае, адчай, што пасыпае попелам галаву, пакута, што ўбіраецца ў рыззё і ліе жоўць ва ўласны кубак, – я баяўся ўсяго гэтага. І паколькі я меў цвёрды намер ніколі іх не ўведаць, лёс прымусіў мяне каштаваць іх адно за адным, жывіцца імі, цэлы год не ведаць ніякай іншай ежы.

Я ні на хвіліну не шкадую, што жыў дзеля асалоды. Я аддаваўся ёй цалкам, напоўніцу, і толькі так варта рабіць усё, што робіш. Не было асалоды, якой бы я не паспытаў. Я кінуў перл сваёй душы ў келіх з віном. Пад гукі флейтаў я ішоў па сцежцы, абсыпанай ружамі. Я піў нектар. Але працягваць гэтак жыць было б аблудай, абмежаванасцю. Мне трэба было рушыць далей. Другая палова сада таксама мела свае таямніцы. Безумоўна, мае кнігі адцененыя прадбачаннем, прадчуваннем усяго гэтага. Яно ёсць і ў “Шчаслівым прынцы”, і ў “Юным каралі”, асабліва ў тым абзацы, дзе біскуп прамаўляе да ўкленчанага хлопчыка: “Ці ж не ёсць Той, хто стварыў бядоту, мудрэйшым за цябе?” – фраза, якая на момант пісання здавалася мне ўсяго толькі фразай. Яно прыхаванае ў згуках кону, што барвовай ніткай працінаюць усю тканку “Дарыяна Грэя”. “Крытык як мастак” вымаляваў гэта шматколернай палітрай, яно занатаванае ў “Душы чалавека...” і лёгка прачытваецца ў лістах. Яно ў тых рэфрэнах, матывах, што сваёй паўторнасцю надаюць музычнае гучанне “Саламеі”, злітоўваючы яе ў баладу. Яно ўвасобленае ў белым вершы пра чалавека, які з бронзавай выявы “Асалоды, што жыве толькі хвілю” павінен стварыць выяву “Смутку, што доўжыцца вечна”. Іначай не магло і быць. У кожны асобны момант жыцця мы ёсць тым, чым будзем, як і тым, чым былі. Мастацтва – сімвал, бо чалавек – сімвал.

Вось яно, найвышэйшае спраўджанне жыцця ў мастацтве, бо жыццё ў мастацтве – гэта проста самаўдасканаленне. Пакора мастака – у ягонай здольнасці шчыра прыняць усё існае, як і любоў мастака – у простым адчуванні хараства, якое раскрывае свету сваё цела і душу. У “Марыю-эпікурэйцу” Пэйтар імкнецца прымірыць мастацкае жыццё з рэлігійным у самым глыбінным,

самым лепшым і чыстым сэнсе. Але Марый – толькі глядач, так, ідэальны глядач, якому дадзена "сузіраць відовішча жыцця з адпаведнымі пачуццямі", – гэтак вызначыў Уордзварт сапраўднае прызначэнне паэта. І ўсё ж Марый – толькі глядач, магчыма, залішне заклапочаны прывабнасцю лавак у свяцілішчы, каб заўважыць, што сузірае ён свяцілішча смутку.

Мне бачыцца больш патаемная, больш непарыўная сувязь паміж сапраўдным жыццём Хрыста і сапраўдным жыццём мастака. Вельмі прыемна думаць, што задоўга да таго, як смутак напоўніў сабою кожны мой дзень і прывязаў мяне да свайго кола, у "Душы чалавека..." я напісаў, што той, хто хоча жыць падобна да Хрыста, мусіць быць сабою і толькі сабою, узяўшы за ўзор не толькі пастуха на пагорку і вязня за кратамі, але і мастака, для якога свет ёсць жывою карцінай, і паэта, для якога жыццё ёсць песняй. Памятаю, як, седзячы ў нейкай парыжскай кавярні з Андрэ Жыдам, я сказаў яму, што хоць мяне амаль не цікавіць метафізіка і зусім не цікавіць мараль, аднак я чую, што кожнае слова Платона, як і кожнае слова Хрыста, можна перанесці ў мастацтва, дзе яны споўняцца дарэшты.

У вобразе Хрыста не толькі праглядаецца шчыльная лучнасць асобы з дасканаласцю, дзе палягае сапраўднае адрозненне паміж класічнай і рамантычнай плынямі ў жыцці, але самая сутнасць Ягонай натуры тая ж, што і натуры мастака, – яскравае, палымянае ўяўленне. Ён увасобіў у цэлай сферы чалавечых узаемінаў тое вобразнае суперажыванне, якое ў сферы мастацтва ёсць адзінай таямніцаю творчасці. Ён разумеў лепрыя ў яго хваробе, сляпых, якія жывуць у цямрэчы, адчайную пакуту тых, хто жыве дзеля асалоды, і дзіўную нэндзу багацеяў. Нехта ў гадзіну няшчасцяў напісаў мне: "Зрынуты з п'едэстала, Вы нецікавы". Наколькі далёкі аўтар гэтых словаў ад таго, што Мэцью Арнальд назваў "загадкай Ісуса". Любы з іх мог бы навучыць таго аўтара, што ўсё, што здараецца з іншым, здараецца з табою. І калі Вам патрэбна выслоўе, каб чытаць яго зранку і ўночы, у горы і ў радасці, напішыце на сценах свайго дома літарамі, якія пазалоціць сонца і пасрэбрыць месяц: "Усё, што здараецца з табою, здараецца з іншым".

Сапраўды, месца Хрыста – разам з паэтамі. Уся Ягоная канцэпцыя Чалавецтва паўстала з уяўлення і толькі праз яго можа

спасцігацца. Чалавек для Яго быў тым, чым для пантэіста – Бог. Ён першы ўбачыў падзеленых на расы людзей як лучнасць. Да Яго былі багі і былі людзі; Ён жа, адчуваючы праз містычнае суперажыванне, што ў Ім увасобіліся і тыя, і другія, заве сябе, адпаведна настрою, Сынам Божым ці Сынам Чалавечым. Больш за любую іншую гістарычную постаць Ён абуджае ў нас той стан задзіўлёнасці, да якога заўсёды звяртаюцца рыцарскія раманы. Ёсць усё ж нешта для мяне амаль неверагоднае ў тым, што малады селянін з Галілеі ўявіў, быццам Ён можа вынесці на Сваіх плячах цяжар цэлага свету – усё, што было ўжо ўчынена і адпакутавана, і ўсё, што яшчэ будзе ўчынена і адпакутавана: грахі Нерона, Цэзара Борджа, Аляксандра VI, Рымскага Імператара і Жраца Сонца, пакуты тых, імя якім – легіён і чый дом – дамавіна: прыгнечаных народаў, фабрычных дзяцей, рабаўнікоў, вязняў, выгнанцаў, знямелых пад прыгнётам, маўчанне якіх чуе толькі Бог! І не толькі ўявіць, але і здзейсніць гэта, так што цяпер усе, хто сутыкаецца з Ягонай асобай, нават калі яны не схіляюцца перад Ягоным алтаром і не кленчаць перад Ягоным святаром, неяк адчуваюць, як адступае ў сваёй пачварнасці іхні грэх і адкрываецца ў сваім хараstве іхні смутак.

Я сказаў, што Хрыста можна прыраўнаць да паэтаў. Сапраўды, Шэлі і Сафокл – з Ягонае сябрыны. Але і ўсё Ягонае жыццё – найцудоўнейшая з паэмаў. Паводле “жалю і жаху” яно пераўзыходзіць усю грэцкую трагедыю. Беззаганная чысціня Героя ўздымае ўвесь сюжэт да вышыняў рамантычнага мастацтва(...) і паказвае, як памыляўся Арыстоцель у сваім трактаце пра драму, калі пісаў, што відовішча пакутаў бязвіннага было б невыносным. Ні ў Эсхіла, ні ў Дантэ, гэтых суворых адмыслоўцаў пяшчоты, ні ў Шэкспіра, самага чалавечнага з усіх вялікіх майстроў, ні ва ўсіх кельцкіх міфах і паданнях, дзе хараство свету прасвечвае праз імглу слёз, а жыццё чалавека не большае за жыццё кветкі, не знайсці нічога, што ў сваім простым пафасе, злучаным і з’яднаным з узнёслым трагізмам, магло б наблізіцца да апошняй дзеі Пакутаў Хрыстовых. Вось Ягоная сціплая вячэра з сябрамі, адзін з якіх ужо прадаў Яго за срэбнікі, Ягоная туга ў маўклівым асветленым месяцам садзе, вось падыходзіць да Яго ілжывы сябра, каб выдаць Яго праз пацалунак, а вось той сябра, які па-ранейшаму ў Яго верыць, на кім, як на скале, Ён спадзяваўся збудаваць прытулак

чалавеку, выракаецца Яго, перш чым пракрычаў певень на золку. Ягоная бязмежная самота, Ягоная пакора, прыняцце ўсяго – і побач з гэтым першасвятар, які ў гневе ірве на сабе вопратку; пракуратар, які патрабуе вады ў дарэмным спадзяванні змыць з сябе пляму нявіннай крыві, праз якую стаўся барвянай постаццю ў гісторыі; жалобнае ўкаранаванне – адзін з найцудоўных момантаў за ўсю пісаную гісторыю; укрыжаванне Бязвіннага на вачах у Ягонай маці і ўлюбёнага вучня; салдаты, што кідаюць жэрабя на Ягоную вопратку; жахлівая смерць, якою Ён з’явіў свету самы адвечны ягоны сімвал; і ў рэшце рэшт — пахаванне ў склепе багатыра, калі цела Ягонае загарнулі ў егіпецкае палатно, умасціўшы дарагімі духмянасцямі, як царскага сына. Калі разважаеш пра ўсё гэта, нельга не дзякаваць, што ў найвышэйшай царкоўнай службе мусіць наноў здзяйсняцца гэтая трагедыя, толькі без праліцця крыві, што адбываецца містычнае выяўленне – праз дыялог, праз уборы, нават жэсты – Пакутаў Гасподніх. Мяне заўсёды праймае багавейнае здуменне, калі згадваю, што грэцкі хор, страчаны паўсюль у мастацтве, захаваўся ў адказах служкі святару ў імшы.

І ўсё-ткі жыццё Хрыста – сапраўдная ідылія: гэтак шчыльна знітаваныя ў ім смутак і хараство ў сваім існым значэнні і праявах, хоць і сканчаецца яно разрываннем царкоўных покрываў, цемрай, якая агарнула твар зямлі, і каменем, прываленым да ўваходу ў пячору. Яго заўжды ўяўляюць маладым жаніхом з сябрынаю, як Ён сапраўды пра сябе казаў; пастухом, які ідзе далінаю са сваімі авечкамі, шукаючы зялёнае лугавіны ці прахалоднага ручая; спеваком, які спрабуе з музыкі збудаваць муры Горада Божага, альбо закаханым, чыёй любові не мог змясціць цэлы свет. Яго цуды падаюцца мне вытанчанымі, як надыход вясны, і гэткімі ж натуральнымі. Мне зусім не цяжка паверыць, што адна Яго прысутнасць несла супакой збалелым душам – гэтак магутнае было абаянне Ягонае асобы, і што тыя, хто дакранаўся да вопраткі ці рук Ягоных, забываліся на свае цярпенні; што, калі Ён праходзіў дарогаю жыцця, тыя, хто ніколі раней не сузіраў жыццёвых таямніцаў, яскрава іх бачылі; і што тыя, хто быў глухі да ўсялякага голасу, апроч асалоды, упершыню чулі голас любові і знаходзілі яго “мілагучным, як лютня Апалона”, што ліхія жарсці адступалі перад Ягоным з’яўленнем, а людзі, чыё панылае, нуднае жыццё

ўдавала на смерць, падымаліся, нібы з труны, калі Ён іх клікаў; і што, калі Ён навучаў з гары, натоўп забываўся на голад, і смагу, і зямныя турботы; і што сябрам Ягоным, якія слухалі Яго падчас абеду, грубая ежа здавалася далікатнай, вада была на смак як добрае віно, а паветра напаўнялася салодкім водарам.

Рэнан у "Жыцці Ісуса", гэтым цудоўным пятым Евангеллі, Дабравесці паводле св. Тамаша, так бы мовіць, недзе адзначае як вялікае дасягненне Хрыста тое, што Ён застаецца аточаны любасцю пасля смерці, гэтаксама, як і пры жыцці. І пэўна, калі месца Ягонае – разам з паэтамі, Ён – першы сярод усіх, хто любіць. Ён ведаў, што любоў ёсць галоўная тайніца свету, якое заўсёды шукалі мудрыя, і што толькі праз любоў магчыма наблізіцца да сэрца лепрыя ці прыпасці да ног Бога.

Але перадусім Хрыстос – найвышэйшы сярод індывідуалістаў. Пакора, як і мастацкае прыняцце любога досведу, – проста спосаб самавыяўлення. Чалавечая душа – вось чаго заўсёды шукае Хрыстос. Ён заве яе "Царствам Божым" і знаходзіць яго ў кожным. Ён параўноўвае яго з драбніцамі: з маленечкім зярняткам, з прыгаршчай дрожджаў, з перлам, бо спасцігнуць сваю душу можна, толькі выбавіўшыся ад усіх іншых жарсцяў, ад усялякае засвоенае культуры, ад усіх знешніх набыткаў, ці то добрых, ці благіх.

Я цвёрда трываў усё, што мне выпадала, сцяўшы волю і сілкуючы бунтарны дух, пакуль не страціў усё на свеце, апроч аднаго-адзінага. Я страціў імя, месца ў грамадстве, шчасце, волю, багацце. Я стаў вязнем і жабраком. Але ў мяне заставаліся мае дзеці. І раптам закон адбірае іх. Удар быў настолькі жудасны, што я не ведаў, што рабіць. Я ўпаў на калені, схіліў галаву, заплакаў і прамовіў: "Цела дзіцяці – як цела Госпада: я не варты ніводнага". Мабыць, гэты момант мяне і ўратаваў. Тады я зразумеў, што мне застаецца толькі адно – усё прыняць. І з таго часу, як бы дзіўна гэта ні гучала, я стаў шчаслівейшы. Нарэшце я сягнуў самых глыбіняў сваёй душы. Я часта ставіўся да яе як вораг, але пабачыў, што яна чакае мяне як сябра. А паразумеўшыся з уласнай душой, чалавек робіцца просты, як дзіця, якім ён і павінен быць, як казаў Хрыстос.

Як трагічна, што мала хто "знаходзіць сваю душу", перш чым памерці. "Няма ў чалавеку нічога больш рэдкага, – гаворыць

Эмерсан, – чым уласны ўчынак”. І гэта праўда. Большасць людзей – гэта нехта іншы. Іх думкі – меркаванні іншых, іх жыцці – імітаванне, іх жарсці – цытаванне. Хрыстос быў не толькі найвышэйшым індывідуалістам – Ён быў першым індывідуалістам у гісторыі. З Яго спрабавалі зрабіць звычайнага філантропа або залічвалі Яго да альтруістаў. Але Ён не быў ані тым, ані другім. Вядома, Ён меў спагаду да бедных, да кінутых у вязніцу, да прыніжаных, да няшчасных. Але куды як большаю была Ягоная шкадоба да багатых, да заўзятых геданістаў, да тых, хто змарнаваў сваю свабоду, стаўшыся рабом рэчаў, да тых, хто апранаецца ў мяккія строі і жыве ў царскіх палацах. Багацце і асалода для Яго — сапраўды большая трагедыя, чым галеча і смутак. А што да альтруізму, дык хто лепей за Яго ведаў, што вызначае нас пакліканне, а не памкненне і што з церняў не збярэш вінаграду, а з дзядоўніка – смокваў?

Яго крэдам не было жыццё дзеля іншых як дакладная свядомая мэта. Не, не гэта было падмуркам Ягонага крэда. Калі Ён гаворыць: “Даруйце ворагам сваім”, – то гаворыць не дзеля ворагаў, а дзеля цябе самога, бо любоў прыгажэйшая за нянавісць. Калі Ён просіць юнака: “Прадай усё, што маеш, і раздай бедным”, – то думае не пра бедных, а пра душу маладзёна, душу, якую нявечыць багацце. У стаўленні да жыцця Ён як мастак, які ведае, што, паводле непахіснага закону самадасканалення, паэт мусіць складаць спевы, скульптар – выказваць свае думкі ў бронзе, а жывапісец – рабіць свет люстэркам свайго настрою, гэтаксама, як кожную вясну ўбіраецца ў квецень глог, залаціцца ў час жніва збожжа, а месяц на сваім пэўна вызначаным шляху з маладзіка робіцца поўняй, а з поўні – ветахам.

Але хоць Хрыстос і не казаў людзям: “Жывіце дзеля іншых”, – Ён паказваў, што няма ніякай розніцы паміж жыццямі іншых і ўласным жыццём. Тым самым Ён узбуйніў чалавечую асабовасць да тытанічнай. З Яго прыйсцем гісторыя жыцця кожнага робіцца (альбо можа стацца) гісторыяй Сусвету. Вядома, культура ўзмацняе асобу чалавека. Мастацтва надзяляе нас свядомасцю безлічы іншых людзей. Той, хто мае артыстычную натуру, выправіцца на выгнанне разам з Дантэ і ўведае, які салоны хлеб і крутыя лесвіцы ў чужынцаў; ён можа на імгненне

спасцігнуць гётэўскую яснасць і спакой і, разам з тым, вельмі добра разумее Бадлера, які крычыць Богу:

*O Seigneur, donnez-moi la force et la courage*
*De contempler mon corps et mon coeur sans dégoût*[6].

У санетах Шэкспіра ён прачытае – на ўласную болесць, можа стацца, – таямніцу яго кахання і зробіць яе сваёй: ён па-новаму будзе глядзець на сённяшняе жыццё, бо слухаў нактурны Шапэна, або дакранаўся да старажытнай Грэцыі, або чытаў гісторыю кахання даўно памерлага героя да памерлай даўно жанчыны, чые валасы былі як ніткі чыстага золата, а вусны – як гранат. Але суперажыванне артыстычнай натуры абавязкова будзе з тым, што знайшло сваё ўвасабленне. У словах ці фарбах, у музыцы ці мармуры, пад размаляванымі маскамі ў п'есе Эсхіла ці ў гуках жалейкі сіцылійскага пастуха мусіць раскрыць сябе Чалавек і ягоная ідэя.

Для мастака выяўленне – адзіная форма, праз якую ён увогуле здатны ўспрымаць жыццё. Для яго нямое – значыць мёртвае. Але не для Хрыста. Сваім шырокім, бязмежна багатым уяўленнем, перад якім немагчыма не багагавець, Ён ахапіў увесь свет невымоўнага, безгалосы свет болю, і зрабіў яго Сваім царствам, а сам стаўся ягоным голасам. Тых, пра каго я казаў, што яны знямелыя пад прыгнётам, "чыё маўчанне ўчуе толькі Бог", Ён абраў сваімі братамі. Ён імкнуўся стаць вачамі сляпых і вушамі глухіх, крыкам з вуснаў тых, у каго звязаны язык. Ён жадаў стацца для мірыядаў тых, хто не знаходзіў прамаўлення, трубою, якая б гукала за іх да нябёсаў. І, адчуўшы Сваёй артыстычнай натурай, для Якой пакута і смутак былі шляхам здзейсніць Сваю ідэю прыўкраснага, што кожная ідэя нічога не вартая, пакуль яна не ўцелясніцца і не стане вобразам, Ён стаўся вобразам Засмучонага і ў гэтай якасці прыцягваў і натхняў сабою мастацтва, як ніводзін грэцкі бог.

Бо грэцкія багі, нягледзячы на ўсё хараство сваіх целаў, былі зусім не тымі, кім уяўляліся. Лоб Апалона быў як світальны сонечны дыск над гарою, а ступакі яго – як крылы ранку, але сам ён бязлітасна абыйшоўся з Марсіем і забіў усіх дзяцей Ніябеі. У сталёвых вачах Афіны не знайшлося шкадавання да Арахны, а ў Геры толькі й было сапраўды высакароднага, што ўрачыстасць

ды паўліны, дый сам Бацька Багоў занадта ўпадаў за дочкамі чалавечымі. З грэцкай міфалогіі найбольш глыбока паўплывала на рэлігію Дэметра, багіня земляробства (а яна не была з ліку алімпійцаў), а на мастацтва – Дыяніс, сын смяротнай жанчыны, момант нараджэння якога стаўся момантам яе смерці.

Але самое жыццё з самых сваіх нізоў нарадзіла нешта шматкроць больш дзівоснае за маці Празерпіны і сына Семелы. У доме цесляра ў Назарэце нарадзіўся чалавек, непараўнальна больш велічны за ўсіх створаных міфамі й легендамі, той, каму было наканавана, як ні дзіўна, раскрыць свету містычны сэнс віна ды існае хараство лілеяў, як нікому іншаму ні на Кіфероне, ні на Энне.

І спеў Ісаі: "Ім пагарджаюць, і выракаюцца яго людзі, засмучонага, які спазнаў тугу; і мы хаваем твары свае ад яго"[7], – прадвяшчаў Яго самога, і ў Ім збылося казанае праз прарока. Мы не павінны баяцца гэткай фразы. Кожны твор мастацтва – гэта спраўджанне прароцтва, бо кожны твор мастацтва – гэта пераўтварэнне ідэі ў вобраз. Кожны чалавек павінен быць спраўджаннем, бо кожны чалавек павінен быць здзяйсненнем ідэалу, Боскага і чалавечага. Хрыстос адчуў і ўвасобіў гэты ідэал, і мара вергіліеўскага паэта ў Ерузаліме ці ў Бабілоне праз вякі ўцелясніліся ў Ім, у Тым, Каго чакаў свет. "Гэтак было знявечанае болей, чым ва ўсякага чалавека, аблічча яго, і постаць яго – большая, чым у каго з сыноў чалавечых"[8], – гэтыя знакі разам з іншымі назваў Ісая адрознымі рысамі новага ідэалу. І як толькі мастацтва ўсвядоміла, што гэта азначае, яно кветкаю раскрылася да Таго, у Кім праўда ў мастацтве ўвасобілася, як ніколі раней. Бо хіба праўда ў мастацтве не ёсць тое, у чым, як я казаў, "вонкавае перадае ўнутранае, душа робіцца целам, а цела спаўняецца духам, дзе форма раскрывае сутнасць"?

Для мяне адна з найбольш вартых жалю падзеяў гісторыі палягае ў тым, што ўласна адраджэнне Хрыстовае, якому абавязаныя сваім з'яўленнем і сабор у Шартры, і легенды пра караля Артура, і Францыск Асізкі, і творы Джота, і "Боская камедыя" Дантэ, не атрымала магчымасці развівацца паводле ўласных законаў, а было перарванае і сапсаванае пачварным класічным Рэнесансам, які даў нам Петрарку, фрэскі Рафаэля,

архітэктуру паводле Андрэа Паладыя, фармальную французкую трагедыю, сабор св. Паўла, паэзію Поўпа – усё створанае звонку паводле мёртвых правілаў, а не тое, што паўстае знутры праз жыццядайны дух. Але паўсюдна, дзе ёсць у мастацтве рамантычны дух, так ці іначай прысутны Хрыстос альбо душа Хрыстовая. Ён ёсць у "Рамэа і Джульеце", у "Зімовай казцы", у правансальскай паэзіі, у "Старым мараку", у "*La Belle Dame sans Merci*", у "Баладзе пра міласэрнасць" Чатэртана.

Мы абавязаныя Яму самымі рознымі постацямі і творамі. "*Les Misérables*" Гюго, "*Fleurs du Mal*" Бадлера, пранізліва-жаласлівая нотка ў рускіх раманах, Верлен і Верленавыя вершы, як і вітражы і габелены, як і творы Берн-Джонса і Морыса, належаць Яму не менш, чым вежа Джота, Ланселот і Гінеўра, Тангейзер, трывожлівыя рамантычныя скульптуры Мікеланджэла, гатычная архітэктура і любоў да дзяцей і кветак. Сапраўды, у класічным мастацтве ім адводзілася замала месца, там ім цесна было расці ды гуляць. Але з XII стагоддзя і да нашых дзён яны безупынна з'яўляюцца ў мастацтве – у розных выглядах і ў розныя часы, парыўна і ўпарта, як гэта ўласціва дзецям і кветкам: і вясной заўсёды здаецца, што кветкі хаваліся былі і цяпер выйшлі на сонейка, адно каб дарослым не паспела надакучыць іх шукаць; а жыццё дзіцяці нагадвае сабою красавіцкі дзень, дзе ёсць і дожджык, і сонца для нарцыса.

Мастацкае ўяўленне самога Хрыста – вось што робіць Яго сярэдзіннай пульсацыяй рамантыкі. Дзівосныя героі вершаванай драмы ці балады створаныя ўяўленнем іншых, але Ісус Назаранін стварыў Сябе толькі са Свайго ўласнага ўяўлення. І прароцтва Ісаі было насамрэч не больш звязанае з Ягоным прыйсцем, чым спеў салоўкі – з узыходам месяца; не больш, але, магчыма, і не менш. Ён быў як спраўджаннем, гэтак і адпрэчаннем прароцтваў, бо колькі надзеяў Ён споўніў, столькі ж і знішчыў. "Ва ўсім прыўкрасным ёсць нейкая незвычайнасць прапорцыяў", – гаворыць Бэкан. І пра тых, хто нарадзіўся ад духу, пра тых, хто, як Ён сам, увасабляе дынамічныя сілы, Хрыстос гаворыць, што яны як вецер, які "дзьме, дзе пажадае, і ніхто не скажа, адкуль ён прыходзіць і куды сыходзіць". Таму Ён гэтак прыцягвае мастакоў. У Ім – усе колеры жыцця: дзівоснасць, нязведанасць, жаль, выклік, захапленне,

любоў. Ён будзіць задзіўлёнасць і стварае настрой, у якім толькі й магчыма Яго спасцігнуць.

І мне радасна згадваць, што калі Ён Сам "увесь са сціслага ўяўлення", то і цэлы Сусвет – з таго ж самага рэчыва. У "Дарыяне Грэю" я сказаў, што ўсе найвялікшыя ў свеце грахі чыняцца ў галаве. Але ж у галаве чыніцца ўсё. Цяпер мы ведаем, што чалавек бачыць не вачамі і чуе не вушамі, што гэта проста каналы, па якіх перадаюцца – адпаведна ці не – ўражанні ўспрымання. У галаве – вось дзе мак чырвоны, яблык – духмяны, а жаўрук – пяе.

З нядаўняга часу я ўважліва вывучаю чатыры паэмы ў прозе пра Хрыста. На Каляды я нарэшце здабыў грэцкі тэкст Новага Запавету, і кожнае раніцы, вымыўшы камеру і надраіўшы посуд, я чытаю кавалачак з Дабравесцяў, які-небудзь выпадковы тузін радкоў. Цудоўны пачатак дня. З гэтага трэба было б пачынаць кожнаму, нават тым, хто вядзе вірлівае, бязладнае жыццё. Бясконцыя паўтарэнні, недарэчныя і дарэчныя, спляжылі нам свежасць, наіўнасць, простую рамантычную чароўнасць Дабравесцяў. Мы занадта часта чуем, як іх занадта кепска чытаюць, а ўсялякае паўтарэнне – антыдухоўнае. А звярнуцца да грэцкага тэксту – нібыта з цеснай цёмнай хаціны выйсці ў кветнік, насаджаны лілеямі.

І для мяне ўдвая ўзрастае асалода пры думцы, што, вельмі верагодна, да нас дайшлі тыя самыя словы, *ipsissima verba*, якія казаў Хрыстос. Заўсёды лічылася, што Хрыстос гаварыў па-арамейску. Так думаў нават Рэнан. Але цяпер мы ведаем, што сяляне Галілеі, як і сённяшнія ірландзкія сяляне, былі дзвюхмоўныя, што па ўсёй Палестыне, як і на ўсім Усходзе, грэцкая была звычайнай мовай зносінаў. Мне заўсёды было сумна ад думкі, што мы ведаем слова Хрыстовае толькі праз пераклад з перакладу. А зараз мне вельмі радасна думаць, што, як то да мовы, Яго мог бы слухаць Хармід, з Ім мог бы развважаць Сакрат, яго мог бы разумець Платон, што Ён сапраўды сказаў "εγω ειμι ο ποιμην ο καλος"[9], што пра палявыя лілеі, якія не працуюць і не прадуць, Ён так і сказаў: "καταμαθετε τα κρινα του αγρου πως αυξανει ου κοπια ουδε νηθει"[10], што апошняе Ягонае слова, калі Ён крыкнуў: "Жыццё маё скончылася, споўнілася, завершылася", – было менавіта такім, як яго падае святы Ян: "τετελεσται"[11] – нічога болей.

Чытаючы Евангеллі – асабліва паводле святога Яна ці якога ранняга гностыка, што ўзяў Ягонае імя і покрыва, – я заўважаю, як яны паслядоўна цвердзяць, што ўяўленне – аснова ўсялякага жыцця, духоўнага і матар'яльнага. Разам з гэтым я бачу, што для Хрыста ўяўленне было проста адной з формаў любові, а любоў была для Яго ўладаром, Госпадам у самым поўным сэнсе слова. Месяцы паўтара таму доктар дазволіў мне замест грубага чорнага хлеба, якім звычайна кормяць у турме, есці белы. Гэта вялікі ласунак. Праўда, дзіўна гучыць, што камусьці чэрствы хлеб можа быць ласункам. Для мяне – настолькі вялікім, што кожнага разу, паеўшы, я ўважліва падбіраю кожную крышачку, што засталася на алавянай талерцы ці ўпала на шорсткі рушнік, якім замест абруса засцілаюць стол. І раблю гэта не з-за голаду – цяпер мне хапае ежы, – а проста дзеля таго, каб нічога з таго, што мне даюць, не страчвалася марна. Гэтак жа трэба ставіцца і да любові.

Хрысту, як і ўсім прыцягальным асобам, была дадзеная ўлада не толькі Самому прамаўляць прыгожае, але і рабіць так, каб іншыя прамаўлялі да Яго прыгожае. Мне вельмі падабаецца гісторыя з грачанкай, якую распавядае святы Марк. Калі, каб выпрабаваць яе веру, Ён сказаў, што не можа даць ёй хлеб дзяцей Ізраілевых, тая адказала, што сабачкі (κυναρια мусіць перакладацца як "сабачкі") пад сталом ядуць крышачкі, што падаюць у дзяцей. Большасць людзей жыве дзеля любові і замілавання. А трэба жыць любоўю і замілаваннем. Калі нам з'яўляецца любоў, мы павінны прызнаць, што зусім яе не вартыя. Ніхто не варты, каб яго любілі. Тое, што Бог любіць чалавека, паказвае нам, што, паводле Боскага ідэальнага парадку рэчаў, адвечная любоў даецца таму, што адвечна яе не вартае. Ці, калі ўжо занадта горка прызнаць гэта, давайце скажам, што кожны варты любові, апроч тых, хто лічыць сябе вартым яе. Любоў — гэта прычасце, якое належыць прымаць укленчыўшы, а на вуснах і ў сэрцы таго, хто яго прымае, мусіць гучаць: "*Domine, non sum dignus*"[12].

Калі я буду яшчэ што-кольвечы пісаць, у сэнсе ствараць мастацкі твор, то я хацеў бы выказаць сябе толькі праз дзве тэмы: першая – Хрыстос як звястун рамантычнай плыні ў жыцці, другая – мастацкае жыццё ў дачыненні да паводзінаў. Вядома, першая – вельмі прыцягальная, бо ў Хрысце мне бачацца не толькі

ўсе неад'емныя рысы найвышэйшага рамантычнага тыпу, але і ўсе выпадковыя праявы, нават зацятая ўпартасць рамантычнага характару. Ён першы сказаў, што людзі павінны жыць "падобна як кветкі". Ён увёў гэтую фразу. Для яго дзеці былі ўзорам, да якога трэба імкнуцца людзям. Ён узяў дзяцей за прыклад для старэйшых, а мне самому заўсёды здавалася, што ў гэтым і ёсць галоўнае прызначэнне дзіцяці, калі дасканаласць яшчэ мусіць мець нейкае прызначэнне. Апісваючы душу чалавека, Дантэ гаворыць, што яна выходзіць з рук Божых, "смеючыся і плачучы, як дзіцятка". Таксама і Хрыстос разумеў, што душа мусіць быць *a guisa di fanciulla, che piangendo e ridendo pargoleggia*[13]. Ён адчуваў, што жыццё зменлівае, хуткаплыннае, дзейнае, што заганяць яго ў любыя шаблоны азначае смерць. Ён разумеў, што людзі не павінны занадта сур'ёзна ставіцца да будзённых матар'яльных клопатаў, што так цудоўна быць непрактычным, што не трэба залішне турбавацца з-за справаў. Птушкі не турбуюцца, дык з чаго б турбавацца чалавеку? Ён з гэткай чароўнасцю кажа: "Не думай пра дзень заўтрашні, бо хіба не большая душа за ежу і хіба не большае цела за вопратку?" Апошнюю фразу маглі б сказаць грэкі. Яна прасякнутая грэцкім духам. Але толькі Хрыстос мог сказаць і тое, і другое, гэтак дасканала вызначыўшы дзеля нас каштоўнасць жыцця.

Ягоная мараль – уся наскрозь спагада, як і павінна быць. Калі б Ён толькі ўсяго сказаў: "Адпушчаюцца грахі яе, бо яна шмат любіла", – за гэтыя словы варта было б памерці. Яго справядлівасць уся наскрозь паэтычная, як і павінна быць. Жабрак трапляе ў нябёсы, бо быў нешчаслівы. Нельга ўявіць лепшай прычыны. Тыя, хто працаваў у вінаградніку гадзіну прахалодным надвячоркам, атрымліваюць гэткую ж узнагароду, як і тыя, хто поўны дзень гнуў спіну пад пякучым сонцам. Чаму б і не? Мабыць, ніхто наогул нічога не заслужыў. Ці, можа, яны былі іншыя? Хрыстос не мог трываць нудных, безжыццёвых механічных сістэмаў, для якіх людзі – усё адно што рэчы, і якія ставяцца да ўсіх аднолькава. Для яго не існавала законаў – існавалі адныя выключэнні, нібыта нехта ці нешта можа быць падобным да чагосьці іншага!

Тое, што складае лейтматыў рамантычнага мастацтва, для

Яго было адпаведнай асновай натуральнага жыцця. Іншай асновы Ён не бачыў. І калі да Яго прывялі заспетую ў граху, паказалі Яму яе вырок паводле закону і спыталіся, што належыць рабіць, Ён працягваў пісаць пальцам на зямлі, нібыта не чуў іх, а калі сталі настойліва дапытвацца, падняў галаву і сказаў: "Хай той з вас, хто ніколі не зграшыў, першы кіне ў яе камень". Дзеля гэтых словаў варта было жыць.

Як кожная паэтычная натура, Ён любіў людзей неабазнаных, Ён ведаў, што ў душы чалавека неабазнанага заўсёды ёсць месца для вялікай ідэі. Але Ён не мог трываць людзей неразумных, асабліва тых, хто страціў розум праз адукацыю: людзей, набітых меркаваннямі, ніводнага з якіх яны нават не разумеюць. Надзіва сучасны тыпаж, які Хрыстос вызначае як чалавека, што мае ключ ад ведаў і, не ўмеючы з ім абыходзіцца, не дае іншым, хоць, можа, ён зроблены, каб адчыніць браму ў Царства Божае. Ён найперш змагаўся супраць філістымлянаў з іх абывальніцтвам. І гэтую вайну належыць весці кожнаму дзіцяці святла. Абывальніцтва было адзнакай часу і грамадства, у якім Ён жыў. У сваёй закаснелай неўспрымальнасці да новых ідэяў, у сваёй тупой рэспектабельнасці, надакучлівай артадаксальнасці, у пакланенні пошламу поспеху, ва ўсёй сваёй заклапочанасці грубым матар'яльным бокам жыцця, у дзівацкай самаацэнцы і адчуванні ўласнай значнасці ерузалімскія гэбраі пры жыцці Хрыстовым былі дакладнай копіяй брытанскіх абывальнікаў нашых дзён. Хрыстос кпіў з "трунаў павапнаваных" рэспектабельнасці, Ён на ўсе часы ўвёў гэтую фразу. Ён ставіўся да зямнога поспеху як да рэчы, якою можна толькі пагарджаць. Для Яго поспех быў нішто, Ён глядзеў на багацце як на чалавечае бярэмя. Ён і чуць не хацеў пра тое, што можна ахвяраваць жыццё нейкай разумовай ці маральнай сістэме. Ён паказваў, што формы і рытуалы створаныя дзеля чалавека, а не чалавек – дзеля формаў і рытуалаў. Ён ставіўся да шанавання дня суботняга перадусім як да чагосьці цалкам пустога. Халодную філантропію, публічныя падаянні ва ўсіх на вачах, нудныя фармальнасці, гэтак дарагія сэрцу буржуа, Ён выкрываў з усёю бязлітаснай пагардаю. Для нас тое, што завуць артадоксіяй, – проста павярхоўнае бяздумнае падпарадкаванне, але для іх і ў іх руках яна была як пачварны тыран, як паралюш. Хрыстос адрынуў яе. Ён паказаў, што каштоўны

толькі дух. Яму соладка было даводзіць, што хоць яны і чыталі ўсячасна Закон і Прарокаў, але насамрэч ніколечкі не разумелі іх сэнсу. Насуперак таму, як яны вызначаюць дзесяціну ўсталяваных ды прапісаных абавязкаў з кожнага дня, як вызначаюць дзесяціну з руты і мяты, Ён навучае, як невераемна істотна жыць адным-адзіным імгненнем.

Тыя, каго Ён вызваліў ад іхніх грахоў, атрымалі прабачэнне толькі дзеля прыгожых імгненняў у сваім жыцці. Марыя Магдалена, пабачыўшы Хрыста, разбівае дарагую алебастравую вазу, якую падараваў адзін з сямі яе каханкаў, і абмывае пахкімі духмянасцямі Ягоныя стомленыя запыленыя ногі. І дзеля адзінага гэтага моманту яна праз вякі сядзіць з Руф'ю і Беатрычэ сярод снежна-белых райскіх ружаў. Хрыстос, лёгка папярэджваючы, гаворыць нам толькі адно: што кожная хвіля павінна быць прыгожай, што душа заўсёды павінна рыхтавацца да прыйсця жаніха, заўсёды мусіць чакаць голасу каханага, а абывальніцтва – усяго толькі частка чалавечай натуры, не асветленая ўяўленнем. Усе цудоўныя павевы жыцця бачацца Яму як святло: самое ўяўленне – гэта валадарства святла. Свет створаны ўяўленнем, але свет не можа яго спасцігнуць, бо ўяўленне – проста праява любові. І адрознівае людзей між сабою любоў і здольнасць любіць.

Але існы рамантызм Хрыста найглыбей выяўляецца ў Яго стаўленні да грэшніка. Людзі заўсёды любяць святых, бо яны найбольш наблізіліся да Божай дасканаласці. Хрыстос нейкім Боскім пачуццём заўсёды любіў грэшнікаў, бо яны найбольш наблізіліся да дасканаласці чалавечай. Ён не жадаў найперш аблегчыць пакуты. Мэта Ягоная была не ў тым, каб з цікавага злодзея зрабіць "чэснага" зануду. Ён быў бы невысокай думкі пра Таварыства дапамогі вязням і іншыя падобныя сучасныя рухі. Ён не палічыў бы вялікім дасягненнем наварот мытніка ў фарысея. Але нейкім незразумелым свету чынам Ён бачыў у граху ды пакутах святое, прыўкраснае, дасканалае.

Гэта нібыта небяспечная думка. Так: усе вялікія думкі небяспечныя. Але няма ніякага сумневу, што ў гэтым было Хрыстовае крэда. І сам я не сумняюся, што яно праўдзівае.

Вядома, грэшнік мусіць пакаяцца. Але чаму? Проста таму, што іначай не здолее ўсвядоміць, што ён учыніў. Момант пакаян-

ня – гэта момант прысвячэння, ініцыяцыі. Больш за тое: гэта спосаб змяніць сваё мінулае. Грэкі лічылі, што гэта немагчыма. Як часта паўтараюць іх афарызмы, "нават багам не дадзена змяніць мінулае". Хрыстос паказаў, што гэта можа зрабіць самы звычайны грэшнік, і гэта адзінае, што ён можа зрабіць. Калі б у Хрыста запыталіся, Ён бы сказаў – я цалкам пэўны, – што ў той момант, калі блудны сын упаў на калені і заліўся слязьмі, ён асвяціў хараством і святасцю ўвесь той час, калі марна траціў грошы з блудніцамі, пасвіў свінні ды прагнуў паесці іхняга шалупіння. Большасці людзей цяжка гэта зразумець. Рызыкну сказаць, што, каб гэта ўсвядоміць, трэба патрапіць у вязніцу. Тады, мабыць, варта апынуцца за кратамі.

У асобе Хрыста ёсць нешта сапраўды непаўторнае. Вядома, як перад сапраўдным світанкам раз-пораз святлее неба, а зімовыя дні, напоўненыя сонечным ззяннем, падманваюць мудры першацвет, так што той заўчасна рассыпае сваё золата, а птушка-дурнічка кліча мілага ладзіць гнездзечка ў голым хмызняку, гэтаксама ж былі хрысціяне і да Хрыста. І за гэта трэба дзякаваць Богу. Бяда ў тым, што хрысціянаў не было пасля Яго. За адзіным, бадай, выключэннем – святога Францішка Асізкага. Але, зрэшты, Бог ад нараджэння надзяліў яго душою паэта, а сам ён у маладым веку ў містычным шлюбе ўзяў сабе за абручніцу галечу. І з душою паэта ды целам жабрака яму не цяжка было ісці шляхам дасканаласці. Ён зразумеў Хрыста і прыпадобніўся да Яго. Нам не патрэбны *Liber Conformitatum*, каб уведаць, што жыццё святога Францішка было сапраўдным *Imitatio Christi*, паэмай, у параўнанні з якой аднайменная кніга – звычайная проза.

Сапраўды, калі ўсё сказана, застаецца самае чароўнае ў Хрысце: Ён сам нібыта твор мастацтва. Насамрэч Ён нікога не навучае, але дзеля аднае Ягонай прысутнасці чалавек робіцца нечым іншым. І Ягоная прысутнасць наканаваная кожнаму. Хаця б аднойчы ў жыцці кожны чалавек ідзе з Хрыстом да Эмаўса.

Што датычыцца другой тэмы — "мастацкае жыццё ў дачыненні паводзінаў", — то, безумоўна, яна Вам падасца дзіўнай. На Рэдынгскую турму паказваюць пальцамі ды гавораць: "Вось куды вядзе чалавека мастацкае жыццё". Што ж, магло б давесці і да горшага. Людзі-машыны, для якіх жыццё – цвярозы разлік,

заснаваны на дакладным вылічэнні шляхоў і спосабаў, заўсёды ведаюць, куды ім ісці, і туды і рушаць. Пачынаюць яны з летуценняў-жаданняў стаць вартаўніком пры царкве, і ў якія б сферы ні закінула іх жыццё, ім удаецца толькі адно – быць вартаўніком пры царкве, і нічога больш. Чалавек, які жадае стаць чымсьці адасобленым ад сябе самога – сябрам парламенту, заможным бакалейнікам, буйным адвакатам, суддзёю ці яшчэ якім занудам, непазбежна дасягае сваёй мэты. У гэтым яго кара. Хто хоча маскі, вымушаны яе насіць.

Але з імклівымі сіламі жыцця і тымі, у кім яны ўцелясняюцца, усё іначай. Людзі, якія прагнуць толькі аднаго – спраўдзіць сябе, ніколі не ведаюць, куды яны ідуць. Не могуць ведаць. У нейкім сэнсе, пэўна ж, неабходна, як прамаўляў грэцкі аракул, спазнаць самога сябе – гэта першая перамога пазнання. Але прызнаць, што душа чалавека неспасцігальная, – апошняя перамога мудрасці. Твая апошняя таямніца – ты сам. Узважыўшы Сонца бязменам, злічыўшы, колькі крокаў да Месяца, ды намаляваўшы на карце сямі нябёсаў усе да адзінай зоркі, чалавек усё ж застаецца сам-насам з сабою. Хто вылічыць арбіту ўласнай душы? Калі сын пайшоў шукаць бацькавых аслоў, ён не ведаў, што яго з алеем для ўкаранавання чакаў пасланец Божы, што душа яго была ўжо душою цара.

Спадзяюся, мне будзе адмерана жыцця, каб напісаць такі твор, што на зыходзе сваіх дзён я мог бы сказаць: “Так! Вось куды прыводзіць чалавека мастацкае жыццё!” З усіх, з кім я сутыкаўся, ёсць два чалавекі, якія найбольш дасканала пражылі жыццё, – Верлен і князь Крапоткін. Абодва шмат гадоў правялі ў турме. Першы – адзіны хрысціянскі паэт пасля Дантэ, другі – чалавек з душою гожага бялюткага Хрыста, чые павевы адчуваюцца з Расіі. І я цягам апошніх сямі-васьмі месяцаў, нягледзячы на вялікія бядоты, што амаль бесперапынна абрыналіся на мяне адна за адной, наўпрост адчуваю ўздзеянне новага духу, які тут, за кратамі, праяўляе сябе праз людзей і рэчы. Ён дапамог мне больш, чым можна выказаць словамі, так што калі ў першы год зняволення я толькі тое і рабіў, што ў несамавітай роспачы ламаў рукі ды паўтараў: “Які канец, які жудасны канец!”, – то цяпер я спрабую сказаць сабе, і часам, калі я не займаюся

самакатаваннем, мне сапраўды ўдаецца з усёй шчырасцю сказаць: “Які пачатак, які цудоўны пачатак!” Магчыма, так яно і ёсць. Магчыма, так станецца. Тады я буду шмат абавязаны гэтай новай асобе, што змяніла жыццё кожнага за гэтымі кратамі.

Магчыма, Вы гэта зразумееце, калі я скажу, што, выйдзі я на волю, як і спрабаваў, у мінулым траўні, дык пайшоў бы адсюль, праклінаючы гэтае месца і кожнага ў ім службоўца з такой горыччу і нянавісцю, што яны б атруцілі мне жыццё. Я правёў у затачэнні на год больш, але тут, у вязніцы, разам з намі ўсімі жыве чалавечнасць, і цяпер, калі выйду на волю, я заўжды буду памятаць і сапраўдную дабрыню, якую я сустракаў амаль у кожным, і ў дзень свайго вызвалення я шмат каму шчыра падзякую і папрашу, каб яны таксама мяне згадвалі.

У турэмным жыцці ўсё наскрозь не так. Я б што заўгодна аддаў, каб здолець яго змяніць, калі выйду на волю. Я маю намер паспрабаваць. Але няма на свеце нічога настолькі заганнага, што, аднак, дух чалавечнасці не мог бы калі не выправіць, дык, прынамсі, зрабіць выносным без скамянеласці сэрца, бо ён дух любові, дух Хрыста, які жыве не ў храмах.

Я таксама ведаю, што на волі мяне чакае мноства самых цудоўных праяваў: пачынаючы ад мілых “брата майго ветрыка і сястрыц маіх дажджынак”, як заве іх святы Францішак Асізкі, да вітрынаў у крамах і заходаў сонца ў вялікіх гарадах. Калі складаць спіс таго, што яшчэ мне засталося, я б не ведаў, дзе спыніцца, бо сапраўды Бог стварыў свет для мяне гэтаксама ж, як і для кожнага іншага. Магчыма, я выйду на волю, здабыўшы нешта, чаго не меў раней. Няма патрэбы казаць, што для мяне рэфармацыі ў маралі гэткія ж бессэнсоўныя і вульгарныя, як і рэфармацыі ў багаслоўі. Але калі прапанова быць лепшым чалавекам – проста бязглуздае крывадушніцтва, то стацца глыбейшым чалавекам – прывілей тых, хто шмат пакутаваў. Думаю, гэткім я і стаўся.

Калі б па маім вызваленні сябра наладзіў фэст і не запрасіў мяне, я б ніколькі не крыўдаваў. Я магу быць цалкам шчасны і на самоце. Маючы волю, кветкі, кнігі, месяц, хто ж не можа быць шчасны? Да таго ж, фэсты ўжо — не для мяне. Я зашмат іх ладзіў, каб яшчэ імі цікавіцца. Гэтая старонка жыцця для мяне

перагорнутая (я б сказаў, і дзякуй Богу!). Але калі б па маім вызваленні сябра быў у смутку і не дазволіў мне падзяліць яго з ім, мне было б вельмі горка. Калі б ён зачыніў перада мною дзверы дома жалобы, я б вяртаўся зноў і зноў і маліў бы пусціць мяне, каб я мог падзяліць з сябрам тое, што маю права падзяляць. І калі б ён палічыў, што я не варты плакаць разам з ім, я б успрыняў гэта як самую жахлівую ганьбу, якая толькі магла мне выпасці. Але гэтага не можа быць. Я маю права падзяляць смутак. А той, хто можа глядзець на хараство свету і падзяляць ягоны смутак, спасцігаючы нешта ад існага ў абодвух цуду, наўпрост далучаны да Боскага пачатку і падышоў так блізка, як толькі магчыма, да таямніцы Бога.

Можа, не толькі ў жыцці, але і ў маім мастацтве загучыць яшчэ глыбейшая нота – большай цэльнасці ў жарсці і непасрэднасці ў парываннях. Не шырыня, а насычанасць – вось сапраўдная мэта сучаснага мастацтва. У мастацтве нас болей не цікавяць тыповыя рысы – маем засяродзіцца на выключэннях. Няма патрэбы казаць: я не магу ўкласці сваіх пакутаў ні ў якую форму, што яны прымалі. Мастацтва толькі пачынаецца там, дзе сканчаецца імітацыя. Але нешта павінна ўвайсці ў маю творчасць – можа, паўнейшая слоўная памяць, багацейшыя мадуляцыі, прасцейшая архітэктоніка, — ва ўсякім разе, нешта эстэтычнага парадку.

Калі Марсій быў, паводле аднаго з самых жудасных Дантавых выразаў, “вырваны з похваў сваіх чалёсаў” – *della vagina della membra sue,* у яго не засталося песні, сказалі грэкі. Пераможцам стаў Апалон. Ліра скарыла жалейку. А можа, грэкі памыляліся? У сучасным мастацтве мне часта чуецца крык Марсія: балючы – у Бадлера, пяшчотны і жаласны – у Ламарціна, містычны – у Верлена. Ён у адцягненых вырашэннях музыкі Шапэна. Ён у незаспакоенасці, што перасьледуе жанчынаў Бэрн-Джонса. Ён у немалой ступені прысутнічае нават у Мэцью Арнальда, чый Калікл апявае “трыюмф салодкае пераканальнай ліры” і “слаўную апошнюю вікторыю” у гэткім чыстым, лірычным ключы. Бо даць рады з трывожнымі паўтанамі сумневу і пакуты, што лунаюць над ягонымі радкамі, не дапамогуць ні Гётэ, ні Уордзварт, хоць ён ім абодвум наследаваў. І калі ён хоча смуткаваць па “Тырсеі” ці спяваць пра “Вучонага цыгана”, то, каб перадаць сваю напругу,

ён бярэ жалейку. Але, незалежна ад таго, маўчаў фрыгійскі фаўн ці не, я не магу маўчаць. Мне гэтаксама ж неабходнае выяўленне, як лісце і квецень – чорным галінам дрэваў, што ўзвышаюцца над турэмнымі мурамі і так неспакойна гайдаюцца пад ветрам. Паміж маім мастацтвам і светам цяпер – шырокая бездань, але не паміж мастацтвам і мною. Прынамсі я спадзяюся, што яе няма.

Кожнаму з нас наканаваны розны лёс. Маёй доляй былі публічная няслава, доўгае зняволенне, скруха, пагібель і ганьба, але я яе не варты – ва ўсякім разе цяпер. Памятаю, я часта казаў, што, па-мойму, калі прыйдзе сапраўдная трагедыя, я здолею яе вынесці ў пурпуровым уборы і з высакародным смуткам на твары, але самая агідная рыса сучаснасці – звычай апранаць трагедыю ў камедыйныя строі, каб вялікае здавалася банальным, ці недарэчным, ці безгустоўным. Гэта справядліва ў дачыненні да нашай сучаснасці. Напэўна, гэта заўсёды было справядліва ў дачыненні да бягучага жыцця. Заўважана, што ўсялякае пакутніцтва заўжды здавалася пабочнаму назіральніку чымсьці пасрэдным. І XIX стагоддзе – не выключэнне з правіла.

У маёй трагедыі ўсё спрэс брыдкае, безгустоўнае, агіднае і няздарнае. Ужо адна вопратка робіць з нас гратэск. Мы блазны смутку. Мы паяцы з разбітым сэрцам. Мы створаныя адмыслова дзеля таго, каб смяшыць. Так, 13 лістапада 1895 года мяне з Лондана перавозілі сюды. З другой гадзіны да паловы на трэцюю я вымушаны быў стаяць на цэнтральнай платформе Клэпхема ў арыштанцкай робе, у кайданах, каб мяне азіраў кожны стрэчны. Мяне ўзялі са шпітальнае палаты, не папярэдзіўшы хаця б за хвіліну. Я быў самай недарэчнай з усіх магчымых рэчаў. Людзі, пабачыўшы мяне, пачыналі рагатаць. З прыбыццём кожнага новага цягніка прыбывала і гледачоў. Іх весялосці не было межаў – вядома, да таго, як яны даведваліся, хто я. А даведаўшыся, рагаталі яшчэ мацней. Паўгадзіны я прастаяў пад шэрым лістападаўскім даждждом сярод натоўпу, што кпіў з мяне.

Пасля гэтага я цэлы год штодня ў адзін і той жа час заліваўся слязьмі. Гэта не так страшна, як можа падацца. Для тых, хто за кратамі, слёзы – частка штодзённага жыцця. Дзень без слёз – гэта дзень, калі сэрца скамянела, а не ўсцешылася.

Што ж, зараз я пачынаю шкадаваць тых рагатуноў больш,

як сябе. Вядома, яны бачылі мяне не на п'едэстале, а ля ганебнага слупа.(...) П'едэстал можа быць зусім несапраўдным. А ганебны слуп — непахісная рэальнасць. І ім варта было б лепш ведаць, як разумець смутак. Я сказаў, што пад аблiччам смутку — заўсёды смутак. Яшчэ мудрэй было б сказаць, што пад аблiччам смутку — заўсёды душа. А кпіць з душы ў пакуце – пачварна. Паводле надзіва простай сусветнай ашчаднасці, кожны атрымлівае толькі тое, што аддае. А тыя, каму бракуе ўяўлення, каб пранікнуць скрозь вонкавую абалонку і паспагадаць, якую могуць атрымаць спагаду, апроч пагарды?

Я пішу пра тое, як мяне перавозілі сюды, проста дзеля таго, каб было зразумела, як цяжка мне было выдабыць са свайго пакарання што-небудзь апроч гаркоты і роспачы. Аднак мне трэба гэта зрабіць, і раз-пораз на мяне находзяць хвіліны пакоры і ўсепрымання. Вясна можа хавацца ў адзіным бутоне, а ў сціплым прыземным гняздзечку жаўрука можа змясціцца ўся радасць, якая абвяшчае прыйсце мноства світанкаў, пунсовых, як ружы. Магчыма, гэтаксама і ўсё хараство жыцця, якое яшчэ мяне чакае, схаванае ў хвілі паразы і прыніжэння. Прынамсі я магу проста ісці далей шляхам уласнага дасканалення і, прыняўшы ўсё, што са мною адбылося, стацца вартым яго.

Людзі часта казалі, што я залішне індывідуаліст. Я мушу стаць нашмат большым індывідуалістам, чым калі раней. Сапраўды, мяне зруйнаваў не завялікі жыццёвы індывідуалізм, а замалы. Адзіны брыдкі, недаравальны, на ўсе часы ганебны ўчынак я здзейсніў, звярнуўшыся па дапамогу і абарону да грамадства. З пункту гледжання індывідуаліста, гэта ўжо вельмі кепска, але якое ж тут можна прывесці апраўданне? Безумоўна, як толькі я прывёў у рух грамадскія механізмы, грамадства абярнулася на мяне і сказала: “Ты ўвесь час жыў, грэбуючы маімі законамі, а зараз звяртаешся да гэтых законаў па абарону? Дык хай над табою закон здзейсніцца на ўсю поўніцу. Хай цябе пакарае тое, да чаго ты звярнуўся”. У выніку я апынуўся за кратамі. Пэўна, ніводзін чалавек ніколі не падаў гэтак нізка і праз гэткія нізкія прыёмы, як я. Недзе ў “Дарыяне Грэю” я напісаў: “У выбары ворагаў немагчыма быць залішне абачлівым”. Я зусім не думаў, што менавіта з-за выгнанца мне самому наканавана зрабіцца выгнанцам.

# Яны

Абывальніцтва ў жыцці не ёсць няздольнасцю разумець мастацтва. Гэткія чароўныя людзі, як рыбакі, пастухі, аратыя, сяляне і да іх падобныя, нічога не ведаюць пра мастацтва, але яны – соль зямлі. Абывальнік той, хто ўсяляк падтрымлівае цяжкія, груваскія, сляпыя механічныя сілы грамадства, а, напаткаўшы ў чалавеку ці ў з'яве імклівую, рухавую сілу, не прызнае яе.

Людзі меркавалі, што з майго боку проста жахліва забаўляць за сталом благіх асобаў, атрымліваць задавальненне ад іх прысутнасці. Але з таго пункту гледжання, з якога я, як мастак у жыцці, да іх падыходзіў, яны цудоўным чынам абуджалі думку і ўяўленне. Гэта было як палуднаваць з пантэрамі, калі палова асалоды – небяспека. Я адчуваў сябе так, як, напэўна, адчувае заклінальнік змеяў, калі паводле сваёй волі прымушае кобру ўзняцца з расфарбаванага мяха ці чаратовага кошыка, разгарнуць каптур і пагойдвацца ў паветры, як спакойна пагойдваюцца ў плыні водарасці. Для мяне яны былі найзіхоткімі залацістымі змеямі, а атрута была часткай іх дасканаласці. Я не ведаў, што пад дудку іншага і за грошы іншага яны накінуцца на мяне самога. Я зусім не саромеюся знаёмства з імі, яны былі неверагодна цікавыя. Чаго я саромеюся, дык гэта пачварнай абывальніцкай атмасферы, у якую мяне зацягнулі. Як мастак, я павінен быў быць з Арыэлем, а я ўзяўся тузацца з Калібанам. Замест таго, каб ствараць прыгожыя, поўныя фарбаў і музыкі рэчы, такія, як "Саламея", "Фларэнтынская трагедыя", "*La Sainte Courtisane*", я прымусіў сябе адсылаць доўгія правашукальныя лісты, апелюючы да таго, супраць чаго заўжды пратэставаў. У сваёй агіднай вайне супраць жыцця Клібарн і Аткінс былі сапраўды непаўторныя. Забаўляць іх было цудоўнай прыгодай. Дзюма-бацька, Чэліні, Гоя, Эдгар Алан По ці Бадлер зрабілі б тое ж самае. Што мне сапраўды ненавісна згадваць, дык гэта несканчальныя візіты да адваката Н—, калі я сядзеў у рэзкім святле змрочнага пакоя з сур'ёзным тварам і сур'ёзна хлусіў лысенькаму чалавечку, ажно пакуль не пачынаў уздыхаць ды пазяхаць ад нудоты. Вось дзе я апынуўся: у самым цэнтры Філістыі, далёка ад усяго прыгожага, яскравага, цудоўнага і смелага. Я выступіў у ролі абаронцы рэспектабельнасці ў паводзінах, пурытанства ў жыцці, маралі ў мастацтве. *Voilà où*

*mènent les mauvais chemins...*[14] Але я з удзячнасцю думаю пра тых, хто сваёй бязмежнай дабрынёю, бясконцай адданасцю, радасцю паслужыцца аблягчаў мой чорны цяжар, зноў і зноў наведваў мяне, пісаў мне прыгожыя спагадлівыя лісты, уладкоўваў мае справы і маё будучае жыццё, стаяў поруч са мною перад пашчай зласлоўя, кепікаў, адкрытых здзекаў і абразаў. Ім я абавязаны ўсім. Нават за кнігі ў маёй камеры плаціць са сваіх кішэнных грошай Робі, і мая вопратка, калі я выйду на волю, будзе аплачаная з тае ж крыніцы. Я не саромеюся браць тое, што прапануюць з любоўю і прыязнасцю, – я ганаруся гэтым. Так, я думаю пра сваіх сяброў, такіх як Мор Эйды, Робі, Роберт Шэрард, Фрэнк Харыс, Артур Кліфтан, пра тое, што яны для мяне зрабілі і робяць, пра іх дапамогу, прыязнасць і спагаду. Я думаю пра кожнага, хто па-добраму абышоўся са мною ў зняволенні, – пра назіральніка, які гаворыць мне "добрай раніцы" і "дабранач", хоць гэта не ўваходзіць у ягоныя абавязкі, пра звычайных паліцэйскіх, якія ў сваёй простай грубаватай манеры спрабавалі мяне суцешыць, калі ў вусцішна роспачным стане мяне везлі ў суд па справах аб банкруцтве і назад, пра беднага злодзея, які пазнаў мяне на шпацыры ў Вондзварце і прашаптаў загрубелым ад доўгага прымусовага маўчання астрожным голасам: "Я Вам спачуваю. Такім, як Вы, цяжэй, чым такім, як мы".

Колькі часу таму мой блізкі сябра – нашаму сяброўству цэлых дзесяць гадоў – прыйшоў наведаць мяне і сказаў, што не верыць ніводнаму слову з таго, што пра мяне гавораць, і што хоча, каб я ведаў, што ён лічыць мяне невінаватым, ахвярай нейкай гнюснай змовы. Ад яго словаў я расплакаўся і сказаў яму, што хоць у канкрэтных абвінавачаннях было шмат несправядлівага, прыпісанага раз'юшанай злосцю, але жыццё маё было поўнае вычварных асалодаў, і калі ён не ўсвядоміць і цалкам не прыме гэтага факту, я не змагу ні заставацца ягоным сябрам, ні нават з ім сустракацца. Для яго гэта быў страшэнны ўдар, але мы засталіся сябрамі, і нашае сяброўства грунтуецца не на падмане. Я гаварыў, што казаць праўду вельмі балюча. Але быць вымушаным ілгаць – яшчэ горш.

Памятаю, як на апошнім судзе я сядзеў на лаве падсудных, слухаў жудасную абвінаваўчую прамову Локвуда – яна нагадвала

кавалак з Тацыта, урывак з Дантэ, абвінавачанні Саванаролы Рымскаму Папству – і жахаўся таго, што чуў. I раптам мне падумалася: *"Як было б шыкоўна, калі б я казаў усё гэта пра сябе сам"*. I я адразу зразумеў, што словы, якія гаворацца пра чалавека, – нішто. Істотна тое, кім яны гаворацца. Нiколькі не сумняюся, што вяршынны момант чалавечага жыцця – гэта калі ты кленчыш у дарожным пыле, б'еш сябе ў грудзі і прызнаешся ва ўсіх сваіх грахах.

Недзе ў "Памкненнях" я напісаў, што эмацыйныя сілы гэткія ж абмежаваныя ў прасторы і часе, як і сілы фізічнай энергіі. Малы кілішак можа змясціць роўна столькі, колькі можа, і ні кроплі больш, хоць бы ўсе вінныя бочкі Бургундыі былі поўныя віном, а вінаградары стаялі па калена ў гронках, сабраных на камяністых вінаградніках Гішпаніі. Няма больш звыклай памылкі, як думаць, што тыя, хто спрычыняецца да вялікіх трагедыяў, таксама перажываюць пачуцці, адпаведныя трагедыі; няма больш недаравальнай памылкі, чым гэтага ад іх чакаць. Пакутнік у "вогненных строях" можа сузіраць твар Бога, але для таго, хто кладзе вогнішча, уся сцэна спалення – не болей, чым для мясніка – забіць быка, для дрывасека – зваліць дрэва, а для касца – зрэзаць кветку. Вялікія жарсці – для вялікіх душаў, і пабачыць вялікія падзеі могуць толькі роўнавялікія асобы. Мы думаем, што пачуцці даюцца нам задарма. Гэтак не бывае. Нават за самыя высокія, самаахвярныя пачуцці трэба плаціць. Як ні дзіўна, гэта і робіць іх высокімі. Інтэлектуальнае і эмацыйнае жыццё звычайных людзей – рэч вельмі ўбогая. Яны пазычаюць думкі з пэўнага кшталту бібліятэкі мыслення – *Zeitgeist* стагоддзя, што не мае душы, – і праз тыдзень вяртаюць іх зашмальцаванымі назад. Гэтаксама ж яны заўсёды спрабуюць узяць у крэдыт пачуцці альбо, калі прыходзіць час, адмаўляюцца плаціць па рахунку. Такую жыццёвую канцэпцыю трэба адкінуць. Калі нам давядзецца плаціць за пачуцці, мы ўведаем, чаго яны вартыя, і гэта будзе нам на карысць. Памятайце, што сентыменталіст – у сэрцы заўсёды цынік. Насамрэч сентыментальнасць – усяго толькі дадатковая праява цынізму. I якім бы прывабным ні быў цынізм з інтэлектуальнага боку, цяпер, калі ён увайшоў у моду, ён ніколі не будзе нічым большым за ідэальную філасофію для чалавека без душы. Ён мае сваю

грамадскую значнасць, і мастаку цікавыя ўсе праявы, але сам па сабе цынізм варты жалю, бо сапраўднаму цыніку ніколі нічога не адкрыецца.(...)

Ва ўсёй драматургіі я не ведаю нічога настолькі непараўнальнага з мастацкага пункту гледжання, нічога, што б настолькі абуджала думку тонкасцю назірання, як вобразы Разенкранца і Гільдэнстэрна ў Шэкспіра. Аднакашнікі Гамлета, тыя былі яго прыяцелямі. Разам з імі з'яўляюцца згадкі пра добрыя вясёлыя часіны, калі яны былі разам. На момант, калі ў п'есе Разенкранц і Гільдэнстэрн сустракаюцца з Гамлетам, той згінаецца пад невыносным для чалавека ягонага складу цяжарам. Памерлы са зброяй у руках паўстаў з магілы, каб ускласці на яго місію, для яго і занадта высокую, і разам з тым — занадта нізкую. Ён летуценнік, а пакліканы дзейнічаць. У яго душа паэта, а ад яго патрабуецца развязаць грубы вузел прычынаў і вынікаў, даць рады не з жыццём у яго ідэальнай існасці, пра якое ён гэтак шмат ведае, а з жыццём у практычных праявах, пра якое ён не ведае нічога. Ён не ўяўляе, што рабіць, і ягоная шалёная аблуда – прыкінуцца шаленцам. Для Брута вар'яцтва было покрывам, каб схаваць свой скіраваны да мэты меч, свой востраны воляй кінжал. Гамлетава ж вар'яцтва – усяго толькі маска, за якою хаваецца слабасць. У дзівацтвах ды блазнаванні ён бачыць шанц на адтэрміноўку. Ён усё гуляе ды гуляе з дзеяй, як мастак гуляе з якой-небудзь тэорыяй. Ён робіць сябе цікуном за ўласнымі ўчынкамі і, прыслухоўваючыся да ўласных словаў, ведае, што гэта толькі "словы, словы, словы". Замест таго, каб паспрабаваць стацца героем уласнай гісторыі, ён імкнецца быць гледачом уласнай трагедыі. Ён не верыць ні ў што, у тым ліку і ў сябе, але не дапаможа яму сумнеў, які паўстаў не са скептыцызму, а з раздвоенасці волі.

Нічога гэтага Гільдэнстэрн і Разенкранц не ўсведамляюць. Яны схіляюцца ў паклонах ды расплываюцца саладжавымі ўсмешкамі, і што скажа адзін, рэхам паўторыць другі. Калі, нарэшце, праз п'есу ў п'есе Гамлет "падсцярог сумленне" караля і прымусіў мярзотніка ў жаху пакінуць трон, Гільдэнстэрн і Разенкранц пабачылі ў ягоных паводзінах толькі прыкрае

парушэнне этыкету. Вось чаго дасягнулі яны ў "сузіранні спектаклю жыцця ў суладным настроі". Яны блізкія да ягонай таямніцы – і нічога пра яе не ведаюць. І не мае сэнсу ім казаць. Яны малыя кілішкі, якія могуць змясціць столькі, колькі могуць, і ні кроплі больш. Бліжэй да фіналу Шэкспір наводзіць на думку, што іх напаткала ці можа напаткаць гвалтоўная смерць. Але падобны трагічны канец, хоць і адценены гамлетаўскім гумарам з камедыйнай справядлівасцю раптоўнага, не дзеля іх. Яны несмяротныя. Паміране Гарацыю, хоць і не на вачах у публікі, і няма яму замены. Але Разенкранц і Гільдэнстэрн несмяротныя, як Анджэла і Тарцюф, і заслугоўваюць таго, каб стаяць з імі ў адным шэрагу. Яны – унёсак сучаснасці ў старажытны ідэал сяброўства. І той, хто будзе пісаць новы трактат *De amicitia*, мусіць знайсці нішу і для іх. Гэта вобразы, якія будуць жыць праз вякі. Асуджаць іх – значыць паказваць "нястачу разумення". Яны проста апынуліся не ў сваім коле, вось і ўсё. Узвышанасць душы не заразная. Узнёслыя думкі ды ўзнёслыя пачуцці паводле сваёй прыроды паасобныя, адзінкавыя.

Калі ўсё будзе добра, мяне вызваляць напрыканцы траўня. Я спадзяюся адразу з'ехаць за мяжу разам з Робі і Морам Эйды у якую-небудзь маленькую вёсачку на беразе мора.

У адной са сваіх п'есаў пра Іфігенію Эўрыпід гаворыць, што мора змывае плямы і абмывае раны жыцця.

Я спадзяюся правесці прынамсі месяц з сябрамі, знайсці спакой і раўнавагу, суцішыцца сэрцам і акрыяць душою; а потым, калі буду пачувацца здатным, праз Робі дамоўлюся пра тое, каб паехаць у якое-небудзь невялічкае места накшталт Бругэ: шмат гадоў таму мяне прычаравалі ягоныя шэрыя дамы, зялёныя каналы і прахалодная няўзрушлівасць. Мяне дзівосным чынам прыцягваюць велічныя і простыя першабытныя стыхіі, як мора. Для мяне яно гэткая ж маці, як і Зямля. Па-мойму, мы зашмат глядзім на прыроду і замала ёю жывем. А ў тым, як ставіліся да яе грэкі, мне бачыцца вялікі сэнс. Яны ніколі не вялі пустых размоваў пра заход сонца, не абмяркоўвалі, ці сапраўды цені на траве бэзавыя, ці то не. Але яны разумелі, што мора існуе дзеля плыўца, а пясок – дзеля ног таго, хто па ім бяжыць. Яны любілі дрэва за цень, а лес – за ягоную паўдзённую цішыню. Нахіляючыся

над маладымі парасткамі, вінаградар пакрываў галаву вянком з плюшчу, каб засланіцца ад сонечных промняў. А для мастакоў і атлетаў – два ўзоры, што дала нам Грэцыя, – яны плялі гірлянды з лісця горкага лаўра ды дзікай пятрушкі, якім не было больш ніякага ўжытку.

Мы завем наш век утылітарным, але не ведаем прызначэння ніводнай рэчы. Мы забыліся, што вада і агонь ачышчаюць, а Зямля – усім нам маці. У выніку нашае мастацтва – месяцовае, яно гуляе з ценямі, між тым як грэцкае мастацтва – сонечнае, яно бярэ ў рукі самі рэчы. Я ўпэўнены, што стыхіі могуць даць ачышчэнне, я хачу вярнуцца да іх і жыць з імі. **(...)**

Усё ж не дарэмна ў сваім адвечным пакланенні літаратуры я зрабіўся

*Скнарам, які збірае гукі ды словы,*
*Як Мідас — сваё золата.*

Я не павінен баяцца былога. Калі мне скажуць, што яно незваротнае, я не паверу: час мінулы, цяперашні і будучы – адно імгненне з погляду Бога, у Чыім паглядзе мы і павінны імкнуцца жыць. Час і прастора – усяго толькі ўмоўнасці мыслення; уяўленне можа іх пераадолець і ўзысці ў вольную сферу ідэальных сутнасцяў. І рэчы ў сваёй існасці такія, якімі іх робім мы; рэч *ёсць* адпаведнай настрою, у якім мы на яе глядзім. Як пісаў Блэйк: “Дзе іншыя бачаць толькі ўзыход сонца над пагоркам, я бачу голасную весялосць сыноў Божых”. Я страціў тое, што свету і мне самому здавалася маёй будучыняй, калі дазволіў сабе ўпасці гэтак нізка, каб пераследаваць Куінзберы, і нават задоўга да таго. Перада мною ляжыць маё мінулае. Мне трэба зрабіць так, каб я паглядзеў на яго іншымі вачыма – і каб Бог паглядзеў на яго іншымі вачыма. А гэтага немажліва дасягнуць, забыўшыся на яго, грэбуючы ім, услаўляючы яго ці адмаўляючы: гэтага можна дасягнуць, толькі прымаючы мінулае як неад’емную, абавязковую частку ў станаўленні майго жыцця і характару, схіляючы галаву перад усім, што я вытрываў. Наколькі я далёкі ад сапраўднага душэўнага спакою, яскрава відаць у гэтым лісце з

яго зменлівым, няўпэўненым настроем, пагардай і горыччу, надзеямі і няздольнасцю іх здзейсніць. Але не забывайцеся, якую вусцішную школу я зараз праходжу. І гэткі, нясправўджаны й недасканалы, я ўсё-ткі шмат магу даць сваім сябрам: яны хацелі ўведаць ад мяне пра асалоду жыцця і асалоду мастацтва – можа, я быў абраны, каб давесці ім нешта больш цудоўнае – сэнс і хараство смутку.

Вядома, такому прыналежнаму сучаснасці, як я, "*enfant de mon siècle*" [15], заўсёды будзе вельмі прыемна проста глядзець на свет. Я пачынаю трымцець ад асалоды, як толькі падумаю, што ў дзень майго вызвалення ў садах будуць квітнець і залаты дождж, і бэз, і што я пабачу, як вецер будзе прыгожа пагойдваць пералівістым золатам і трэсці бякла-пурпуровыя султаны, так што ўсё паветра станецца для мяне Аравіяй. Лінэй упаў на калені і заплакаў ад радасці, калі ўпершыню пабачыў, як доўгія верасовыя пусткі ангельскага ўзвышша залацяцца пахкімі кветкамі звычайнага жаўтазелю. І я ведаю, што мяне, для каго кветкі – частка ўсяго самага жаданага, чакаюць слёзы ў пялёстках ружы. Гэтак заўсёды было з самага майго дзяцінства. На кожнае схаванае ў кветцы, у ракаўцы адценне адгукнецца ў чуйным суладдзі з самой душою рэчаў уся мая істота. Як Гацье, я заўсёды належаў да тых, "*pour qui le monde visible existe*" [16].

Аднак цяпер я ўсведамляю, што за ўсёй гэтай прыгажосцю, хоць яна, магчыма, наталяе і сама сабою, хаваецца дух, і багатыя фарбамі формы і абрысы – толькі яго праявы. З гэтым духам я і хачу знайсці гармонію. Я стаміўся ад уцямнага, вымоўнага ў людзях і рэчах. Таемнае ў Мастацтве, Таемнае ў Жыцці, Таемнае ў Прыродзе – вось чаго я шукаю. Мне проста неабходна гэта знайсці.

Кожны суд – гэта суд над тваім жыццём, як і кожны прысуд – смяротны. Мяне судзілі тройчы: першага разу мне прысудзілі арышт, другога – затрыманне, трэцяга – два гады турмы. У грамадстве, якім мы яго стварылі, для мяне няма, не знойдзецца месца. Але ў Прыроды, якая ліе свой светлы дождж і на праведных, і на няправедных, знойдуцца шчыліны ў скалах, дзе я змагу хавацца, знойдуцца патаемныя даліны, у цішы якіх я змагу без перашкодаў праліваць слёзы. Яна запаліць уначы зоркі, каб я мог

пайсці прэч у цемры і не спатыкнуцца, і завее ветрам мае сляды, каб ніхто мяне не знайшоў. Яна ачысціць мяне ў сваіх велічных водах, яе горкімі зёлкамі я ацалюся.

**Пераклала з англійскай**
**мовы Вольга МІХАЙЛАВА.**

---

[1] Flâneur *(фр.)* — гуляка.

[2] У ранейшых выданнях замест *Fatherless* (Безбацькоўцы) было надрукавана *Faithless* (Безверныя). Почырк Уайлда, звычайна такі зразумелы, у *De Profundis* часам робіцца неразборлівым. Я чытаў *Faithless,* "бязверныя", пакуль нехта не падказаў мне, што паводле кантэксту тут мусіць быць *Fatherless,* "безбацькоўцы". Графолаг вырашыў на карысць апошняга прачытання. (Заўвага Роберта Роса ў стандартным выданні.) А можа, Уайлд наўмысна напісаў неразборліва, каб у тэксце прысутнічалі абодва сэнсы: і *Faithless*, і *Fatherless*? (В.М.)

[3] Мы смуткавалі
На салодкім паветры, што сонцу радавалася.

[4] Accidia *(італ.)* — маркота.

[5] Хто не еў свайго хлеба ў скрусе,
Хто не плакаў начэй
У чаканні світанку,
Той не ведае вас, о нябёсныя сілы.

[6] О Госпадзе, дай мне сілы і мужнасць
На цела і сэрца сваё глядзець без пагарды *(фр.).*

[7] Іс., 53:3.

[8] Іс., 52:14.

[9] Я добры пастыр. *(Ян, 10:14.)*

[10] Зірніце на палявыя лілеі, як растуць: ані працуюць, ані прадуць. *(Мц., 6:28.)*

[11] Споўнілася, здзейснілася. *(Ян, 19:30.)*

[12] Госпадзе, я не варты *(лац.).*

[13] Як дзеўчынятка, што дзяцініцца, смеючыся і плачучы *(італ.).*

[14] Вось куды вядуць благія сцяжынкі *(фр.).*

[15] Дзіця свайго стагоддзя *(фр.).*

[16] Для каго існуе свет бачны *(фр.).*

Алесь АСТРАЎЦОЎ

# НЕ КАЗКА, А МІФ

*“Вечная праўда мае патрэбу ў чалавечай мове, якая змяняецца з духам часу”.*

**К.Г. Юнг**

Асоба Карла Густава Юнга займае цалкам адметнае месца ў шэрагу заходніх мысляроў XX стагоддзя. І не толькі таму, што па глыбіні ведаў і разумення сутнасці навукі ягоныя адукаванасць і эрудыцыя застаюцца дагэтуль неператузыдзенымі ў сучаснай псіхалогіі. Не меней істотныя тыя праўдзівасць і безагляднасць, з якімі ён ішоў наперад ва ўласных навуковых пошуках. У якасці ілюстрацыі прывядзем показку пра тое, як разышліся жыццёвыя шляхі самога сп.Юнга і ягонага “гуру” – сп.Фрэйда.

Кажуць, што Фрэйд усе ўласныя тэорыі правяраў на сабе асабіста, штодня займаючыся самааналізам. Іншымі словамі, ён да канца жыцця адмаўляўся быць прааналізаваным вучнямі, якія ўсе, пачынаючы ад сп.Адлера, проста марылі пра тое, каб апрабаваць уласную тэхніку (маецца на ўвазе тэхніка псіхааналізу) на самім майстры. Дык вось, ехалі аднойчы ў адным купэ на кангрэс псіхааналітыкаў Юнг і Фрэйд. І “раптам” “кронпрынц Фрэйда” (так называў Юнга сам Фрэйд, які пасля “здрады” Адлера лічыў Юнга спадкаемцам №1 уласнай справы) наважыўся запытаць: “Майстра, а чаму вы ўпарта адмаўляецеся ад аналізу?” Фрэйд прамаўчаў. “Баіцеся скампраметаваць сябе?” – не сунімаўся Юнг. Фрэйд прамаўчаў. “Тады вы ўжо сябе скампраметавалі”, – канстатаваў Юнг.

Болей яны не размаўлялі ніколі.

Праўдзівасць сп.Юнга выяўлялася і ў тым, што ён без аніякіх агаворак прызнаваў

---

*(Працяг. Пачатак у № 63)*

наяўнасць у чалавека душы, у адрозненне ад усіх астатніх псіхолагаў (дзіўны факт, бо *psyche* па-грэцку – душа). Доказы таго ён збіраў паўсюль, дзе толькі магчыма. "Юнг быў мысляром і навукоўцам. Факты ён адшукваў паўсюль – у старажытных міфах і сучасных казках; у жыцці першабытных людзей і ў сучаснай цывілізацыі; у рэлігіях Захаду і Усходу; у алхіміі, астралогіі, тэлепатыі, яснабачанні; у снах і мроях здаровых людзей; у антрапалогіі, гісторыі, літаратуры, мастацтве; у клінічных і эксперыментальных даследаваннях. У мностве артыкулаў і кніг ён рэпрэзентуе эмпірычныя дадзеныя, якія служаць асновай для яго тэорыі. Юнг настойваў на тым, што яго болей цікавяць факты, а не тэорыя. "У мяне няма сістэмы, я кажу пра факты".*

Перад тым як перайсці да разгляду структуры асобы згодна аналітычнай тэорыі Юнга, варта дадаць, што да навуковага і духоўнага досведу нееўрапейскіх народаў ён не ставіўся як да "дзікунскага", у адрозненне ад асноўнай масы ягоных папярэднікаў і сучасных эпігонаў мыслення, якія (блытаючы дзве не звязаныя між сабою рэчы) з-за таго, што еўрапейцы першымі стварылі аўтамабілі, танкі, самалёты і вадародную бомбу, наіўна лічаць свае прымітыўныя развагі наконт чалавечай свабоды, душы і духоўнасці чымсьці "вышэйшым" і "болей цывілізаваным" за плён тысячагадовых шуканняў, напрыклад, тых жа даосаў ці дзэн-(чань-)будыстаў. (Даосы – прадстаўнікі даасізму, старажытнакітайскай духоўнай традыцыі, сэнс якой – у медытатыўнасці ўсяго чалавечага жыцця (ад лац. *meditatio* – засяроджаная развага, дэаўтаматызацыя жыцця, татальны кантроль над ўласнымі ўчынкамі, разумовае ўсведамленне кожнага кроку ў стане не-сну), заснавальнікам якой лічыцца сп.Лао-Цзы; дзэн-(чань-)будызм (дзэн – па-японску "медытацыя"; чань – "медытацыя" па-кітайску) – сінтэз даасізму і будызму, духоўная традыцыя, заснавальнікам якой лічыцца адзін з вучняў Будды, сп.Бадхідхарма). Не будзем пакуль спыняцца на тым, чаму так адбываецца, бо тое тэма для асобнай гаворкі, якую можна весці толькі пасля азнаямлення з тэорыяй чалавечых псіхатыпаў – без аперыравання яе паняццямі і катэгорыямі ў дадзеным выпадку абысціся немагчыма.

Варта адзначыць, што спрэчкі аб правамернасці падыходу да літаратуразнаўства з пункту гледжання аналітычнай псіхалогіі Юнга вядуцца дагэтуль. І пярэчанні чуваць не толькі з боку акадэмістаў. Нават заснавальнік архетыпічнай псіхалогіі постюнгіянец сп.Джэймс

---

* З асабістай размовы з аўтарамі// 1954: Холл К.С., Ліндсей Г. Тэорыі асобы.

Хілман крытыкаваў Юнга за нізвядзенне багоў да абстрактнай псіхалагічнай канцэпцыі. Сам жа ён настойваў на разгляданні багоў менавіта як аспектаў душы, а не як літаратурна-міфалагічных стварэнняў, не гледзячы на тое, што, як сцвярджаў сп.Хілман, *"mith is still to be interpreted psychologically, but psychology itself is to be interpreted mithologically"* ("міф павінен інтэрпрэтавацца толькі з псіхалагічнага пункту гледжання, але сама псіхалогія павінна інтэрпрэтавацца міфалагічна"). Відавочна, што Хілман разглядае погляды Юнга выключна з пункту гледжання заходняга мыслення. Але дадзеная канцэпцыя Юнга пабудавана на прынцыпах таго ж самага ўсходняга даасізму, у традыцыі якога Бог – гэта толькі метафара, а значыць не Бог прыдумаў чалавека па сваім вобразе і падабенстве, а наадварот – чалавек прыдумаў Бога па сваім вобразе і падабенстве.

Зразумела, што прадстаўнікі акадэмічнага літаратуразнаўства не жадаюць храснуць у псіха-міфалагічным дыскурсе, які, як бачна, непазбежна выводзіць да пытанняў тэалогіі. Але ад пункту гледжання "акадэмістаў" ужо мала што залежыць, бо, як пісаў Юнг, "псіхалогія, якая раней тулілася на акадэмічных пазадворках, за апошнія дзесяцігоддзі – як і прадказваў Ніцшэ – ператварылася ў прадмет усеагульнага інтарэсу, які разбурыў межы, усталяваныя для яе універсітэтамі... Так што атрымліваецца, Ніцшэ ў рэшце рэшт аказаўся слушны са сваім *"scientia ancilla psychologiae"*? (Перафраз тэзы сярэднявечнай схаластыкі *"scientia ancilla theologiae"* ("навука – служанка тэалогіі"), якую прыпісваюць Чэзарэ Баронію, XVI ст.)... Без асаблівых доказаў відавочна, што псіхалогія – паколькі з'яўляецца навукай аб душэўных працэсах – можа быць увязаная з літаратуразнаўствам. Бо матчынае ўлонне ўсіх навукаў, як і любога твора мастацтва, – гэта душа. Таму навука пра душу, здавалася б, мусіць быць у стане апісаць і растлумачыць ва ўласных судачыненнях два прадметы: псіхалагічную структуру мастацкага твора, з аднаго боку, і псіхалагічныя перадумовы прадуктыўнага ў галіне мастацтва індывіда – з іншага. Абедзве тыя задачы ў сваёй глыбіннай сутнасці цалкам розныя... У першым выпадку гаворка ідзе пра "наўмысна" створаны прадукт складанай душэўнай дзейнасці, у другім – пра сам душэўны апарат. У першым выпадку аб'ектам псіхалагічнага аналізу і вытлумачэння служыць канкрэтны твор мастацтва, у другім – творча адораны чалавек у сваёй непаўторнай індывідуальнасці. Хаця гэтыя два аб'екты знаходзяцца ў інтымнейшай сувязі, непадзельным узаемадзеянні, усё ж адзін з іх не ў стане растлумачыць другі".

Кожны з гэтых аспектаў вымагае асобнай гаворкі. Спынімся найперш на псіхалагічнай структуры мастацкага твора.

Адразу трэба агаварыцца, што Юнг – вялікі жартаўнік: хацеў ён таго ці не, але вельмі часта ягоныя канцэпцыі ўспрымаюцца заходнім мысленнем не проста памылкова, але цалкам наадварот. Напрыклад, сутнасць установак – экстравертыўнасці і інтравертыўнасці. Трывіяльны погляд на іх прыкладна такі: інтраверты – самаеды, якія не чапаюць іншых, а экстраверты – тыя, хто ўвесь час імкнецца перабудаваць свет, а значыцца, і людзей вакол сябе. Адпаведна з гэтым кансерватары лічаць становчай установку інтравертыўную, а экстравертыўную – адмоўнай. Рэвалюцыянеры – цалкам наадварот. Памылка ў тым, што Юнг, паколькі лічыў псіхалогію за навуку, якая павінна ў такім выпадку мець базісную катэгорыю, аперыраваў, і цалкам слушна, паняццем “энергія”. Зыходзячы з гэтага, ён тлумачыў экстравертыўнасць як аддачу суб’ектам уласнай энергіі аб’екту, а інтравертыўнасць, адпаведна, – як паглынанне яе суб’ектам ад аб’екта. Іншымі словамі, інтраверт – гэта энергетычны вампір (значыцца, не самаед, а “іншаед”), а экстраверт – донар. Ніякага іншага сэнсу Юнг у гэтыя паняцці ў прынцыпе не ўкладаў.

Нешта падобнае адбываецца з поглядамі Юнга на літаратуразнаўства, – і тут ён паказаў сябе разбуральнікам стэрэатыпаў. “Псіхалагічны падыход да літаратурнага твора адрозніваецца ад літаратуразнаўчага падыходу. Каштоўнасці і факты, што маюць вырашальнае значэнне для першага, могуць аказацца для другога як бы неіснуючымі; такім чынам, тэксты вельмі сумнеўнай літаратурнай вартасці нярэдка з’яўляюцца для псіхолага асабліва цікавымі. Так званы псіхалагічны раман не дае яму шмат настолькі, наколькі чакае ад яго літаратуразнаўчы падыход. Такі раман, калі яго разглядаць як замкнёнае ў сабе самім цэлае, тлумачыць сябе самога, ён ёсць, так бы мовіць, свая ўласная псіхалогія, якую псіхолагу застаецца ў лепшым выпадку дапоўніць ці раскрытыкаваць, на працягу чаго, між іншым, асабліва істотнае ў дадзеным выпадку пытанне – што прымусіла менавіта гэтага аўтара стварыць дадзеную працу – зусім не атрымлівае адказу... (Адзначым, што гэта – цалкам супрацьлеглы фрэйдызму погляд на літаратуру, згодна з якім адметнасць асобы аўтара аказвае непасрэдны ўплыў на працэс напісання твора – *заўв. аўт.*)

Асаблівыя магчымасці для псіхалагічнага высвятлення адкрывае менавіта раман, пазбаўлены псіхалагічных прэтэнзіяў, бо непсіхалагічная задума аўтара не задае ягоным вобразам ніякай вызначанай псіхалогіі і па той прычыне не толькі пакідае месца для аналізу і вытлумачэння, але і ідзе ім насустрач, дзякуючы неабумоўленаму выяўленню персанажаў... У псіхалагічным жа рамане

сам аўтар спрабуе ўзняць душэўны праматэрыял свайго стварэння з вобласці звычайнага здарэння ў сферу псіхалагічнага тлумачэння і высвятлення, з-за чаго душэўная аснова нярэдка засціцца да поўнай непранікальнасці. Менавіта з раманаў такога кшталту атрымлівае неспецыяліст сваю "псіхалогію", у той час як раманам першага кшталту можа надаць паглыблены сэнс толькі псіхалогія...

Каб было зразумела, я хацеў бы пазначыць першы від творчасці як псіхалагічны, а другі – як візіянерскі".

Пазіцыя Юнга зразумелая цалкам: псіхалагізм мастацкага твора прафесійна можа вызначыць толькі псіхолаг-прафесіянал, і тое не ў кампетэнцыі акадэмічнага літаратуразнаўцы.

На першы погляд, можа падацца, што ўсё гэта малаістотна. Насамрэч – далёка не. Яскравы прыклад – лёс твораў рускага пісьменніка Льва Талстога, неаспрэчныя мастацкія вартасці якіх адзначаюцца амаль усімі акадэмічнымі літаратуразнаўцамі свету. Але ж яны, перавысіўшы маштабы ўласнай кампетэнцыі, стварылі міф пра глыбокую псіхалагічнасць твораў спадара графа. Насамрэч апошняе – пад вялікім сумневам. Каб не быць галаслоўнымі, разгледзім крыніцы, з якіх чэрпаў свае псіхалагічныя ідэі сп.Талстой.

Першая і самая вядомая – "герметычная" філасофія, якая з'яўляецца асновай тых ведаў, што раскрываюць "абраным" неафітам спадары "пасвечаныя" масоны. Яскравым рэтранслятарам тых ідэяў у творах Талстога з'яўляецца П'ер Бязухаў ("Вайна і мір"). Далучанасць да масонства графу, хутчэй за ўсё, дасталася ў спадчыну (у літаратуры існуюць сведчанні, што адзін з яго продкаў нават "выпадкова" ўдзельнічаў ва ўзяцці фартэцыі Бастыліі). Не будзем шукаць адпаведнасцяў ці наадварот у тэкстах Талстога і Гермеса Трысмегіста (старажытны мысляр-містык з г. Александрыі (Егіпет), творы якога былі пакладзены ў аснову так званай герметычнай філасофіі). Па-першае, тое не ўваходзіць у мэты дадзенага артыкула і з'яўляецца тэмай асобнага даследавання. Па-другое, граф сам ад усяго гэтага адхрысціўся, калі пачаў чэрпаць творчыя і жыццёвыя ідэі з цалкам іншай крыніцы духоўных ведаў – даасізму ў інтэрпрэтацыі Лао-Цзы (ускосна дадзенае захапленне немаладога ўжо пісьменніка сталася нават прычынай ягонай заўчаснай смерці).

Спынімся падрабязна на гэтым захапленні Талстога. Вось як інтэрпрэтуе сэнс даасізму ён сам: "Аснова вучэння Лао-Тзе (так граф перакладаў па-руску імя слыннага кітайца, – *заўв. аўт.*) тая ж самая, што і аснова ўсіх вялікіх, сапраўдных рэлігійных плыняў. Яна наступная: чалавек усведамляе сябе найперш цялеснай асобай, адлучанай

ад усяго іншага, і якая жадае дабра толькі сабе аднаму. Але, акрамя таго, ...кожны чалавек усведамляе сябе яшчэ і бесцялесным духам, такім жа, які жыве ва ўсялякай істоце і дае жыццё і дабро ўсяму свету. Такім чынам, чалавек можа жыць альбо той цялеснай, адлучанай ад свету асобай, якая хоча толькі сабе дабра, альбо тым бесцялесным духам, які жыве ў ім і які жадае дабра ўсяму свету... Жыві чалавек для цела, – і жыццё гора, таму што цела пакутуе, хварэе і памірае. Жыві для духу, – і жыццё дабро, таму што для духу няма ні пакутаў, ні хваробаў, ні смерці (болей нават чым спрэчна, калі ўлічыць наяўнасць велізарнай колькасці душэўных хваробаў, ад якіх, думаецца, і дух пакутуе таксама, – *заўв. аўт.*).

І таму дзеля таго, каб жыццё чалавека было не горам, а дабром, чалавеку трэба навучыцца жыць не для цела, а для духу. Вось гэтаму і вучыць Лао-Тзе. Ён вучыць таму, як пераходзіць ад жыцця цела да жыцця духу. Вучэнне сваё ён называе Шляхам, таму што ўсё навучанне ўказвае шлях да такога пераходу... Шлях гэты, згодна навучанню Лао-Тзе, заключаны ў тым, каб не рабіць нічога ці хоць як мага меней рабіць тое, чаго жадае цела, з тым каб не забіваць таго, што жадае душа, – такім чынам, каб не перашкаджаць ажыццяўленнем цялесных справаў магчымасці праяўлення ў душы чалавека той сілы неба (як называе Бога Лао-Тзе), якая жыве ва ўсім.

Часта думка гэтая, калі толькі яна перададзена перакладчыкам слушна, выказана як бы наўмысна дзіўна, але паўсюль яна, гэтая думка, служыць асновай усяго вучэння".

Адразу адзначым, што Талстой сутнасці даасізму не зразумеў. Даасізм зусім не заклікае адмовіцца ад цела на карысць душы. Калі паспрабаваць выказаць сутнасць даасізму ў двух словах, дык можна сказаць, што гэта духоўная плынь "агульнага прыняцця". Даасізм заклікае да роўнасці і гармоніі ў дачыненні як да цела, так і да душы, што прыводзіць да раўнавагі, якая адна і ёсць шчасце. А значыцца, і жыццё чалавека, які жыве ў раўнавазе, – цалкам шчаслівае. Няшчасце прыносіць якраз любы перакос, незалежна ад таго, перакос гэты ў бок цела ці ў бок душы (духу). Шчасце ж выклікаюць уцехі як для цела, так і для душы: "Пост патрэбны дзеля таго, каб пасля атрымаць асалоду ад піру". А што тычыцца ўцехаў для цела, дык прырода сама рэгулюе іх патрэбу: як вядома, з гадамі імпэт чалавека ў некаторых дачыненнях натуральна зніжаецца, а схільнасць да духоўных патрэбаў павялічваецца. Галоўнае – прыслухоўвацца да цела, да прыроды і не ісці насуперак Дао (Закону), не шукаць чарговую "віягру".

Такім чынам, няслушна зразумеўшы і пастулат даасізму пра

дзеянне паўз нядзеянне, Талстой, у рэшце рэшт, адмовіўся ад свайго таленту і высокага становішча ў грамадстве, пачаў самастойна вырошчваць хлеб, каб харчавацца, сваімі рукамі шыць вопратку і абутак (адабраўшы, такім чынам, працу як у сябе самога, так і ў аратаяў ды шаўцоў з краўцамі). А памылка ў разуменні сказа Лао-Цзы "Зрабіў працу – і адмяжуйся ад яе вынікаў" прывяла да таго, што вялікі пісьменнік адмовіўся ад ганарараў за свае творы на карысць "дабрадзеяў"-кнігавыдаўцоў, пазбавіўшы ўсю сям'ю сродкаў да існавання. Усё разам гэта прывяло зусім не да гармоніі і душэўнай раўнавагі, а да страшэнных скандалаў з жонкай і нянавісці да яе, у выніку чаго Леў Мікалаевіч сышоў узімку з дому, захварэў і памёр, амаль як Ганна Карэніна, каля чыгуначных рэек.

Усё гэта зусім не прыніжае заслугаў Талстога як пісьменніка. Не маем права мы і дакараць яго за тое, што ён не здолеў разабрацца ў сутнасці свайго апошняга духоўнага захаплення: на мяжы пазамінулага і мінулага стагоддзяў звесткі пра даасізм толькі-толькі сталі пранікаць у заходні свет, а таму сэнс яго ў той час заставаўся цьмяным і незразумелым, на што спасылаецца і сам граф. Наадварот, Талстой знаходзіўся ў авангардзе духоўных пошукаў. Але сёння, калі для заходняга чалавека разабрацца (пры жаданні) у сутнасці даасізму і дзэн-(чань)-будызму няма ніякіх цяжкасцяў, бо інфармацыі болей, чым тое патрэбна, будаваць свае ўласныя філасофска-духоўна-псіхалагічныя погляды і пазіцыю на аснове зместу твораў Талстога – велізарная памылка, якая сведчыць адно пра моцную абмежаванасць кругагляду.

Але не будзем далей спыняцца на сутнасці ўсходніх духоўных плыняў, бо гэта тэма для асобнай гаворкі, а вернемся, нарэшце, да псіхатыпалагічнай тэорыі Юнга.

Працытуем напачатку сп.Генрыха Гейнэ – словы, якія ўзяў за эпіграф сам Юнг для сваёй кнігі "Псіхалагічныя тыпы": "Платон і Арыстоцель! Гэта не толькі дзве сістэмы, але і два тыпы дзвюх адрозных чалавечых натураў, якія са спрадвечных часоў, апранутыя ва ўсемагчымыя ўбранні, у той ці іншай ступені супрацьстаяць адна адной. Яны разлютавана спаборнічаюць, асабліва ад пачатку сярэднявечча, і вядуць сваю барацьбу да нашых дзён – і барацьба тая складае самы істотны змест гісторыі хрысціянскай царквы. Якія б імёны ні ўзнікалі на авансцэне гісторыі, гаворка нязменна ідзе пра Платона і Арыстоцеля. Натуры летуценныя, містычныя, платонаўскія з нетраў сваёй душы нараджаюць хрысціянскія ідэі і сімвалы, адпаведныя ім. Натуры практычныя, якія прыводзяць усё да парадку, арыстоцелеўскія, ствараюць з гэтых ідэяў і сімвалаў трывалую сістэму, дагматыку, культ.

У рэшце рэшт, царква замыкае ў сабе абедзве натуры, з якіх адны знаходзяць прытулак у святарстве, а другія – у манастве, аднак увесь час не перастаюць варагаваць між сабою".

Юнг прыйшоў да свайго адкрыцця, назіраючы за спрэчкай паміж спадарамі Фрэйдам і Адлерам (першы, як вядома, ставіў псіхатыпалагізм людзей у залежнасць ад эратычнага комплексу, а другі – ад комплексу ўлады), і за сваім асабістым стаўленнем да яе. Фрэйд быў упэўнены, што чалавецтва ад самага пачатку разрываецца паміж імкненнем да атрымання асалоды і абмежаваннямі ў яе дасягненні з боку рэчаіснасці, што адбіваецца на ўсіх паводзінах людзей. Адлер лічыў, што чалавецтва пакутуе ад усведамлення сваёй непаўнавартасці, і кожны чалавек з мэтай кампенсацыі дадзенага адчування імкнецца дасягнуць улады. Юнга здзіўляла безапеляцыйнасць у пазіцыі кожнага з апанентаў, але пазней ён знайшоў у літаратуры мноства спасылак на палярную адрознасць чалавечых натураў. (Адзін з найбольш яскравых прыкладаў – розніца паміж трактоўкамі хрысціянскай дактрыны ў Бацькоў Царквы Тэртуліяна і Арыгена, а таксама іх непадобная рэакцыя на сцверджанні гностыкаў (прадстаўнікоў познеантычнай духоўнай плыні) падчас працяглага тэалагічнага дыспута з апошнімі. Вось што пісаў пра гэта сп.В. Шульц, на якога спасылаецца Юнг: "Адзін арганізм здатны ўспрымаць спажыўнае рэчыва амаль без рэшты і цалкам асіміляваць яго, – другі ж, наадварот, выпаражняе яго амаль без рэшты, быццам ва ўзбуджаным стане энергічнае самаабароны. Настолькі ж супрацьлегла рэагавалі Арыген і Тэртуліян").

Шматгадовае вывучэнне літаратуры і працяглыя клінічныя назіранні (у тыя часы Юнг яшчэ не адмовіўся ад псіхатэрапеўтычнай практыкі) падштурхнулі навукоўца да стварэння ўласнай тэорыі псіхалагічных тыпаў. І якраз першымі тыповымі, а не індывідуальнымі адрозненнямі паміж людзьмі, на якія ён звярнуў увагу, сталі інтравертыўная і экстравертыўная ўстаноўкі (лац. *extra* – за межамі, лац. *exterus* – у вонкавым напрамку; лац. *intro* – у напрамку ўнутр). Зрэшты, з іх і пачалася аналітычная псіхалогія.

Дамо слова Юнгу: "Такое супрацьлеглае стаўленне да аб'екта цяжка вызначыць і апісаць у зручнай і зразумелай форме – мы рызыкуем пры гэтым дайсці да цалкам парадаксальных фармулёвак, якія могуць хутчэй засціць, чым тлумачыць пытанне. У самых агульных рысах можна сказаць, што інтравертны пункт гледжання ёсць той, які заўсёды і пры ўсіх абставінах імкнецца паставіць эга і суб'ектыўны псіхалагічны працэс над аб'ектам... Такая ўстаноўка надае суб'екту большую каштоўнасць, чым аб'екту. Такім чынам, каштоўнасць аб'екта заўсёды

будзе ніжэй за ўзровень каштоўнасці суб'екта – аб'ект мае другаснае значэнне... Экстравертны пункт гледжання, наадварот, ставіць суб'екта ў падначаленне аб'екту, прычым каштоўнасць аб'екта пераважае. Суб'ект мае заўсёды другаснае значэнне, і суб'ектыўны працэс часам нават перашкаджае ці з'яўляецца непатрэбным дадаткам да аб'ектыўных падзеяў. Зразумела, што псіхалогія, пабудаваная на такіх супрацьлеглых пунктах гледжання, павінна падзяліцца на дзве часткі, дыяметральна супрацьлеглыя па сваёй арыентацыі. Адна разглядае ўсё з пункту гледжання сваёй уласнай сітуацыі, а другая – з пункту гледжання аб'ектыўных падзеяў".

Але, зразумеўшы сэнс установак, Юнг быў разгублены, калі адчуў, што не ў стане разабрацца нават у сабе самім: кім ён асабіста з'яўляецца – інтравертам ці экстравертам? "Меркаванні пра ўласную асобу заўсёды надзвычай цяжкія", – скардзіўся Юнг. Падказку ён атрымаў ад Гётэ (той быў "пасвечаны" масон вельмі высокага статуса, а таму ведаў, пра што казаў, хаця сам Юнг і прыпісаў сціпла добрую інфармаванасць вялікага паэта магутнай інтуіцыі апошняга): "Гэтыя супрацьлеглыя ўстаноўкі – не што іншае, як супрацьлеглыя механізмы... Кожнаму чалавеку ўласцівыя абодва, а злучэнне іх перадае яго натуральны жыццёвы рытм – і, мабыць, невыпадкова Гётэ параўноўваў гэты рытм з сардэчнай дзейнасцю". Але калі ў кожным чалавеку закладзены як экстра-, так і інтравертыўнасць, чаму ж людзі так моцна адрозніваюцца адзін ад аднаго? Вось як на гэта пытанне адказвае Юнг: "Рытмічная змена абедзвюх формаў псіхічнай дзейнасці мусіць адпавядаць нармальнаму ходу жыццёвага працэсу. Аднак складаныя знешнія ўмовы, у якіх мы жывём, а таксама яшчэ болей складаныя ўмовы нашага індывідуальнага псіхічнага ладу і схільнасці рэдка дазваляюць цалкам гарманічна цекчы псіхічнай энергіі. Знешнія абставіны і ўнутраная дыспазіцыя вельмі часта спрыяюць працы аднаго механізма на шкоду другому... І як толькі па пэўных прычынах такі стан становіцца пераважным, і ўзнікае як наступства *тып*, дакладней – звыклая ўстаноўка".

Дадзеная гіпотэза цалкам адпавядае тэорыі гарманічнай раўнавагі: дасканала мудры чалавек, пазбаўлены вярыгаў уласнага эга, не з'яўляецца ні экстра-, ні інтравертам. Мудры чалавек, каб жыць ураўнаважана, свядома рэагуе на вонкавыя з'явы альбо экстра-, альбо інтравертыўна. Гэта трэба ўлічваць літаратару не толькі пры абмалёўцы герояў уласнага твора, але і для напісання самога твора, бо вядома, што любы акт творчасці вымагае максімальных энергетычных высілкаў, а таму абсалютна недапушчальна распыляць энергію "ў паветра" ці

аддаваць тыповым інтравертам-вампірам (калі яны мацней, трэба проста абмежаваць ці ўвогуле спыніць любыя кантакты з імі).

Як бачым, падзел людзей на экстра- і інтравертаў вельмі павярхоўны. Юнг зразумеў гэта яшчэ падчас спрэчкі між Фрэйдам і Адлерам, бо сам ён так і не прыняў ніводнай з іх пазіцыяў, а таму адрозніваўся як ад аднаго, так і ад другога. Але ж установак заставалася толькі дзве... І тады Юнг зрабіў наступны крок у сваім даследаванні: псіхатэрапеўтычны вопыт пераканаў яго, што індывіды падзяляюцца не толькі па іх універсальных адзнаках экстра- і інтраверсіі, але і па асобных асноўных псіхалагічных функцыях. “Знешнія абставіны і ўнутраная дыспазіцыя не толькі выклікаюць перавагу экстраверсіі ці інтраверсіі, але садзейнічаюць, акрамя таго, перавазе ў індывіда адной з асноўных функцыяў над іншымі. Грунтуючыся на вопыце, я назваў асноўнымі псіхалагічнымі функцыямі, – і менавіта такімі, якія істотна адрозніваюцца ад усіх іншых, – *мысленне, пачуццё, адчуванне* і *інтуіцыю*. Калі адна з гэтых функцыяў звыкла пануе над іншымі, тады фармуецца адпаведны тып. Таму я адрозніваю мыслярны, пачуццёвы, адчувальны і інтуітыўны тыпы. *Кожны з гэтых тыпаў, акрамя таго, можа быць інтравертным ці экстравертным*”.

Такім чынам, мы маем восем камбінацыяў – ад інтравертыўнага мысляра да экстравертыўнага інтуітывіста. Гэта і ёсць аснова тыпалогіі Юнга. На самай справе колькасць камбінацыяў значна большая (дадаць хаця б адрозненні паміж мужчынамі і жанчынамі “аднолькавага” псіхатыпу). З аднаго боку, гэта дрэнна, бо дужа ўскладняе ўсю сістэму, але з другога – файна, бо сістэма становіцца занадта складанай для псіхолагаў уплыву (“замбіроўшчыкаў”). Таму розныя гербалайфшчыкі вымушаны выкарыстоўваць для падрыхтоўкі ўласных дылераў больш прымітыўныя псіхалагічныя сістэмы, ад пачатку абмяжоўваючы агульную масу сваёй патэнцыйнай кліентуры. Тым не меней, спробы меркантыльных асобаў выкарыстаць адкрыцці Юнга з карысцю для сябе працягваюцца. Зрэшты, нашыя мэты ў нечым падобныя. Розніца толькі ў тым, што першыя мараць навучыцца вызначаць ужо сфармаваны псіхатып, даруйце за слэнг, “лохаў”, каб ведаць дакладны механізм іх “разводкі”, *а літаратар, наадварот, імкнецца стварыць віртуальную асобу, прыдумаць для яе такі псіхатып, які б максімальна адпавядаў рэчаіснасці. Каб чытачы “пазналі” і паверылі яму...*

Пра адметнасці, згодна Юнгу, кожнай з камбінацыяў псіхалагічных установак і функцыяў чытайце ў наступным нумары часопіса “Крыніца”.

**Алесь АСТРАЎЦОЎ**

Алесь АСТРАЎЦОЎ

# Post Scriptum

**Уільям Самэрсэт Моэм:**

"Я прачытаў не адну сотню дэтэктыўных раманаў, як дрэнных, так і добрых, і мушу сказаць, што кідаў на паўдарогі адно бясспрэчна дрэнныя, але я ўсяго толькі дылетант і на большае не кваплюся. І хаця рызыкнуў рэпрэзентаваць на суд чытача развагі пра літаратуру дэтэктыўнага жанру, што прыйшлі мне ў галаву, я цудоўна разумею ўсю іх спрэчнасць.

Найперш я хацеў бы правесці мяжу паміж бульварным і дэтэктыўным раманамі. Бульварныя раманы я чытаю выключна па недаглядзе, уявіўшы, па назве ці па вокладцы, што ў кнізе ідзе гаворка пра злачынства. Бульварныя раманы – гэта народжаныя па-за законам атожылкі кніг для юнацтва... папулярнасць якіх можна растлумачыць адно тым, што шматлікія чытачы па сваім разумовым развіцці так і застаюцца на дзіцячым узроўні. Мяне бясконца раздражняюць адважны герой, які штохвілінна рызыкуе жыццём, і смелая гераіня, якая пасля працяглага ланцуга неверагодных прыгодаў злучаецца з ім у шлюбе на апошняй старонцы... Часам ад няма чаго рабіць я разважаю пра іх стваральнікаў... Я адмаўляюся верыць, што яны сядаюць за стол і, падпёршы шчоку, пішуць раман, свядома паставіўшы за мэту зарабіць вялікія грошы. Калі б прычына была ў гэтым, я ні каліва іх не асуджаў бы: такім чынам куды прыемней зарабляць грошы, чым прадаваць запалкі на вуліцах, дзе жудасна няўтульна ў дрэннае надвор'е, альбо быць служачым у грамадскай прыбіральні, дзе магчымасці назірання за чалавечай натурай вельмі аднабаковыя. Мне прыемна думаць, што яны непадробна любяць чалавецтва і прымаюць блізка да сэрца інтарэсы той масы чытачоў, якая з'явілася дзякуючы абавязковай адукацыі, і спадзяюцца сваімі аповедамі пра пажары, караблекрушэнні, аварыі на чыгунках, вымушаныя пасадкі ў Сахары, пячоры кантрабандыстаў, прытоны палільшчыкаў опіуму, злавесных кітайцаў прыцягнуць увагу сваіх чытачоў да раманаў Джэйн Остын.

Але не пра гэта – пра аповеды аб злачынствах, і найперш аб забойствах, – я збіраюся весці гаворку. Крадзяжы і махлярства – таксама злачынствы і ў стане выклікаць да жыцця неблагі твор дэтэктыўнага жанру, але ўва мне яны не ўзбуджаюць вялікага інтарэсу. З пункту гледжання абсалюту, а менавіта з такога пункту гледжання і варта разглядаць творы дадзенага жанру, рашуча неістотна, каштуе скрадзеная

нітка пэрлінаў дваццаць тысячаў фунтаў, ці яе набылі за пару шылінгаў у Вулварта; зрэшты, і махлярства – скрадзены ў яго выніку мільён ці толькі тры фунты сем шылінгаў шэсць пенсаў – справа аднолькава гнюсная. Але аўтар крымінальных раманаў не можа паўтарыць разам з нудотным старым рымлянінам "нічога чалавечага я не ўнікаю", бо якраз ён усяго чалавечага ўнікае, акрамя аднаго – забойства. Канечне, гэта самае чалавечае з усіх злачынстваў, таму што, упэўнены, кожнага з нас калі-небудзь наведвала думка пра забойства, і стрымлівалі ад яго альбо страх пакарання, альбо боязь (хутчэй за ўсё, дарэмная) згрызотаў сумлення. Але забойца пайшоў на рызыку там, дзе мы, пераможаныя сумненнямі, спыніліся; да таго ж, пагроза шыбеніцы, якая мігціць перад намі на даляглядзе, надае ягонаму ўчынку змрочную веліч.

На мой погляд, аўтару варта вельмі далікатна выкарыстоўваць забойствы. Адно – цудоўна, два – можна стрываць, асабліва калі другое з'яўляецца наўпрост наступствам першага, але аўтар робіць непапраўную памылку, калі ўводзіць другое забойства з надзеяй ажывіць дзеянне. Калі ж у рамане больш за два забойствы – гэта разня, і па меры таго як адна гвалтоўная смерць ідзе за другой, вы ўжо не здрыгаецеся, а смеяцеся. Бяда амерыканцаў у тым, што яны не ў стане спатоліцца не толькі адным забойствам, а нават двума: яны страляюць, рэжуць, атручваюць, аглушаюць *en masse* (фр. – "у мностве"); інакш кажучы, яны так і мыляцца наладзіць на старонках сваіх раманаў разню, і ў чытача застаецца непрыемнае ўражанне, быццам аўтар гуляе ў дурня. А дарма, бо Амерыка, пры пярэстым складзе яе насельніцтва, пры ўсемагчымых супрацьлеглых плынях у яе жыцці, пры энергіі, бязлітаснасці і прадпрымальнасці яе нацыянальнага характару ўяўляе куды болей яскравае і цікавае поле назірання для раманіста, чым наша паважная, сумная і, у рэшце рэшт, законапаслухмяная краіна".

**Джон Бойнтан Прыстлі:**

"Усёведанне разам з бязлітаснасцю – чаго ў літаратуры яшчэ не было – вось што мяне палохае ў цяперашніх пісьменніках. Мяне не засмучаюць тыя з іх, хто паўстае супраць сучаснай прамысловасці і ўладальнікаў трушчобаў, – я не быў ніколі прадпрымальнікам, не здаваў у наём трушчобы, і таму напады аўтараў ніяк мяне не кранаюць. Не гэтыя, а іншыя кнігі, якія праўдзіва адлюстроўваюць штодзённасць, нараджаюць ува мне і здзіўленне, і непакой, таму я іх адкладаю ў бок, калі чытаю не дзеля справы. Іх стваральнікі чапляюцца за любую падрабязнасць, за любую дэталь паводзінаў і надаюць усім дробязям

такое эпахальнае значэнне, што робіцца не на жарт страшна пакінуць дом, зліцца з чалавечым натоўпам. У мяне такое ўражанне, што яны маюць доступ да нейкіх невядомых мне канонаў і статутаў і ўсіх нас узважваюць на вельмі адчувальных вагах, але пры гэтым знаходзяць кожнага задужа лёгкім. Іх уяўленні пра тое, як трэба рабіць, трымацца, размаўляць і рухацца, мне цалкам незразумелыя, іх патрабаванні настолькі шляхетныя, вытанчаныя і непамерныя – значна вышэй за тыя манеры і спрактыкаванасць, якім я, а можа, і вы здатныя навучыцца, – што я ні за якія даброты свету не згаджуся застацца тэт-а-тэт з кім-небудзь з гэтых беспардонных і зларадных пісакаў... Хай абароняць мяне ўсеміласцівыя багі ад гэтых нахабных навамодных разумнікаў".

**Гэрберт Уэллс:**

"Абставіны часта прымушаюць мяне звяртацца ў думках да рамана, да таго, як ствараецца раман, у чым яго прызначэнне, што ён сабою ўяўляе і якім можа быць, і таму задоўга да таго, як напісаць свой першы раман, я стаў прафесійным крытыкам... Я лічу раман насамрэч істотнай і неабходнай з'явай у складанай сістэме турботных шуканняў, якая завецца сучаснай цывілізацыяй. Шмат у якіх выпадках, упэўнены, без яго проста не абысціся.

Усё сказанае, ведаю, разыходзіцца з традыцыйнымі меркаваннямі. Мне вядома, што існуе тэорыя, якая прызнае за раманам адзінае прызначэнне – бавіць чытача... Яе можна назваць тэорыяй Стомленага Волата. Чытача ўяўляюць чалавекам, абцяжараным клопатамі, знямоглым ад цяжкой працы... Але вось, нарэшце, надышлі доўгачаканыя хвіліны адпачынку, і Стомлены Волат бярэцца за кнігу. Не выключана, што ён у благім настроі – можа яго перамаглі ў гольф, ці лёска заблыталася ў галінах дрэва, ці падаюць самыя надзейныя акцыі, ці ўдзень, калі ён выступаў у судзе, суддзя, пакутуючы на хваробу страўніка, быў надзвычай рэзкі ў дачыненні да яго. Ён хоча забыцца на жыццёвыя нястачы. Ён хоча абстрагавацца. Ён жадае, каб яго падбадзёрылі і суцешылі, ён шукае ў кнізе забавы. Яму не патрэбныя ні думкі, ні факты, ні тым болей праблемы. Ён прагне ў мроях сягнуць у ілюзорны свет, дзе героем будзе ён сам і дзе перад ім паўстануць маляўнічыя, светлыя і радасныя явы: вершнікі і скакуны, уборы з карункаў, прынцэсы, якіх ратуюць, атрымліваючы ва ўзнагароду каханне. Ён хоча, каб яму намалявалі забаўныя трушчобы і вясёлых жабракоў, дзівакоў-рыбаловаў і шляхетныя памкненні, што ўпрыгожваюць наша жыццё. Яму патрэбныя рамантыка, не без уласцівай

для яе небяспекі, і гумар, але без ценю іроніі, і ён лічыць, што абавязак пісьменніка – даваць яму падобнае чытанне, гэткую саладжавую вадзіцу. Вось у чым сутнасць тэорыі Стомленага Волата ў дачыненні рамана.

Наша крытыка кіравалася гэтай тэорыяй да самай англа-бурскай вайны, а потым з намі, а дакладней, з большасцю з нас нешта адбылося, і падобныя погляды страцілі былую моц. Магчыма, калісьці яны набудуць яе зноў, а можа, такога не адбудзецца ўжо ніколі.

У нашыя дні і мастацкая літаратура, і крытыка паўсталі супраць Стомленага Волата – ангельца, якому шанцуе ў справах. Я не магу назваць ніводнага хоць-кольвечы вядомага пісьменніка(...), які згодны патураць убраным у пантофлі і халат аматарам лёгкага чытання. Бо мы ўпэўніліся, што наш Стомлены Волат, сумны чытач, – гэта ўсяго толькі на дзіва лянівая, летуценная і млявая істота, і ўсе мы прыйшлі да адзінадушнай высновы, што любымі сродкамі трэба прымусіць яго трэніраваць свае разумовыя органы. Такім чынам, я ўжо досыць сказаў пра наяўнае меркаванне, быццам раман – гэта нешта накшталт бяскрыўднага дурцу, які падсалоджвае адпачынак забяспечанаму чалавеку. На самай справе раман ніколі не абмяжоўваўся падобнай роляй, і я сумняваюся, каб ён мог ёю абмежавацца, – пра тое сведчыць сама прырода гэтага жанру".

**Олдас Хакслі:**

"Усе вялікія праўды – гэта праўды відавочныя. Але не ўсе відавочныя праўды ёсць праўды вялікія...

Цяпер масавае мастацтва выкарыстоўвае абодва тыпы відавочных праўдаў – банальныя і вялікія. Банальнасці запаўняюць (па сціплых падліках) добрую палову сучасных раманаў, апаведаў і кінафільмаў. Чытачы і гледачы атрымліваюць велізарную асалоду ўжо ад таго, што гаворка ў іх ідзе пра рэчы, вядомыя ім. Іх турбуюць творы, заснаваныя на чыстай выдумцы, тэмы якіх выходзяць за межы таго дробнага свету, у якім яны жывуць, круцяцца, будзённа існуюць штодня... Раманы мусяць мець разлеглыя апісанні дакладна такіх жа пакояў, вуліцаў, рэстарацыяў, крамаў і кантораў, з якімі сярэдні ангелец знаёмы, каб кожны чытач... з пачуццём глыбокага задавальнення мог сказаць: "О, тая гасцёўня акурат такая ж, як у Браўнаў". Большасць людзей найперш вабіць у мастацтве гэтая магчымасць пазнавання.

Але не толькі банальнае падабаецца грамадзе. Яна прагне і праўдаў вялікіх. Яна патрабуе ад пастаўляльшчыкаў мастацтва максімальна пэўных выказванняў пра любоў матуляў да дзетак, пра перавагу

праўдзівых жыццёвых прынцыпаў, пра той душэўны ўздым, які адчуваюць жыхары вялікіх гарадоў пры судакрананні з жывой прыродай, пра перавагу шлюбу па каханні над шлюбам па разліку, пра хуткаплыннасць жыцця, прывабнасць першага кахання і г.д. Публіцы патрэбны пастаянныя запэўніванні ў справядлівасці гэтых відавочных праўдаў. І пастаўляльшчыкі масавага мастацтва робяць тое, пра што іх просяць. Яны канстатуюць нязменныя праўды пра прыроду чалавека, але, на жаль, робяць гэта ў большасці выпадкаў настолькі нягегла, што для чалавека вытанчанага ўсе іх сцверджанні бачацца вяршыняй безгустоўшчыны, ад якой толькі крывіць...

Але... факт застаецца фактам – наша стагоддзе нарадзіла беспрэцэдэнтную па сваіх маштабах масавую культуру. Масавую ў тым сэнсе, што яна робіцца *для* масаў, а *не* масамі (у чым і сэнс усёй трагедыі). Гэтая масавая культура напалову складаецца з банальнасцяў, выкладзеных са стараннай і руплівай праўдзівасцю, а напалову – з вялікіх бясспрэчных праўдаў, пра якія гаворыцца недастаткова пэўна (паколькі выказаць іх удала – справа складаная), а таму яны падаюцца ілжывымі і агіднымі".

**Арнольд Бэнэт:**

"Сістэма ўмоўнасцяў, абраная мастаком, дае яму ілюзію праўдзівасці. Але хай ён засцеражэцца змяніць ілюзіі — тады працэс становіцца свядомым і прыводзіць да вельмі дрэнных вынікаў. Гэта — сентыментальнасць, семя смерці ў ягоным творы. Кожны мастак сутыкаецца са спакусай быць сентыментальным ці цынічным, што практычна адно і тое ж. А калі ён паддаецца спакусе хоць на імгненне, чытач шэпча ў сэрцы сваім: "У жыцці так не бывае!" І ілюзія чытача таксама развейваецца. Чытачы падзяляюцца на дзве катэгорыі — на ворагаў мастака і на ягоных сяброў. Першыя (а імя ім легіён) захапляюцца два тыдні ці год. Яны не выносяць бескампраміснай барацьбы за праўду. Яны ў захапленні, калі мастак паддаецца спакусе і здраджвае той барацьбе. У такім выпадку яны ўсклікаюць: "Як файна!" Другія здатныя ацаніць бязлітаснасць у барацьбе за праўду. І калі шэпчуць у сэрцы сваім: "Жыццё такім не бывае!", – дык толькі таму, што ім сорамна за мастака. Іх няшмат, зусім няшмат, але якая гэта энергетычная купка! І неўміручасць дораць менавіта яны".